

**18 САКАВІКА — ВЫБАРЫ Ў ВЯРХОЎНЫ САВЕТ СССР.**

На аганёк агітпункта зайшлі работніцы друкарні «Перамога» Ларыса Лабзо (справа) і Ліля Шляхтовіч. Яны будуць галасаваць сёлета ўпершыню і таму так падрабязна распытваюцца пра ўсё ў сваёй старэйшай сяброўкі агітатара Надзі Запекінай (злева).

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР**

**3**

**САКАВІК.**

**1962.**

**Год выдання X.**

**У ГЭТЫМ НУМАРЫ:**

На вокладцы малюнак **І. Немагая «Вясна ідзе».**

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108$^{1}/_{16}$. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 8110 экз. Цана 40 кап.
АТ 03517. Здадзена ў набор 30.I.62 г. Падпісана да друку 26.II.62 г. Зак. 49.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
г. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект, 79.



**Артур ВОЛЬСКІ**

# ПЯРЭДНІ КРАЙ

Што такое пярэдні край?
Калі трэба,
Ідзі —
Памірай.
Захлыніся ў сваёй крыві.
А застаўся жывым — жыві.
А застаўся — жыві,
Пакуль
Беражэ цябе лёс ад куль.
Што такое пярэдні край?
Бамбавозаў пагрозны грай.
Не ўзнімайся!
Карчом ляжы
На занятым уноч рубяжы.
Потым прыйдзе табе загад:
Ці наперад,
Ці зноў назад.
Лепш — наперад,
Назад — гарчэй.
Потым — браць той рубеж яшчэ.

Што такое пярэдні край?
Пекла тут.
А ў санбаце — рай.
У санбаце зробяць рамонт.
Можа, ў тыл пашлюць —
не на фронт.
Будзеш нюхаць вясною бэз,
Абапёршыся на пратэз
І расказам пра сто смярцей
Зайздрасць выклічаш у дзяцей.
Я засвоіў сабе даўно,
Што жыццё і ў мяне — адно.
А як скажуць мне:
— Выбірай! —
Зноў пайду на пярэдні край.

## КАЛІ НА КУБЕ БОМБЫ РВУЦЦА...

Бараду нашў не дзеля ўкрасы.
Мода, як заўсёды, праміне...
Я дайшоў бы
да Фідэля Кастра,
Як Фідэль даходзіць да мяне.
У Гаване не бываў ніколі.
Моваю іспанскай не валодаю.
Але часта ўранку
мімаволі
Запяю кубінскую мелодыю.

Я на свет з'явіўся не ў палаце,
А ў шляху, пад снежным паркалём.
І дамоў мяне прынесла маці
Спавітога шэрым шынялём.

Бацька не мурлыкаў калыханку.
Будучае маючы на мэце,
Ён спяваў па-польску «Варшавянку»
І «Чырвоны Ведзінг» па-нямецку.

Мок і высах я
на дне акопа.
Прасаліўся у марацкай робе.
Мой абцас ламаў
бетон Еўропы
І крышыў крутыя рэбры Гобі.

З той пары мне мова рэвалюцый
Стала ў свеце самай блізкай мовай.
Калі там, на Кубе, бомбы рвуцца,
Мне чуваць сігнал трубы суровай.

І плячо ўжо адчувае кайстру,
Поўную патронаў, як раней...
Калі зноў на бой пакліча Кастра,
І мяне той заклік закране.

## ЯКАРЫ

Падарожжа трызніцца таполі,
Ледзь задзьмуць вясновыя вятры.
Ды яе трымаюць на прыколе
Каранёў тугія якары.

І тапопя просіць:
— Буры! Буры!
Не хапае ўпартасці ў вятроў!..
І вятры збіраюцца ў віхуры,
Каб скрануць таполю з якароў.

Да канца канаты ўсе напяты.
Аж ідзе дрыготка па кары.
Вось ужо, высоўваючы пяты,
Скрушана скрыгочуць якары.

І тады, як ветразь адарваны,
Да зямлі хіснулася лісцё.
А з надлому, як са свежай раны,
Сочыцца па кропельцы жыццё.

Мочаныя снегам і слатою,
Спёкаю абсушаныя зноў,
Зззяюць нежывою белатою
Кручаныя лапы каранёў.

Вось і ўсё. Драўніна — дрэнь з таполі.
Ні для мачт, ні проста для кастроў.
Але мне часамі, як ніколі,
Робіцца самотна на прыколе —
І карціць сарвацца з якароў.



Мал. В. Долгава.

**Барыс САЧАНКА**

# МАЛЬВІНА

**Аповесць**

**Маладыя гады,**
**Маладыя жаданні...**
*Максім Багдановіч*

I

Цяпер я нават сам часта думаю, з чаго гэта пачалося...

Той дзень у Азярцах я не мог нідзе знайсці сабе месца. Глыбока засунуўшы рукі ў кішэні штаноў, блукаў па скрыпучых дашчатых тратуарах, без якой бы там пэўнай мэты заходзіў у вялізарныя пасля вёскі местачковыя магазіны, чытаў на запыленых, патрэсканых тэлеграфных слупах і сценах дамоў ледзь не кожную аб'яву аб прапажы сабак і продажы markdowns рознай хатняй драбязы. Калі ж гэта апрыкрала, сядзеў на лавачцы ля доўгага, з кратамі на вокнах цаглянага будынка, як пазней даведаўся, банка, і абыякава, стомлена глядзеў на людзей, што праходзілі міма. Апранутыя як хто, але ўсе аднолькава заклапочаныя, яны спяшаліся па нейкіх толькі ім самім вядомых справах. Бачу яшчэ і сёння босую, у шырачэзнай спадніцы цыганку, усяго ў сажы і гліне камінара, няголенага дзядзьку ў пацёртым салдацкім шынялі — раз-пораз ляскаючы сырамятнай пужкаю, ён борзда скакаў на драўлянай назе да паркі сытых буланых коней, што ляніва перабіралі ля плоту ахапак дзятлавіны.

Па бруку дрогка тарахцелі калёсы, гурчалі гружаныя мяшкамі і ржавымі бочкамі машыны...

Па нядзелях ледзь не ўся наша вёска ездзіла на кірмаш у Азярцы. У вокнах — перадсвітальнае сутонне, а на вуліцы ўжо рыпяць вазы, гучна і сакавіта сварацца на мужыкоў бабы, вішчаць свінні, кудахчуць куры, — бывала, прачнешся і доўга слухаеш нязвыклы ранні ўздым і рух. І мне раптам нясцерпна захацелася ведаць, што ж такое кірмаш. Хоць быў сёння будзень, я перастрэў жанчыну, якая, як мне здалося, усё тут ведала, і яна даволі ахвотна расказала, як патрапіць на гэтае людное месца, — ісці трэба было па галоўнай вуліцы аж у самы яе канец.

Крытыя гонтамі і бляхаю хаты, пафарбаваныя ў сіні і жоўты колер платы, разложыстыя, густалістыя тапалі па абодва бакі дарогі, ларкі, кіёскі з прыгожа намаляванымі шыльдамі, — усяго гэтага я не бачыў у нашых далёкіх і лясных Вепрах. Я ішоў, як заварожаны, не чуючы пад сабою ног, і чакаў нечага незвычайнага, што вось-вось павінна адкрыцца маім вачам.

Кірмаш мяне здзівіў і расчараваў: вытаптаны, выбіты нагамі і калясьмі пляц; усюды недакуркі, салома, лушпінне, папера; на доўгіх і брудных лавах — перавязаныя ніткамі кавалкі сала; загорнутыя ў капусныя лісты грудкі сыру і масла; залацістыя пляцёнкі цыбулі; крутабокія і крамяныя яблыкі. Дзве кабеты ў гумавых ботах і ватоўках прадаюць проста з мяшка гранёнымі шклянкамі падпражаныя сланечнікавыя семкі; хлапчук у вялікай — аж налазіць на вушы — шапцы пісклявым голасам расхвальвае самасад: «Не тытунь — тытунец, скажа кожны курэц»; дробна і глуха б'е ў гаршчок костачкамі пальцаў ганчар... Людзей на кірмашы было не багата, і я, пааціраўшыся трохі між скупых прадаўцоў і яшчэ больш ашчадных пакупнікоў, зноў пабрыў на галоўную вуліцу.

Сонца толькі звярнула з паўдня, і я не ведаў, дзе б яшчэ пабавіць час. Я гатовы быў ісці куды заўгодна, толькі не на кватэру. Усім сваім нутром я адчуваў, што гаспадыня — лянівая, не ў меру тоўстая Цыля — не дасць мне ні хвілінкі спакою, а будзе з нейкай гультаяватай абыякавасцю распытваць пра маё жыццё ў вёсцы, пра вучобу, бацькоў. І каб гэта яе цікавіла! А то проста так, абы не маўчаць, абы пра нешта пытацца. Сама ж будзе пазяхаць на ўвесь свой шырокі бяззубы рот, заплюшчваць, нібы тая курыца, вочы і драмаць.

Я збочыў у нейкі гразкі завулак і зусім нечакана, таго і не заўважыўшы, апынуўся ў парку — маладым ляску, абгароджаным невысокім і рэдкім плоцікам. Купчастыя дубкі, ясені і клёны ўсцішна шумелі, атрасаючы долу жоўты і на дзіва лёгкі ліст, — ён клаўся на зямлю неахвотна, з тужлівым пошаптам, лішні раз напамінаючы пра адыход лета, пра хуткую гнілую восень.

Ціха і непрытульна было ў гэтым мястэчковым парку. Пасвіліся нечыя худыя, перахлябістыя козы, асклызла скуб мураву рабрысты заезджаны конь. Ля ўваходу, пасярод танцавальнай пляцоўкі мяўкаў, утаропіўшы некуды ўгору круглыя зялёныя вочы, паласаты, як тыграня, кот. Убачыўшы мяне, ён скокнуў цераз агароджу і праз якую хвіліну ўжо мільгаў на прагаліне, дзе ў камлях дрэў пpaглядаліся пустыя футбольныя вароты. Трошкі далей стаялі лаўкі, без спінак, з вузкіх габляваных дошак. На адной з іх, пад вілаватым дубком, сядзеў хлопец маіх год, у чорных акулярах і шыракаполым капелюшы, — твар хваравіты, з сінімі шрамамі ля вачэй. Другі, трошкі меншы за яго, збіраў на сцяжынцы чырвонае жылістае кляновае лісце.

Я прысеў непадалёку і, падпёршы рукамі галаву, доўга думаў, як пойдзе на новым месцы маё жыццё. Вучоба мяне не палохала. Сем класаў я закончыў з пахвальным лістом і, каб не бацька, вучыўся б даўно ў Гомелі на кухара: выдатнікаў там бралі без экзаменаў. З такой прафесіяй я марыў праз нейкі час уладкавацца кокам на марское судна і паплыць на ўсім белым свеце.

У бацькі ж наконт маёй прафесіі былі свае думкі і надзеі, — у вайну ён прастудзіў у акопах ногі і цяпер цвёрда верыў, што калі я вывучуся на доктара, то каго-каго, а яго дык пэўна вылечу. Ён і настойваў, каб я ехаў не ў Гомель, а ў Азярцы, у дзесяцігодку, — бліжэй школы нідзе не было, папалілі немцы. А там, казаў ён, трэба падавацца далей — у медыцынскі інстытут.

Ісці насуперак я не асмеліўся. Мой бацька — чалавек круты і незгаворлівы. Папярэчыць яму ў чым-небудзь — усё роўна, што ліць супраць ветру ваду. Да таго ж, у галаве я раскінуў так: на караблях трэба і медыкі, і можна з гэткай спецыяльнасцю таксама быць на моры.

З кватэрай уладзілі хутка — у Азярцах жыў знаёмы чалавек, Хаім, і ён за невялікую плату ўзяў мяне да сябе. Вядома, не без пэўнай выгады. Хлопец я паслухмяны, працавіты, а ў Хаіма, апрача жонкі Цылі, не было нікога: сын Борух служыў яшчэ ў арміі, сам жа гаспадар збіраў па ўсім раёне пушніну, скуры і ў Азярцы наведваўся рэдка. Дома проста некаму рабіць усёй хатняй работы — бегаць у магазіны, калоць дровы, насіць ваду.

Я і раней не раз памагаў Хаіму. Заўсёды, калі ён спыняўся ў нас начаваць, я надвячоркам здымаў з воза цяжкі драўляны куфар, у якім было схавана ўсё Хаімава дабро, браў касу і ехаў на поплаў. Там я распрагаў кашлатага, грывастага коніка, путаў і пускаў на папас. Сам жа накошваў поўныя аглабцы дзятлавіны, клаў пад яе хамут і лажыўся спаць. Высока над галавою сінела ўсыпанае чырвонымі калючымі зоркамі неба, пахла каламаззю, вупражжу, травамі, тупаў недзе побач конь — і як прыемна, соладка спалася!..

Перабіраючы ў памяці то адно, то другое, я прасядзеў у парку аж пакуль не пачало цямнець. Потым успомніў, што ў Азярцах мелася быць наша дзяўчына Мальвіна. Яна таксама вучылася ў школе, толькі не ў восьмым класе, як я, а ў дзесятым. Адрас яе я ведаў — Вакзальная, 47, і мне захацелася пабачыць яе.

Вуліца Вакзальная праходзіла паблізу Хаімавай хаты, і я без асаблівай цяжкасці знайшоў патрэбны нумар. Адчыніў весніцы, акінуў вачыма падворак: дзве старыя, разгалістыя яблыні ля плота, нізкі дашчаты хлявушок, пад ім звалены абы-як дровы — відно, што ў хаце жылі без гаспадара. На ганку, сагнуўшыся, цёрла жоўтым пяском бакасты самавар сухенькая, дробная бабулька.

— Скажыце, калі ласка, — спытаў я знарок гучна, каб мяне пачулі і ў хаце, — Мальвіна дома?

Бабулька асцярожна паставіла на прыступку самавар, нібы баялася, што ён паб'ецца, і толькі тады павярнулася да мяне.

— Не, дзеткі, яшчэ няма. Можа ўночы прыедзе. Цягніком, — дадала праз хвіліну яна. — Калі трэба што-небудзь перадаць, дык я перадам...

— Не, нічога...— мне не хацелася прычыняць лішні клопат бабульцы.

Выйшаўшы на вуліцу, я памалу, не спяшаючыся, паплёўся на сваю кватэру.

## II

Прачнуўся я рана. Адразу ж прыгадаліся словы, што сказала ўчора, калі клаўся спаць, гаспадыня: «Хочаш піць чай, дык насып вады ў самавар і грэй хоць кожную раніцу. Абед я сама табе звару, толькі пакінь

з чаго. Ну, што яшчэ? Урокі рабі ў зале, а спі тут», — яна адкінула квятасты крамны параванчык у бакоўку. Невялікі жалезны ложак — на ім ужо горбіўся напханы саломаю мой пярэсты сяннік, ляжала падушка, посцілка. На падлозе валялася рыззё, стаялі нейкія старыя аблезлыя чамаданы, кашы. Шэрыя, даўно нябеленыя сцены былі завешаны рванай адзежай.

— Ты не бойся, — супакоіла мяне Цыля. — Мышэй тут няма.

І паволі, сонная, пасунулася ў спальню...

Цяпер больш уважліва я агледзеў сваё новае жыллё. Гэта быў не асобны пакойчык, а хутчэй за ўсё каморка, у якую гаспадары звальвалі ўсякую непатрэбшчыну. Мяне аж перасмыкнула — я нацягнуў штаны і выбег на хату.

У вокны нясмела цадзіўся ранак. Стрэлкі ходзікаў паказвалі без дваццаці шэсць. Я зачэрпнуў з нейкай круглай палуджанай пасудзіны кубак вады і выйшаў на падворак.

Мястэчка абуджалася. Бразгаючы вёдрамі, нехта пабег цераз вуліцу да студні, гулка прагрукатала па бруку падвода. Метраў за дзвесце ад хаты было балота, і нізкі густы туман падступаўся да самага двара.

Я знайшоў роўны слупок і, ставячы на яго кубак, памыўся. Вярнуўся ў хату і сеў да акна. Чытаць было яшчэ цемнавата, а запаліць святло не ставала смеласці — у спальні смачна храпла гаспадыня. З зашклёных асадак на мяне пазіралі барадатыя старыя ў ярмолках, строга і непрыхільна. Я ўтаропіўся ў акно.

Мястэчка жыло ўжо сваім звычайным ранішнім жыццём. Спакваля прайшоўся сюды-туды рослы міліцыянер, са скуранай сумкай у руцэ і рэвальверам пры боку. Лёгка пратэпала з вядром і венікам у руках кабета. Патупаў некуды, прыкметна прыпадаючы на левую нагу, у зашмальцаванай ватоўцы плячысты дзяцюк, механізатар ці качагар, вельмі падобны на нашага аднавяскоўца, старога халасцяка Мікодыма Кухталя. Я спачатку падумаў нават, што гэта ён, і ледзь не кінуўся на вуліцу. Але апамятаўся: Мікодым завербаваўся летась на Сахалін. Вінаваты ва ўсім былі жанчыны. Напіўшыся восьмага сакавіка, яны падпільнавалі яго на вуліцы і сцягнулі жартам штаны. Мікодым ледзь вырваўся тады з учэпістых рук, — і цяпер яшчэ са смехам расказваюць, як галяком цыбаў ён праз усю вёску, ратуючыся ад сораму і жаночага крыку...

Мінула яшчэ некалькі часу, і людзі павалілі валам, аж не месцячыся на тратуары. Я не зводзіў з іх вачэй, бо бачыў такое ўпершыню. Раптам сярод усяго гаманлівага неспакойнага натоўпу — Мальвіна! У чырвоным асеннім паліто, без хусткі. У руцэ маленькі чорны партфельчык. Гэта было так нечакана, што я нават не паверыў сваім вачам.

Глянуў на ходзікі: было палавіна дзевятай. Хаця б не спазніцца ў школу... Схапіў сумку, напакаваную з вечара кніжкамі і сшыткамі, і выбег на вуліцу.

Туман не рассейваўся. Было золка і сыра. Ля плота важна, з гонарам расхаджваў рыжы певень-весянчук і згукваў да сябе курэй, што заўзята граблі нешта ў раўчуку. На слупе ля варот гарэла чырвоная ад дзённага святла электрычная лямпачка. Тупат ног па тратуары драбнеў, цішэў.

Школа стаяла на рагу вуліц — галоўнай і той, што вяла ў парк. Два раскошныя драўляныя будынкі, вакол іх — цяністыя таполевыя прысады. Як мае быць я агледзеў школу тыдзень назад, калі прывозіў дакументы: пахадзіў па вымытых да жаўцізны калідорах, пасядзеў за партаю ў нейкім незамкнёным класе, зазірнуў нават у школьны агарод — ен быў недалёчка, за парканам. На роўных лапіках зямлі буялі кукуруза, цімафееўка, ціха шапацеў спелы мак, сям-там па разорах лапушыўся гарбузнік, плёўся гуркоўнік, трошкі далей сівелі гронкі вінаграду.

Заняткі ў школе не ўнялі майго суму, не далі забыцца на адзіноту. Усё тут было чужое, не такое, як у нашай ціхай і глухой вёсачцы. Класы прасторныя, на некалькі вялізных светлых акон. Парты роўныя, з адкіднымі вечкамі. Вучні вясёлыя, бесклапотныя, прыгожа апранутыя — амаль ва ўсіх новыя, адпрасаваныя касцюмчыкі, пашытыя па модзе сукенкі.

У нас у Вепрах усё было іначай. Вучыліся мы па хатах — хто ў Ганны, хто ў Сахвеі, а хто ў лесніка Хамы. У школу прыходзілі хто ў чым — у палатняных штоніках, кажушках, світках, на нагах — лапці, гумавыя чуні, бахілы. Чарніла рабілі з сажы ці спелых воўчых ягад. Сшыткаў не было, і пісалі часцей за ўсё на жоўтай, абгортачнай паперы. Пра парты ведалі хіба толькі з кніжак, бо самі іх нават не бачылі — сядзелі за шурпатымі сталамі, наспех збітымі з тоўстых, сукаватых аполкаў. Як толькі аб'яўлялі канец заняткаў, усе кулём кідаліся ў дзверы — дома кожнага чакала работа: аднаму трэба было прыгнаць з пашы свіней, другому налупіць чыгун бульбы, трэцяму замяшаць карове пойла...

У малодшых класах вучняў, бацькі якіх не вярнуліся з фронта, раз на дзень бясплатна кармілі аўсянымі галушкамі. Некаторыя толькі і хадзілі ў школу дзеля таго, каб паесці. Абед пачынаўся звычайна так. Цётка Сахвея, высокая, грудастая кабета, у хаце якой мы вучыліся, даставала з печы вялізны, чорны ад сажы і дыму чыгун і, асцярожна пераступаўляючы тоўстыя ногі, несла яго на стол, дзе ляжаў класны журнал і сядзеў настаўнік. Не спяшаючыся завязвала густа заплямлены фартух, брала з паліцы чарпак і міскі. Настаўнік аб'яўляў перапынак, хуценька соваў пад паху журнал і пакідаў хату.

За ім выбягалі на двор і мы, тыя, у каго быў жывы бацька, — нам есці не давалі.

Абед цягнуўся хвілін трыццаць. Увесь гэты час мы тоўпіліся ў сенцах і чакалі, калі нарэшце адчыняцца дзверы і цётка Сахвея, аблізваючы языком губы, скажа, што можна заходзіць і нам у хату...

Не ведаю, як хто, а я тады зайздросціў тым, у каго не было бацькі — яны елі ўсмак хоць раз на дзень белыя, сытныя галушкі. Сям-там кроплі былі разліты на сталах, і я, азіраючыся на бакі, каб божа барані ніхто не бачыў, на ўроках паціхеньку падбіраў іх пальцам...

Заняткі канчаліся, і я спяшаўся ў лес — нёс бацьку, які вартаваў леспрамгасную электрапілу, бедную, нішчымную вячэру.

Аднойчы, калі бацька захварэў, мне давялося начаваць ля электрапілы аднаму. Я нацягаў вялізны лоўж сухога ламачча і расклаў агонь. Сэрца чорнай лапаю сціскаў страх — усё здавалася, нехта паблізу ходзіць. Гэтага страху можа б і не было, каб я не ведаў, што па лясах туляюцца яшчэ былыя паліцаі. Яны палілі калгасныя гумны, склады, абіралі магазіны. Заткнуць вартаўніку шапкаю рот, звяжуць рукі, ногі, — той і ляжыць ні жывы, ні мёртвы... Я азіраўся, насцярожана ўслухоўваўся ў глухую цішыню ночы і лавіў у ёй кожны самы нязначны рух. Пасядзеўшы так гадзіны дзве, я падкінуў на агонь ламачча і пашыўся з галавою ў сена, што ляжала ў берасцяным бацькавым буданчыку.

Сон не ішоў. Успаміналася, што недзе тут, на паляне, партызаны забілі ў вайну старасту, яшчэ раней на некага напалі нячысцікі і адабралі люльку. А то неяк, адразу ж пасля вайны, тут ваўкі парвалі ка-

бету, што апоўначы вярталася з суседняй вёскі. Спачатку яна спрабавала бараніцца ад гайні агнём, палячы сваё адзенне. Калі згарэла ўсё, кінулася ўцякаць. Ды ваўкі дагналі...

...На вёсцы не бывае дня, каб што-небудзь не пачуць новае. Там заўсёды багата навін. Горкіх, смешных. А што тут?..

Я сядзеў за партаю, слухаў, што расказвалі настаўнікі, але нічога не запамінаў — з галавы ні на хвіліну не выходзіла дамоўка. У душы расло, большала жаданне — кінуць усё і ўцякаць з гэтых чужых, непрыветных Азярцоў.

## III

Назаўтра раніцаю, седзячы ля акна, я зноў убачыў Мальвіну. Яна гэтак жа, як і ўчора, прабегла па тратуары і знікла ў натоўпе. Нешта вельмі прыемнае казытнула ў сярэдзіне, а сэрца маё трывожна забілася ад незразумелай, неасэнсаванай радасці. Мне цюкнула раптам выскачыць з хаты і пусціцца ўслед за Мальвінай, каб уволю налюбавацца на яе чорныя тугія косы, у якія так дарэчы ўплецены белыя банты...

Я быў і выбег, але Мальвіны ўсё роўна не дагнаў.

На ўроках я ўспамінаў, як некалі мы пасвілі з Мальвінаю гусей. Бацькоў яе ў вёсцы не любілі. Гэта ішло ад тых часоў, калі малады партыйны сакратар Яўмен, амаль адзіны з Вепраў мужчына, узяўся разбураць царкву. Мала таго, ён пры ўсіх выкалаў плашчаніцы вочы. Трэба ж такому здарыцца, што ў вайну Яўмена асляпіла снарадам. І гэта выкарысталі зласлівцы. Па вёсцы папаўзла пагалоска: адступніка пакараў бог. Бог на небе, бог бачыць усё, што робіцца на зямлі, і ад яго праведнага пакарання нідзе і нікому не схавацца. Не толькі некаторыя дарослыя, але нават і дзеці старaніліся Яўменавых. Я бадай адзіны з аднагодкаў таварышкаваў з Мальвінаю. Ды і то, мусіць, болей за ўсё таму, што хлапчукі мяне не любілі і вельмі неахвотна бралі ў свае кампаніі. У Мальвіны ж дома было некалькі цікавых кніжак, і я паддобрываўся ўсяляк, каб як-небудзь іх прачытаць.

...Званіў званок, усе зрываліся са сваіх месцаў і, як апантаныя, высыпалі на школьны двор. Я ж сядзеў за партай сёння, як і ўчора, надзьмуты, задуменны, і нікуды не выходзіў. Неспадзявана я засаромеўся Мальвіны. Мне пачало здавацца, што калі яна ўбачыць мяне, дык здагадаецца, што я цікую ўранні за ёю, што я пра яе думаю. А тут яшчэ, як на зло, я абярнуў чарніліцу і запэцкаў рукі. Цёр прамакаткаю, мыў сліною — усё роўна не даў рады.

Уночы я сасніў Мальвіну. Мы гушкаліся з ёю на арэлях. Расчырванелая, яна весела і звычна смяялася, паказваючы белыя і роўныя зубы — толькі наперадзе чарнела невялічкая шчарбінка. Я колькі было сілы ўпіраўся нагамі ў дошку, і мы падляталі аж у самае голле. Займала дух. А пад намі шугала чырвонымі, зыркімі языкамі полымя: вакол вогнішча сядзелі хлопцы, дзяўчаты і спявалі песні...

— Давай вышэй!— крычаў я і яшчэ больш упарта сціскаў рукамі вяроўку і аж прысядаў, каб даць больш разгон. Але што гэта? Сук, на якім зачэплены арэлі, трэснуў, і я лячу на зямлю. А Мальвіна зачапілася за галіну, зарагатала і лёгка, плаўна паплыла некуды ў неба да аблокаў.

— Мальвіна! Мальвіна!— закрычаў я і... прачнуўся: нада мною стаяла Цыля і тоўхала кулаком у бок.



— Ты што, захварэў? Чаго ты крычыш, бы ўсё роўна хто рэжа цябе?..

Я нічога не адказаў. Павярнуўся на другі бок, але заснуць ужо не змог да самай раніцы. Ляжаў і думаў, чаго мне такое саснілася. Я ж ні разу не хадзіў на арэлі разам з Мальвінай.

Прыгадалася: даўно-даўно, яшчэ ў маленстве, я прыйшоў неяк на сажалку пакупацца і ўбачыў Мальвіну — яна сядзела па самую шыю ў вадзе і ад холаду ляскала зубамі. А на беразе ля яе адзення стаялі хлапчукі і аж сінелі ад рогату. Я не стрываў. Схапіў сукенку і пабег узберагам, крычучы:

— Мальвіна, сюды!

І яна, забыўшыся, што я таксама хлопец і магу глядзець на тое, што яна так старанна хавала ў вадзе ад другіх, кінулася да мяне. Пасля нацягнула на галаву сукенку, бліснула голымі, загарэлымі ікрамі і ўмомант знікла ў лазняку.

Хлопцы не даравалі мне такой выхадкі. У той жа вечар яны падлавілі мяне ля самай вёскі. Садралі штаны, збілі мяне на горкі яблык ды яшчэ так выкачалі ў крапіве, што я цэлы тыдзень не мог ні сядзець, ні ляжаць...

## IV

Ішлі за днямі дні, а я ўсё ніяк не мог прывыкнуць да новага жыцця. Вяртаўся са школы, калоў дровы, насіў ваду, вучыў урокі і сумаваў. Сумаваў па дамоўцы, па вёсцы, па былых сваіх аднакласніках. Дзе яны, мае мілыя, добрыя хлопцы? Сей-той, я ведаў, паехаў працаваць у горад. Каторыя ж паступілі ў тэхнікумы і вучылішчы. Я зайздросціў ім,— яны будуць атрымліваць хоць і невялікія, але свае грошы. А я, як раней, сядзеў на бацькавай шыі. І гэта ў семнаццаць год. Вайна перашкодзіла мне ў час пайсці ў школу. Асабліва зайздросціў я Стасю, з якім таварышкаваў змалку. Ён так прызвычаіўся да кніг, што проста не мог без іх жыць. Перачытаў па некалькі разоў усё тое, што было ў нашай невялічкай школьнай бібліятэцы і ўжо ў сёмым класе ўзяўся за «Капітал». Ці разумеў ён што ў гэтым творы — я не магу сёння меркаваць, хоць не раз сам бачыў, як па гадзіне, па дзве соп ён над якой-небудзь старонкай. Настаўнікаў проста закідваў пытаннямі. Тыя адказвалі, што ведалі, а найбольш раілі хлопцу падрасці, пачакаць трошкі, бо «Капітал» вывучаюць не ў школе, а ў інстытутах...

Браў Стась і другія кнігі, якіх у нас ніхто не чытаў, тоўстыя, у дарагіх пераплётах. І пры выпадку любіў заўсёды ўставіць нейкае новае, не кожнаму зразумелае слова.

Ды гэта —між іншым. Кожны чалавек мае свае хібы і ў нейкай меры дзівак. Стася ж мы паважалі. Каб у каго іншага быў такі бацька, як у яго,— засмяялі б. А Стасю ніхто нават не намякаў, што яго бацька, Халімон, у вайну не пайшоў ні ў паліцаі, ні ў партызаны, затое умудрыўся займець аж тры жонкі. Кожная з іх нарадзіла дзіця, і бацька лічыў сваім абавязкам на тыдні хоць раз пераначаваць у кожнай з трох маладзіц. З гэтым ніяк не хацела мірыцца шлюбная жонка Прося, Стасева маці. Раніцаю яна біла вокны ў той хаце, дзе начаваў яе муж, але гэта не памагала. Да таго ж, раззлаваныя кабеты згаварыліся неяк і вымалацілі да шыбінкі вокны ў Просінай хаце. Калі Прося выбегла на двор, на яе закрычалі:

— Чаму з табою адной ён жыць павінен? А нам што рабіць? Хіба

мы не такія, як ты? Мужчын падзяліць трэба, каб на ўсіх пароўну было. Мы ж не вінаваты, што нашы не вярнуліся!

Стась вучыўся цяпер у Рызе, у мараходным вучылішчы...

Не маючы чым заняцца, я блукаў па мястэчку. Яно было не такое ўжо і вялікае, як падалося мне ў першыя дні. Менш як за тыдзень я ведаў не толькі ўсе вуліцы, але запомніў у твар і некаторых людзей: міліцыянера з доўгімі і рыжымі вусамі, што заўсёды нямаведама чаго аціраўся ля пашпартнага стала; брухатага мясніка ў белым залапленым халаце; кульгавага цырульніка... Сустракаючы іх, мне нават хацелася зняць шапку і паздароўкацца.

Сяброў у мяне яшчэ не было. Дый я не вельмі клапаціўся іх займець. Мне здавалася, што ўсе мястэчкоўцы — задавакі, хвалькі ані меншыя за Ігара Берастоўскага, з якім мне пашанцавала сядзець за адной партай. Ігар складаў вершы і пасылаў іх у рэдакцыі. Адтуль прыходзілі лісты. Але што там пісалі, ніхто не ведаў, бо сам паэт не вельмі каму іх даваў чытаць. Хваліцца ж гэтымі лістамі ён дужа любіў. Як толькі што, выцягне з нагруднай кішэні цэлы жмут і давай тыкаць у твар:

— Хто ты? Дурны, як бот. А мяне самі рэдактары просяць, каб вершы прысылаў...

Са мной Ігар нават гаварыць не хацеў — лічыў мяне проста «вясковым хамутом». І папраўдзе, хто быў я ў параўнанні з ім, сынам старшыні райвыканкома!..

Настаўнікі таксама былі не такія, як у нашай вясковай школе,— на ўроках яны напускалі на сябе залішнюю суровасць і пры выпадку вельмі любілі пагаварыць пра культуру і прыкладныя паводзіны. Асабліва не падабаўся мне выкладчык гісторыі Харытон Рафаілавіч. Казалі, што перад вайною ён знарок адсек сабе на правай руцэ пальцы, каб не ўзялі ў армію. Цяпер ён тыцкаў куксаю кожнаму і гугнявіў, выклікаючы да дошкі:

— Ну, а што ведаеш ты?

І толькі бадай да аднаго Ігара Берастоўскага звяртаўся Харытон Рафаілавіч не на «ты».

— Ці не хацелі б выказаць вы свае думкі па гэтаму пытанню? — звычайна гаварыў ён сыну старшыні райвыканкома.— Ах, няма жадання. Ну што ж, сядайце, чаго ж вы тады ўсталі...

У акупацыю Харытон Рафаілавіч займаў пасаду дырэктара нейкай вясковай школы, а як бліжэй падышлі нашы, нейкім чынам перамахнуў у партызаны. Цяпер ён, мусіць, баяўся, што яму могуць напомніць пра яго дырэктарства, і дзецям усіх раённых начальнікаў ставіў пяцёркі нават і тады, калі другім за такі ж самы адказ не паставіў бы і тройку...

Адзіны бадай чалавек, да якога мяне цягнула, з якім хацелася гаварыць, раіцца, была Мальвіна. Але з ёю я ніяк не мог сустрэцца. Ісці ж знарок да яе я болей ніяк не мог адважыцца.

## V

Надвячоркам у пятніцу з Вепраў прыехаў Хаім. Ён прывёз мне ад бацькоў туга наладаваную харчамі торбу і невялікае пісьмо. У ім маці пісала, што вельмі нудзіцца па мне і добра было б, каб я, як толькі выпадзе вольная хвіліна, «хоць на дзянёк адскочыў дадому». Хаім расказаў і ўсе вясковыя навіны. Самая цікавая была адна: у калгас прыслалі новага старшыню. Гэты раз агранома, з горада. Таго ж, што быў, накіравалі ў нейкае іншае месца, бо аставацца болей у Вепрах ён не мог. Яго жонка, тоўстая, але яшчэ даволі прывабная, сімпатычная кабета круцілася з бухгалтарам. Муж разоў колькі лавіў яе, але баяўся падымаць вэрхал: у яго і так ва ўчотны лісток было занесена аж два спагнанні... І яшчэ: у п'янага агента, што прыязджаў з раёна спаганяць падаткі, нехта адкраў сумку з паперамі і квітанцыямі... Мусіць, будуць судзіць...

У памяці зноў усплылі Вепры, родная, бясконца дарагая вёсачка. Там, пэўна, ужо капаюць бульбу, лушчаць фасолю, зносяць з агародаў гарбузы. У хлявах гучна ляскаюць цэрніцы, і дзеці кашамі цягаюць на прызбы кастрыцу — уцяпляюць на зіму хаты.

Ледзь разднее, старыя і малыя спяшаюцца ў лес: восень самая грыбная пара. Танканогія апенькі так абляпілі пні, што аж не відно зрэзаў. Імшарыны стракацяць рознакаляровымі сыраежкамі, абабкамі, падасінавікамі. У бары аж падымаюць зямлю баравікі, караністыя, зухаватыя. Паспелі і лесавыя яблыкі. У бывалешнія гады я наношваў іх цэлае гарышча. Маленькія і кіслыя, яны пасля маразоў робяцца смачнейшыя ад любой пепінкі ці антонаўкі. Як добра было, вярнуўшыся са школы, набраць іх цэлую шапку і, седзячы на печы, чытаць кніжку і жаваць гэтыя дармовыя лясныя ласункі. А колькі груш-дзічак паспела ў полі! Дажджом сыплюцца, толькі ўзлезь ды калатні. А жоўтыя, з белымі пушкамі арэхі-лузанчыкі; румяныя, сакаўныя журавіны ў імхах, буйны і важкі жолуд... І ўсяго гэтага я не бачу...

Скруха і сум зноў апанавалі мяне. Я апрануўся і выйшаў на вуліцу. Як абрыдла мне Хаімава хата, мая цесная і брудная каморка!

Нізкія асеннія хмары зацягнулі ўсё неба. Сыпаў нудны, маркотны дождж. На тратуары не прайсці — у Доме культуры скончылася кіно, і людзі спяшаліся дамоў. Я пабрыў, сам не ведаючы куды, па абочыне вузкай шашы.

Нямала здзівіўся, калі ўбачыў сябе ля той хаты, дзе жыла Мальвіна. У вокнах гарэла святло. Але за белымі, густымі фіранкамі не відно было нічога.

«Зайсці?»

Узяўся за клямку весніц, і на большае не хапіла смеласці.

«Хто я такі, каб турбаваць Мальвіну цёмначы? Што я скажу ёй, калі ўбачу?»

Я адышоўся ўбок. Пастаяў трохі пад старой купчастай таполяй, паслухаў, як шапоча па лісці дождж, і паволі пабрыў па вуліцы далей.

## VI

З Мальвінаю мы сустрэліся толькі праз месяц. Сустрэліся зусім выпадкова, нечакана. Я перабягаў з парожнімі вёдрамі вуліцу, а яна вярталася са школы.

— Косця!— убачыўшы мяне, крыкнула яна.— Што ты тут робіш?

Сэрца маё ёкнула.

— Іду па ваду,— адказаў я, адчуваючы, як прыліла да твару кроў.— Хіба не бачыш?

— Бачу,— усміхнулася Мальвіна.— А нашто табе тая вада?

— Як нашто? Я ж тут жыву, у школе вучуся.

— Праўда?— ні то здзівілася, ні то ўзрадавалася Мальвіна.— У якой школе?

— У той, што і ты. Хіба не ведала?

— Дык гэта ты і прыходзіў да мяне, бабка казала... А я і забылася, я ж табе неяк адрас свой давала. Вось галава, як рэшата!



Яна зноў усміхнулася. Я ўбачыў маленькую шчарбінку. Якой мілай здалася мне Мальвіна... Я зачаравана глядзеў на яе і не мог адвесці вачэй.

— Я і яшчэ раз быў у цябе, — прызнаўся я. — Увечары.

— Чаму ж я не ведаю? Хіба спала?

— Не, я пастаяў толькі ля двара...

— І гэта называецца быў, — засмяялася з мяне Мальвіна. — Чаму ж ты не зайшоў?

— Пабаяўся.

— Чаго?

— Думаў, што ты спіш... — схлусіў я, бачачы, што прагаварыўся.

— А яшчэ прыйдзеш?

— Прыйду.

— Каб ля двара пастаяць?

— Не, папраўдзе прыйду.

— Прыходзь.

Мальвіна пайшла, а я яшчэ доўга стаяў і глядзеў, як матляюцца яе косы, як стукаюць аб тратуар абцасікі чорных і такіх гожых маленькіх туфелек. Сэрца маё трывожна білася, і нейкае хваляванне перапаўняла грудзі.

Добра памятаю, як клапатліва збіраўся на першае сваё спатканне. Перш-наперш увечары я наквэцаў дзёгцем боты, ды так, што калі зайшоў у хату, Цыля схапілася за нос. Давялося вынесці іх на ноч у сенцы. Хвілін колькі стаяў перад люстэркам і разглядаў свой вуглаваты і худы твар, нажніцамі састрыгаў з верхняй губы бялёсы яшчэ не ацвярдзелы пух. Чорныя картовыя штаны папырскаў вадою і паклаў нанач пад матрац. Як толькі развіднела, я быў на нагах. Зноў доўга і пільна глядзеўся ў люстэрка, даводзіў да ладу адзенне.

Пасля снедання, каб уняць хоць трохі хваляванне, прайшоўся па мястэчку. З неба церусіў дождж, і па вуліцы, бы мядзведзі, валюхаліся ў вывернутых кажухах дзядзькі, непаваротлівыя, прыгорбленыя. Нейкая кабета цягнула за рогі гладкую цялічку, але тая ўпіралася і не хацела ісці. Была нядзеля, і жанчыны неслі з базару пад пахамі гарластых пеўняў, аб нечым перамаўляючыся. З лераю ў руках, мацаючы палкаю тратуар, некуды тупаў сляпы з торбамі крыж-накрыж, у лапцях і палатняных штанах.

Хваляванне не знікала. Яно расло. Не могучы больш саўладаць з сабою, я звярнуў на Вакзальную. Вось і знаёмыя весніцы, дом пад бляшаным дахам, гнілы ганак, на якім бабулька некалі шаравала самавар. Адчыняю сенцы і асцярожна стукаю ў дзверы. Хвіліна другая цішыні, толькі тахкае ў грудзях сэрца. Потым выразныя глухія крокі, бразгат клямкі, і вось — Мальвіна, трошкі засаромленая, святочная. Яна няёмка ўсміхаецца, чырванее і вядзе мяне ў свой невялічкі, абклееены залацістай шпалерай пакойчык. Бачу ложак, засланы белым прасцірадлам, на ім дзве падушкі. Кіпка кніжак і сшыткаў на століку ля акна. Самаробнае крэсла,— вось, бадай, і ўсё.

— Садзіся, садзіся, будзь як дома,— ціха кажа Мальвіна і падсоўвае мне крэсла. Сама ж прымошчваецца на краі ложка.

Саджуся і толькі цяпер бачу, што на ёй белы шарсцяны світар, які вельмі ж да твару і туга абцягвае пукатыя грудзі, тонкую талію; чорная, уся ў фальбонах спаднічка, на нагах туфелькі, маленькія, вастраносыя. Відаць, што Мальвіна чакала, рыхтавалася.

Спачатку абое маўчым, не ведаючы, што гаварыць. Дзяўчына глядзіць на мае штаны, боты і ледзь прыкметна ўсміхаецца. А я не зводжу вачэй са сваіх рук. Якія яны загарэлыя, грубыя.

Потым пачынаем гаварыць пра мястэчка, школу, настаўнікаў. У яе голасе столькі ласкі, цеплыні і пяшчоты, што мне здаецца, каб гэта можна было, я слухаў бы яго бясконца. Мальвіна трошкі хвалюецца, бо шчокі яе то бляднеюць, то чырванеюць. Але нічым не выдае, што яна дзесяцікласніца і не роўня мне. І гэтым мне падабаецца яшчэ мацней.

Мальвіна таксама сумуе па Вепрах і ў наступную нядзелю збіраецца ехаць дахаты.

— Ты ж, мусіць, яшчэ і не быў дома?— пытаецца яна.

— Не, не быў.

— Дык паедзем. Удваіх смялей будзе і на станцыю ісці і са станцыі. Добра?

Я кіўнуў галавою і знячэўку зачапіў нагою стол: на падлогу звалілася кніжка. Нагнуўся, каб падняць яе, але Мальвіна мяне апярэдзіла. Мільганулі толькі яе тонкія рукі, ды ў лагоднай усмешцы скрывіліся вільготныя вусны. Абое маўчым.

Пасля яна праводзіць мяне і просіць заходзіць часцей.

Дома за поўнач ніяк не магу заснуць. Мроіцца самае прыемнае і нечаканае. То я цалую тыя вільготныя, прывабныя вусны, то мяне абдымаюць і хінуць да сябе Мальвініны рукі...

## VII

У дзень, калі мы ехалі дамоў, выпаў першы снег. Ён паваліў пад абед, белы, густы і адразу як не цэлымі ахапкамі. Зямлю яшчэ не падціснуў мароз, не асунулася з усіх дрэў лісце — усюды стылі глыбокія каламутныя лужыны і кісла гразь. Ды зіма не зважала на гэта.

Памятаю, як стаялі на ганку вакзала, чакалі цягніка, а вакол нас мітусіўся снег. І здавалася, стаім мы не пад небам, а пад нейкім вялізным рэшатам і над намі нехта нябачны сее намолатую ў жорнах муку.

Мальвіна, у белай пуховай шапачцы, расчырванелася і гаварыла нешта пра зіму. Як пунсавелі яе па-дзявочы прыпухлыя вусны, як гарэлі чорныя-чорныя, бы смародзінныя ягады, вочы! І ніколі яшчэ не была яна мне такою блізкаю, як у той дзень...

Потым мы сядзелі ў цёплым, накураным вагоне, шчасліва смяяліся і гаварылі. Гаварылі пра ўсё. І, мусіць, больш за ўсё пра сваю будучую прафесію, работу. Мальвіна марыла быць настаўніцай.

— Не, не, ты толькі падумай, як гэта цудоўна вучыць людзей,— казала яна, і вочы яе яшчэ больш чарнелі.

— Ну, дапусцім, ты станеш настаўніцай. А што далей?— пытаўся я.

— А што ты яшчэ хочаш?

— Нельга так, каб пнуцца-пнуцца, нечага дасягнуць і спыніцца. Трэба ісці далей. Трэба, каб заўсёды была нейкая мэта, тады яно цікавей жыць...

— Якая ж у цябе мэта?

— Гэтага я пакуль што і сам не ведаю, скажу толькі, што пасля школы пайду у медінстытут, паспрабую ўладавацца дзе-небудзь на карабель. А там... Там відно будзе. Адно ведаю: не спынюся на тым, чаго дасягну...

— А я, каб толькі настаўніцаю стаць. Паеду ў вёску і буду працаваць, працаваць так, каб кожны дзякаваў.

Я слухаў мяккі, ласкавы Мальвінін голас, і мне было радасна і добра. А Мальвіна ўсё болей гарачылася, усё болей шчыра бралася тлумачыць і даказваць, што лепшай работы, як настаўніцкая, няма на ўсім свеце...

Па вагоне з чырвонымі ліхтарамі хадзілі кантралёры і правяралі білеты, праваднiца сухім бярозавым венікам падмятала падлогу, недзе ўнізе пад намі тахкалі колы... За акном бегла чорная ноч, і не відаць было ні месяца, ні імглістых іскрынак зор,— снег ужо растаяў, і з неба пырскаў дробны дождж.

Бабуля ў шэрым асеннім паліто падняла вэрхал, што яе абакралі. Некалькі чалавек кінуліся са сваіх месцаў да яе. І тут высветлілася, што старая заблудзілася. Перапалоханую і ўстрывожаную кабету завялі да яе рэчаў,— яны былі побач, у суседнім купэ. А праз нейкі час малады дзявочы голас пытаўся ў старой:

— Бабуля, бабуля, колькі вам год?

— Хто іх помніць, дачушка... Можа сто, а можа і болей.

— А мне ўсяго дваццаць сем,— умяшалася ў гаворку маладзіца.— Па мужа вось еду...

— Па якога мужа?— спытаўся той жа малады голас.

— Свайго... Ён у доме інвалідаў...— і маладзіца пачала расказваць, колькі яна паплакала, колькі не паспала начэй, калі раптам ад яе Міхаля не сталі прыходзіць пісьмы. Думала, недзе загінуў і давядзецца век векаваць удавою. Аж учора атрымала пісьмо ад франтавога Міхалёвага сябра. З яго і даведалася, што муж яе ў доме інвалідаў без абедзвюх ног.

— А дадому не едзе, бо не хоча, каб бачыла я яго такога. Думае, не трэба ён мне без ног,— казала маладзіца.— Як ён мог такое пра мяне падумаць! Атрымала пісьмо і адразу ж на цягнік, нават плацце святочнае надзець забылася... Ды хіба ж дзе ёсць лепшы за майго Міхаля!

— У нас з месяц назад,— зноў загаварыў малады дзявочы голас,— аж з самай Нямеччыны дзядзька адзін прыехаў. Быў, кажа, у канцлагеры. Чаго ён толькі не бачыў!.. Аднаасобнікам да вайны жыў, а як паглядзеў на чужыну — самы першы калгаснік цяпер!

Цягнік спыніўся хвіліны на тры на невялічкім паўстанку, і было смешна глядзець, як беглі да вагонаў людзі — спяшаліся сесці. Каранасты дзядзька з вялізным мяшком кінуўся да нашага вагона, але спатыкнуўся аб шпалу. Мяшок ссунуўся з плеч і распоўзся. Дзядзька схапіў мяшок за чуб, перавярнуў яго і прыгаршчамі пачаў збіраць нешта на зямлі. Паравоз крактануў, прарэзліва гукнуў і пасунуўся далей. Дзядзька падняў галаву, разгублена паглядзеў на вагоны. Плюнуў і астаўся сядзець на зямлі.

На станцыі мы як не першыя вылезлі з вагона. У вёску ішла машына, але мы не селі на яе — пайшлі пешкі.

З неба не пераставаў сеяцца дождж. Ціхі, дробны. Сцяной стаяла цемра, чорная, густая, хоць рэж нажом. І мы спатыкаліся раз-пораз аб карэнні дрэў і пні, аж пакуль не мінулі лес. І тут раптам мяне працяла думка: ды я ж кахаю Мальвіну...

## VIII

Потым была сапраўдная белая зіма, былі лютыя, віхурыстыя мяцеліцы, маразы, канікулы і былі частыя шчымліва-пакутлівыя хвіліны чакання сустрэчы з Мальвінай...



Да ўсяго патроху я прывыкаў, і ўжо ў самім мястэчку, у школе мне не было так сумна і дзіка, як у першыя дні. Знікла і тая сарамлівая нерашучасць, з якой некалі хадзіў у пакойчык на Вакзальнай. Мальвіна сустракала мяне ласкавым позіркам і ўсмешкай. І я здагадваўся: яна рада, што я прыйшоў. Наогул, я ўсё часцей пачаў заўважаць, што Мальвіна губляецца, густа чырванее і, не знаходзячы слоў што-небудзь сказаць, ломіць на руках пальцы. Калі знячэўку маё плячо кранался яе пляча, дзяўчыну ўсю працінала бы электрычным токам і яна ўмомант палахліва адсоўвалася. Тое ж было і са мною.

Адразу ж пасля нашых канікул з арміі вярнуўся Борух, плячысты, моцны, бы туга звязаны сноп, і рыжы, як агонь. Ад Боруха я даведаўся, што Хаім яму зусім не бацька, а толькі айчым. Цыля ўзяла яго нядаўна, калі Боруха не было ўжо ў Азярцах. Пасынак не любіў прымака, і Хаім гэта ведаў. Ведаў і амаль не стыкаўся дома. У Азярцы



ён прыязджаў хіба толькі ў пятніцу, каб справіць «шабас», а ў нядзелю запрагаў коніка і ехаў зноў на раён. Суботні дзень, калі Хаім быў дома, цягнуўся асабліва доўга і пакутна — Борух хацеў выжыць айчыма з хаты і падпускаў яму ўсялякія шпількі. Цыля спачатку заступалася, бараніла Хаіма, а потым пачала нападаць на яго і сама. То ёй не падабалася, як ён ставіўся да яе катоў (я і забыўся сказаць, што Цыля трымала ў хаце цэлы кацiны гадавальнік — аж шэсць, самай рознай масці мурак, бо баялася больш за ўсё на свеце мышэй), то не так, як ёй хацелася, піў чай, зачыняў дзверы... Мне шкада было Хаіма: як-ніяк, а гэта ж ён палажыў у доме новую падлогу і столь, пабудаваў хлеў, пасадзіў сад. За Хаімаў заробак жыла Цыля, пакуль сын служыў у арміі. Хаімавы грошы яна слала і Боруху... Дзе ж было падзецца Хаіму, адзінокаму, бяздомнаму чалавеку? Сям'ю яго расстралялі немцы, а сам ён таксама нямала намучыўся, хаваючыся па вёсках, пакуль, нарэшце, неяк увесну не дапяў да партызанскага атрада. Ды што да таго было Боруху! Ён збіраўся жаніцца і хацеў выжыць айчыма.

Сваркі заўсёды былі гарачыя, крыклівыя, і, каб іх не чуць, я ўцякаў на вуліцу.

На развалах, у даўгіх рыжых кажухах, якія моцна пахлі кіслымі аўчынамі і цэглай, у рудых бітых валёнках, едуць нанач у Азярцы, каб завідна трапіць на торг, з далёкіх вёсак калгаснікі — вязуць балбатлівых індыкоў, крыклівых гусей, лянівых і раздабрэлых ягамосцяў з круглымі, чырвонымі лычамі... Вязуць усё, што трэба прадаць, каб выручыць сякую-такую капейчыну. І неяк зайздросна было, што ў другіх вёсках так багата жывуць людзі, а ў нашых Вепрах усё нешта не ладзіцца...

Я ішоў у парк і стаяў там, ахоплены одумам. Чаму так бывае ў прыродзе і жыцці: аднаму дык аж надта густа ўсякай дабраты, а другому зусім нічога? Узяць хаця б здольнасці, красу, розум... А ці нельга падзяліць так, каб усе мелі пароўну ўсяго?

Ахапкамі ламачча ў верхавінні дрэў чарнелі варанячыя гнёзды, а між камлёў пятлялі пакручастыя дарожкі лыжных слядоў. Малыя з чырвонымі смаркатымі насамі ляпілі бабу, з галінак дрэў падалі кроплі расталага снегу,— здавалася, дрэвы плачуць ад нейкай адвечнай крыўды. Ад гэтых слёз скрозь у снезе слюдзяніліся неглыбокія ямачкі...

На лавачцы, ля танцавальнай пляцоўкі, сядзеў, як некалі і ў першы дзень, хваравіты хлопец у чорных акулярах. Цяпер на ім было цёплае зімовае паліто, вялікая бухматая авечая шапка. Я ведаў, што гэта сын начальніка міліцыі Кузьма і што ён сляпы. У вайну ён знайшоў гранату і кінуў яе ў студню, а сам схіліўся над зрубам, — каб паглядзець, як яна ўзарвецца. І астаўся без воч...

Кузьма вучыўся ў дзесятым класе, разам з Мальвінай, і пасля ўрокаў любіў пасядзець у парку. Пад пошум дрэў яму, мусіць, добра думаліся нейкія свае думкі. Ля яго круціўся той жа хлапчук, што тады збіраў кляновае лісце. Я ведаў: малы рос у дзіцячым доме. У школу ён не хадзіў, бо быў зусім глухі. Неяк, спыніўшы мяне на сцяжынцы, хлопчык спытаў, ці праўда, што вучоныя вынайшлі такі апарат, які ўзмацняе слых... Я яму доўга тлумачыў, што ведаў, але ён нічога, мусіць, так і не зразумеў, бо ў адказ толькі заклапочана ківаў галавою...

У той дзень я пайшоў у местачковую бібліятэку. Яна месцілася ў невялікім, з высокім ганкам доміку, пафарбаваным у вясёлы блакітны колер. У змрачнаватай ад засені таполяў, але чыстай і ўтульнай чытальнай зале, у кутку за столікам крукам сядзеў лысы да апошняга воласу чалавек у акулярах — як потым я даведаўся, мясцовы пісьменнік, творамі якога былі завалены ўсе рэдакцыі не толькі ў Мінску, але і ў Маскве. Ён шморгаў раз-пораз у свой канапаты нос і хутка-хутка страчыў нешта самапіскай.

Бібліятэкарка, маладая, вельмі прыветлівая кабета, з высокаю белай шыяй і чорнымі, густымі бровамі, доўга распытвала, хто я і адкуль. Потым адчыніла дзверы ў бакавы пакой і правяла мяне да паліц, дзе да самай столі стаялі і ляжалі кнігі. У мяне разбегліся вочы, калі я ўбачыў такое багацце. Гадзіны дзве я перакладаў акуратныя, рознакаляровыя томікі, ніяк не могучы даўмецца, што ўзяць — упершыню я пераканаўся тут, што і сапраўды ўсіх кніг перачытаць нельга.

Час ад часу ў бібліятэку стукаліся чытачы. Гэта былі найбольш такія ж, як і я, школьнікі. Кожны браў сваё — вучні што-небудзь па праграме, астатнія пыталі тоўстыя раманы пра каханне ці шпіёнаў. І непрыкметна, ціхенька знікалі.

Пайшоў і я, выбраўшы самае, як мне здавалася, цікавае і дасюль невядомае. Цяпер, вярнуўшыся са школы, я гартаў розныя медыцынскія даведнікі, чытаў кнігі. Мне хацелася стаць доктарам, лячыць вось такіх, як дзетдомавец і Кузьма... Аддаць усяго сябе людзям, як Данка...



Думка гэтая мацнела, калі Мальвіна бралася расказваць, як іхняя класная кіраўніца Тамара Андрэеўна ў акупацыю працавала ў фашысцкай камендатуры перакладчыцай і два гады перадавала партызанам розныя звесткі, а пасля прывяла ў атрад аж трыццаць славакаў, што ахоўвалі чыгунку. Выкладчык астраноміі Гарасім Іванавіч, калі прыйшлі немцы, добраахвотна вызваўся рэдагаваць раённую газету. Першы нумар ён выпусціў увечары, а на світанні кожная ў мястэчку хата чытала, што не трэба сядзець, склаўшы рукі, і чакаць, а трэба ісці ў лес, у партызаны і біць гітлераўцаў. Кінуліся шукаць «рэдактара», але яго і след прастыў. Зніклі разам з ім фарбы, шрыфты, папера. Крыўдна было, што побач з такімі людзьмі у школе працаваў фашысцкі паслугач Харытон Рафаілавіч.

Неяк ён выклікаў да дошкі Змітрака Саковіча, ціхманага і, здавалася, абыякавага да ўсяго хлопца, што сядзеў на задняй парце. Той прагрукаў ботамі праз увесь клас, плечуком прыхінуўся да сцяны, памяўся трохі і сказаў:

— Урока я сёння не вывучыў.

— Што?

Змітрок апусціў галаву і нічога не адказаў.

— Не было часу... — паківаў галавою настаўнік. — Разумею, такі бэйбус, да дзевак пацягнула. Яны цікавейшыя за кніжкі... — Настаўнік устаў, рукамі абапёрся на стол і пачаў расказваць, як учора ўвечары ён бачыў Змітрака ў парку. Потым падышоў да хлопца, стаў тузаць змятыя, выкачаныя ў гразь калашыны штаноў, увабраныя ў боты. — Глядзіце, няйначай у саломе недзе валяўся...

Саковіч маўчаў, толькі мацней сціснуў губы — было відно, што ён вось-вось заплача. Але пры ўсіх ён зрабіць гэтага не мог і, прыкрыўшы рукамі вочы, выбег з класа. Я аж закалаціўся. Не помнячы сябе, крыкнуў:

— Можа ў яго што здарылася!

— Што? — ускіпеў настаўнік. — Што ты сказаў? Паўтары!

У класе было шумна і, пэўна, Харытон Рафаілавіч не пачуў маіх слоў. «Можа гэта і лепей»,— падумаў я і сеў.

— Устань, табе ніхто не дазваляў садзіцца! — закрычаў зноў настаўнік. — Будзеш стаяць да канца ўрока. Зразумеў?

Я не адказаў нічога, адкінуў вечка парты і ўстаў.

Змітрок болей у школу не прыйшоў. І тады ў класе загаварылі, што жыў ён на кватэры ў сваёй роднай цёткі, заядлай баптысткі. Тая намагалася, каб пляменнік спаліў камсамольскі білет і ўступіў у секту. Хлопец упарціўся, лаяў сектантаў, і яна не пускала яго ў сваю хату,— некалькі начэй Змітрок спаў на лаўках у парку. Потым зусім паехаў, у вёску да маці.

## IX

Адзін дзень асабліва глыбока ўрэзаўся мне ў памяць...

У школе быў сход, ён зацягнуўся, і мы спазніліся на цягнік. Наступны ішоў толькі пад раніцу, а ў пачакальні вакзала і без нас было поўна людзей. І мы, патупаўшы трохі па ганку, вырашылі дабірацца да сваіх Вепраў пешкі, па шпалах.

Ісці было не так ужо і блага. Навокал драмала светлая, марозная

ноч. Дрыжалі, міргалі зоркі. Поўнік-месяц сеяў з засмужанай далечы роўнае і блеклае святло. Пад нагамі суха і дрогка парыпваў снег. Трашчалі, ламаліся і глуха падалі на дол, як у падушку, сучкі...

Лес то падыходзіў да самага палатна, то раптам адбягаўся, даючы месца палянам, дзялянкам, узбалоткам. На ўсю разлегласць лыселі куп'істыя лугі, нягуста застаўленыя невысокімі, вастраверхімі стажкамі. Шархацеў сухі чарот. Нудна і панына гулі тэлеграфныя правады.

Нечакана Мальвіна схапіла мяне за руку.

— Воўк! — шапнула яна і спынілася.

Я ўздрыгнуў: проста перад намі, крокаў за дзесяць ад палатна, наперадзе стаяў воўк — у блеклым святле месяца добра відны былі яго ногі, роўная спіна. Валасы на маёй галаве зварухнуліся, і я адчуў, як на іх пакруцілася шапка.

Абысці ваўка было немагчыма — снег усюды вышэй калена, і нечага было і думаць, каб уцякаць. Вяртацца назад таксама не хацелася: мы прайшлі добрую палавіну дарогі.

Рукі ліхаманкава абмацалі кішэні: у іх, акрамя незавостранага алоўка, не было нічога.

Колькі часу мы стаялі разгубленыя і спалоханыя, не ведаючы, што рабіць. Потым пайшлі: што будзе — дык будзе. І амаль адначасова засмяяліся: гэта быў зусім не воўк, а звычайныя козлы, на якіх рэжуць дровы. Нехта на іх узваліў чурбак і забыўся скінуць. Прыгледзеўшыся, мы ўбачылі ў хмызняку і хату, засыпаную з усіх бакоў снегам — гэта была леснікова сядзіба.

Пасля, адышоўшыся трохі, Мальвіна загаварыла пра той недалёкі час, калі людзі пазнаюць таямніцу сусвету і будуць лётаць на Марс, на Венеру...

— Гарасім Іванавіч казаў нам неяк на ўроку, што гэта будзе вельмі і вельмі хутка. Не пройдзе якіх і ста год... І тым, хто тады жыцьме, дзіўным будзе здавацца, як гэта мы не маглі адарвацца ад Зямлі. Яны будуць смяяцца з нас так, як мы смяемся з тых, што не ведалі нічога пра Амерыку, другія далёкія астравы і краіны...

Мальвіна паўтарала словы Гарасіма Іванавіча, але мне было цікава яе слухаць. Я толькі не мог пагадзіцца, што нашы нашчадкі будуць смяяцца з нас. Не, яны будуць нам удзячны, як мы ўдзячны сваім продкам, што яны паказалі нам дарогу ў неба — хоць думкамі, спрадвечнымі, нястрымнымі марамі.

Але я не хацеў пярэчыць Мальвіне. Я ішоў і думаў: а ці дачакаемся мы той пары, каб хоць на старасці год калі не ўбачыць, дык пачуць, што сапраўды ўяўляюць сабой зоркі — запаленыя богам свечкі ці новыя светы...

Як багата ўсюды яшчэ неспазнанага, і якое кароткае чалавечае жыццё! І да жудасці пакутна было ўсведамляць, што мы таксама не вечныя, што мы некалі памром. А нехта ж будзе жыць, нехта ж будзе хадзіць па гэтых вось сцяжынах, у яго пад нагамі будзе парыпваць, як вось і цяпер, снег. А колькі ўжо хадзіла праз гэты лес людзей! Колькі перадумана, перагаворана! І няма ўсяго, знікла і ніколі не ўваскрэсне. І толькі зямля ды неба, ды вось хіба тыя далёкія мігатлівыя, а сёння на марозе асабліва яркія, буйныя зоркі будуць жыць вечна.

— Мне аж не верыцца, што канца свету няма. Ён будзе, як некалі будзе і мая і твая смерць... — казала Мальвіна.

У мяне аж замёрла сэрца, калі я пачуў ад Мальвіны словы пра смерць.



— Мальвіна,— перапытаў я,— чаго гэта ты раптам узгаварылася пра смерць?

— Сама не ведаю. Можа таму, што я вельмі люблю астраномію, а можа таму, што ў мяне хворы бацька. У яго адкрыліся раны... Мусіць, памрэ...

... Дзяўчына глядзела, як у ваду. Праз тыдзень ёй перадалі, каб ехала дадому, хаваць бацьку.

## X

Смерць бацькі Мальвіна вельмі перажывала. І можа ад гора, яшчэ больш гарнулася да мяне.

Я, як толькі ўмеў, супакойваў дзяўчыну. Прыносіў з бібліятэкі самыя, як мне здавалася, цікавыя кніжкі, расказваў розныя выпадкі і гісторыі. Я цэлымі днямі не выходзіў з Мальвінінага пакойчыка і ўсё паўтараў, што марнаваць сябе не трэба. Смерць — няўмольны закон жыцця, мы таксама не вечныя, і ў адзін непрадбачаны час памром, хоць у гэта я тады не верыў, — мне думалася, што я буду жыць бясконца доўга. Дый не ўяўлялася, як гэта з мяне, жывога чалавека, які нечага прагне, шукае, пра нешта думае, праз нейкі час можа астацца толькі жменька касцей, а можа і зусім нічога...

Мае ўгаворы ані не памаглі, а, наадварот, яшчэ болей разжальвалі Мальвіну. Яна слухала мяне і скрозь слёзы казала:

— Ты ж ведаеш, што пра майго бацьку гаварылі ў вёсцы. І ўсё праз тую царкву... А хіба ж адзін ён вярнуўся з фронта сляпы? Ды тых не заўважаюць...

— Гэта ўсё вайна нарабіла, — суцяшаў я дзяўчыну. — Памятаеш, як звезлі нас усіх з вёскі ў клуб і хрысцілі? Папа аж з самых Азярцоў прывезлі, бо чутка была такая: хто астанецца нехрысцем, расстраляюць немцы. Да вайны, кажуць, і баптыстаў ніякіх не было.

— Вайна вайною, але ж самі людзі якія...

— Бацька твой багата зрабіў добрага. Гэта ж ён калгас у нас арганізаваў. А ў вайну? Хіба ж не ён першы пайшоў у лес, хіба ж не ён быў партызанскім камандзірам? Не, твой бацька добра жыў...

— Але ж дабро мала хто помніць, болей помняць зло. Як хавалі, дык многія і на магілкі не пайшлі. А колькі я паплакала... І цяпер яшчэ сёй-той скоса глядзіць.

— Гэта няпраўда, — браўся даказваць я. — То табе толькі здаецца. Абы-што ўзяла сабе ў галаву...

Каб прымусіць дзяўчыну хоць на нейкі час забыцца на ўсё, я запрасіў яе ў кіно, на новую замежную кінакамедыю.

Каса адчынялася а пятай, і я адразу ж пасля ўрокаў пайшоў па білеты. Ля бакоўкі, збітай з тоўстых сукаватых дошак, пры самых дзвярах Дома культуры выстраілася ўжо даволі ладная чарга, — аж да бібліятэкі. Людзі нерваваліся, тупалі нагамі, нешта крычалі чалавеку, што стаяў на ганку. Але той на гэта не зважаў: спакваля расшпіліў пінжак і, выпнуўшы наперад круглы жывот з паласатым гальштукам, глядзеў на купку хлапчукоў, што сабралася непадалёку ад тратуара. Трошкі ўбаку ад яе ляжаў прывязаны за нітку вялікі кішанёвы гадзіннік. Хлапчукі нешта наўзахапкі расказвалі адзін аднаму, гучна смяяліся і як бы зусім нічога не ведалі пра гадзіннік.

Людзі ж, што праходзілі міма, спыняліся, палахліва зіркалі на бакі і неўпрыкмет нагіналіся, каб падняць знаходку. І тут здаралася нечаканае: гадзіннік неспадзявана ўцякаў, а чарга выбухала рогатам.

Рагатаў, аж пырскаў слінаю, і чалавек на ганку, а прысаромлены шукальнік лёгкай нажывы як не бегма бег прэч...

Урэшце чалавеку, мусіць, надакучыў гэты пусты занятак. Ён выняў з кішэні ключ і, размахваючы ім, накіраваўся да бакоўкі. Чарга ўмомант збунтавалася, рассыпалася, і людзі стоўпіліся ля невялічкага, паўкруглага акенца. Пачуўся крык, смех... Я таксама кінуўся ў гушчу. Але нехта знячэўку балюча стукнуў мне кулаком у патыліцу і прыціснуў да аполка. Я шмыгануў убок і прыляпіўся да канца чаргі, якая зноў пачала раўняцца.

Мо праз гадзіну і я сяк-так дабраўся да запаветнага акенца. Білеты ў касе былі прададзены — асталіся толькі на апошні сеанс і то самыя дарагія. Ды я рады быў і гэтаму...

## XI

Калі мы зайшлі ў кіназалу, там ужо сядзелі людзі. Нягуста, але сядзелі. Я знайшоў сваё месца і — гэта ж трэба такое! — ззаду, склаўшы на грудзях рукі, важна разваліўся Харытон Рафаілавіч.

Я зусім разгубіўся. «Ён не прапусціць, каб не расказаць усяму класу, што я хаджу на вячэрнія сеансы з дзяўчынай...» — мільганула думка. Насцярожана зірнуў на Мальвіну — яна была задуменная, панурая і не бачыла настаўніка.

Святло патухла, і на экране замільгалі кадры. Я сядзеў, як на іголках.

«Навошта было мне гэта? Мала таго, што згубіў гэтульki часу, дык яшчэ каму трапіў на вочы...»

Камедыя была, мусіць, цікавая і дасціпная, бо ўся зала раз-пораз аж калацілася ад смеху. Не смяяўся, бадай, толькі адзін я: настырна лезлі думкі, як заўтра абыдзецца са мною Харытон Рафаілавіч. Нешта падсвядома падказвала мне, што ён зробіць гэтак, як некалі зрабіў са Змітраком Саковічам.

Хваляваўся я не дарэмна. Ледзь толькі назаўтра я прыйшоў у школу, мне сказалі, што шукалі мяне.

Зазвінеў званок, і ў клас не ўвайшоў, а ўляцеў, як вецер, Харытон Рафаілавіч. Шмаргануў носам, буркнуў звыкла «сядайце» і, упіўшыся валаватымі вачыма ў мяне, сказаў:

— Тэкс-с... Паглядзім, як ведаюць урок некаторыя... — ён хацеў нешта дадаць, ды папярхнуўся. Паказаў куксай на дошку.— Аляксейчык!

Я ведаў урок, але ісці адказваць адмовіўся.

— Што?

— Не пайду, — адрэзаў я.

— Не пойдзеш? То можа будзе ласка растлумачыць, чаму не пойдзеце? — нечакана перайшоў на «вы» настаўнік. — Не вывучылі?

— Вывучыў.

— Што?

— Урок я ведаю, але да дошкі не пайду, — знарок зрабіў я націск на апошнім слове.

І гэта было лішняе. Харытон Рафаілавіч загарэўся, як запалка.

— Ах, ты не хочаш ісці да дошкі? Брэшаш! — нечакана гаркнуў ён, што аж затрымцелі шыбы, перайшоўшы зноў на «ты».— Ты ўжо з дамачкай, мадам-цюлюлю валочышся... Сядай. Два... Адзінка!.. — паправіўся праз хвіліну выкладчык гісторыі.

— У гэтай дзяўчыны памёр бацька, — сказаў я ціха.



— Што?

Я не хацеў яшчэ раз паўтараць свае словы і сеў.

Клас на хвіліну замёр, потым пачуўся нейчы піскілявы смех. Я закалаціўся ад гневу і сораму, але звалодаў з сабою. Не памятаю, як выцягнуў з кішэні сшытак і пачаў пісаць: «Мальвіна, гэты фашысцкі паслугач цэлы ўрок здзекаваўся з мяне. Калі ў вас ёсць яго ўрок...»

Я не скончыў. Валасаты абрубак схапіў мой сшытак і пацягнуў да сябе, — я і не заўважыў, калі да маёй парты падкраўся Харытон Рафаілавіч. Я рвануў сшытак,— ён упаў на падлогу. Падняць я не паспеў — мяне апярэдзіў Ігар Берастоўскі. Ён схапіў сшытак і сунуў яго ў рукі настаўніку. Той ліхаманкава прабег вачыма напісанае. Твар умомант наліўся чырванню, бы памідор, а на ілбе выступілі белыя плямы.

— Вон, вон адсюль, хуліган! — толькі і змог прахрыпець Харытон Рафаілавіч.

Я схапіў сумку і кінуўся ў дзверы...

Нейкі час я блукаў па школьным двары. Потым паплёўся ў парк.

...Пахла дубовай карою, кляновымі пупышкамі. У небе звінеў жаваранак. Набліжалася вясна. Але мне было не да ўсяго гэтага. Я думаў, што скажа дырэктар. Без яго не абыдзецца. Гэта я ведаў цвёрда. Харытон Рафаілавіч не такі чалавек, каб не далажыць. Як ніколі, хацелася ўцячы з Азярцоў, уцячы са школы і вярнуцца сюды толькі праз многа-многа год камандзірам карабля, лётчыкам, вучоным... Вярнуцца якім-небудзь вялікім чалавекам і даказаць усім, чаго я варты...

У парку гулялі «ў коні» дзеці, чырванашчокая русявая дзяўчына ў запэцканым камбінезоне фарбавала танцавальную пляцоўку. Нейкі дзядзька з сякерай завіхаўся ля шыльды «Піва-воды». Снег усюды пачарнеў, і з яго вытыркалася мокрае і бруднае лісце. У верхавінні дрэў каркалі вароны.

Крыўда і злосць перапаўнялі мяне ўсяго. І я пайшоў блукаць зноў без пэўнай мэты па мястэчку. Зайшоў на базар, мо з гадзіну стаяў ля рабочых, што брукавалі вуліцу. У ватоўках, брудных брызентавых штанах, яны спрытна поўзалі на каленях па жоўтым зярністым пяску і двума-трыма ўдарамі малаточка падганялі роўна камень да каменя.

На кватэру вярнуўся, калі зусім змерклася. У хаце гарэла святло і было прыбрана. Падлога была памыта, на стале высіўся вялізны стус круглых і тонкіх, бы лісты паперы, нечым наколатых каржоў.

— Што, ты ніколі не бачыў маца? — спыталася Цыля, заўважыўшы, з якой цікавасцю гляджу я на стол. І не чакаючы, калі я адкажу, дадала: — Вуй, ён не бачыў маца. У нас пачынаецца пэйсах, па-вашаму— вялікдзень.

Цыля расказала мне, што значыць у яўрэяў вялікдзень. Хлеба і сала каб я не трымаў нават у хаце. Есці можна толькі мацу з вадою, дый то як узыйдзе месяц. Гэтак аж цэлы тыдзень. Паліць у печы ўвесь гэты час яны не будуць, і можа лепей будзе, калі я пажыву гэтыя дні дзе-небудзь у другіх...

Я выслухаў яе моўчкі, пасядзеў ля стала, падпёршы рукою галаву, пачакаў, калі Цыля схаваецца ў спальню, потым узяў з бакоўкі свой куфэрак і рушыў на станцыю...

## XII

Я ведаў: у суботу Мальвіна прыедзе дамоў. Яна не магла, даведаўшыся пра ўсё, пакінуць мяне аднаго. Ведаў і чакаў гэтага дня.

Дома я стараўся як мага меней сядзець у хаце: баяўся прагава-

рыцца, што ў мяне здарылася. Калоў дровы, скабліў альховы штакетнік. Маці здагадвалася, што дома я не проста так, — мусіць нешта натварыў у школе, і ўсяляк хацела выпытаць гэта. Урэшце я сказаў: у маіх гаспадароў свята, і Цыля папрасіла, каб я пажыў дзе-небудзь у другім месцы. Бацька перахрысціўся на абразы і доўга лаяў бязглуздыя яўрэйскія святы, бо на іх не можна не толькі па-людску выпіць, але і з'есці.

За вочы бацька мой любіў палаяць чалавека, асабліва калі той меў за душою які-небудзь грэх. Гарачыўся, шпарка бегаў туды-сюды па хаце, пагражаў. Маці стаяла збоку і толькі смяялася — хто-хто, а яна то ведала, што злосці і смеласці ў яе чалавека хапае, пакуль ён дома. На людзях жа ён адразу мякчэў, рахманеў і гадзіў кожнаму, як ліхой скуле. Змалку ён засвоіў некалькі «мудрых» правіл і жыў усё жыццё паводле іх: еш боршч з грыбамі, а трымай язык за зубамі; не чапай нікога і не бойся нічога; трапіў у авечкі, не выдавай, што ты баран; нідзе не лезь наперад, але не аставайся і ззаду...

Гэтыя правілы бацька стараўся прывіць і мне. Ды з гэтага нічога не выйшла — мусіць, у мяне быў іншы характар. Сам бацька заўсёды вінаваціў каго хочаш, толькі не сябе. Больш за ўсё, вядома, перападала маці, бо хто ж бліжэй, як не яна. Нават, ідучы па лесе, калі чапляўся за патырчаку і падаў, вінавата была маці.

— Гэта зноў яна, чарты б яе матку скалолі, — кляў ён.—Ведама ж, нехрысць... Я з богам гавару, а яна чарцей падтыкае.

Мая маці не верыла ні ў бога, ні ў нячысцікаў. Калі бачыла, што бацька ранкам стаіць перад абразом і шэпча малітву, махала чапялою.

— Лепей бы ты палена дроў разбіў, чым меў глупствам займацца,— нязлосна папракала яна. — Стаіць, як маньяк. Бог яму трэба!..

Спачатку бацька як бы не звяртаў увагі на матчыны словы. Потым раптам цьфукаў, пляваўся і ўцякаў з хаты. І ўжо на дрывотні даваў волю свайму языку.

Маці прапускала яго кляцьбу міма вушэй — за жыццё яна да яе прывыкла...

Цяпер ён віў дома калгасу вяроўкі і ўсё хваляваўся, што я адстану і не змагу дагнаць клас.

Увечары да нас папрасіўся начаваць стары, як губа, гарбун з суседняй вёскі, несусветны манюка Серафім. Жабраком у поўным сэнсе гэтага слова ён не быў, хадзіў па хатах ад выпадку да выпадку, найбольш перад святамі, калі людзі маглі даць не толькі здобны пірог, але і чарку.

— Добры вечар у хату! — гукнуў ён яшчэ з парога.— Ішоў я, ішоў, дый думаю: а што, калі я ў гэтай хаце пераначую... Не начаваў жа, мусіць, яшчэ, га?

— Не, не начавалі,— сказала маці, усміхнуўшыся, хоць на маёй памяці Серафім начаваў у нас разоў мо трыццаць.

— Ну, то дай бог,— праходзячы на хату, цягнуў далей сваё Серафім.— Гэта ж некалі, як пасвіў я авечкі ў пана, дык сом хапаў іх на вадапоі, як малькоў, цалкам. Хлам-хлам, і няма. От то рыба была!..

— Так ужо і хапаў? — не верыў бацька.

— А то ж і не? Не пытай, чалавеча, у таго, хто сядзіць, а ў таго, хто ходзіць... Праўда заўсёды ў нагах...

Мы якраз вячэралі, і Серафім згроб з галавы шапку-аблавушку, крактануў і сеў за стол. Парэпанымі, нямытымі рукамі адразу ж палез у міску па бульбіну. Выбраў самую большую драўляную лыжку і зачэрпнуў патраўкі. Гучна і сакавіта зацмокаў тоўстымі, слізкімі губамі...



Пасярод вячэры лыжка раптам выпала ў яго з рук, і Серафім, апусціўшы галаву, захроп.

— Змарыўся, небарак,— сказала маці і пайшла слаць на падлозе салому.— Спіць і курэй пасе. Вазьмі рукою за плячо — адразу ж усхопіцца і пачне грошы пералічваць. Усё здаецца, што яго абкрадаюць...

— Серафім, га, Серафім, — таўхануў пад бок жабрака бацька.— Што ж гэта ты, брат...

Серафім палахліва ўзняў галаву, лыпнуў вачыма, паляпаў рукамі па торбах, што ўсё яшчэ віселі на плячах, потым з-за пазухі дастаў зашмальцаваную анучку і сабе пад нос пачаў лічыць у ёй нейкую драбязу...

Лёгшы на салому, ён адразу ж заснуў.

А раніцаю новая навіна: з горада прыехала Клава, нейкая далёкая наша сваячка. Яна кінула мужа і вярнулася да бацькоў. Гады чатыры назад яе, васемнаццацігадовую дзяўчыну, аддалі бацькі як не сілаю замуж за геолага, што ўсё лета бураваў зямлю вакол нашай вёскі. Чалавек ён быў не малады, меў жонку, але яна загінула ў гарах у часе абвалу. Бацькі ўгаварылі Клаву ісці за яго замуж. («А што табе яшчэ трэба! — чалавек ён вучоны, зарабляе добрую капейку, не п'е».) Клава памулялася трохі і згадзілася... Маці мая шкадавала дзяўчыну, якая загубіла праз дурных бацькоў сваю маладосць, і толькі пра яе і гаварыла. А мне ўсё здавалася, што яна намякае на мае ўцёкі з Азярцоў...

У суботу ўвечары ў вёску прывезлі кіно. Сцямнела, і я адразу ж пайшоў у клуб. Паволі, спакваля, каб быць там не вельмі рана і не вельмі позна. Усё роўна трапіў не ў час — кіно яшчэ не пачыналі, нават не давалі білетаў. Людзі, па-святочнаму падчапураныя, тоўпіліся ля дзвярэй, нямаведама чаго і на каго крычалі. Кінамеханік скакаў на адной назе ля рухавічка — мыліцы ляжалі тут жа на траве,— мацюкаўся раз-пораз і ніяк не мог яго завесці — мусіць, ужо нехта з дзяцей паспеў падсыпаць у бензін солі.

Я абышоў клуб, доўгую абабітую плакатамі і аб'явамі будыніну, і нечакана ўбачыў Мальвіну. Яна стаяла ля плоту непадалёку ад купкі дзяўчат і ці не мяне шукала вачыма.

— Мальвіна!— узрадавана клікнуў я, і ў горле ў мяне перасела. Мне раптам стала, не ведаю чаму, страшна сорамна. Я ступіў два крокі і спыніўся.

— Што ты нарабіў? — замест прывітання адразу ж накінулася яна на мяне.— Ты думаў, каго чапаў? Ды ён жа цяпер выпруціцца, а дамагацца будзе, каб цябе выключылі са школы.

Яна ўсхліпнула.

— Не трэба, Мальвіна, я гэта ведаю... Не трэба...— не сваім галасам папрасіў я. Жаль і крыўда здушылі горла, і мне таксама захацелася заплакаць— Давай адыдземся адсюль, пагаворым...

Затарахцеў рухавічок, і ў клубе зайграла радыёла. Людзі падаліся да дзвярэй, а я, улучыўшы момант, калі ніхто не звяртаў на нас увагі, узяў Мальвіну пад руку, узяў першы раз у жыцці.

— Косця, а гэта нашто?.. Убачаць, а тады пачнуць абы-што гаварыць,— сказала Мальвіна, але рукі не вырвала.

— А ты баішся?

— Не баюся, але не хачу звягі... Хай ніхто не ведае, што ў нас. Так будзе лепей, тым больш цяпер. Куды ж мы пойдзем?

— А хаця б пад Змітровы дубы,— не думаючы, сказаў я.— Там лавачка павінна быць...

— Добра. Толькі ты ідзі па адзін бок вуліцы, а я па другі.

— Што ты, Мальвіна?

Але яна мяне не слухала: хуценька перабегла нешырокую вуліцу і пайшла асцярожна і ціха, як здань, паўз платы.

Змітровы дубы стаялі за вёскай, у полі, пры вялікім і чыстым бярозавым гаі. Сем тоўстых, шатрыстых волатаў, якія бачылі ўжо на сваім доўгім вяку многае... Я ніколі не забудуся, як ішлі мы пад гэтыя дубы. Ноч была цёмная, як не вясновая, на вуліцы — ні жывой душы, толькі з падваротніц гаўкаюць сабакі... Сэрца так б'ецца ў грудзях, што, здаецца, вось-вось выскачыць... А цела наліваецца лёгкай, пругкай сілай.

Ледзь толькі мінулі канцавую хату, я дагнаў Мальвіну. Мы самі нават не заўважылі, як вусны нашы зліліся. Дый гэта было не так ужо важна — да гэтага мы імкнуліся, гэтага жадалі, і гэта можа больш за ўсё і вяло нас пад Змітровы дубы, у поле, далей ад людзей.

Потым Мальвіна як бы адумалася, спахапілася, уткнулася тварам у маё плячо і заплакала. Я ж стаяў, задыханы і ўзбуджаны, і гладзіў рукою яе спіну, спатыкаючыся на гузічках ліфчыка. Праз момант вусны нашы зноў зліліся, і цяпер я адчуў цёплы і такі прыемна-гарачы дотык яе пругкіх грудзей...

Да дубоў мы падышлі змораныя, ахмялелыя ад пацалункаў і цёплага парнага водару. У поцемках знайшлі лавачку, селі і зноў абхапілі адно аднаго.

Потым яе галава ляжала на маіх каленях, і Мальвіна, гледзячы ў неба, гаварыла:

— І трэба ж было табе такое напісаць?

— Адкуль ты ведаеш, што я напісаў?

— Дурненькі, ды твая ж запіска ляжыць у дырэктара на стале.

— Ну і хай ляжыць... Мяне гэта ані не турбуе. Усё роўна я не пайду болей у школу...

Мальвіна падняла галаву.

— Як не пойдзеш? А што ты рабіць будзеш?

Гэтае пытанне на момант паставіла мяне ў тупік. Што ж я буду рабіць, калі кіну школу? Пра гэта я не падумаў. Але рашэнне прыйшло само сабою, і я аж узрадаваўся яму.

— Паеду ў горад, на завод...

— А школа?

— Пайду ў вячэрнюю.

— Не кажы абы-чаго,— накінулася на мяне Мальвіна.— Ты паедзеш у Азярцы. Я гаварыла сама з дырэктарам. Ён жа з бацькам маім у партызанах быў, а пасля і на фронце. Я яму расказала ўсё...

— Што ўсё?

— Што ведала. І пра Харытона Рафаілавіча. І пра нашу дружбу, і пра смерць майго бацькі...— Мальвіна зноў заплакала.

— Ну і што дырэктар?

— Наказаў, каб ты зайшоў да яго. А пра Харытона Рафаілавіча ён ведае і кажа, каб было кім замяніць яго, дык даўно замянілі б.

Я абхапіў Мальвіну за плечы і прыгарнуў да сябе...

Вярталіся мы ў вёску на світанні, ужо не баючыся, што нехта нас бачыць разам. Ля весніц зноў абняліся, і Мальвіна пачала цалаваць мяне ў вочы, у вушы, у лоб...

Колькі мінула год, а я памятаю тыя нясмелыя, дрыготкія, прагныя пацалункі!..





## XIII

На першы ўрок у панядзелак я не пайшоў. Прыйшоў адразу на другі. Палажыў у парту сумку і выбег на калідор — вельмі ж packdaзлонай здалася мне тая цішыня, што панавала ў класе. «А можа плюнуць на ўсё і папраўдзе ўцячы з гэтых Азярцоў?» — мільганула ў маёй галаве. Але тут жа гэтую думку выціснула другая, больш цвярозая: «Гэта можна зрабіць і пасля. Чаго спяшацца?..»

Дзіўна, але я ані не хваляваўся. Усё ў сярэдзіне як бы закамянела. Увесь перапынак я прастаяў ля акна насупраць нашага класа. Зазвінеў званок, і я спакваля пабрыў да дырэктаравага кабінета. Ён быў у канцы калідора, ля самай настаўніцкай. Асцярожна пастукаў у абабітыя карычневай цыратай дзверы. Потым гэтак жа асцярожна іх адчыніў. Пераступіў парог, даў нясмелы «добры дзень». Мне ніхто не адказаў. Я падняў вочы і толькі цяпер убачыў, што ў кабінеце, акрамя мяне, нікога няма. Стала холадна: я адчуў, што калі выйду, дык болей нізашто сюды не зайду.

Кабінет быў маленькі. Ля сцяны стаяла канапка, трошкі далей — засланы сінім аксамітам стол. У кутку на падстаўцы блішчэў лакам радыёпрыёмнік.

Дырэктар зайшоў хвілін праз пяць, калі я трохі асвойтаўся ў кабінеце. Як заўсёды, накульгваючы на левую нагу, у вылінялай гімнасцёрцы, туга падпяразаны шырокай папругай. Твар у яго касцісты, суровы.

— А-а, Аляксейчык,— сказаў дырэктар, упіўшыся ў мяне шэрымі, вострымі вачыма.— Сядай, галубок, на канапку, супакойся і раскажы, што ты натварыў. Толькі шчырую праўду, бо я страшэнна не люблю людзей, якія ілгуць...

— Можа стоячы...— папрасіў я.

— Ну, глядзі. А я сяду. Нага нешта расхадзілася.

Дырэктар грузна апусціўся на канапу. Хвілін колькі маўчалі.

— Сорамна, галубок, табе, сам бачу, што сорамна,— першы парушыў маўчанне дырэктар.— Так пакрыўдзіць, так абразіць старога чалавека...

— Сідар Іванавіч, ды я не абражаў яго. Я напісаў праўду.

— Адкуль ты ведаеш, што Харытон Рафаілавіч фашысцкі паслугач?

— Пра гэта ўсе гавораць... Ён жа пры немцах у школе працаваў.

— Гэта яшчэ не доказ, галубок. Шмат людзей працавала ў немцаў, але ж не ўсе яны ворагі. Вунь і Тамара Андрэеўна была перакладчыцай, і Гарасім Іванавіч рэдактарам газеты. Нават ордэны атрымалі.

— Харытон Рафаілавіч не такі чалавек. Ён усёй душой служыў немцам.

Дырэктар падняўся, заклапочана прайшоўся па кабінеце.

— Харытон Рафаілавіч не такі чалавек,— паўтарыў ён чамусьці мае словы.— Гэта праўда. Але пакуль мы не маем падстаў яго ў чым-небудзь абвінавачваць. Гэта вельмі заблытаная справа, разбярэмся — тады і пагаворым. І ты, галубок, зрабіў вельмі няправільна. Харытон Рафаілавіч твой настаўнік, і яго трэба паважаць, як настаўніка. Ідзі, вучыся... Толькі болей ніколі так не рабі.

Да самага канца ўрокаў я думаў пра Сідара Іванавіча. «Чаму ён так абышоўся са мною? Каб не быў Харытон Рафаілавіч сапраўды фашысцкім паслугачом, дырэктар іначай са мной гаварыў бы. Але чаму ён кажа, што трэба паважаць такога настаўніка? Можа і праўда яго няма кім замяніць — гэтулькі людзей не прыйшло з вайны».

Вярнуўся на кватэру і новая вестка, як абухом, стукнула па галаве — памёр Хаім. Тры дні перад пэйсахам ён пасціўся, а пасля з'еў сухой мацы і яму скруціла жывот... Пакуль Борух прывёз урача, бядак зайшоўся ад болю.

Цяпер Борух босы, няголены і да таго ж рыжы, як абсмаленае палена, сядзеў на падлозе — спраўляў па нябожчыку-айчыму басіны.

Хай зямля табе будзе пухам, Хаім!



## XIV

Памаленьку, але з кожным днём усё смялей наступала вясна. Снег проста ўвачавідкі асядаў, чарнеў і адсоўваўся як мага далей ад платоў і прызбаў. Удзень капала са стрэх, паветра вільгатнела, святлела, прастарнела ў небе. На ноч браўся яршысты марозік, сушыў, сцягваў тонкім празрыстым лядком лужы, ранкам церусіў дробны, як манка, сняжок. Але адолець цяпло зіма не магла і, ледзь паказвалася сонца, ад злосці і бяссілля плакала шчодрымі слёзнымі капяжамі. А потым неяк у адзін дзень снег набрыняў вадою і шухнуў у раўчукі.

Нас распусцілі на веснавыя канікулы.

Памятаю: у Вепры мы з Мальвінаю ішлі не па шпалах, а па лясной караністай дарозе. Абапал усюды рыжэла прымятая зімою трава, чарнела збуцьвелае леташняе лісце.

Ля самай дарогі, пад тоўстаю карыстаю бярозаю мы натрапілі на невялічкае дубовае карытца, поўнае бярозавіку. І ўзрадаваліся, як дзеці. Навыперадкі пусціліся да балацявіны, вырвалі па чарнагаловіне і праз іх, сеўшы на ўколенкі, пілі сок.

— Косця,— пытала Мальвіна,— табе не здаецца, што такі смачны бярозавік мы п'ем першы раз?

— А ты ведаеш, чаму гэта так?

— Не, не ведаю.

— Таму што мы разам п'ем упершыню...

Потым мы збочылі з язджалай дарогі і пайшлі лесам. Пад нагамі блытаўся зялёны і порсткі ягаднік, качаліся мокрыя шышкі. Пахла хвояй, дурнап'яніў багуннік.

Спусціліся ў лагчыну і спыніліся ўражаныя: на бруснічных бярванках сям-там чырванелі ягады, буйныя і сакавітыя. Яны прабылі зіму пад снегам і яшчэ болей пасмачнелі. Смешна было ўспамінаць пасля, як мы рвалі іх і елі...

У адным месцы, перад самай вёскай, дарогу нам перагарадзіла канава. Вада выйшла з балота і затапіла навокал лазнякі. Кладак яшчэ не паспелі пакласці, і я пераносіў Мальвіну на руках. Як калацілася маё сэрца, калі я спатыкнуўся аб купіну і Мальвіна нервова і горача абвіла рукамі мне шыю... А я нёс яе, лёгкую і трапяткую, жадаючы аднаго: каб гэта канава цягнулася да самай вёскі...

У той дзень мы зусім забыліся, што тыдзень назад у нас былі непрыемнасці і я ледзь не пакінуў школы. Мы ахмялелі ад свайго кахання і ўсю дарогу смяяліся ад нейкай радасці, што аж распірала грудзі. Смяялася разам з намі ў лёгкім блакіце неба і сонца. А мо яно і не смяялася, а зайздросціла нашаму шчасцю, нашай першай вясне.

## XV

Сем дзён канікул цягнуліся невыказна доўга. Я даў Мальвіне слова не прыходзіць да яе ў вёсцы, каб пра нас нічога не гаварылі. Гарадзіў з альховых і пачырванелых ужо штакецін плот, кашалём насіў на поле цёплы і пахкі гной, перакопваў рыдлёўкаю грады...

Усюды гуляла ўжо сапраўдная вясна, цёплая, зялёная. Бабы садзілі цыбулю, бульбу-скараспейку, сеялі расаду. А неяк у поўдзень нечакана з-за лесу выплыла цёмная хмара і грымнуў першы гром. Дробна пракаціўся з краю ў край па ўсім небе раз, другі... Я стаяў на дрывотні, і пругкі, напорысты вецер пузырыў на мне кашулю.

Хмара павольна, пагрозліва насоўвалася на вёску, але сонца яшчэ свяціла зырка і зухавата. Зноў калатнуў паветра гром, на гэты раз так моцна, што з коміна па страсе з грукатам пакацілася бляшанае вядро. Усё пацішэла, насцярожылася, і на даляглядзе заблішчэлі, выгнуліся косы дажджу. Вось хмара падышла на сваіх тонкіх ножках да вёскі, густа і часта забарабаніла па стрэхах. Сонца схавалася, ураз пацямнела, і мне на плячо ўпала першая халодная і буйная кропля. Я схаваўся ў сенцы.

Дождж гэтак жа нечакана аціх, як і пачаўся. Зноў выбліснула сонца, і ў паветры запахла ворнай зямлёй, маладым зялёным лісцем. З балота падалі галасы жабы.

І я, пастаяўшы трохі ля насцеж адчыненых дзвярэй, узяў пад паху кніжку і пайшоў да Яўменавых, бы мне пільна трэба было яе аддаць Мальвіне.

Чорны ікласты сабака, захліпаючыся ад брэху, кінуўся на мяне, ледзь толькі я адчыніў весніцы. Я падаўся назад. Яшчэ хвіліна — ваўкадаў зубамі ўчапіўся б за калашыну маіх штаноў, і ад іх паляцелі б мэтлахі. Але тут, як з-пад зямлі, выскачыла Мальвіна і, ухапіўшыся за ашыйнік, адцягнула ад мяне сабаку.

І толькі тады, калі Мальвіна зноў вярнулася да весніц, я ўбачыў, што ў яе збоку, як не да самага пояса, распорана сукенка.

— Гэта я плот пералазіла з агароду, — усміхнулася яна і рукою захінула белае круглае калена.— Хадзем у хату, у нас якраз нікога няма.

У хаце мяне ўразіла чысціня і акуратнасць, з якой былі расстаўлены рэчы — этажэрка з кнігамі, шафа, канапка, ложак, стол. На белых і роўных сценах віселі асадкі, аздобленыя чыстымі палатнянымі ручнікамі. Чаго толькі не навышывана на іх — жоўтыя і чырвоныя пеўнікі, птушкі...

Хвілін колькі я стаяў ля парога, выціраючы аб салому ногі.

— Ты садзіся за стол,— сказала Мальвіна,— толькі адвярніся, бо я буду перадзявацца.

— Ну і што, як ты будзеш перадзявацца?— знарок са смехам сказаў я.

— А тое, што не глядзі...

Я чуў, як за спіною рыпнулі дзверцы шафы, як па падлозе бегала босая Мальвіна, выбіраючы, дзе б стаць, каб я не ўбачыў яе. Мне вельмі рупіла хоць адным вокам зірнуць на дзяўчыну, але я не асмельваўся зрабіць гэта. Я падняў галаву і глянуў у люстра — яно вісела акурат насупраць мяне,— і спалохаўся, сам не ведаючы чаго: у ім, як жывая, стаяла ў адных кароткіх трусіках і ліфчыку Мальвіна і на галаву нацягвала блакітную шаўковую сарочку. Калі праз хвіліну я зноў падняў галаву, Мальвіна была ўжо ў сукенцы. Нагнуўшыся, яна борзда нацягвала на нагу капронавыя панчохі. Якая роўная і прывабная была ў яе нага!..

Потым, калі змерклася, мы хадзілі па вёсцы і Мальвіна дакарала мяне, што я не стрымаў свайго слова. А я хінуў яе да сябе і не апраўдваўся. Скончылася ўсё гэта тым, што я як не да самага світання сядзеў на лавачцы ля Мальвінінай хаты, а дзяўчына спала ў мяне на каленях...

## XVI

І яшчэ адзін дзень помніцца мне. Гэта той, калі хадзілі ўсёй школай памагаць суседняму калгасу дагледзець сад — бялілі вапнай комлікі яблынь і груш, абіралі жоўтае, скручанае леташняе лісце, у якім пладзіліся вусені, зграбалі і палілі сухія, паабразаныя галінкі і сучкі. Надвор'е было ціхае, бязветранае, густа пахла зямлёю і дымам — блакітнымі пасмамі ён поўз ад агнёў ледзь не па самаму долу, абвалакваючы прысадзістыя, кроністыя дрэўцы, і толькі тады падымаўся ў неба — там, у чыстым, зеленаватым блакіце, плавалі лёгкія, раскідзістыя сухмаркі.

Зусім блізка натужна гуў трактар, цягаючы па полі сеялку, на якой стаялі дзве кабеты. Праязджаючы міма нас, трактарыст высоўваў з акенца кучаравую галаву і махаў замурзанай рукою, а кабеты прыгожа ўсміхаліся на ўсе свае белыя зубы. Трошкі далей, на пагорку, аралі коньмі — таксама жанчыны. Услед за імі па тлустых барознах горда хадзілі гракі. Час ад часу яны імкліва ўзляталі ў паветра і пасля зноў рассыпаліся па разорах...

Сама вёска хавалася ў лагчыне — відаць былі толькі чырвоныя коміны ды стрэхі. Адтуль даносіўся мерны грукат сякер і шахканне піл,— там часалі бярвенні, рубілі зрубы: у вайну вёска гарэла і людзі зноў ладзілі сабе жыллё...

Мальвіна працавала разам са сваім класам — акопвала дрэўцы. І я не-не дый зіркаў у той бок — ля яе цэлы дзень круціўся нейкі высокі, хударлявы хлопец у чорным касцюме. Ён нешта гаварыў Мальвіне, і тая, адкідваючы назад галаву, смяялася... Яна як бы і забылася зусім, што я таксама ў садзе і хачу яе бачыць, хачу гаварыць...

«Хто ён?— мучыла мяне.— І чаму не адыходзіць ад яе ні на крок?..»

Мне вельмі хацелася быць самому побач з Мальвінай, але на вачах ва ўсіх асмеліцца на такое я не мог. Зрабіў гэта я толькі тады, калі вярталіся мы з саду ў Азярцы.

— Што гэта за хлопец быў з табою ўвесь дзень? — спытаўся я.

Мальвіна паглядзела на мяне чорнымі, гарэзлівымі вачыма і ўсміхнулася.

— Няўжо ты такі раўнівы?

Я сумеўся: мне стала няёмка, што я пра такое пытаю. Дый навошта паказваць, што мне не па сабе, калі побач з ёю бачу некага другога.

— Я проста так спытаўся. Калі не хочаш, не кажы...

— Пакрыўдзіўся ўжо, Атэла! Гэта Віктар Крушынка, мой аднакласнік. Ён наказаў мне, каб сёння пайшла да Кузьмы. Помніш сляпога? Хутка экзамены, і мы па чарзе памагаем яму рыхтавацца...

Увечары я зноў сустрэўся з Мальвінай. Яна была такая ж, як і ўчора, як і пазаўчора, як і тыдзень назад, гаваркая і вясёлая. І я забыўся пра Віктара Крушынку, забыўся і на рэўнасць, што была кранулася ў мяне ў сэрцы...

## XVII

Тая незабыўная вясна прайшла, як адзін бясконцы шчаслівы, радасны дзень. Мне не было болей калі нудзіцца, сумаваць. Я прыбягаў са школы, з большага вучыў урокі і спяшаўся да Мальвіны. З ёю ўвечары мы хадзілі ў парк, блукалі па сонных местачковых вуліцах.

І хаця пра нас ішлі па школе розныя чуткі, мы ўсё роўна сустракаліся.

Да экзаменаў рыхтаваліся дома і разам. Зранку бралі посцілкі і ішлі да Змітровых дубоў, у чысты бярозавы гай. Выбіралі зацішнае месца пад старою бярозаю, ля нешырокай, зарослай густою травою прагаліны, і пралежвалі там цэлыя дні. Па зямлі ля нас заклапочана поўзалі мурашкі; усюды спявалі птушкі; плылі ў небе павольна, абыякавыя да ўсяго, лёгкія сухмаркі; а мы чыталі, спрачаліся, гаварылі...

У канцы жніўня мы рассталіся, рассталіся з надзеяй, што нас не разлучыць ні час, ні адлегласць. Мальвіна ехала ў настаўніцкі інстытут,

я ж збіраўся ў горад, на завод: мне абрыдла сядзець на бацькавай шыі, і я прагнуў пайсці на свой хлеб. Дый вельмі ж незайздроснае было маё жыццё ў Азярцах, я рады быў выпадку, каб яго памяняць...

Мальвіну я праводзіў за вёску. Быў прыгожы сонечны дзень, адзін з тых, што нярэдка надараюцца на схіле лета. Збожжа ўжо ўсюды прыбралі, і толькі дзе-нідзе ў рыжай шчацiністай пожні бялелі купкі саломы — яе не паспелі яшчэ скідаць у стагі.

Мы селі на ўзмежак, каб развітацца, пагаварыць перад доўгім расстаннем, і не заўважылі, як неба зацягнулася хмарамі. Бліснула маланка, па-старэчы буркнуў гром, уздыхнуў вецер.

Падхапіліся, але бегчы ў вёску было позна: секануў лівень.

## XVIII

Праз год мы сустрэліся. Я працаваў у горадзе, і мой адпачынак якраз супаў з Мальвініными канікуламі.

Дома я быў месяц. І кожны дзень на змярку, паднядзелены, падчапураны, спяшаўся ў клуб. Спачатку танцы, імклівыя, віхурыстыя вясковыя танцы да ўпаду, кіно, а потым задуменная, хмельная ноч пад зорным полагам неба — ружовая лысіна месяца нізка над лесам, брэх сабак у дварах, валтузня сонных курэй на курасаднях, кукарэканне пеўняў у перадсвітальным сутонні. І летуценныя размовы, думкі, згадкі... Гаварылі пра ўсё: і што не працуе болей у Азярцах Харытон Рафаілавіч — яго перавялі яшчэ летась у нейкую вясковую школу, і што нарэшце палепшала жыццё ў нашых Вепрах; і што старшыня трапіўся гаспадарлівы, і што з Ленінграда прыехаў геолаг, каб забраць Клаву... Апошнюю падзею мы абмяркоўвалі асабліва горача, бо геолаг хадзіў за Клаваю ўслед, як хвост, і ўсё ўпрошваў не пакідаць яго, адзінокага, старога... Ды для шчасця чалавека мала адных грошай, а трэба, мусіць, яшчэ нешта большае. Што менавіта — мы не ведалі. Але і Мальвіна і я ўпэўнівалі самі сябе: шчасце наша ў нас саміх.

Святая, цнатлівая наіўнасць!

Ды пра гэта пасля...

Цяпер жа я спаў да позняга снедання на шапаткім і духмяным сенавале. Чуў раніцаю нязлоснае пакрыкванне маці: «Хоць падважвай — не дабудзішся». Снедаў і з касою бег на луг — працадзень абяцаўся сёлета быць багаты і я хацеў хоць трошкі памагчы бацьку.

І дзіўна, незразумела было мне, адкуль у вепраўцаў з'явілася гэтулькі сілы — лугі пакасілі ў час, у час зграблі сена, у час клалі стагі... Ніхто не чакаў, пакуль брыгадзір падыдзе пад акно. Ледзь днела, людзі самі спяшаліся на калгасны двор.

Брыгадзіра ж Юзіка, які надумаў некаму даць за пляшку гарэлкі каня, знялі з брыгадзірства і ледзь не аддалі пад суд, чаго ў Вепрах ніколі не было: завядзёнкай ужо стала частаваць брыгадзіра нават за нязначную паслугу...

З лесу вазілі слупы — у восень абяцалі правесці электрычнасць.

Як толькі вечарэла — зноў сустрэча з Мальвінаю. Дзяўчына яшчэ больш папрыгажэла, грудзі і плечы яе пакруглелі. У вачах з'явіўся нейкі вільготны бляск, яшчэ большая ласкавасць.

Мы блукалі па вёсцы, хадзілі зноў пад Змітровы дубы, у бярозавы гай, сядзелі на лавачцы ля яе хаты.

Мальвіна злавалася, калі я раптам браўся за гузічак ліфчыка і пачынаў расшпільваць. Біла нязлосна па руках, а мне падабалася гэтак дурэць і я дурэў, аж пакуль Мальвіна не пачынала злавацца напраўду.



Калі я ад'язджаў, шугала навальніца. Першая такая бурная за ўсё лета, сухое і незвычайна спякотнае. Мы ўехалі ў лес, як раптам хвастаты, бледна-белы пісяг маланкі крамсануў па ўсім небе і над намі нешта як бы праламалася. Коні рвануліся ўбок, і я ледзь вывернуў іх зноў на дарогу. Стала так душна і парна, што мне захацелася піць. Праз хвіліну гром паўтарыўся ўжо больш раскацiста, з адцяжкай, і адразу ж лінуў дождж — цёплы, бурны. Мы накінулі на галовы плашч, я прутчэй нацягнуў лейцы, і коні, як ашалелыя, панеслі нас па выбоістай дарозе ў чорную, як сажа, ноч, якую раз-пораз жахалі, кроілі маланкі,— пасля іх рабілася яшчэ цямней. Мальвіна нервова хапала мяне за плечы.

— Косця, што гэта робіцца? — шаптала яна ў спалоху.— Патоп, сапраўдны патоп... Два разы расстаемся і два разы патоп. Старыя кажуць: калі расстаюцца ў навальніцу — значыць болей не суджана стрэцца. Няўжо гэта праўда?

Я цалаваў яе мокрыя ад дажджу і слёз вочы і смяяўся ад ціхай, нястрымнай радасці і ўзрушэння.

Хто б мог тады падумаць, што ўсяго праз год Мальвіна стане мне зусім другой...

## XIX

І вось я зноў дома, дома ўпершыню за сем доўгіх, клапатлівых год. Прыехаў, каб пасля заканчэння інстытута адпачыць пабачыцца з роднымі, блізкімі. Адным словам, прыехаў, каб гэты раз дома, у Вепрах, правесці апошняе сваё студэнцкае лета (усе астатнія прайшлі на цаліне, у сухім, хлебным стэпе) і ехаць ужо на новую працу, якая чакала мяне недзе ва ўчастковай бальніцы.

Пасля горада першы дзень у вёсцы цягнуўся асабліва доўга і сумна. Усё тут было блізкае, знаёмае, і самая нязначная драбяза наводзіла на роздум. Сяк-так я праседзеў да абеду дома, любуючыся, як варочаецца і рохкае ў гліністай яме тлусты парсюк ды сонна блукаюць па двары куры. Потым выйшаў на вуліцу і пабрыў па дарозе, проста куды глядзяць вочы, абы толькі не быць на адным месцы, абы толькі ні пра што не думаць, не ўспамінаць. І хутка апынуўся ў бярозавым гаі, у тым, дзе некалі сустракаліся з Мальвінай. Тут было ўсё так, як і колькі год назад. Тыя ж дрэвы, тыя ж доўгія і гнуткія галіны, тыя ж краскі і нават той жа свежы, п'янкі пах. Толькі старую бярозу, пад якою так любіла бываць Мальвіна, вывернуў вецер. Бяроза цяпер ляжала на зямлі, яшчэ з незавялым, зялёным лісцем...

Я сеў на тоўсты карысты камель і неўзабаве заўважыў, што за мною сочаць дзве пары чорных хітрых вачэй. Прыгледзеўшыся, я ўбачыў на разасланай на траве пасцілцы дзяўчыну і хлопца, а ля іх разгорнутыя кніжкі...

Жыццё не спынялася, яно ішло па сваіх дарогах.

Я падняўся і, не азіраючыся, пабрыў назад, у вёску...

А ўвечары, па даўнішняй завядзёнцы, пайшоў у клуб.

Гэтак жа, як і бывала, у парозе тоўпіліся дзяўчаты і хлопцы. Новыя, зусім незнаёмыя. Не дзіва, выраслі, падняліся. На сцэне гучна забівалі «казла» дзядзькі, шмыгалі, круціліся ўсюды дзеці.

Я падаўся да грубкі. У гэты час з грукатам адчыніліся дзверы, і ў клуб увалілася цэлая гурма кабет і мужчын. Мусіць, у некага былі хрэсьбіны і адразу ж з-за стала людзей павяло на танцы. Рыпнуў

гармонік, нейкая тоўстая рухавая кабета выйшла на сярэдзіну і пусцілася ў скокі. За ёю ў круг выбегла яшчэ некалькі, і вось уся гурма закруцілася, завярцелася, затупала абцасамі, бязладна і гулка. Раскасмачаны дзядзька ў расхлістанай на грудзях кашулі з кепкай у руцэ бегаў па клубе, зрываў з галоў шапкі,— я пазнаў былога брыгадзіра Юзіка. Ён, мусіць, узяў лішняе і надзеў не сваю шапку — цяпер хацеў знайсці сваю. Урэшце нехта не стрываў, вывеў Юзіка на парог, штурхануў яго, і той паляцеў у цемру.

Я агледзеўся і ўбачыў Мальвіну. Яна сядзела зусім побач на лаўцы, у светлым, па модзе пашытым касцюмчыку і, мусіць, даўно сачыла за мною. У грудзях у мяне нібы што абарвалася.

— Якім ветрам занясло цябе сюды? — спытаў я і працягнуў ёй руку.

— Лепей скажы, якім цябе занясло, цаліннік... — хацела пажартаваць Мальвіна. Але жарт не выйшаў, і яна ўсміхнулася крыва, роблена. — Я ж у суседняй вёсцы працую.

— Праўда?

— Крыўда,— зноў усміхнулася яна.

Але на сэрцы ў яе таксама было неспакойна — гэта я бачыў па яе вачах, разгубленых і палахлівых. Яна доўга не выпускала сваю руку з маёй, а потым сказала:

— Давай выйдзем, душна тут, дый глядзяць усе...

Дзесьці далёка за лесам бліскалі зарніцы, і адтуль чутны былі глухія раскаты грому. На калгасным двары рыпеў журавель.

«Як я была мала, мала,
Мяне маці калыхала.
А як стала падрастаці,
Сталі хлопцы калыхаці», —

разухабіста вылятала з клуба. Сіпаты мужчынскі голас падхопліваў:

«Ты казала прыйдзі, прыйдзі,
Я ж не ведаў куды, куды,
Ты казала да каморы,
Я ж не ведаў, да каторай...
Ух-ух, ах-ах!..»

Мы спыніліся ля агарожы, насупраць выбітага — мусіць, некаму было душна — акна. Няёмкасць і хваляванне, што ахапілі нас у першую хвіліну сустрэчы, прайшлі, і Мальвіна пачала расказваць, чаму яна не пачакала мяне і выйшла замуж. Сталася так, што ў той інстытут, дзе вучылася яна, паступіў і Віктар Крушынка, былы яе аднакласнік. («А-а, я і забылася! Ты ж яго ведаеш. Гэта той, што некалі падыходзіў да мяне ў садзе, калі мы памагалі калгасу. Помніш, ты яшчэ нават мяне да яго раўнаваў?») Неяк ён запрасіў яе ў кіно. Яна пайшла. Віктар быў хлопец відны, пахватны на выгляд, і любая дзяўчына палічыла б за гонар прайсціся з ім. Потым яны схадзілі на танцы, зноў у кіно. А праз які месяц Віктар прызнаўся, што кахае яе... («Не думай, я не кінулася адразу яму на шыю. Не. Я толькі падумала: Кастусю трэба скончыць інстытут, раней ён наўрад ці будзе жаніцца. А тут, як на тое, ад цябе цалюткі месяц ні слова, ні паўслова. Пасля ты пісаў, што здаваў экзамены на атэстат сталасці і ані не меў вольнага часу. Але ж я, дурніца, думала зусім другое...») Аднойчы ўсім курсам паехалі ў лес на маёўку. Выпілі і асталіся начаваць ля агнёў на паляне. Яна пайшла прагуляцца з Віктарам. На ўзлеску прыселі. Віктар прыхінуў яе да сябе і пачаў цалаваць. Ёй стала чамусьці вельмі весела і яна, гулліва засмяяўшыся, упала... Больш яна нічога не помніць — у галаву ёй ударыў хмель, у ваччу ўсё закружылася і паплыло... Калі ачнулася, Віктар сядзеў ужо на траве, ашчаперыўшы аберуч галаву. Ён, мусіць, і сам не рады быў таму, што здарылася. Яна, апамятаўшыся, заплакала, заплакала ад жалю, крыўды, ад таго, што неспадзявана і не так, як хацела, скончылася тое, пра што гэтулькі думала... Праз месяц згулялі студэнцкае вяселле і паехалі працаваць. Паставілі сваю хату, купілі карову. Але радасці, шчасця няма. Віктар п'е, амаль зусім не цікавіцца ёю, валочыцца абы з кім... Яна, мусіць, не стрывае і зробіць тое ж, што некалі зрабіла Клава...

— Ніколі не думала, што так у нас будзе з табою. Ды каб ведаў, дзе ўпадзеш... Я напісала табе пра ўсё. Але ты нічога не адказаў. Чаму?..

Мальвіна цяжка ўздыхнула і заплакала. Ды я не суцяшаў, не супакойваў яе. У мяне перасохла ўсё ў горле, і я хвілін колькі не мог вымавіць нават слова.

Так мы стаялі даволі доўга. Потым Мальвіна папрасіла:

— Правядзі мяне дадому, Косця. Як бывала, памятаеш? Каб хоць на момант мне ўявілася зноў, што мы разам.

Я падняў вочы — на шчоках у яе ў халодным святле, што нясмела падала з пабітага акна, ірдзелі слёзы. Я ўзяў яе за локаць і тут жа адвёў сваю руку назад.

— Размовы розныя пойдуць, плёткі... — сказаў я, сам не ведаючы, чаму.— А нашто нам гэта?..

— Які ты стаў палахлівы... — прашаптала Мальвіна. — Я замужняя і то не баюся. А ты...

Яна паволі, апусціўшы галаву, пайшла ад мяне прэч. Збочыла на сцяжынку, што вяла ў прыклубныя прысады, і неўзабаве знікла ў кустах акацыі.

Я ж яшчэ стаяў ля агарожы. Мне хацелася кінуцца ўслед, дагнаць Мальвіну, абхапіць яе за плечы і цалаваць, цалаваць бясконца горача, аддана, як некалі, у тую незабыўную вясну. Але я стрымаў сябе.

З клуба, як і хвіліну назад, ірвалася, настырна лезла ў вушы песня, бойкая, задзёрыстая:

— Дзяўчынанька, мая міла,
Чаму ў цябе ножка крыва?
— Як была я на кірмашы,
То скрывілі хлопцы вашы...

* * *

У тую ноч я доўга не мог заснуць. Ляжаў, падклаўшы пад галаву рукі, узіраўся ў мяккую чарнату ночы і думаў — перабіраў у памяці ўсё, што яшчэ жыло, не забылася ад колішніх сустрэч з Мальвінай...

У хаце было душна, а на дварэ грозна гневаўся на некага гром і ў парыве нястрымнай злосці кідаў цэлыя жмені іскрыста-белых маланак. У сне мне здавалася, што гэта ляскае за акном пастух сваёю доўгаю пугаю-смалянкаю...

Прачнуўся — і сапраўды пачуў пастуха: ён стаяў ля самай нашай хаты і трубіў у касцяны ражок. Зычна, пералівіста... Рыкалі каровы, бэкалі авечкі. Недзе на станцыі цяжка соп паравоз. У акно ўжо зазірала сонца, круглае, румянае.

Я падняўся і выйшаў на падворак. У агародзе, ля паваленай у навальніцу старой грушы, завіхаліся бацька і маці.

— Ну вось, дачакаліся! — крычаў бацька. — Цяпер вазьмі вось ды з'еш яе, нехрысць!

— Дык калі я нехрысць, то ты ж божы служка, — ні то ў злосць, ні то ў жарт агрызалася маці. — То хай бы над табою ён зліатаваўся...

— Бог ведае, што робіць, — асякаў яе бацька. — Не табе, дурной бабе, яму ўказваць...

Востра пахла ўкропам, чабарком, гурковай квеценню, маладою бульбаю. Пасля шумнага, крыклівага горада цішыня вясковай раніцы здавалася асабліва глухой і застылай.

Па запырсканай гразёю траве, высока падымаючы ногі, заклапочана хадзілі куры. Гулі, як на пасецы, пчолы. Вылецеў аднекуль, бы апантаны, хрушч. Сослепу стукнуўся аб плот, зваліўся спіною на зямлю і бязладна задрыгаў нагамі, намагаючыся зноў паляцець...

— Ты чаго гэта не спаў? — спыталася маці, калі я падышоў да іх.

— Не спіцца нешта. Можа вам што памагу... — закасваючы рукавы, сказаў я. — Трэба ж гэта неяк расцягаць...

— Ну, ну, без цябе абыдземся... — буркнуў бацька.— Тваё дзела сійчас вучонае, хай ужо мы самі.

Але бацька не ўпарціўся, калі я ўзяў у яго з рук сякеру...

У поўдзень я зняў са штакеціны вялікую паліваную гладышку і пайшоў у лес — была якраз ягадная пара: паспелі чарніцы. Казалі, што ў лесе аж слаўся сіні ягаднік...

Вузкая, калёсная дарога то крута ўзбіралася на пагорак, то раптам весела збягала ўніз, у жоўты, хвалісты абсяг жыта. Званілі конікі, а ў ядраных лісцях малачаю і падарожніка блішчэла жывое срэбра расы. Далей цягнуліся грады — вялізны калгасны агарод. Буяла кукуруза, плёўся-лапушыўся гуркоўнік, жоўтымі іскрынкамі гарэлі памідоры. І між усяго гэтага павольна хадзілі, падаткнуўшы прыполы шырокіх спадніц, кабеты, — палолі грады, выбіралі агуркі. Ля самай дарогі стаяла ў белым фартушку і ў бежавай кофтачцы Мальвіна. Такая ж стройная, гордая, маладая, як і ў тыя далёкія гады. Толькі твар яе нібы трохі паблажэў, ды ў вачах не было колішняга бляску і гарэзы.

— Кастусь, — пазвала яна мяне, як толькі я наблізіўся. — Ты што, па ягады?

— Ды вось, дзяцінства ўспомніў, — не знайшоўшы нічога лепшага, адказаў я. — Рабіць усё роўна няма чаго...

— Ага, — згадзілася Мальвіна. — Дык можа ты гурок возьмеш? З'ясі ў лесе, як піць захочаш...

Яна дастала з прыпола два зялёныя з белымі наляжалымі бакамі агуркі. І хаця мне вельмі хацелася пакаштаваць, я чамусьці адмовіўся.

— Дзякуй, Мальвіна. У нас дома ўжо ёсць свае...

— Ты нічога не хочаш майго. Я цябе разумею...

Яна не скончыла сваёй думкі: на вачах нагарнуліся слёзы. Потым праз хвіліну загаварыла зноў:

— Я не спала сёння ўсю ноч. І ты выслухай мяне, Косця... Я ўпэўнілася, што кахаю цябе. Кахаю гэтак, як нікога, — словы перасядалі ў яе, і яна задыхалася.— Яшчэ як не сустракала цябе, было не так. Цяпер жа бачу, без цябе мне не жыць... Так, я вінавата перад табою, і ты за гэта мяне пакарай... Але ж я не магу болей хаваць у душы тое, што мяне мучыць, што не дае ні хвіліны спакою...

Галава яе ўпала мне на грудзі — Мальвіна аж душылася ад надрыўнага, горкага плачу.

Нейкі час я стаяў, разгублены і збянтэжаны, і глядзеў, як уздрыгваюць, калоцяцца яе плечы, ніяк не могучы даўмецца, чым уняць дзявочыя слёзы. Ды Мальвіна сама хутка справілася з сабою. Выцерла хусцінкай заплаканы твар, прыглушана кашлянула і прамовіла:



— Не глядзі на мяне так... Я сказала тое, чаго не магла не сказаць...

На нас даўно ўжо глядзелі кабеты. Іх пільныя, цікаўныя позіркі я адчуваў усім сваім целам. І я сказаў:

— Добра, Мальвіна. Яшчэ некалі пра ўсё пагаворым... Не тут...

Сказаў і памалу, нага за нагу, пайшоў па прыбітай начным дажджом дарозе. Крокаў праз колькі азірнуўся.

Мальвіна стаяла ўсё ў той жа паставе і не зводзіла з мяне вачэй. Пра што яна думала? Шкадавала аб чым?.. Успаміналa?.. Ці проста так глядзела, прыгадваючы нешта сваё? Хто ведае...





Мікола **АРОЧКА**

## ВЕТРАЛОМНАЯ ПАЛАСА

Каля вёскі маёй
  веснавая краса —
Ветраломная
  ў зелені ўся паласа.
Вунь плячо да пляча
  ў самай сіле дубы.
Непагода ідзе —
  не хіснецца любы.
Клёны лапы сплялі
  па жаданню вясны.
І чаруе таемнасцю
  шум яліны.
Каб не гэты размашысты
  шум угары,
На прагале пустым
  панавалі б вятры.
Паласа ветраломная
  ўстала сцяной.
Вёсцы сёння цяплей
  за зялёнай спіной.
І віхор не кудлаціць
  на стрэхах пляшы,
Не паб'е люты сівер
  садоў у цішы.
Сад калгасны,
  квяцісты, пчаліны мой сад,
Ты пабелен вясной
  ад чупрыны да пят!
Абагрэты, глядзіш ты спакойна
  на свет.



Беражэ паласа ветраломная цвет...
Маю вёску,
  мясціны з усёй іх красой
Прыгранічнаю
  часта завуць паласой.
Я спакойны.
  Я ўсцешан, што вырас вось тут:
Паласой ветраломнай —
  бацькоўскі мой кут.

## ПРАМЯНІСТАЯ ВОСЕНЬ

А восень стаяла, як звон,
пад купалам неба, празрыстая.
На ветры галінка бязлістая
гудзела, нібы камертон.

І сонцу спявалі харалы
палеткі
  і радыёхвалі.
Мы з раніцы ў сэрцы ўключалі
партыйных паседжанняў залу.

І стала чысцей сінява,
бліжэй нам —
  да мары хвалюючай.
Я чуў: гаварыла Масква,
як з сябрам,
  са светлым будучым.

А восень гудзела, як звон,
над светам цвіла, празрыстая.
Гарэла яна,
  прамяністая,
святлом нашых заўтрашніх дзён.

## З-ПАД САКАЛІНАГА КРЫЛА

Пачне у прыгарадзе днець,
І хлыне ў сэрца плынь святла...
Люблю на горад паглядзець
З-пад жаўруковага крыла.

Ляціць світанак, як ганец,
З канца ў канец
  паміж дамоў,
Бярэ праменняў грабянец,
Каб расчасаць чубы дымоў.

Сцяна нагадвае экран,
Калі на ёй дрыжыць прамень.
Ад сну працягваецца кран
І выцірае волкі цень.

Я першы гул у цішыні
Лаўлю, як музыку, крадком.
А недзе ў сіняй вышыні
Гуляе рэактыўны гром.

Іскрацца плоскасці ледзь-ледзь
У промнях яснага святла.
Спакойна можна ў свет глядзець
З-пад сакалінага крыла.

* * *

вала той песні,
 што навучыць рана
Чытаць пялёсткі красак,
 сцежкі па расе,
Шматкроп'і зор,
 працяжнікі маланак —
Лепш, чым па слаўнай азбуцы Марзе.

Чытаць маршчынку кожную на твары,
Калі на ім святло,
 калі на ім і цень...
Калі табе дае руку таварыш —
Чытаць яго далонь,
 як гэты ясны дзень.

Чытаць паэзію жыцця і слова —
З агню, жалеза
 і сардэчнага цяпла.
Быць трапяткім,
 як парастак вясновы,
І гэтак жа цягнуцца
 прагна да святла.

## КОНІ

нядога возчык недарма
Браў на шашы ў мунштук і шоры,
Ды на дыбкі яго ўздымаў
Яшчэ здалёку шынны шорах.

Пачуюць коні гару пах —
І сыпнуць цокатам падковы.



Сцябаў, лепш пугі, цёмны жах.
А пераможны бег сталёвы

Шумеў уладна па зямлі —
Па рэйках, па шашы, па нівах...
Даўно ў сабе перамаглі
Капытныя жахлівасць.

На полі трактар — гром і пыл!
Ары... Гнядому толькі люба.
А вунь паўсотні конскіх сіл
Запрэглі ў сані лесарубы.

Табун каштанак і гнядых
Шафёру шлях запрудзіў з пашы.
З усмешкай круціць вус руды
Паважны конюх, быццам маршал.

Шафёр, сігналь ці не сігналь —
З дарогі не сступіць «войска».
Сягоння свойскай стала сталь.
Жывым з ёй трэба жыць па-свойску.

* * *

'ю з табой сіняву адвячорка,
Прэсны пах палявога цяпла.
Недзе ў змроку на схіле пагорка
Ледзь варушацца зоркі сяла.

Адцвіла шыпшына небакраю.
Над іржэўнікам сум небыцця.
Ды засекі па швах распірае
Жаўтаскурая прага жыцця.

Прагнуць гэтай адвечнае сілы
Песня трактара, шэпат зямлі,
Бляск вачэй, фасфарычны, лісіны,
Што за плугам плыве па раллі.

Крык драчыны на купіне роснай.
Перапёлчыны сны пра жыты.
І як тыя святыя барозны
У чаканні зярнят —
Я і ты.

Мал. Ю. Выхадцава.

Еўдакія ЛОСЬ

# СТАРЫНА -БАГАТЫРАЧКА

Лірычныя занатоўкі

## І. ДА «РОДЗІНЫ»

Кожны, каму я гавару, што семнаццаць гадоў не была ў роднай вёсцы, здзіўляецца і дакарае. Ды і як не дакарадь.

Я жыла не за морам, а на сваёй жа зямлі. Ну — вучылася, ну — працавала, ну — некалі было. Але ж я неяк выбірала час для паездак у іншыя мясціны рэспублікі і краіны. А вось у родную вёску ніяк не магла дабрацца... Кожны раз, калі збіралася туды, нейкі план, больш важны, як здавалася, перабіваў рашэнне. Здавалася яшчэ, што для такой паездкі патрэбны асаблівы настрой, асаблівая падрыхтаванасць. А часам і страх скоўваў душу: да чаго, да каго і, галоўнае, з чым я туды паеду?..

Гэтым летам я збіралася за мяжу. Але на гэты раз у мяне хапіла волі адмовіцца ад такога плана і павярнуць у іншы бок. Хутка ў маёй сумцы з'явілася простая, але вельмі прывабная рэч: чыгуначны білет; ён лёг

побач з запісной кніжкай... Я змагла, нарэшце, накіравацца ў дарогу, на Ушаччыну, у Старыну, у той край,

«...дзе я радзілася, расла,
дзе першы раз пазнала шчасце,
слязу нядолі праліла».

Захвалявалася я перад самым ад'ездам. «Гэта ж куды еду,— думала сама сабе,— і праз які час!..»

Збіраючы ў чамаданчык дарожныя прылады, пачула, як за перагародкай паціху ўсхліпвае маці. Я разумела яе, але, каб не расчульваць больш, развіталася знарок абыякава:

— Пакуль! Прывітанне «родзіне»?

Маці сур'ёзна лічыць, што называць родных людзей «раднёй» ці яшчэ як,— груба; трэба гаварыць «родзіна», як кажуць у нас на Ушаччыне, хаця ў некаторых нашых песнях слова гэтае гучыць як больш вядомае — «радзіна».

Такім чынам, я накіравалася «да родзіны».

Я хачу паблукаць па зямлі, аб якой ніколі яшчэ — ні на яве, ні ў сне — не забывала, куды б далёка ні закідаў мяне мой лёс...

Я хачу пабачыць людзей, сярод якіх выгадавалася,— і сваякоў і чужых...

Я хачу даведацца, як пайшло жыццё ў старынян пасля таго, як яны выйшлі з лесу на папялішчы (гэта ў 1944 годзе, калі я была сярод іх апошні раз)...

Мяне вабяць людзі — местачкоўцы, калгаснікі, старэйшыя і равеснікі, знаёмыя і тыя, што паспелі нарадзіцца і вырасці за апошнія гады.

Людзі, людзі! Як яны жывуць? Што робяць? Што ядуць і апранаюць? Аб чым гавораць? Куды ідуць? З чым?..

Дзесяткі пытанняў у галаве, адказаў на якія прагну ўсёй душой.

Хачу запісаць тое-сёе. Відаць, у такой справе не абыдзешся без «я». Непрыемны займеннік, але што зробіш. Тым больш, што не дзеля яго ўзялася за пяро!

У Старыну, на бацькаўшчыну, хутчэй!

Як дабяруся туды?

Да Полацка — па чыгунцы, з Полацка да Ушачаў — на аўтобусе, з Ушачаў да Старыны (дакладней, да Вялікіх Дольцаў, крышку не даязджаючы) — таксама.

Усё ў гэтай дарозе лёгка і проста, нават, калі захочацца, можна і пехатой! Прыехаў раніцаю ў Полацк, паспаў крыху ў гасцініцы, зазірнуў у кніжны магазін. Без лішняга хвалявання атрымаў білет на дзённы аўтобус — і каці сабе далей!

Так — да Ушачаў...

## II. КРЫЖ НА ПЛЯЧАХ

Ці мала на беларускай зямлі такіх мясцін, як гэтая! Ці мала іх, населеных пунктаў, дзе цагляныя дамы ў пераважнай меншасці, а галоўным відам гарадскога транспарту з'яўляецца пешаходны, зрэдку — аўтобусны... Дзе кожны двор камунальнага будынка, напрыклад гасцініцы, буяе дзядоўнікам, малачаем і дзікім рамонкам, а з фанерных табліц, што густа настаўлены ўздоўж галоўнай, брукаванай, вуліцы, перадавая жанчына з трагічным, з ласкі мясцовага Рэпіна, выразам твару паведамляе, за колькі тон ільновалакна ў гэтым годзе трэба змагацца, колькі соцень і тысяч свіней выгадаваць, колькі надаіць малака...

Ледзь не кожная шыльда ў такім населеным пункце пачынаецца складам «Рай»: Райком, РайАНА. Райпрамсаюз, Раймаг і г. д., з чаго



можна зрабіць вывад, што гэтая сапраўды райская мясціна з'яўляецца сталіцай раёна...

«Сталіцай» раёна з'яўляюцца і Ушачы — гарадскі пасёлак, размешчаны на поўдзень ад Полацка, у раўніннай лясной мясціне. Ушачы — першая вялікая станцыя на славутай шашы Полацк — Мінск.

Мы пераехалі ва Ушачы з вёскі недзе ў годзе трыццаць чацвёртым, здаецца. Спачатку жылі на розных «кватэрах», калі так можна назваць незалежнае жыццё сямейкай у немалой асобнай хаце, з сваімі ганкам, печчу, электрыкай і радыё. Але з цягам часу бацькам, асабліва маці, захацелася мець у мястэчку ўласны дом. На будоўлю новага не ставала сродкаў, і тады родныя нашы старыняне сабраліся талакой і па бервяніцу перавезлі ва Ушачы нашу старынскую хату, якая пуставала там з забітымі вокнамі. Тут яе сымшылі нанава, шырэй прарэзалі вокны, атынкавалі лепшы канец, а былыя сені ператварылі ў жылы трысцен. Наша хата пад новым гонтавым дахам выглядала прывабна і весела, як іншая маладзіца, што знае сабе цану і якой далёка да старасці. У сваёй абноўленай хаце мы дажылі да вайны сорак першага года, жылі ў ёй некаторы час і ў вайну, і пасля вайны, хаця застаўся ад яе адзін трысцен, ды і той пакалечаны снарадам...

Бацька працаваў на розных простых работах, а найдаўжэй, помніцца, вартаўніком раённай друкарні. Маці прыбірала рэдакцыю газеты і тую ж друкарню (гэта да вайны; пасля вайны яна прыбірала школу). Мы, чацвёра дзяцей, вучыліся, у час канікулаў улетку чыталі кніжкі, пасвілі карову, зрэдку хадзілі ў кіно.

Бацькі паважалі адзін другога. Праўда, маці тады-сяды абзывала бацьку даволі складаным словам: «С т а р а р э ж ы м н ы», на што бацька адказваў флегматычна: «Трапло ты»,— і ішоў сабе па справах. Чаму чалавек здаваўся жанчыне старарэжымным, не ведаю. Можа таму, што насіў яшчэ з часоў салдатчыны пышныя рыжаватыя вусы. Можа, што не хадзіў на тыя «міцінкі», на якія нейкім замагільным голасам склікала дэпутат райсавета Рулёва, або ніколі не садзіўся за дыктант, што ў парадку сямейнага лікбезу праводзілі з бацькамі адукаваныя ў межах сярэдняй школы дзеці... А калі было яму займацца такімі справамі? Сям'я на плячах, а зарплата, што ні кажы, мізэрная. Не меў ён часу і на гутаркі з дзецьмі. З усіх яго расказаў я найбольш помню адзін: як іх у час імперыялістычнай вайны атруцілі ў акопах газам, а ўсяго ратунку было — мокры ручнік на твар... Яшчэ расказваў бацька пра Петраград, пра Леніна... Мала спаў бацька, мала еў і дрэнна апранаўся. Стараўся дзеля нас, дзяцей. Мы маглі пацешыць адным — добра вучыліся. На бацькоўскіх сходах у школе маці заўжды запрашалі ў прэзідыум (і на гэтыя сходы хадзіла яна, а не «старарэжымны» наш бацька. Ён у тыя гадзіны, відаць, араў некаму агарод ці спраўляў яшчэ якую наёмную працу, зарабляў трацяк ці пяцёрку, каб хутчэй сабраць на штаны старэйшаму хлопцу ці на панчохі дочкам). Маці лічыла сябе перадавым чалавекам, слухала радыё, каратка падстрыгала валасы і ў свята апранала чырвоную шыфонавую сукенку з белым каўняром ды белы берэцік, што звязала сама паўшыдэлкам...

У чым бацька, на думку маці, быў чалавекам сучасным, дык гэта ў разважаннях пра смерць. Ён любіў пажартаваць: «Памру — дык з духавым аркестрам хаваць будуць!..» З духавым аркестрам ва Ушачах хавалі толькі вельмі заслужаных людзей, старых партыйцаў. Бацька быў беспартыйны і ніякіх рэвалюцыйных заслуг не меў. Але, тым не менш, так вось марыў...

Ён памёр у самы разгар вайны, у сорак другім годзе, аркестр не іграў на яго пахаванні жалобных мелодый. Проста ішлі за трунай на мо-





гілкі местачкоўцы, а ўсёй «музыкі» было — наша і матчына галашэнне. Нас «падтрымлівалі» другія жанчыны. «Плача не па Рыгоры, а па сваім горы», — кажуць. У кожнай сям'і гора ставала, таму яны плакалі разам з намі ў наш чорны дзень, як і мы — у іхні. З намі ўжо не было Сяргея — любага бацькавага хлопца і нашага вялікага друга і брата. Перад вайной ён настаўнічаў, а ў першы дзень вайны запісаўся добраахвотнікам у знішчальны батальён, вінтовачнымі сіламі якога меркавалася затрымаць немцаў на подступах да Ушачаў. Немцаў хлопцы, вядома, не затрымалі, адступілі на ўсход разам з нашым войскам... І ўжо далёка ў Расіі Сяргей вывучыўся на афіцэра, адтуль пайшоў на фронт і загінуў ажно на Украіне, пад Кіевам. Толькі пра ўсё гэта мы даведаліся значна пазней, у 1944 годзе, калі прыйшлі афіцыйныя звесткі з часці, пісьмы братавых сяброў і нават вершы салдат, прысвечаныя яго памяці; усю вайну мы чакалі Сяргея, а калі нас вызвалялі, стаялі каля дарог і заглядалі ў твар ледзь не кожнаму салдату, калі ён быў высокі ростам і светлавалосы... Перад смерцю ні бацька не бачыў сына, ні сын бацькі... Смерць бацькі бачыла я: якраз дзяжурыла ля яго пасцелі. «Сядзі, Дунечка, тут, адганяй мух...» Памахала бярозавай галінкай над схуднелым тварам — і адвячоркам даймала ліпеньская спякота. На фота Сяргея, што вісела над ложкам, бацька паспеў глянуць...

Пасля вайны я мала жыла ва Ушачах — адразу падалася «ў людзі». Само паселішча гэтае ўяўляецца мне часам як адзін несамавіты помнік свайму дзяцінству, і ледзь не кожная мясціна ў ім — таксама помнік чаму-небудзь і каму-небудзь... Напрыклад, школа. Не старая, чырвоная, у якой да вайны вучылася сама, а новая, белая. Яна для мяне — як манумент сястрычцы, якая хадзіла туды, паўгалодная і дрэнна апранутая, у цяжкія пасляваенныя гады. Гэтай маёй сястрычцы вайна дапякла здорава. Была яна пісьменным ужо чалавекам, скончыла адзін клас сярэдняй школы... А за тры гады туляння ў бежанцах забылася нават літары! Прыйшлося зноў у першы клас садзіцца!..

Маруся расказвала пра такі выпадак. Раздурэліся хлопцы на вялікім перапынку (гэта ўжо ў восьмым ці дзевятым класе) і захацелі зняць з яе верхнюю адзежыну! Бо чаму, сапраўды, іншыя дзяўчаты сядзяць на ўроках у сукенках ці кофтачках, а яна, бачыце, у нейкай аблезлай плюшаўцы са старамоднымі буфамі! Злавіць і зняць!.. Як настрашылі яе! І як яна адбілася?!. Адаб'ешся, калі ведаеш, што пад гэтай самай плюшавай ватоўкай няма блузкі... Між іншым, ніхто з выкладчыкаў школы, дзякуй ім, не першае і не апошняе, не прапаноўваў танклявай бледнатварай вучаніцы з прыгожымі «русалчынымі» валасамі скідаць на ўроках верхнюю адзежыну. Яны разумелі...

Але не гэта яшчэ так хвалявала мяне на пад'ездзе да Ушачаў. Я ехала сюды з адчуваннем вялікай віны, якая няўхільна мучыла мяне роўна столькі год, колькі я не была тут...

Я атрымала ложак у гасцініцы, падсунула пад яго чамадан. Памылася. Прычасала валасы.

«Ну, дык куды ж ты цяпер?» — запыталася моўчкі ў сябе.

«Да бацькі...»

«А знойдзеш?..»

Ці знайду, ці знайду?!.

Аб гэтым я думала ўсю дарогу. Многа сноў сасніла аб тым, як шукаю на ўшацкіх могілках магілу бацькі і то знаходжу яе і радуюся, то не знаходжу і плачу наўзрыд... Прыехаўшы сюды, мацней адчула, як недаравальна паводзіла сябе ў адносінах да бацькавай памяці. Што сны? Што думкі? Калі надыходзіў тэрмін водпуску — адзіныя свабодныя ў годзе дваццаць чатыры рабочыя дні, я брала пуцёўку і накіроўвалася ў турысцкія ці іншыя падарожжы, зноў вярталася да працы, вучобы, а пра той пясчаны пагорак у сасонніку, дзе застаўся калісь прадаўгаваты курган і жоўты яловы крыж, толькі ўспамінала...

... Паволі прайшла па цэнтральнай — Ленінскай — вуліцы. Пазнавала хаты: чые яны, хто тут жыў даўней. Спусцілася да ракі. Як яна абмялела! Рай для гусянят і для малых. Вунь іх двое — дзяўчынка і хлопчык — у чоўне, падпіхаюцца дошкамі, і човен пацiху пасоўваецца скрозь густыя зараснікі лілей і чароту... А некалі па рэчцы лес сплаўлялі! У нас у маленстве была гульня: хто хутчэй перабяжыць з аднаго берага на другі па плывучым бярвенні! Цікавая гульня, ды гулялі мы ў яе, відаць, толькі таму, што нашы маткі пра тое не ведалі. Інакш бы ім дрэнна спалася.

Мост... Ён не той, што быў да вайны, другі. Але мне ён усё роўна ўяўляецца помнікам Пейсаховай, той Пейсаховай, што кінулася з моста ў рэчку — і так загінула. Як тады бедавалі ва Ушачах! А ўсё таму, што Пейсахоў, паглядзіце, разлюбіў яе, хоць пражылі яны разам нямала і мелі трох хлопцаў...

Пры павароце на Кастрычніцкую пачуўся такі родны і, здаецца, спрадвечны вокліч:

— Ага, застукаў!

Хлапчукі — ужо трэцяе, ці пятае, ці сёмае пакаленне? — гуляюць у «нацыянальную» гульню ўшацкай дзятвы — палачку-стукалачку. Пасапраўднаму сапернічае з гэтай гульнёй хіба што пікар. Прынамсі, у мой час так было. Збярэмся на вуліцы — кій у руках, бляшанка з-пад кансерваў на цагліне стаіць, «граніца» на пяску начэрчана — і смалім! Крык, грук, пылу хмары! А ў суседніх дамах вокны паадчыняны, старыя сядзяць на прызбах — «паветрам дыхаюць»...

Вуліцай, што зацярушана мяккім, нібы мучным, пылам, даходжу да могілак. Яны — і гэта мяне ўражае моцна — абгароджаны. З-за высокага шчыльнага плоту не магу разабраць, дзе яна, родная сопачка.

Даходжу да варот. На іх — вялізны замок і дошка з надпісам: «Ключ у камунальным аддзеле».

Усяго я чакала, толькі не такога здзеку, што падрыхтаваў мне райкамунгас!

Дзяўчаты з бліжэйшай хаты параілі:

— А вы абыдзіце з другога боку, там некалькі дошак выламана.

Сапраўды, як гэта я не магла здагадацца, што ў плоце заўжды бываюць дзіркі!

Кінулася шукаць пералаз.

...Нейкія тры метры адлегласці, што вялі на пагорак пад соснамі, дзе я баялася ўбачыць ці не ўбачыць «бацькаў» крыж, здаліся мне доўгімі камяністымі вёрстамі. Я адчувала, як сагнуліся мае плечы, нібы ляжаў на іх непасільны цяжар, а сама я, здавалася, штохвілі старэю.

Свежая магіла з краю... Два кароткія курганкі далей... Між імі лапушыцца мята...

Я тапчуся на ўскраі пагорка, мяне душаць слёзы, і я пытаюся ў дзірвана:

— Татачка, дзе ты тут?

І прашуся праз голас:

— Даруй мне, татачка... Даруй мне...

Я пайшла з могілак, і той самы цяжар гнуў плечы, а вочы дрэнна бачылі дарогу...

## III. ПЕРШАЯ НАВІНА

У Вялікіх Дольцах — саўгас! Ён арганізаваны нядаўна, год ці паўтара назад. Гэтую вялікую навіну ўпершыню пачула я з вуснаў тоўсценькай камсамольскай кіраўніцы, з якой разам тры дні пражыла ва ўшацкай гасцініцы. Другі раз пра гэта нагадала шыльда на канторы саўгаса, калі аўтобус прывёз у самае «м. Вялікія Дольцы» (гэтае «м.» таксама навіна; раней замест яго стаяла «в.», а то і проста нічога не стаяла!).

Далейшую гаворку пра падзею павяла ўжо цётка Матруна — першая з «родзіны», каго я сустрэла ў Старыне.

Мушу, аднак, растлумачыць, якія адносіны мае факт арганізацыі саўгаса «Вялікадолецкі» да жыцця маёй роднай вёскі. Самыя непасрэдныя. Старына, як і шэраг іншых вёсак, уваходзіць цяпер у склад саўгаса, з'яўляецца адной з ячэек новай вялікай гаспадаркі. Старына разам з пасёлкамі Жаўніна і Чвёрткі (Пятроўка) утварае 7-ую брыгаду саўгаса «Вялікадолецкі».

Цётка мая, сталая жанчына ў ватоўцы і насунутай на самыя бровы клятчатай хустцы, брала ваду са студні, калі я падыходзіла да «перасыпанай, з новымі рамамі» хаты (такія прыкметы цётчынага жылля ўказаў мне мой долецкі спадарожнік).



Я пазнала цётку яшчэ здалёк і набліжалася да яе з самай шчырай усмешкай на твары.

Цётка заўважыла мяне, акінула абыякавым позіркам і яшчэ ніжэй схілілася над зрубам...

— Думаю сабе, во нейкая ж «пані» чужая ідзець! Хай сабе, думаю, далей ідзець, а я яшчэ ў калодзезі пабоўтаюся, бо во ў рыззі, няёмка,— так растлумачыла яна сваю непрыхільнасць праз нейкі момант, калі я ўсё ж паставіла чамадан на зямлю і, не зважаючы на досыць злосны позірк роднай матчынай сястры, праспявала:

— А я да ва-а-с, цётачка!

Не буду апісваць усіх цётчыных эмоцый і прыводзіць слоў, якімі яна выказвала сваё здзіўленне, захапленне, крыўду і г. д.!

— Мы ж цяпер, мая плямутка, у саўкозе,— пачала расказваць цётка Матруна.— Ці лепі гэта, пытаешся? А мая плямутка, лепі! Анягож! Цяпер жа во плоцяць, а раней так робілі. І антобус ходзіць, і хлеб у ларок усякі прывозяць. Анягож. Пшоніну ядуць старыняне, ага, пшоніну, жытняга — ні ў рот.. Хат, можа ж во бачыла, наставілі!..

І здаецца, што гэты ўспамін пра настаўленыя ў Старыне хаты незаўважна даў цётчынаму апавяданню новы штуршок, і далей яна ўжо заспявала-заенчыла на іншы лад:

— Адны мы, мая плямутка, адны мы такія апошнія, а мая ты дзетка! Во хату — гэта ж пакуль яе перасыпалі, колькі я нагаласілася! Пэнсіянеры не ідуць, а болі хто будзе? Усе на саўкознай рабоце... У пуні сядзелі, дзетка. Стары жыватом хварэў. І так, ведаеш жа, нягеглы, а то во бервяно як узяў, дык і лёг...

І пайшла скарга за скаргай, ды ўсе такія цяжкія, што праз паўгадзіны я адчула, як баліць галава, перасмяглі вусны, і прыйшлося папрасіць вады.

Манечка (мая, значыць, стрыечная сястра) у горадзе на страшэннай працы: ля машыны. І карова — ялаўка, бо худая была — ні да быкоў. І агарод на нізкім месцы — травянее, як ні праполвай. І хлеб — не паспееш спячы і скласці ў істопцы — чарсцвее. І печ старая і дрэнная, а дровы так страляюць, што ніякі гаршчок не ўсцеражэш ад «свечак». І калі ўсё гэта скончыцца, цётка не ведае і просіць смерці...

Добра, што ў хвіліну перадышкі ў цётчынай споведзі каля хаты загучэлі галасы. Праз акно я ўбачыла, што да хаты шыбуе дзядзька Рыгор, гаспадар, і аб чымсьці ажыўлена гутарыць з двума барадачамі — магчыма, з тымі самымі «пэнсіянерамі», што некалі ленаваліся ісці перасыпаць цётчыну хату: нашто ў заработкі хадзіць, калі хапае тых грошай, якія дае ім дзяржава!

Цётка таксама заўважыла іх. На маё здзіўленне, яна, нервова абмацаўшы пальцамі кашулю з мноствам шпілек, што блішчэлі на грудзях, падалася да шастка, дзе апранула прыгожую бардовую кофту, завязала белую хусцінку ў кропачкі... Мяне здзівіла толькі перамена ў настроі, але не тое, што цётка Матруна прыбралася. Яшчэ з дзявочых гадоў яна славілася першай у сяле акурацісткай. Пра тое, якая яна ахайная гаспадыня, таксама хадзілі чуткі. Гаварылі, што цётка Матруна выпаліць печ — і кроплі вады на падлогу не капне! А ўжо пра ўборы і слоў няма! І толькі адзін раз празмерная цётчына ахайнасць саслужыла ёй кепскую службу. Было гэта летам далёкага года, калі выходзіла замуж цётчына (а, значыць, і маёй маці) сястра Полька і цётка Матруна разам з іншай раднёй ездзіла ў прыданках



аж у Звонь. Гасцей у званскіх сватоў сабралася гэтак многа, што не ўсім хапіла месца для начлегу ў доме. Пасላліся на калёсах пад адкрытым небам, у адрыне, пад павеццю. Жанчыны менш далікатных звычак спадніц не скідалі, спалі апранутыя. Але цётка Матруна гэтага дапусціць не магла. Яна лягла ў ніжняй белай спадніцы, а верхнюю — ярка-зялёную суконную, вытканую ўласнымі рукамі нітачка ў нітачку, адпрасаваную на ўсе канцікі складак,— яна павесіла на шасток. І толькі пад раніцу заўважыла цётка, што над гэтым шастком быў яшчэ адзін, — і на ім сядзелі куры...

Дзядзька Рыгор зайшоў у хату — яго сябры падаліся ў бок агарода. Цётка Матруна адышлася ад нас, і хутка я пачула, як зашасталі па прыпечку трэскі, бомкнула патэльня, з чаго можна было зрабіць вывад, што неўзабаве будзе яечня. Дзядзька ж Рыгор сеў насупраць мяне на ўслоне, і мы пачалі гутарыць. Гэта было не так проста, бо дзядзька глухі, але куды весялей, чым з цёткай. І галоўнае, што ўсё ў дзядзькавай гаворцы выглядала зусім інакшым...

Вось ён казытнуў пальцамі сіваватае шчаціннe на худым твары, бліснуў у мой бок маленькімі кратовымі вочкамі і, для большага азарту мякка вылаяўшыся, зазначыў:

— От, не пабрыўся, халера, не ўпадабае пляменніца!

— Упадабаю, дзядзька!

— Ды шкандыбаю! — дзядзьку пачулася, відаць, што я сказала такое слова.—Жывем, брат ты мой, вунь як жывем! Саўкоз! Заработкі! Ого! Хату, бачыла ж, перасыпаў — саўкоз памог, а як жа!.. Сам апошні год прахварэў, дык пэнсіі няма. Але сказалі, што з аўгуста, па новаму закону, усім старым дадуць, хоць і не дарабілі году якога... А дзеўка ж мая, не чула? У горадзе, ля машыны, брат ты мой! Па семсот выганяе... Адзежы наспраўляла! Адных зімовых — тры пальты!.. Сюды не ідзець (тая ж вясёлая лаянка), хоць і тут добрай работы — заваліся. У пякарню нават бралі... Нам усяго напрывозіла: рабой паперы на сцены — аж дванаццаць трубак. А бабе — усяго... Ты не глядзі, што анучы засцелены! У яе ж (у цёткі, значыць) гарадскіх пакрышак, што як карункі, поўная скрыня, брат ты мой... Яна табе, баба, наенчыцца!..

Цётка падазрона пазірае на нас, нібы здагадваецца, які выкрывальны характар мае дзядзькаў даклад. Але дзядзька не такі прасцяк, каб гаварыць усё гэта вельмі гучна і тым самым падаць повад для цётчыных антытэз.

— Хату перасыпаў, яшчэ вот печ перакладу. Ужо і цэглы нафармаваў. Другі раз прыедзеш — не пазнаеш! А чаму пляменніца не паведаміла, што едзіць? Эх, і падрыхтаваў бы нешта!..

Я, вядома, здагадваюся, што яно — тое «нешта». Мы абое смяемся, як змоўшчыкі. Тым часам дзядзька Рыгор пераводзіць гутарку на рэйкі, як кажуць, гістарычныя. Ён успамінае, як некалі яны скідалі цара, як затым быў цар «урэменны», затым «думскі», а пасля яго «Геранскі»,



і што кожны з гэтых цароў выпускаў свае грошы. Адны грошы былі як вялізныя паперыны, іншыя такія маленькія, як маркі, што на пісьмы наклейваюць.

Дзядзька чмокае вуснамі, размахвае рукамі, калі захапляецца, і канчае гутарку самым нечаканым для мяне чынам:

— Але ніводнага цара не было такога (лаянка злосная), каб мужыку грошы даваў! Як гэта вот, брат ты мой, зразумець?..

Удумлівы чалавек дзядзька Рыгор!

## IV. СТАРЫНА-БАГАТЫРАЧКА

Калі падыходзіш да Старыны з боку Вялікіх Дольцаў пагодным ліпеньскім днём, абапал жоўтай істужкі дарогі, там-сям атуленай кустамі алешніку, бачыш палі сакавітага сіняга аўса, пляцы ліловай духмянай канюшыны, а на адным з узвышаных участкаў — сад, маладзенькі яшчэ, але такі вялікі, што крайнія рады дрэўцаў губляюцца ў гарачай дрыготкай смузе...

Калі ж ісці ў Старыну з боку Жаўніны — суседняга з ёй маленькага, але вельмі маляўнічага пасёлка, то ўбачыш поле гароху, што зеляне на чырвоным суглінку, хвалістую ніву пшаніцы з добрай доляй цыбатых жытніх каласоў у ёй і само жытняе поле. І ўжо каля самых старынскіх хат, каля першай з іх — будынка пачатковай школы — зноў сад... Гэты старэйшы за свайго «долецкага» брата. Яблынькі ўвабраліся ў сілу. Хаваецца ў лісці завязь пладоў, ды якая завязь: на антонаўках добрыя яблычкі — цвёрдыя, духмяныя!

Будзеш ісці з Весніцка — таксама палі і сенажаці пацешаць вока здаровай сакавітасцю і квеценню; таксама кінуць на падарожніка цень алешыны і асінкі; а на ўзмежку па нагах зашастаюць махрыстыя рамонкі, ліловыя даўганогія матрункі, раздабрэлая ад сонца і соку зямлі канюшына з пунсовымі галоўкамі...

Дарога з Барка, аб чым няцяжка здагадацца з самой назвы вёскі, пачынаецца ў барку, дзе не столькі бору, колькі той жа алешыны, вербалозу, бярозы, і куды не толькі самі баркоўцы, але і пераважная большасць старынян ходзяць па чарніцы, дурніцы і вішшо на венікі. Баркоўскі прасёлак прывядзе ў нізінку, па якой цячэ ручай...

Колькі год нашаму ручаю? І столькі, колькі мне,— гэта значыць трыццаць два, і столькі колькі маці маёй,— гэта ўжо разы ў два з хвастом больш, і столькі, колькі старэйшай з маіх цётак — Марыне, гэта значыць восемдзесят адзін (калі цётка выходзіла замуж, мая маці была яшчэ грудным дзіцем), і, відаць, столькі, колькі дзеду было б майму цяпер і прадзеду... Ён і тады «шумеў», гэты ручай, і не дзесятак, а больш пакаленняў старынянак паласкалі на ім палатняную бялізну, і цэлае войска старынскіх хлапчукоў выразала на ім і спрабавала на слых ляшчынавыя свісткі...



Дарога з усходу, дарога з захаду, дарога з поўначы і з поўдня,— і над кожнай з іх у сінім, або блакітным, або шэраватым бяздонні неба трапеча крылцамі і звініць, звініць, як дробны «малінавы» званочак, першая птушка гэтых мясцін — жаваранак.

Мой родны кут, як ты мне мілы...

З «долецкай» (усходняй) дарогі я зварочваю на лужок, да якога, мяркуючы па зложанай побач траве, ужо дабіраюцца касцы, збіраю рамонкі, што выраслі па калені мне, фіялетавыя званочкі, якія туляцца пад кустамі, слухаю жаўрука, што вісіць над галавой — ні з месца! — і згадваю неўміручыя радкі народнага песняра, бо слоў, больш адпаведных майму настрою, не магу адшукаць. Я згадваю іх яшчэ і таму, што іменна тут, у гэтым куце, у вёсцы-стадворцы, дзе за нейкай сёмай ці дзесятай хатай з краю «ляжыць... замчышча адно» і красуе па-над ім ігруша з уломленай верхавінай (пра яе скажу крыху ніжэй),— іменна тут упершыню я пачула гэтыя словы... Іх прачытаў Сяргей. Ён, яшчэ хлопчык тады, чытаў «Новую зямлю» па кніжцы і напамяць, а мы, меншыя, запаміналі з голасу, бо самі чытаць не ўмелі. Запаміналася лёгка і весела. Кожны радок быў як бы нашым уласным, пра нас саміх,— варта згадаць хоць бы адзін раздзел — «Раніца ў нядзельку»!

Я зайздрошчу тым таварышам па пяру, родныя вёскі якіх з'яўляюцца аб'ектамі гістарычнай даўнасці і вядомасці, успаміны пра якія страчаюцца ў розных старажытных летапісах, манастырскіх або царскіх граматах.

Пра сваю Старыну,— а яна ж вёска старая, сама назва пра гэта гаворыць! — мне не давялося пакуль прачытаць ні ў польскіх, ні ў літоўскіх старажытных дакументах... Да яе не дабіраліся, здаецца, і вядомыя збіральнікі народнай мудрасці Шэйн, Раманаў, Карскі,— пэўна, таму толькі, што вельмі далёка ад іхніх шляхоў ляжала яна, а не таму, што ў нашых мясцінах не жывуць легенды і казкі, прыпеўкі і песні — жніўныя, карагодныя, сіроцкія, вясельныя!..

Суботачка нядзелечцы гадзіла.
Сабралася ўся Марыльчына радзіна.
Усю яна радзіначку абыйшла,
Нідзе свайго роднага таткі не знайшла.
Уся яе галовачка ў вяночку,
Нет у яе роднага таткі ў дамочку.
Уся яе галовачка ў квецці,
Нет у яе роднага таткі на свеце...

Або яшчэ адна, да прыкладу:

Навварыў брат піва п'янага,
Пазваў сястру-багатырачку,
А другую і худобачку.
Багатая прыйшла з прыносам,
А худобачка з адным носам...
Багатая ж на куце сядзіць,
А худобачка ў парозе стаіць...

Багатая:
— Чаго стаіш, сястрыца?
Чаго стаіш, мая родная?
Хадзі ка мне ты блізюханька,
Паберамся мы за ручанькі,
Пойдзем з табой у чыста поле,
Клікнем-гойкнем мы сваю долю.



Як клікнула худобачка,
Адазвалася яе долечка:
— Чаго клічаш ты, худобачка?
Чаго клічаш, чаго хочаш?
Ці ўсё рыззё перанасіла?
Ці ўсе атопкі ператаптала?
Я йшчэ столькі нагатавала!
Як клікнула багатырачка,
Адазвалася яе долечка:
— Чаго клічаш, багатырачка?
Чаго клічаш, чаго хочаш?
Ці ўсе шаўкі перанасіла,
Ці ўсе камашы ператаптала?
Я йшчэ столькі нагатавала!..

Нашымі бліжэйшымі суседзямі ў Старыне былі Змітраковы: дзед Змітрок, баба Змітрачыха, іх сыны Сцяпан і Алесь і дачка Кацярына. Кацярына Змітракова — жартаўніца, пяюха, танцорка з выразнымі чорнымі вачмі і гонкай постаццю запомнілася мне з малых гадоў, бо запомніліся яе песні...

А я жала — не ляжала,
За дзень капы не нажала.
А я жала хапу-хапу,
Як нажала — за дзень капу...
А мой мілы Пракопачка,
Едзь у поле па копачку!

У змітраковай хаце спраўлялі ігрышчы, і мы, дзетвара, хадзілі туды глядзець, як скачуць дарослыя. Кацярына не сядзела: быццам не сама гаспадыня, а вялікі белакрылы матыль лётаў па хаце... Гарэў яе твар, а высокі чысты голас перакрасаў, здаецца, гармонік і цымбалы. На кожны танец была ў яе свая прыпеўка, ды ўсё асаблівага, кацярынінага выбару:

«Сербіянку» я плясала,
Увідал меня ацец:
«На работу, доч, лянiва,
А на танцы — маладзец!»

Так, у пяючай мясціне мне пашанцавала нарадзіцца!

Але вярнуся да гісторыі.

Старыну ваеннага часу, партызанскую, я помню добра.

Тут, як і ва ўсім нашым краі, улада акупантаў пратрымалася нядоўга. Сціплыя старынскія хаты, якім суджана было ўцалець ад агню, зрабіліся прытулкам для народных мсціўцаў. У вёсцы,— хто больш, хто менш,— стаялі дубаўцы, лабанкоўцы, кароткінцы, уткінцы, аляксееўцы. І ўжо іншыя песні гэтага часу запалі ў сэрца:

У каго якое плацце,
А ў мяне галубава.
А мой мілы ў партызанах,
У брыгадзе Дубава!

Такая адна з частушак.

Чеканным шагом,
Железным маршем
Отряд партизанский идет.
Живи и здравствуй,
Наш край родимый, —
Борьба к победе приведет!

Гэта — з марша аляксееўцаў, партызан з брыгады Аляксея Данукалава. Гэты слаўны камандзір і загінуў каля нас, у Дольцах, у час налёту фашысцкіх бамбардыроўшчыкаў.

Марш я пачула ад хлопцаў, што начавалі ў нашым дэпо. Якім дэпо? У нашай асірацелай сям'і не было ў Старыне свайго кута; жылі ў цётак, у дзядзькоў, пакуль былі цэлыя іх хаты, а потым перабраліся ў закінутую, непрыстасаваную для жылля няўклюдную будыніну былога пажарнага дэпо. Там у шчыліны між бярвенняў дзьмуў вецер, па земляной падлозе тады-сяды паволі поўзалі жабяняты. Але дзе было выбіраць! Усё ж гэта было лепш, чым лес, чым зямлянка.

Старына дала партызанскаму войску ледзь не столькі ж байцоў, колькі дарослых і нават падлеткаў жыло ў яе ста хатах! І яна ж не парадзіла ніводнага паліцая ці іншага нямецкага служкі. Быў, праўда, некаторы час стараста, яго пакаралі пры вызваленні. Дарэмна, я лічу, не разабраліся. Да стараставаў пасады, па-першае, яго змусілі, а па-другое, — ён папярэджваў людзей, каб хавалі дабро, калі па гэтае дабро прыязджаў нямецкі нарад з Дольцаў ці Царкавішча. Ды жыў у Старыне чалавек з мянушкаю Хаямок. Славіўся тым, што меў вельмі многа дзяцей, заўсёды галодных і абдзёртых. Расказваюць, нібы ён данёс на старасту камусьці з камандзіраў. «Вунь,— сказаў, — нямецкі слуга, мяне ў падводы ганяў!» А ў самога Хаямка, здаецца, і каня не было ніколі. Як мог яго стараста ў падводы «ганяць»?..

Цётка Марына расказвала неяк:

— Гэта ж Іваньку нашаму колькі павестак прысылалі, каб на ўчастак з'явіўся, а ён не пайшоў, не. Я сказала: «Нявечная іх тут уласць, немцаў гэтых. Хто людскі за іх пойдзіць!» А Іванька ж з васьмі класаў, дарослы лічыўся, як было схавацца?..

Юнак хаваўся ў хмызняку, праседжваў дні ў палявым акопе. Аднойчы не вытрываў, зайшоў у дом да замужняй сястры-салдаткі, а тут якраз і вярбоўшчыкі на парог!.. Іван збялеў — не ўцякаць жа. Дзе ратунак? Здагадалася сястра. Яна загаласіла, ашчапілася каля Івана, малых клікнула: «Ратуйце, дзетачкі, татку нашага! Хай хоць на дзянёчак яго нам пакінуць!..»

Івана і пакінулі, але не на дзень, як яны парашылі. Не ўбачылі яго больш нямецкія вярбоўшчыкі. Настаў час, і пайшоў хлопец у партызаны, а вайну скончыў салдатам Савецкай Арміі.

Старыну палілі шмат разоў. Галоўным чынам — «бутэлькамі». Праляціць самалёт са свастыкай на крылах, закідае вёску бутэлькамі з гаручай сумессю — і палаюць сялянскія гнёзды. Людзі або ў лесе, або на час бамбёжкі ў поле выбеглі, — некаму ратаваць набытак. З тых ста двароў, якімі так ганарыўся кожны жыхар Старыны, асабліва нявесты (бо з-за гэтага больш паважалі іх хлопцы з меншых вёсак), — з тых ста цэлымі ці абгарэлымі засталася якая трэць.

Людзей у Старыне загінула, бадай, не менш. Калі мы сабраліся пасля вайны і падлічылі, колькі ж чалавек з ліку сваякоў страцілі, то атрымалася нямала. Хто загінуў на фронце, як наш Сяргей, або Коля дзядзькі Рыгора-жаўнінскага, або Мішка цёткі Полькі-званской; хто — у партызанах, як, напрыклад, Коля цёткі Марыны: яго забілі ў час апошняй блакады нашага раёна, у час страшэннай калатнечы і неразбярыхі, і нават труп не ўдалося адшукаць ды пахаваць па-чалавечаму. Так, дорага абышлася народу гэтая блакада. Вёскі пагалелі канчаткова, людзі туліліся ў лесе, ратуючыся. Наўкол ішлі баі. Адзін з іх грымеў дужа блізка, ля Тартака... Калі настала ноч, пачалося прачосванне лесу, дзе мы сядзелі і калаціліся ад холаду і страху. Адзін з варожых дазораў заўважыў нас, немец з ходу нацэліўся аўтаматам на бліжэйшы да яго аб'ект — маленькую сястру Марусю; мы баяліся пасля, што тая зусім анямее. Нас акружылі, выгналі з лесу, адабралі з рук апошнія клункі і прывялі пад канвоем у Старыну. Спярша выстраілі ўсіх на пляцы-папялішчы, падагналі вялізны танк, які нацэліўся дулам на натоўп старых, жанчын і дзяцей, і пачалі допыт: дзе партызаны, хто з вяскоўцаў — партызанскія сем'і? Мы з малодшай сястрой трымаліся за маці (старэйшая «адступіла з партызанамі», як тады казалі), глядзелі на злосных карнікаў з дубінкамі ў руках, на чорнае дула крыжастага танка і калаціліся, як асінкі... Хацелася зрабіцца зусім нябачнай, маленькай, каб толькі нічога гэтага не бачыць, не чуць, не чакаць!

Ніхто нікога не выдаў.

Тады ўсіх запёрлі ў адной хаце (цёткі Матруны). Пачулася: спаляць жывых...

Ніколі не забуду, як развітваліся адна з другой маці і цётка — здаровыя, нестарыя жанчыны. Не плакалі. Вочы іх, наадварот, былі сухія празмерна, запалыя. «Даруй, сястрыца, калі што дрэннае зрабіла табе ў жыцці...»

Мы засталіся жыць. Наша армія выгнала ворага!

Мой бацька і дзед памерлі ад хваробы. Бацька можа таму, што не было магчымасці зрабіць хірургічную аперацыю, а дзед — ад тыфу, які скасіў ледзь не палавіну людзей з вёскі. Дзеду было каля дзевяноста, ён ужо кепска бачыў, але быў яшчэ дужы і працаваў. Калі мы пасяліліся ў халоднай будыніне дэпо, дзед прыйшоў да нас з Жаўніны, нагледзеў вакол дома гліну і змайстраваў нам з нашаю дапамогай бітую печ: добра грэла!..

Вольга — дачка стрыечнай сястры Арыны, самая нявеста, падарвалася на міне ўжо ў той час, калі фронт адышоў далёка ад Старыны. Яна хадзіла ў ягады...

Змітраковы страцілі Алеся, — ласкавага і добраахвочага нашага суседа. Маркавы — Ганну... Якая дзяўчына была! На гармоніку грала, а сама тоненькая, чарнявая... Хлопцы з-за яе як не біліся... Спачатку падпольшчыцай была, а потым перайшла ў атрад...

І гэтак —у кожнай сям'і, у кожным двары.

Цяжкія гады Старыны! Але не толькі горам поўніліся яны. Радасцю было ўжо тое, што вёска, як і іншыя побач, з'яўлялася астраўком савецкай улады на акупіраванай зямлі. Ад нас хадзілі на заданні партызаны. Вечарамі ў чыёй-небудзь большай хаце збіраліся людзі і слухалі выступленні партызанскіх агітатараў, а пасля танцавалі і спявалі песні. Спраўляліся нават вяселлі!

Іржуць конікі, іржуць,
Багатырачку вязуць...
Так бы яны не раўлі,
Каб худобачку вязлі!

І нявестам па ўсіх правілах старажытнага абраду часалі «русую касу», садзячы на дзежку-хлебніцу, накрытую кажухом, апраналі ў белую сукенку (шылі яе часам з падоранага жаніхом парашутнага шоўку), а на галаву надзявалі вянец, хаця вянчання, вядома, не было. Жаніху ў большасці выпадкаў прыколвалі на пінжак ці на гімнасцёрку чырвоны банцік. І благаслаўлялі маладых не абразамі. На адным з вяселляў Сцёпка Змітракоў — ці то сватам быў, ці то дружкай — выйшаў насустрач жаніху і нявесце з партрэтам Леніна.

Мой родны кут, як ты мне мілы...

З усходу на захад далёка цягнецца вялікая, абноўленая вёска. За сёмай ці дзесятай хатай з краю, каля самай вуліцы расце ігруша з уломленай верхавінай. Дзесяткі гадоў расцвітае яна ўвесну, а к во-

сені спеліць дробненькія салодкія плады... Яе пасадзіў мой бацька яшчэ тады, калі быў маладажонам — высокім і стройным «Белюсём», як празвалі яго на сяле за сінія вочы і светлыя хвалістыя валасы...

Можа і мала зрабіў за жыццё бацька. Але калі б нават не вырадаваў ён для радзімы сына-воіна, то і тады б яго жыццё акупілася... На былым хацішчы, пасля ўсіх пажараў і прастрэлак, жыве ў Старыне дрэва, выбранае і пасаджанае яго рукамі. Аздабляе вуліцу, цешыць пладамі нецярплівых хлапчукоў, якім і не ў галаве, хто ўгатаваў для іх гэтую радасць...

## V. ГОСЦЬ ЗА СТАЛОМ

У госці мяне пачалі запрашаць яшчэ ў Дольцах. Дарогі да Старыны я не тое што не помніла — не ведала, таму ўплялася следам за нейкім дзядзькам з хатулямі, які, як і я, выйшаў з аўтобуса і цікавіўся, ці ідзе якая спадарожная да Старыны. Вось ён заўважыў у кабіне грузавога фургона свайго знаёмага, махнуў рукой: «Вазьмі!» — і ўжо абодва мы месцімся побач з вадзіцелем.

Удвух яны настойліва дапытваліся, да каго я. Але ж я і сама не ведала, да каго. Таму і выведалі толькі тое, што я жыла ў Старыне ў гады вайны і што цяпер — з Мінска.

Тады шафёр здзівіў мяне, адразу назваўшы маё імя і прозвішча.

Той, хто пазнаў мяне, зваўся М-чам. Гэта былы старшыня былога старынскога калгаса... Можа, і няблага, што так крута змяніўся яго службовы лёс. Пасада шафёра, бадай, лепш падыходзіць да такога кіраўніка гаспадаркай, пры якім, па выразу цёткі Матруны, людзі «так робілі» (гэта значыць, дарма).

Другім спадарожнікам быў Антось Паўлюсёў. Пра яго ведаю толькі тое, што ён сам расказаў аб сабе. Ездзіў у Полацк да дачкі, вязе дамоў гасцінцы. Сам на пенсіі. Некалі, яшчэ да вайны, быў у гасцях у нас, ва Ушачах... Яго хата з сінімі аканіцамі — у цэнтры вёскі.

Абодва спадарожнікі сказалі, што я абавязкова павінна прыйсці «паглядзець іх хаты».

Далей у госці запрасілі: цётка Матруна (праўда, тут я крышку няпрошанай з'явілася, як ужо расказала пра гэта); цётка Марына-жаўнінская; дзядзька Сцяпан Скараджонак; цёткі Ганна і Паланея; брыгадзір, а значыць, і цётка Барысіха, яго цешча; Сцяпан Змітракоў, наш колішні сусед, Кацярынін брат; Нікіпар Бугай — не сусед і не дзядзька, а проста старынскі гаспадар; Феня Пятніца, бібліятэкарка; Віктар, Клаўдзін муж (Клаўдзя — стрыечная сястра, дачка цёткі Праскоўі-цвецінскай); Арына Грышкевічава, старэйшая сярод стрыечных сясцёр (гэта яе дачка падарвалася на міне); Манька — меншая, замужняя Арыніна дачка; Ульяна, стрыечная сястра...

Яшчэ цётка Полька са Звоні клікала, як даведалася, што я ў Старыне. Яшчэ Коля Арцёмаў з Жаўніны і яго жонка Жэня, мае былыя дружбакі. Яшчэ... Запрашаў ледзь не кожны, хто сустракаў на вуліцы, таму ўрэшце я пачала хадзіць гародамі.

У апраўданне сваё хачу растлумачыць любому з чытачоў-скептыкаў, што такая ўвага з боку старынян — не сведчанне нейкага там захаплення маёй асобай. Гэта ў першую чаргу сведчанне гасціннасці землякоў, іх ветласці і дабраты.

Не ў кожнага з памянёных дабрадзеяў я была. Інакш не мела б часу схадзіць на сенажаць і ў сад, у бібліятэку, на ферму. Некалі было б і занатаваць тое-сёе.



Госць у хаце — вялікая падзея ў жыцці сялянскай сям'і.

Госця хочуць сустрэць як найлепш, яму стараюцца паказаць лепшае, што набыта, зароблена мазалём, — ад самой хаты і прыбудоў да кублоў, шафаў і фотакартак родзічаў.

Госця частуюць, — а гэта ўжо цэлы абрад, у якім сам госць пасіўная фігура, напалову бажок, фецiш. Галоўныя ж дзеячы і ахвяравальнікі — гаспадыня і гаспадар, прыбраныя, задаволеныя, вясёлыя.

Госця садзяць за стол — лепшы і ў лепшай хаце стол, які заставілі смажанінай і печавам загадзя або застаўляюць прысмакамі ў госця на вачах... І калі ўжо быць да канца шчырым пры апісанні прыёму гасцей у сялянскай, старынскай прынамсі, хаце, то трэба адзначыць, што сярод місак з каўбасамі, маслам, сырамі і сырнікамі, сярод слоікаў малака, патэльні з яешняй на стале перад госцем будзе пастаўлена бутэлька — не абавязкова забароненага самагону, не абавязкова белай, — бутэлька віна, напрыклад! «Бруснічнае» — ушацкай маркі. Дэсертная вада таго ж гатунку. Іншае што...

Варта, аднак, расказаць, як частавалі, пра што вялі гутарку ў некаторых хатах, дзе я гасцявала. Гэта, між іншым, згодзіцца далей.

У ц ё т а к Г а н н ы і П а л а н е і. Цётка Паланея заўважыла мяне з акна і так узрушана замахала рукамі, так зычліва засмяялася, што я хуценька развіталася з другой дальняй сваячкай, Кацяй Дарахвеевай, якая сустрэла мяне на вуліцы, хуценька перабегла двор, зайшла ў душнаватае сутонне старой хаты і пацалавалася з Паланеяй. Не ведаючы, што і як сказаць ёй, выняла з кішэні пачак вафляў «Сняжынка» (забылася аддаць Кацінай малой) і аддала іх гэтаму даросламу немаўляці...

Прыгожая цётка Паланея. Добрага росту, стройная, строгіх і правільных абрысаў твар.

Гледзячы на Паланею, кожны ўздыхае і прыгаворвае:

— Гэткім цёмным жыццём чалавек звекаваў!..

Паланея не спрачаецца. Яна нямая... Але на калгасную, а цяпер саўгасную працу ходзіць дзень у дзень. Дома вышывае, вяжа, тчэ пасцілкі і даволі строга «выхоўвае» сястру сваю цётку Ганну. Мне яны родныя часткова. Яны і мой бацька — дзеці аднаго бацькі, але розных матак. Тым не менш, адносіны паміж намі блізкія. Гэтаму не пашкодзіла і смерць майго бацькі, якога гэтыя дзве адзінокія жанчыны вельмі любілі, а праз яго — і маці нашу, і нас, дзяцей ягоных.

Ганна паставіла на стол каўбасу, сала, сыр. Паланея прынесла яшчэ і масла... Ганна прыставіла да стала нізенькі ўслон. Паланея адсунула яго і падсунула вышэйшы: седзячы на ім, зручней даставаць ежу...

Ганна распытвала пра родных, пра горад, працу. Я пыталася пра іх жыццё.

Цётка Ганна сказала:

— Жывём так, як ніколі яшчэ не жылі! Мне во пенсію далі, а я ж яшчэ, ты во сама пахваліла, не старая... Да смерці б так дажыць!

Гэтыя словы гучалі для мяне, як песня. Я добра помніла, як сурова абыходзіўся лёс з гэтай малой сям'ёй. На гаспадарцы без мужчыны цяжка. Не хапала хлеба, скораму. Мерзлі без дроў. Насілі зрэбнае. Вайну і пасляваенную разруху ледзь ператрывалі.

У ц ё т к і М а р ы н ы і д з я д з ь к і В а с і л я К і р п і ч а. (Адметнае прозвішча!.. Чаму ўжо не — Цэглы? І наогул у нашым раёне, у мясцінах нашых такія часам прозвішчы сустракаюцца, што дзіву даешся. Чалавек ні слова па-руску не ўмее, а прозвішча яго — Іваноў. Страчаецца прозвішча яўна французскага паходжання: Дук! Можа і паланілі



ıісь гаротнага ўцекача-напалеонаўца палахлівыя сінія вочы дзяўчыны ыкавых лапціках і застаўся ён назаўжды сярод векапомных бароў зёр нашых? Хто ведае!..)

Многа ў старынскім краі рупных гаспадароў, але такіх дбайных, як ідзька Васіль, не так ужо часта сустрэнеш. Багата добрых гаспадынь Старыне і яе наваколлі, але куды ім усім да цёткі Марыны!

Быць добрым гаспадаром — значыць не толькі любіць працу. Гэта ачыць яшчэ і ўмець рабіць усё, чаго патрабуе гаспадарка.

Дзядзька Васіль умее ўсё. Калёсы трэба — зробіць калёсы, граблі— к змайструе, ды такія лёгкія, гладкія, што няма адбою ад заказаў. ыходзяць маладзіцы і просяць:

— Дзядзечка, можа грабелькі зробіце? Вашымі ж гуляючы капку награбеш...

Дзядзька не адмаўляецца.

Ён і хаты рубіць, і сад пасадзіць умее, і пчол развесці. Ён збуда' хаты сабе, сямі сваім дочкам і сыну Івану, калі той вярнуўся ронта да маладой жонкі сваёй Тані Івановай з Чвёртак і пачаў празаць настаўнікам. Вось толькі сыну Міколу, «Колечку», хату стаь не давялося. Нават труну не давялося пагабляваць... І дзе закаы яго косці, не ведаюць старыя бацькі. Плачуць па ім, гледзячы дрэнненькую павялічаную фотакартку, што вісіць на сцяне побач ібразом.

Доўгае жыццё за плячыма цёткі Марыны. Яна сівая, маленькая, доўгай паркалёвай спадніцы... Я гляджу ў яе сінія «старажытныя» ы, на твар, збароэнены доўгімі глыбокімі маршчынамі, на вузлавая рукі, што ўрачыста адразаюць ад бохана вялікія лусты, і паціху лохаюся ў душы: «А можа ты, цётачка, і сапраўды чараўніца?..» й-сёй у вёсцы за вочы кліча цётку чараўніцай. Чаму? Ды, відаць, му, што яна шмат ведае: калі найлепш пасеяць расаду, як ўратаваць ову, калі тая аб'есца, ці вылечыць ёй «сіську», патрэсканую.

Сёй-той лічыць цётку Марыну скнарай. А яна проста беражлівая. чужога не вазьму, і свайго не раскідаю», — такое цётчына правіла. е тут трэба зрабіць папраўку. Чужога цётка сапраўды не бярэ, вось сваё — раздае. Невыводныя госці ў цётчынай хаце! Дочкі, сын нявестка, унукі, праўнукі, сёстры, швагры, пляменнікі, іх сябры... кожнага з тых, хто наведвае хату пад старымі бярозамі, чакае гасны стол, звонкі кілішак і сама вясёлая мая цётка Марына. Застася ў яе ад маладосці ўменне смяяцца шчыра і молада. Цётка трэне госця, вып'е і закусіць разам з ім, раскажа пра мінулае Во, як было!») і цяперашняе, а ў дзень ад'езду чалавека ўстане ней і спячэ пірог на дарогу, наварыць яек...

Дзядзьку Васілю не пашанцавала: крыў лазню і зваліўся з лесвіцы, гу пабіў. Каб гэта ў маладосці, то даўно б загаілася, а цяпер... ыкільгае дзядзька напружана і смешна, разам з крэслам: на ім — орая дзядзькава нага. Касіць не можа, дык хоць касу трэпле мяншкай, пасоўваючыся на адной назе і на крэсле следам за касцом, лі косяць паблізу ад хаты.

Дзядзька лічыць, што я — «з пісацеляў», таму расказвае даўнюю, е такую жывую ў яго памяці і вельмі дарагую для мяне гісторыю...

Калісьці некаму з дзядзькавых «злоснікаў» захацелася, каб яго скулачылі. Да разбору справы (дзядзьку не раскулачылі ўсё ж, не ıло за што) давялося яму пажыць каля Оршы. Зусім замаркоціўся б лавек, каб не праца. А там яна выдалася такая слаўная, што лепай не ўявіш...

Дзядзьку Васілю разам з іншымі майстрамі давялося будаваць дачу для Янкі Купалы ў Ляўках...

Я слухаю ўспамін і моўчкі караю сябе: чаму раней не прыехала сюды! Хоць бы Уладзіславе Францаўне, нябожчыцы, пахвалілася... Як дораг быў для яе кожны ўспамін, кожны жывы штрышок з жыцця Івана Дамінікавіча!

— Вялікі ён чалавек быў, прыгожы чалавек,— гаворыць дзядзька ў захапленні і дадае самотна: — Памёр, кажуць... Як ён з намі абхадзіўся, з рабочымі! І не паверыш, калі скажу... Пабудавалі гэта мы дачу, над Дняпром самым. Добры домік! Вось ён, Купала, на банкет нас запрасіў. Прыйшлі гэта мы, паселі за стол, саромеемся. А Купала разумеіць. Прапанаваў наліць у шклянкі і ўжо гаворыць: «Ну, таварышы цесляры, па адной вып'ем — пасмялеем!..» Выпілі, закусілі. А ён яшчэ: «Па адной вып'ем — кульгаць будзем!..»

Мы з цёткай смяемся, смяецца і дзядзька і расказвае, што давялося ім піць за любімую богам «тройцу» і за тое, што «дом з трыма кутамі не бывае».

— Падзякаваў ён нам і пайшоў. Мы ж яшчэ доўга балявалі...

Дзядзька змаўкае на момант, а потым нібы сам у сябе пытае:

— Ці цэлы гэта домік той? Можа спалілі вайной, хто ведае.

— Спалілі, дзядзька. І домік, і кніжкі Купалавы...

— Ай-я-яй! — якоча стары, і вочы яго пільна ўзіраюцца ў мой твар, нібы правяраюць, ці не жартую. — Гэта ж мы як работалі! У нямецкі вугал рубілі...

Мы з цёткай маўчым.

Цётка кідае позірк на Колеву фотакартку... Ва ўсе нашы размовы ўрываецца слова «вайна» — як цяжкі ўспамін, як боль, як трывога.

— Хоць бы новай не было, божа мой, божа! — уздыхае цётка Марына.

— Можа і не будзіць. Добры галава ў нас,— супакойвае дзядзька.— Усюдах ён ездзіць, усім тлумачыць, як і што...

Не спадзявалася я, што ў звычайнай цётчынай хаце пачую столькі цікавага і пра кіраўніка нашай дзяржавы, і пра свайго любімага паэта.

У стрыечнай сястры Улляны. Пайшла да яе з ахвотай. Па-першае, таму, што паважаю гэтую дасціпную і працавітую сваячку. Па-другое, хацела высветліць, што за чалавек яе сын Васіль, пра якога чула ад іншых. Трэцяй прычынай было тое, што Улляна ў хвіліны нашай першай кароткай сустрэчы на пытанне, як жыве, адказала неяк невыразна: «Не даюць жыць». І колькі часу ні бавіла я ў гасцінным доме цёткі, не магла выбавіцца ад трывогі, што пакінулі ў душы словы мажнай рухавай жанчыны з чорнымі, як зямля, рукамі. (Улляна каторы ўжо дзень палола кукурузу, а пасля такой працы, як гавораць старынскія кабеты, рукі хоць у содзе пар — не адмыеш.)

Улляна працавала ад усходу да цямна. У абед з ёй сустрэцца таксама не выпадала: яна даіла карову, пераймала цялушку, карміла парсюка, на бягу перакусвала і зноў спяшалася ў поле. Якое там гасцяванне! І я хвалявалася, што так вось адбуду свае дні, а з чалавекам, якому цяжка, не пагавару нават...

Яна пачала з Ваські.

З малой мудронае шафкі, што прыбіта на сцяне накшталт дамашняй аптэчкі, Улляна дастала і расклала на ложку жаўтаватыя даўнія і больш выразныя пазнейшыя фотакарткі. Яна — з малым... Яна — з дарослым хлопцам... Той жа хлопец — адзін або ў кампаніі двухтрох таварышаў свайго ўзросту... У юнака хударлявы твар, уважлівыя добрыя вочы пад спакойнымі дужкамі броваў. Гэта — Васіль, адзіны сын маёй стрыечнай сястры. Яе дачушка Дзіна памерла вайной. А Васіль...

Гадаваўся хлапчук... І песціла яго Улляна, як магла, і гаравала з ім маленькім у час акупацыі. А пасля вайны вучыла ў школе. Калі згадаць, што калгас у Старыне быў адстаючы, працадзень амаль нічога не даваў калгасніку, то можна пагадзіцца, як дорага абышлося Улляне навучанне сына. У школе яго «над усімі ставілі». Але ў інстытут паступіць Васілю не ўдалося. Не меў на што ў горад паехаць. Таму спачатку ён недалёка падаўся: на курсы экскаватаршчыкаў. Скончыў іх. Гады два папрацаваў на асушцы балота, а потым, ні слова нікому не сказаўшы, падаўся жаўнінскі хлапчына, ажно ў Маскву! Першае пісьмо маці прыслаў ужо тады, калі залічылі студэнтам інстытута тонкай хімічнай тэхналогіі імя Ламаносава. На прыёмных экзаменах зарабіў, праўда, адну тройку, па матэматыцы. Экзаменатару не спадабалася, што некаторыя матэматычныя тэрміны гучалі на незразумелай яму беларускай мове... Зараз Васька на трэці курс перайшоў. Мяркуючы па ўсім, што ведаю аб гэтым сваім пляменніку, — інстытут ён скончыць. Тым больш, што цяпер і жыццё не тое — лягчэйшае.

Але Улляна канчае гаворку аб сыне даволі драматычна:

— Мой сын — маё і гора. Скардзіцца няма на каго.

І я, як кажуць, вяртаюся да рэчаіснасці. Асцярожна пытаюся, хто ж усё-такі не дае ёй жыць, як, чаму. І па гэтай асцярожнасці Улляна пазнае, што спачування, калі зманіць, не будзе, аднак паўтарае свой ранейшы адказ: «Не даюць...»

Я іду на спрэчку.

Я гавару, што калі б ёй так ужо шкодзілі, то ці паставіла б яна новую хату, напрыклад! Ці мела б, на адну сябе, вялікую гаспадарку: пяцьдзесят сотак агарода, карову, цялушку, парсюка, курэй? І ці здолеў бы, урэшце, яе сын вучыцца ў інстытуце? І хто, нарэшце, не дае жанчыне жыцця?

— Ты думаеш, я на ўласць скарджуся? Не!.. Уласць савецкая, добрая. Але каторыя начальнікі псуюць яе...

Вось дык праясніла пытанне!

А за гэтым пайшлі скаргі.

Брыгадзір крыўдзіць удоў, не першым дае ім коней агароды засяваць. На сена для кароў ім адпускаюць участкі далёкія і з горшай травой. Канцылярысты саўгасныя вымушаюць жанчын па некалькі разоў хадзіць за даведкай. Дырэктар ёй не дазволіў узяць грузавік, каб з'ездзіць усёй радпёй на хрэсьбіны да сястры, а Грышкевічу — адразу даў. Хіба грошы не тыя самыя? Няма жыцця бабам, і ўсё тут! Або з прэміямі што робіцца? Неаднолькава хіба працавала яна з Аленай Валашышкай? Аднолькава, дзень у дзень, сотка ў сотку. А вось прэмію далі ёй, а не Улляне!..

— Але чаму?! — пытаюся.

— Язык... Я ж кожнаму — скажу!

Што Улляна можа «кожнаму сказаць», я не сумняваюся. Веру, што з гэтай іменна прычыны прэмію маглі ахвотней прысудзіць ціхэйшай удаве Алене. Але ці спацяшае гэта? І ці такія ўжо дробязныя астатнія Улляніны скаргі?

У брыгадзіра. Брыгадзір — самы большы ў Старыне «начальнік». Ён кіруе брыгадай, у якой 52 чалавекі штатных рабочых, 14 коней, 120 двароў і 470 гектараў ворнай зямлі. Мне здаецца, што гэта — нямала. І мяне вельмі хвалявала, якім акажацца чалавек, да каго штодзённа ідуць за парадамі, з кім найчасцей абмяркоўваюць

і так ці іначай вырашаюць пытанні бягучага жыцця мае землякі-старыняне.

Ён высокі, плячысты. Прыгожы. Адслужыў армію. А родам — з Папоўкі, не наш. Гаворка чыстая, адрывістая. Нібы незадаволены чымсьці. Маім познім прыходам? Пытаннямі? Але ж я задавала пытанні не адразу. Спачатку пагаварыла з яго жонкай. Яна мая равесніца. Працуе настаўніцай, і завуць яе цяпер не «Мінкай», як некалі, а Нінай Барысаўнай. На руках у гэтай чарнабровай красуні — малое, дрэнчыцца перад сном...

З добрага, як мне здавалася, пачала я гутарку з брыгадзірам. Сказала, што большасць людзей, з якімі сустрэлася, задаволены жыццём у саўгасе, жадалі б да смерці так дажыць... Мне ўспомніліся шчырыя словы цёткі Ганны...

Але брыгадзір адрэзаў:

— Чаму не! Пенсію ваша Ганна хітрыкамі атрымала. Гадоў ці не прыбавіла! І колькі іх тут такіх, пенсіянераў гэтых!..

Быццам штосьці абарвалася ў маіх грудзях, і здалося, што ў хаце пацямнела: магчыма, ноч зазірнула ў нізенькія вокны старога барысішынага сутарэння, дзе да часу жыве і зяць Барысіхі?

А далей пайшло яшчэ горш.

Я папрасіла, каб брыгадзір расказаў пра лепшых людзей брыгады. Ён катэгарычна адмовіўся:

— Няма ў нас лепшых! Усе яны роўныя...

— Як гэта няма, як гэта — «роўныя»? — не сцерпела я. — У вас столькі зямлі, і на кожным кавалку нешта пасеяна, расце. Хіба гэта не людзі рабілі? Стагі канюшыны накошаны — гэта хто накасіў? «Яны», «роўныя»...

Я не збіралася пісаць пра гэта. Але не магу іначай. Дужа балюча мне было слухаць такія словы ад брыгадзіра. За яго самога балюча і за людзей нашых крыўдна.

З брыгадзірам я мяркую пагаварыць яшчэ, тым больш, што некалькі пазнейшых сустрэч паказалі і дзелавітасць маладога кіраўніка, яго паваротлівасць і некаторыя іншыя станоўчыя якасці, але вось гэтай гутаркі не магу выкінуць з сэрца. Бо за першымі стрэламі па сваіх паследавалі яшчэ больш балючыя і крыўдныя...

Але пра гэта крышку пазней.

## VI. ДЗЕНЬ БРЫГАДЫ

Напішы я гэтыя два словы ў двукоссі, яны азначалі б мерапрыемства, што плануецца раз у месяц і праводзіцца ў брыгадным клубе — доўгай, падобнай на свіран будыніне, што стаіць недалёка ад таго месца, дзе некалі было «наша дэпо».

Але я не хачу, каб іменна так разумелі загаловак. Бо той «дзень брыгады», што быў праведзены сёмага ліпеня, не вызначаўся нічым цікавым. Мне ўяўлялася: вось сядуцца людзі і пагавораць пра ўсе свае клопаты, як належыць. Аж не. Пасядзелі жанчыны ціхенька ў клубе, паслухалі спрактыкаванага гаваруна-агітатара, які гаварыў так гладка і без паперак, што жанчынам некалі было ўнікнуць у сэнс яго гаворкі, невядома было, пра што запытацца. Брыгадзір таксама выступіў. Заклікаў лепш даглядаць кукурузу. І ўсё...



Дзень брыгады — гэта працоўны дзень кожнага рабочага. Непрывычна гаварыць пра нядаўніх калгаснікаў, што яны — рабочыя, але трэба. Бо ў іх, сапраўды, строга рэгламентаваны рабочы дзень, пэўныя нормы выпрацоўкі, грашовая, і таксама пэўная, аплата. Яны члены прафсаюза (маюцца на ўвазе «штатнікі»), у іх свой рабачком у Дольцах, дзе турбуюцца пра іх адпачынак і бюлетэнь на час хваробы, якія аплачваюцца.

Можа і вымушанае, — не ведаю, — але правільнае рашэнне вынесена наконт старынскога краю. Навошта падтрымліваць дзесятак дробных нерэнтабельных калектыўных гаспадарак, трацiцца на штаты, на сувязь і г. д! Навошта драбніць планы і нівы, дзяліць на мноства гаспадароў тэхніку?

«Вялікадолецкі» — вялікая дзяржаўная гаспадарка з двух аддзяленняў, дваццаці васьмі брыгад, з сотнямі гектараў ворнай зямлі і сенажацяў, з дзесяткамі ферм, дзе гадуецца безліч галоў свіней, цялят, птушкі, дзе пастухі даглядаюць вялізныя статкі дойных кароў і дзе сеюць жыта і лён, бульбу і кукурузу. Тут стала магчымым лепш скарыстоўваць тэхніку, уводзіць перадавыя метады апрацоўкі зямлі, правесці раздзяленне працы і рацыянальней скарыстоўваць рэзервы.

І кіруе гэтай гаспадаркай усё ж такі адзін чалавек, дырэктар. Саўгас расце, набірае моц. У яго свае сур'ёзныя, — няхай сабе, у параўнанні са старэйшымі буйнымі гаспадаркамі, скромныя планы: атрымаць з гектара 11 цэнтнераў зерневых, 120 цэнтнераў бульбы, 400 цэнтнераў кукурузы. Так на пачатку. Далей, вядома, пойдзе лепш. У гэтым упэўнена большасць людзей. Упэўненасць мае цвёрды грунт: рубель. Каго цяпер трэба ўпрошваць ісці на працу? Ды нікога, хіба што, у гарачую пару, пенсіянераў, бо тыя хочуць — ідуць на дапамогу, хочуць — дома сядзяць! Людзі ідуць: на сяўбу, на скароджанне, на праполку, на касьбу, на жніво, на вывазку гною, выбіраць бульбу — на ўсякую саўгасную працу. І паколькі робіцца ўсё, чаго патрабуе зямля, то яна з кожным годам будзе радзіць больш.

Рана ўстаюць у Старыне. Раней за сонца. Тады, калі ў халаднаватым паўзмроку яшчэ пацеюць сцены хат, і сыры туман пацягваецца ў паветры, а на кожным лісце, кожнай травінцы ляжыць раса.

Хто ўстае раней за ўсіх, цяжка вызначыць. Манька Арыніна, па-сталаму Хамічонак Марыя, лічыць, што іменна яна ўстае першай. Да таго, як стрэлкі насценнага гадзінніка з гірай-шышкай на доўгім ланцужку пакажуць чатыры, Манька паспявае падаіць карову, замяшаць свінні, пакласці дровы ў печ. Мужа на гэтую справу не будзіць. Той выстругваў клінок для ямчэйшай падгонкі касы і пасек палец, колькі дзён не выходзіць на працу — бюлетэніць. Ды калі б і пабудзіла, яна сама скажа кожнаму, то толку з гэтага было б мала. Яе чалавек — чарнявы, з шэрымі вачмі спакойны жартаўнік — калі і прачнецца, то перш за ўсё возьмецца за кніжку. Ён чытае запоем, і ўжо рады-радзенькі, што надарылася гэтая няшчасная траўма: працаваць без правай рукі сапраўды нельга, затое чытаць можна хоць цэлы дзень! Калі я зайшла да іх, Міхалка хаваў пад падушку «Да новага берага» Лацiса. Гаспадар кпіць з жонкі, калі тая пахваліцца, што скончыла восем класаў (гэта было, праўда, даўно).

— Я скончыў усяго пяць, а яна на тры больш, а не ведае, хто такі Мао Цзэ-дун, дайце рады!..

Манька падрыхтуе чыгункі, загадае Міхалку зварыць ці дварыць страву, выгнаць карову, а сама — за касу і ў поле: касі, каса, пакуль раса! І ўсё бягом, з шумам, з гоманам. Манька не ўмее гаварыць ціха, не ўмее і працаваць паволі. Калі я спытала ў Сцяпана Скара-

джонка, колькі сотак у дзень ен скошвае, дзядзька адказаў, што норма — сорак, але выканаць яе нялёгка. Марыя скошвае ў дзень па сорак пяць! Хай сабе канюшына, хай палегліца — усё роўна... Гэта маладая зусім, гадоў ёй дваццаць тры, жанчына з шырокімі плячмі; далікатнымі, але загрубелымі ад працы рукамі і доўгімі маршчынамі ля вачэй: штодзень жа на сонцы...

Нікіпар Бугай мог бы сказаць, што і яго дзень пачынаецца тою ж парой, хаця і не тым заняткам, што ў Марыі. У яго другі клопат. Дагледзець хатнюю гаспадарку, паснедаць на скорую руку і хутчэй на свінаферму, дзе Нікіпар працуе на прыгатаванні кармоў. Ці пагода, ці непагадзь, ці ідуць на іншыя работы суседзі, ці не, — дзядзька Нікіпар не глядзіць. Ён, вядома, не помніць лічбаў, што запісаны ў абавязацельствах саўгаса. Але затое дзядзька помніць адну простую ісціну: скаціну трэба карміць, і тады будзе сала!.. І пакуль прыйдуць на ферму маладзенькія гаспадыні — Аля Гунько і Ніна Казлоўская — дзядзька Нікіпар падвязе на кармакухню бульбы, вады, канцэнтратаў, сыроваткі — адным словам, усё, што трэба для снедання парасятам і падсвінкам.

Ён задаволены працай. Ён бачыць яе жывыя плады.

Але бывае, што пранізлівыя чорныя вочы дзядзькі суравеюць...

Апаўдні на ферму зайшоў брыгадзір. Спыніўся ля загародкі, дзе Нікіпар памагаў дзяўчатам падкінуць свінням канюшынавай сечкі. Брыгадзір загадаў:

— Ты б, Нікіпар, вады ў карыты паналіваў.

— Ужо наліваў, пілі, — адказвае Нікіпар.

— Налі яшчэ! Паходзіць каторая і зноў пап'е. Ты ж вот ці я не па разу ў дзень п'ем!

— Дык гэта, Іван, гледзячы, як пад'ясі...

Брыгадзір змаўкае, а потым шыбуе да кармакухні, і адтуль чуваць, як грозіць ён рэвізіяй камусьці з тых, хто выдае канцэнтраты для свінафермы...

У Старыне няма фермы буйнай рагатай жывёлы, затое ёсць ферма па ўтрыманню і догляду цялят. Чорныя, рыжыя, палавенькія, рабыя цялушкі красуюць на загоне ў паўдзён: каторая ляжыць на пляцы і стала жве жвачку, каторая схавалася ва ўтульным сваім доме-цялятніку, іншая ж далікатна пашчыпвае падарожнік ля загароды, нібы хоча звыш таго паўкілаграма, які яна нагульвае кожныя суткі, узяць яшчэ некалькі грамаў. Але не ўцяміць цялушка, што не падрасці б ёй і не патлусцець, каб не стаpaнне двух чалавек — Васіля Парахонькі і Андрэя Жура. Гэта яны даглядаюць немалы гарэзлівы статак, вышукваюць для яго пашу, багатую травой, пояць, у абед падкормліваюць свежай канюшынай. Рана выходзяць на сваю працу Парахонька і Жур і позна пакідаюць яе...

Раніцай маткі будзяць сваіх маладзенькіх дачок і сыноў (старэйшыя — тыя прывыклі ўставаць на досвітку). Кацярына Змітракова (яна ж Казлоўская) ласкава кранае пасцілку ля ружовых Нініных шчок: «Пара, дачушка, на фірму пара...» Ніна пацягваецца і ўстае бадзёра. Кідае позірк на сцяну. У рамцы за шклом — фотакартка чарнявага хлопца ў матроскай форме. Праслаў нядаўна. Суседаў сын. А служыць аж на сцюдзёным Паўночным моры! Ніна пацепваецца ды барздзей засцілае свой вузенькі дзявочы ложак, затым снедае і спяшаецца на працу. А Кацярына дома спраўляецца. І пакуль самой на працу, адчыніць шафу і яшчэ раз агледзіць Ніні пасаг. Навейшая з доччыных сукенак — ружовая, шарсцяная — сорак рублёў каштуе!



— Мая Дунечка, скажы там і маці: добра жывець Кацярына, багата жывець, дзякуй богу!..

Ах, Кацярына! Яна такая ж, здаецца мне, як і была: тыя ж бліскучыя чорныя вочы, тая ж стройная прыгожая постаць, хоць і трох дзяцей нарадзіла жанчына. Кацярына не дачакалася з вайны мужа... Але яна і цяпер, казалі мне, танцуе і спявае, калі ў хаце збіраецца моладзь — Ніныны сябры і аднагодкі. Кацярына — з моладдзю. І няхай не старэе! Няхай да глыбокіх гадоў молада глядзяць яе вочы!

Да будыніны клуба раніцой ідуць чародкамі людзі — за нарадам. Якой толькі гаворкі не пачуеш тут! Кабеты расказваюць, хто што варыў на сняданне. Успамінаюць падзеі ўчарашняга дня. Лаюць між сабой брыгадзіра, калі той несправядліва размеркаваў працу. Жартуюць з тых, хто не раскатурхаўся як след пасля начы...

Раніцай можна бачыць, як да цэнтральнай сядзібы саўгаса, у Дольцы, выязджаюць на веласіпедах мужчыны: механізатары, рабочыя будаўнічых брыгад. У саўгасе шмат будуюць. Я агледзела старынскія фермы і свірны — і радасці маёй не было канца. Няхай яны не самыя шыкозныя, няхай горшыя за тыя, што здымаюць у кіно, але ж яны — у Старыне, у вёсцы, што была вельмі панішчана і запушчана да нядаўняй пары. Будынкі гэтыя з гонкага ядранага бярвення, пад гонтавымі дахамі, прасторныя, зручныя.



Манька ўспамінае, які благі быў свінарнік у Старыне, калі яна яшчэ там працавала. Цесная няўцепленая адрына была збудавана так, што да жывёліны падступіцца нельга. Свінні граzлі ў гнаі, бо жыжа не мела сцёку, і жанчынам даводзілася вычэрпваць яе бляшанкамі...

У цяперашнім старынскім свінарніку неблагі парадак. Гной адвозяць па падвяснoй дарозе. Здзіўляе толькі, чаму не механізаваны і падвоз корму. Запыталася ў брыгадзіра — той сказаў, нібы сродкаў на пераабсталяванне дарогі не адпускаюць. Пагаварыла з дырэктарам саўгаса — той запэўніў, што пабудуюць другую, спецыяльна для дастаўкі кармоў. А пакуль што дзвюм дзяўчынам — Алі і Ніне — цяжкавата прыходзіцца...

Чалавека, які даўно не быў дома, радуе і будаўніцтва прыватнае. Новыя хаты ў Старыне растуць, як грыбы. Будуюць тыя, чыё жыллё састарэла. Будуюць маладажоны. Будуюць проста таму, што хочуць мець лепшы дом.

Але, разам з радасцю, ахоплівае і трывога... Як бервяно — то і дрэва, як хата — то і дзялянка. Радзее, адцясняецца далей і далей

ад вёсак лес. Я думала аб гэтым, калі ляцела ў самалёце з Полацка ў Мінск і глядзела на зямлю зверху.

Лясы наддзвінскія, лясы!
Не знаю большае красы,
Як ваш убор і гонкі стан,
Як ваш зялёны акіян!.. —

пісаў Пятрусь Броўка.

Мае разважанні былі цяпер крыху інакшыя і своеасаблівыя. Напрыклад, мяне здзіўляла, як гэта мы ў гады вайны маглі яшчэ хавацца ад нямецкіх самалётаў пад дрэвамі, у лесе? Цяпер свіціцца кожны вяршок... Ды справа, вядома, не ў тым, каб лес зберагчы для схованкі. Ад чаго нам на сваёй зямлі, пад сваім небам хавацца! А вось кепска гэта і для вады, і для травы, і для ўсяго нашага клімату.

Дерево — великан,
но оно безоружно!
На защиту дерева
встанем дружно!

Такі надпіс бачыла я на лесапасадках пад Полацкам. Ёсць людзі, што турбуюцца пра лес. Шкада, што гэтага бракуе іншым гаспадарам.

Будуюць хаты, хлявы, пуні, лазні, павеці — няўжо для кожнай такой будоўлі патрэбен абавязкова лес? На Ушаччыне шмат гліны і пяску. Можна ўсюды наладзіць выраб цэглы ці бетону, шлакабетону ці саману? Хіба кепска выглядаў бы цагляны кароўнік або клуб з цэглы? Камяніца ў Старыне — як гэта хараша!.. І колькі б лесу сэканомілі, наколькі багацейшай і прыгажэйшай была б прырода роднага краю!

Я веру, што з часам мае землякі па-сапраўднаму зразумеюць вартасць такой перамены ў сваім будаўніцтве, і знойдуцца для гэтага і сродкі, і ўменне, і жаданне!..

Але я, здаецца, крыху адступіла ад задумы — хоць крыху паказаць дзень брыгады...

Мне згадваецца нядзеля — перадапошні з пражытых у Старыне дзён. З раніцы захмарылася, падзьмуў моцны вецер. Збіралася на дождж, якога даўно чакалі.

Разам з пляменнікамі Васілём (ён якраз прыехаў з Масквы на канікулы) і Іванам (сынам стрыечнай сястры Агапкі, што жыве ў Ахвераўшчыне) я ішла ў чарговыя госці. Хлопцаў, праўду сказаць, не запрашалі. Але я ведала, што і ім будуць вельмі рады. Адной жа ісці не хацелася.

Дождж урэшце лінуў. Я крыкнула хлопцам, каб беглі пад страху школы, і тыя прыпусцілі — абодва лёгкія і стройныя, у светлых, прамоклых крыху сарочках, а я топала пад дажджом у сваім «шляхетным» макінтошы і чаравіках на «шпільках» і тым часам думала звычайную для больш-менш сталага чалавека думку: як хутка бяжыць час! Вось я, нібы яшчэ маладая, а гэты Іван назваў «цёценькай»; Васіль, як масквіч, а таму і больш адукаваны ў сэнсе манер, на такі зварот, відаць, не рашыўся. Ды што зробіш! Гады! Расце вёска, растуць дрэвы, растуць людзі... І хіба гэта дрэнна! Хіба можна спыніць гэта? Ці мала цемрашалаў пнулася на такую агідную справу, але што з гэтага заўжды выходзіла? Вёскі ўставалі, дрэвы пачыналі расці з карэнняў, а людзі... Вунь ён, стаіць на ганку школы, страсае кроплі з прамых русых валасоў і ўсміхаецца насустрач мне добрай сарамяжлівай усмешкай... Вася... Чалавек сорак першага года нараджэння, якога, калі б не вечная сіла жыцця, магло б і не існаваць...



Да гаспадароў, куды мяне клікалі, дайсці не давялося. Дагнала на вуліцы зялёная «Пабеда», з яе выйшаў вясёлы гаваркі чалавек з румяным тварам. Круглыя блакітныя вочы яго выказвалі столькі ўвагі і сур'ёзнасці, што нельга было не спыніцца і не паслухаць усё, аб чым чалавеку хацелася сказаць.

Таварыш расказаў, што ён з Мінска, але цяпер прыехаў на адпачынак да родных. Я жыву ля парка Чалюскінцаў? Гэта ж цудоўна! Ён працаваў на будоўлі мікрараёна. Сам з Весніцка, а ў Старыне ў яго дзядзька. Чалавек помніць майго брата Сяргея... І з прычыны такой прыемнай сустрэчы прапануе мне перайсці ў іхнюю кампанію (кампанія — дзве жанчыны, дзве дзяўчынкі і яшчэ адзін мужчына — сядзіць у машыне і назірае за намі)... Я адмаўляюся, у мяне важкі аргумент: што скажуць людзі, якія чакаюць нас? Тады незнаёмы яшчэ зямляк пагаджаецца і запрашае хоць сфатаграфавацца на памяць. Добра! І вось мой ветлівы субяседнік — ён назваўся Сямёнам Мацвеевічам Місуновым — ідзе да машыны, бярэ ў спадарожніка фотаапарат, а на плечы апранае пінжак. На адвароце пінжака — залатая зорка Героя Сацыялістычнай Працы...

Хлопцы сцішыліся і глядзяць пачціва. А ў маёй памяці паўстае заметка «Звязды» пра героя-бульдазерыста. Толькі я не ведала тады, што гэта — пра земляка, пляменніка старынскога дзядзькі Кандрата... (А колькі яшчэ добрых, славутых землякоў я не ведаю!)

Што ж, добры прыклад маюць старыняне — людзі, якія зусім нядаўна пачалі называцца рабочымі!

## VII. РАЗМОВА НА РАЗВІТАННЕ

Аднак пара і канчаць. Мне, прызнаюся, не хочацца гэтага. У самы апошні момант прыходзяць у галаву новыя факты, думкі, і я дакараю сябе, чаму не скарыстала іх дзесьці вышэй, дарэчы.

Мне не хочацца развітвацца са Старыной, з маімі землякамі і блізкімі. Заўважу адно, каб крышку рэабілітавацца перад суровым чытачом за свае сімпатыі, калі я гаварыла і буду гаварыць пра родных і землякоў. І сястра мая, што забыла калісьці азбуку, а зараз сама настаўніца, і старэнькая цётка Марына, якая тужыць па сынку, і народны пляменнік Васіль, маскоўскі студэнт, і ўсе тыя, каго назвала я ў гэтым творы,— хіба яны не народ? Хіба лёс менавіта гэтых людзей не падобны да лёсу большасці?

Ёсць патрэба пагаварыць, на расстанне, аб некаторых персанажах занатовак, выказаць канчаткова свой погляд на закранутыя моманты іх жыцця.

Хіба магу я, напрыклад, пакінуць незаўважаным выпад брыгадзіра супроць цёткі Ганны! Я не веру таму, што сказаў пра яе брыгадзір. Бо навошта ж ёй сапраўды дадаваць гадоў?! За яе плячыма — куды больш, чым паўвека, жыцця. І якія прыемныя словы я ні гаварыла б пра выгляд яе, яна разумее, што гады зрабілі сваё. Цётка пайшла ў калгас сярод першых, недзе ў трыццатыя гады. Значыць, трыццаць з лішкам гадоў яна працуе на дзяржаву, і дзяржава не забыла стараннасці простай жанчыны. І жыць ёй спакойна! Яна заслужыла такое права. Заслужылі і астатнія, хто шмат папрацаваў дзеля грамадства.

А цётка Марына?

Мяне цешыла, што і ў яе доме дастатак і ўпраўка. Гледзячы на цётку, я заўжды думала пра даўгавечнасць простага жыцця. Гэта ж колькі яна перажыла на сваім вяку, колькі пахадзілі яе ногі, колькі

зрабілі рукі! Аднак і сёння, на дзевятым дзесятку жыцця, як маладая — устае на досвітку і тупае цэлы дзень. Маладому зайздросна!

Не бяруся суцяшаць цётку ці раіць што — яна сама мудрая, нібы казачная бабуля-Жытніца з сінімі вачыма-васількамі. Я прасіла б яе не плакаць так часта па Колю, шанаваць сябе, калі можна.

Мы не хавалі сваіх родных. Гэта балюча і разам з тым сімвалічна: яны жывуць сярод нас. Як пра жывога, гаворыць цётка пра Колю. Як пра жывога, гаворым мы пра Сяргея. Гаворым добрае. Бо што ж яны, нашы хлопцы, благое зрабілі людзям!

Мяне і турбуе: гады, наканаваныя лёсам, трэба, відаць, пражыць так, каб пакінуць людзям добры ўспамін аб сабе... Адчуваю, што цётка папраўіць мяне. Перад словам «людзям» яна ўставіць слова «добрым»...

Я думаю і пра Улляну. Мне цяпер лягчэй гаварыць з ёй пра жыццё, бо крышку сама пабачыла, паслухала другіх.

Мне здаецца, што Улляна часам перабольшвае. Яна схільная непажаданым чынам блытаць дзве рэчы: неўладкаванасць свайго асабістага, жаночага, жыцця здаецца ёй неўладкаванасцю жыцця ўвогуле. Некаторыя крыўды выглядаюць у яе ўяўленні большымі, чым ёсць. Дырэктар саўгаса гаварыў з ёй няўважліва, на хаду. Вядома, гэта дрэнна з яго боку. Але ж у чалавека, які кіруе такой вялікай гаспадаркай, шмат розных клопатаў у галаве. Ён мог гаварыць з Уллянай, думаючы пра нешта іншае, важнейшае, чым яе просьба (яна прасіла машыну, каб з'ездзіць на хрэсьбіны). Далей. Можа таму ахвотней даў ён машыну Андрэю, а не ёй, што той сам водзіць яе? А Улляна ўгледзела ў гэтым перш за ўсё ўшчымленне сваіх удовіных правоў, а раз удовіных, то і чалавечых наогул... Дырэктар, дарэчы, мог зусім не ведаць, што яна ўдава. (Можа здацца, што тут я нібы абараняю дырэктара. Але гэта не так. Пра тое, у чым дырэктар, на маю думку, сапраўды вінаваты, скажу ніжэй.)

Улляна гаварыла, што цяжка палоць кукурузу, бо яна пасаджана з парушэннем агранамічных правілаў: квадраты няроўныя, гнёзды невыразныя. Але ж хіба «ўласць» вінавата ў гэтым? Вінаваты сейбіты. Яны падвялі прапольшчыц і тым самым саўгас. Яны адабралі ў прапольшчыц соткі, рублі, добры настрой...

Ды і ці толькі ў гэтым падводзяць сябе маладыя рабочыя!

Брыгадзір скардзіўся, напрыклад, што некаторыя раней тэрміну канчаюць рабочы дзень або кідаюць граблі і ідуць дахаты, калі пара прыйшла, хоць бачаць, што насунулася хмара, дождж намочыць сена... Падзякавала б сама Улляна такому гаспадару, калі назаўтра пайшла б зграбаць за ім? Пэўна, абурылася б!.. І тут я зноў крануся правоў жанчыны, яе чалавечай годнасці... Яна імкнулася пераканаць мяне, што яе ўшчымляюць, а я лічу, што яна магутная. Толькі яна лічыць за зручнейшае збоку глядзець на жыццё і на тых, хто яго псуе. На тым «дні брыгады», пра які я расказвала, Улляна змоўчала і пра нядбайных кукурузнікаў, і пра іншае. Нават не верыцца, што яе маглі пакараць «за язык»...



Прыйдзе час — а прыйдзе ён хутка, ой як хутка! — калі не будзе прэмій, а праца сама будзе як радасная ўзнагарода для чалавека. І дзеля гэтага светлага часу не страшна часам рызыкнуць і прэміяй, і душэўным спакоем!

Дарэчы, калі Вася будзе ад'язджаць на вучобу, дала б яму маці лішні рубель: хлопец казаў, што хоча накупляць беларускіх кніжак, каб не забыць у ростані родную мову...

Хачу пагаварыць і з дырэктарам саўгаса, згадае ці не згадае ён таго «карэспандэнта», што заходзіў да яго перад сваім ад'ездам у Мінск... Павінна сказаць яму, што ніякіх карэспандэнцкіх заданняў я не мела. Мне проста было цікава паглядзець, як жывуць мае землякі, яго падначаленыя, якіх не бачыла шмат гадоў. Тлумачу гэта для таго, каб дырэктар паверыў, што і гэтая з ім гутарка выклікана не афіцыйнай патрэбай.

Нялёгка працаваць дырэктару, гэта я зразумела адразу, і першае, што падумала, калі ўбачыла яго: «Добра, што ён такі волат!..»

Мяне ўразіла, як доўга і ўважліва гутарыў ён з бабуляй, што прыйшла за якойсьці даведкай. Ужо на парозе яна каторы раз пытала:

— А куды мне цяпер з гэтай спраўкай?

І дырэктар устаў з-за стала, падышоў да старэнькай у белай хусцінцы і, гледзячы ёй у вочы з вышыні свайго росту, тлумачыў зноў.

А ў кабінет усё заходзілі і заходзілі людзі, і мой праважаты Васіль доўга-такі патаптаўся ў калідорчыку канторы, чакаючы мяне, пакуль дырэктару ўдалося вымеркаваць хвіліну для гутаркі з прыезджым чалавекам. (Я зайшла якраз раніцай, на пачатку працоўнага дня.) Адзін раіўся, як атрымаць бензін. Другому трэба падпісаць паперу на будаўнічыя матэрыялы. Трэці зайшоў пагаварыць аб нарадзе актыву саўгаса, якую меркавалі правесці... Аграном — сваё, заатэхнік — сваё. У кожнага справа да кіраўніка. І я падумала тады: як многа ён павінен ведаць і разумець!

Некалькі чалавек без пэўнага клопату (відаць, з ліку бліжэйшых да гаспадара) сядзелі на працягу ўсіх гэтых візітаў. Можна было дапусціць, што іменна імі працёрта замурзаная канапка і што іменна ім надта ж карціць даведацца, а які да дырэктара інтарэс у чалавека «з цэнтра»!..

Але раптам іх нібы вымела з пакоя. Як па камандзе, адзін за другім падаліся ў дзверы. Каманды, нават ветлівай прапановы выйсці, не было. Было нешта другое. Гэтае «нешта» прачыталі яны ў дырэктаравым позірку. І пэўна тое ж самае «нешта» мой адукаваны пляменнік кліча гучна: «кіраўніцтва старымі метадамі», а яго маці — прасцей: «баіцца, каб меншыя не ўгравалі...» («меншыя», я зразумела, як ніжэйшыя пасадамі, а «ўгравалі» — крытыкавалі).

Да першага вызначэння я стаўлюся з недаверам: надта яно катэгарычнае. А да другога, калі прызнацца шчыра, гатова далучыць свой голас. Бо пра гэтую рысу характару ці паводзін чалавека гаварылі многія, і сцэна ў кабінеце ў некаторай ступені пацвердзіла нараканні. Дапусцім, што ён не жадаў сведак у гутарцы, якая, мажліва, была б непрыемнай для яго...

Адкінем нараканні на метад кіраўніцтва ў цэлым. Як савецкі, сучасны кіраўнік, дырэктар павінен ведаць, што значыў бы для яго, для ўсёй справы адыход на старыя пазіцыі, следаванне таму, што асуджана партыяй і народам. Выдзелім адзін з асабістых дырэктаравых грахоў — сапраўды незычлівыя адносіны да крытыкі знізу.

Ён скажа: факты! Здараюцца! Расказвалі старыняне. Назірала сама... Зрэдку пра тое гавораць у раёне.
Дырэктар паважае крытыку райкома, крытыку міністэрства, крытыку кожнай асобы вышэйшага за яго рангу, але не любіць і мала прызнае, калі яго крытыкуюць рабочыя. Лічыць, што такім чынам падрываюць дырэктарскі аўтарытэт, і найбольш заўзятым крытыкам з рабочага асяроддзя, калі такія знаходзяцца, нават помсціць...
Гэта ў галаве не ўкладваецца!..
Не слухацца парад людзей, якія аруць саўгасныя нівы, пасвяць саўгасную скаціну?! Хто ж лепш за іх ведае, дзе ён дапусціў памылку, дзе недагледзеў! Адной не гляне ў твар, другога знарок пашле на горшую працу, трэцяму адмовіць у слушнай просьбе — колькі ж так «ворагаў» набярэцца ў кіраўніка!
Прыходзіць вясна, і кожны гаспадар непакоіцца, як хутчэй засеяць агарод (пакуль яшчэ агароды ёсць у рабочых). У пасёлку адзінаццаць рабочых гаспадарак. Але каня ў першую чаргу атрымлівае гаспадар дванаццаты, прадстаўнік сельскай інтэлігенцыі — настаўнік. Чаму? Па закону... Так, дзяржава акружае сельскага інтэлігента вялікай увагай. Але ці не прымешваецца тут да законных клопатаў і дырэктараў асабісты? Гэты настаўнік прызнаўся: «Здараецца, п'ем!» Непрыемна слухаць? Ды з песні, нават благой, слова не выкінеш, чула на ўласныя вушы... Таму і пытаюся: ці не лепш было б звярнуць больш увагі на гаспадаркі тых самых удоў з рукамі такімі чорнымі ад працы, што іх не адмывае сода! Дырэктар можа сказаць — гэта клопат брыгадзіра. Тады, ці нельга наказаць брыгадзіру, каб быў больш справядлівы?
Маладая жанчына выкошвае па 45 сотак у дзень. Касьба — не жаночая справа, тым больш такімі «порцыямі». Ды што рабіць, калі ў брыгадзе ўсяго пяць мужчын працуюць на палявых работах (астатнія — на розных пасадах: ля коней, ля механізмаў, на будоўлі,— на лягчэйшых, часам, пасадах!), а накасіць сена жывёле трэба! Таму і стараецца жанчына, і справа тут не толькі ў рублі... І вось здарылася так, што ўчотчык не залічыў ёй шэсць дзён — 42 рабочыя гадзіны! Патрабавала з учотчыка, скардзілася брыгадзіру, хадзіла да дырэктара,— нічога не дабілася. Напэўна, і ёй, як і мне, ён давёў: не трэба было раней часу пакідаць сенажаць... Ён паверыў учотчыку і брыгадзіру, але не паверыў чалавеку, які працуе больш за іх. Ну, раз яна магла пабегчы дадому раней часу (за дзіця непакоілася, можа), ну, два, але — не шэсць. Прычым, варта і так развažыць: у тэрмін ці да часу пайшла маладая работніца, але ж пляц на паўгектара ляжыць пасля яе скошаны! — сама трава палягла, ці што? Як можна не залічыць такую працу?
Дарэчы, ці нельга было б шырэй заахвочваць людзей у выпадку перавыканання імі нормы выпрацоўкі? На касьбе, напрыклад, меры заахвочвання не ўжываюцца...
Няхай прабачыць мне дырэктар за тое непрыемнае, што я змушана была сказаць тут. Ды кепскім чалавекам выглядала б я, калі б не скарыстала магчымасці падтрымаць сваіх землякоў: у Старыну я ехала не дзеля адных успамінаў!
Увогуле ж радуе, што ў саўгасе добрыя віды на ўраджай, што павышаюцца надоі малака і расце пагалоўе грамадскага статку; адных цялят закуплена столькі, што патрэбна будаваць новы цялятнік.
Няхай будзе!
Я жадаю дырэктару быць сябрам маіх і сваіх землякоў — быць шчырэйшым, самым сумленным і самым добрым для людзей. Яны варты гэтага.
І ўрэшце — брыгадзір. Я хачу сказаць яму і дужа многа, і мала.



Нагадаю толькі: ён першы ў брыгадзе чалавек, адказны арганізатар яе вытворчага жыцця. Да яго ідуць па нарад, у яго просяць каня, да яго ж звяртаюцца з заявамі і скаргамі. І ад таго, як ён, вышэйшы ў Старыне «начальнік», вырашыць тое ці іншае пытанне, будзе ў значнай ступені залежаць і росквіт брыгады, і дабрабыт рабочых.
Ці заўсёды помніць брыгадзір аб гэтым?
Мая першая гутарка з ім нарадзіла ў сэрцы трывогу. Але я спадзяюся, што наступныя сустрэчы развеюць яе.
Сустракацца ж давядзецца.
Спозненыя пошукі бацькавай магілы навучылі мяне многаму. Я дужа доўгі час не прыходзіла на родны пагорачак пад стромкімі соснамі...
А вось у вёсцы, дзе цяпер жыве і працуе брыгадзір, на колішнім нашым хацішчы расце ігруша, пасаджаная бацькавымі рукамі...
Да гэтай ігрушы, да родных мне і блізкіх людзей я буду прыходзіць штогод. Годзе балючых страт і ўпушчэнняў!
І як бы хацелася, каб радасць ад новых, большых поспехаў землякоў упрыгожвала кожнае наведванне маё родных мясцін!
Я разумею, што для гэтага трэба мяняцца людзям. Але трэба, каб у лепшы бок змяніўся і сам брыгадзір, іх непасрэдны кіраўнік і дарадчык. Спадзяюся, што жыццё паможа яму ў гэтым.

в. Старына — г. Мінск
3/VII—25/VII.1961 г.

* * *

Наша жыццё!..
Здаецца, зусім нядаўна ездзіла я ў Старыну, а колькі падзей з той пары адбылося ў краіне! Адбыўся XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. З'езд прыняў найвялікшы дакумент нашай эпохі — новую Праграму Камуністычнай партыі, праграму пабудовы камунізма ў нашай краіне. У ёй сказана, што цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме.
Я перачытваю Праграму, і кожнае палажэнне, кожны радок яе хвалюе да глыбіні душы.
Думаю пра сваё жыццё. Ці ўсё, што магу, раблю дзеля набліжэння светлага заўтра сваёй зямлі? А ці не паступаюся часам сумленнем, як памагаю таварышам, каго і як выхоўваю?
Я думаю, што калі партыя праяўляе столькі клопату аб народзе, то якой жа ўдзячнасцю, якой гатоўнасцю служыць справе партыі павінен адказаць народ!
І адразу згадваецца Старына, саўгас, знаёмыя людзі...
Ім давядзецца шмат папрацаваць, пакуль гаспадарка не стане на ногі канчаткова, пакуль самі яны не пасвядомеюць, не пранікнуцца пачуццём асаблівай адказнасці за кожную, большую ці меншую, справу.
Я веру ў іх і бачу іх жыццё праз дзесяць, або пятнаццаць, або праз самыя дваццаць гадоў... Вёска залаціцца прыгожымі новабудоўлямі. Па вуліцах, аздобленых электрычнымі ліхтарамі, бягуць машыны — грузавыя і легкавыя. Моладзь, адпрацаваўшы кароткі працоўны дзень, збіраецца ў Палацы культуры. Там — залы чытальныя, танцавальныя, для гульняў, для прыёму гасцей. А госці старынян — іх славутыя землякі: Героі Сацыялістычнай (Камуністычнай) Працы, вядомыя мастакі, артысты, пісьменнікі, касманаўты...

Хлопцы ў Старыне працавітыя і добрыя, а дзяўчаты прывабныя і вясёлыя, як нідзе. А ўдоў зусім няма! Скуль жа ў той час удовы возьмуцца! Хіба што бабулькі стогадовыя ўдовамі будуць, калі перагоняць у жыцці сваіх такіх жа сталых мужоў...

Будуць толькі такія, што любяць сваю радзіму, адданыя справе камунізма.

Будуць толькі такія, што працуюць і турбуюцца пра грамадскі набытак.

Будуць такія, што паважаюць калектыў.

Будзе Чалавек — друг, таварыш і брат другому чалавеку.

Так будзе ўсюды. А хіба Старына горшая за іншыя мясціны!



**Уладзімір ВАРНО**

# СПАДЧЫНА



Дагарай, гары, мая лучына...»,—
хрыплы барытон прастор шукаў..
Прыгадаю —
мокры твар хлапчыны
заказыча колкая шчака.

Я б аддаў паўцарства,
бы ў маленстве, —
дзе ж ты, казка з кульбаю крывой?! —
толькі ў рукі б,
што прапахлі лекамі,
ўпасці пакаяннай галавой.

Рукі,
што засохлы бінт каравы
адрывалі
ды свінцовы гнеў
з ран вымалі...
пад «Даеш Варшаву!»
бацька мой са скальпелем шчырэў.

Мінскае прадмесце і сягоння
не забылася свайго ўрача.
Меў мой бацька за вялікі гонар,
што яго будзілі па начах.
«Аляксандр Адамавіч, ратуйце,
тут няма й квартала... Ваш раён».
«Добра ўжо, крыху гладзей
шальмуйце!» —
і ўставаў, прагнаўшы першы сон.

І спяшаў туды,
дзе захварэлі,
шклянкамі і шпрыцамі звінеў...
Сіла, што бурліла ў ім,
з пасцелі
падымае поўначчу мяне.

І таму ўсю ноч грызу аловак,
рыфмы беручы на абардаж,
каб гудзеў
ад вершаў адмысловых
лекарскі, злінялы саквояж.

Толькі сэрца мне трывогай піліць
прадчуванне дзёрзкае адно:
можа да мяне
за самай пільнай
дапамогай
грукнуць у акно...

## СЦЯЖЫНА

**Леаніду МАРТЫНАВУ**



Сцяжына
звыкла і надзейна
пад ногі легла,
як страла.
Зажмуранага
даўндзе вас
яна
да самага сяла.
І вось
па выбітаму следу —
ён звівісты, як след вужа —
ідуць
і на веласіпедах
імчацца, шынамі шамшаць.
Спяшаюцца на працу,
з працы —
не злічыш,
колькі лет і зім.
Дзе падымацца,
дзе спускацца,
дзе завярнуць, —
вядома ўсім.
Рыпіць сцяжына калымагай,
што цягнуць свойскія быкі...
І ўсё ж хто
да сяла
з адвагай
прастуе проста
нацянькі —
праз твань,
забуцвелыя калоды,
іржавы хмыз
кустоў глухіх?
«Дзівак, палез, не знаўшы
броду!» —
дакоры чуюцца старых.
Няхай сабе бурчаць без толку,
ён, шлях кароцячы,
ідзе.
Каб сцерці пот далонню
толькі
ён крок прыцішыць дзе-ндзе.
І зноў
сваю цярэбіць сцежку,
яму не засціць крыўда
свет.
І нехта юны
без насмешкі —
з надзеяю
глядзіць услед.

Пераклаў з рускай мовы
**Рыгор БАРАДУЛІН.**





**Сяргей СВІРЫДАЎ**

# ЗАГАДКАВЫ СТРЭЛ

**Апавяданне**

I

Мал. В. Рамейкі

Нечакана прагучаў стрэл. Ганулю прыслухалася. «Хто ж бы гэта мог?..» — з трывогай падумала яна і, прачыніўшы дзверы, нясмела глянула на вуліцу. Нідзе нікога не было. Пасмялеўшы, Ганулю выйшла ў агародчык і раптам пачула, як нехта стогне ў кустах ля ручаіны. Ганулю спалохалася, але чалавек стагнаў так жаласна, што яна не вытрымала, падышла. Пад альховым кустом, раскінуўшыся, ляжаў немец. Побач з ім валяўся перавернуты кошык з яйкамі.

Напэўна пачуў чалавека паранены, бо слабым голасам папрасіў:

— Васэр... васэр...

Хутка ля параненага сабраўся натоўп. Прыбегла і Галя Струк. У вёсцы яе называлі доктарам, хоць усе ведалі, што Галя перад вайной вучылася толькі на другім курсе медыцынскага інстытута.

Галя ўзялася бінтаваць.

— Доктар, ці сур'ёзнае ў яго раненне? — запытаўся нізкарослы з сівáватай бародкай мужчына.

— Цяжкае, дзядзька Салай, — ціха адказала Галя.

— Значыць, капут яму, — прамовіў нехта з натоўпу.

— Туды яму і дарога, — дадаў яшчэ хтосьці.
— Прыкусіце языкі, — цыкнуў Салай, і да Галі: — Перавяжы акуратна, ды ў бальніцу адвезці трэба. Толькі хто павязе?
— Сам вязі, — выгукнуў хтосьці.
— Чаму я?.. — абурыўся Салай.
— Дзядзька Салай, я павязу яго, — абазвалася Галя.
— Дачушка! Ці ж табе жыць надакучыла, — залемантавала Хведарыха, Галіна маці.
— Я павязу, — прамовіла старая Ганулля. — Не пакідаць жа яго тут. А то немцы наскочаць, дык усім жыцця не будзе.
Салай запрог каня. Галя прынесла сяннік, падушку. Параненага паклалі на калёсы, прыкрылі пасцілкай. Згорбленая, сухенькая Ганулля села ў драбіны і сцебанула каня. Фурманка паволі папаўзла па прасёлачнай дарозе. Людзі са страхам праводзілі яе вачамі, пакуль не схавалася тая за горкай.
Час ад часу Ганулля кідала позірк на пажоўклы твар немца, прыслухоўвалася да яго цяжкага, хрыплага дыхання. Часам ёй здавалася, што ён ужо не дыхае, і тады яна з трывогай дакраналася да твару немца сухімі, шурпатымі пальцамі. «Хоць бы не памёр. Хоць бы давезці!».
Потым яна пачала злавацца на сябе за тое, што згадзілася везці. «Трэба мне было гэта... ратаваць яго. Мала яны нам гора прынеслі!..»
Вайна абяздоліла Ганулю. Абодва яе сыны з першых дзён вайны пайшлі на фронт, старога Піліпа ўзялі акопы капаць. Ці жывыя, ці здаровыя? А можа, злажылі свае галованькі...
— Цётка Ганулля, вось і я, — звонкі дзявочы голас парушыў цяжкія думы старой.
Ганулля ўзняла галаву: побач ішла Галя.
— Я агародамі, нацянькі даганяла, — пераводзячы дыханне, сказала дзяўчына.— Як ён?
— Баюся, што і не давязу.
Галя ўскочыла ў драбіны, узяла руку немца, памацала пульс.
— Дужа часты.
— А чаго ты прыскочыла?
— Вам адной цяжка ўправіцца. Паеду, цётка Ганна.
Галя непрыкметна стала поркацца ў кішэнях параненага. Дастала салдацкую кніжку. У ёй ляжала Галіна фатаграфія. Яе Галя паклала сабе ў кішэню.
— Дзіўны ён, немец гэты, — разважліва пачала апавядаць Ганулля. — Не такі, як усе. Зайшоў да мяне ў хату. Нешта па-свойму сказаў, весела так усміхнуўся. Прайшоўся па пакоі, падышоў да сцяны, дзе карткі вісяць. Убачыў майго сына Сямёна ў вайсковай форме і паказвае на яго: «Гут, матка. Гут. Партызаны гут! А Гітлер — капут!» Дальбог, так і сказаў. Ну, падумай сама, ці хвашыст так скажа?
— Нізашто!
— А паслухай, што далей было. Бачу, што чалавек добры, дай, думаю, пачастую яго яйкамі. Праўда, у мяне іх нямнога, адна ж курыца засталася, ды тую карміць няма чым. Пачаставала. Ён узяў, усміхнуўся, нешта па-свойму сказаў, напэўна, падзякаваў. А потым дастаў з кішэні марку і падае мне. «Вазьмі, матка». Я не бяру. Кажу — не трэба. Тады ён паклаў марку на стол і зноў кажа: «Гут, матка, гут». А потым пра партызан пытаўся.
— Пра партызан? — ажывілася Галя.
— Ага. А што, можа, я памылілася?
— Не, цётка Ганна, вы не памыліліся. — Дзяўчына ўважліва паглядзела на старую, напэўна, раздумваючы: ці варта ёй усё расказваць.



«Не, такое не расказваюць», — вырашыла яна і папрасіла. — Цётачка, дайце мне лейцы. А то конь нешта зусім не слухае вас.
— Глядзі, цябе паслухае гэтая здыхляціна...
Галя ўзяла лейцы і пугу, моцна сцёбнула каня і выкіравала яго ўбок ад бальшака.
— Куды ж ты? Нам улева трэба, — здзівілася Ганулля.
— А мы, цётка Ганулля, павязем яго не ў бальніцу, — зашаптала Галя на вуха старой, — а ў лес, да партызан.
— Але ж у вёсцы немцы пачнуць яго шукаць? Што тады будзе? Ці падумала ты аб гэтым?
— Падумала. Скажам: па дарозе нас сустрэлі немцы, забралі яго і павезлі, а нас дадому адпусцілі.
— Так яны і павераць...
— І так і так, бадай, не павераць. Дык лепей не паказвацца ім на вочы.
— Самі схаваемся, а людзі хай гінуць?
...З-за павароткі насустрач ім выскачыла аўтамашына. У яе кузаве сядзелі немцы.
У Галі захаланула сэрца, а ў вачах пацямнела. «Няўжо ўсё прапала? — падумала яна. Пераклаўшы за пазуху немцавы дакументы, яна шапнула старой: «Калі спытаюць, куды вязем — маўчыце. Я сама ўсё растлумачу».
Машына спынілася. З кабіны выскачыў цыбаты, як бусел, афіцэр.
— Каго везяце? — на ламанай рускай мове спытаў ён.
Жанчыны не паспелі адказаць, як афіцэр падскочыў да фурманкі, сарваў пасцілку з параненага і з жахам крыкнуў: «Майн гот». Яго бясколерныя вочы вырачыліся на Галю.
— Што гэта значыць?
Стрымліваючы хваляванне, Галя растлумачыла, што параненага немца яны падабралі каля вёскі Альхавік і вязуць яго ў нямецкі гарнізон.
— Партызанэн! Партызанэн! — загергеталі салдаты.
— А хто яго перавязаў? — спытаў цыбаты.
— Я,— адказала Галя.— Ён цяжка паранены і мае патрэбу ў тэрміновай дапамозе.
Афіцэр загадаў салдатам перанесці параненага ў кузаў.
Паранены пачаў трызніць. Салдаты нахіліліся над ім, пыталі, хто страляў па ім, але ён быў непрытомны
Цыбаты загадаў Галі сесці ў кабіну паміж ім і шафёрам, а старой ехаць дадому.
Калі машына кранулася з месца і паімчалася па бальшаку, афіцэр пахваліў Галю за дапамогу параненаму. Гэта крыху падбадзёрыла яе, і яна заўважыла:
— Пан афіцэр, мы ціха едзем. Не забудзьце, што параненаму трэба хуткая дапамога. Ён можа памерці.
Афіцэр загадаў шафёру ехаць хутчэй.
— Вы сапраўдная фрэйлен. Аказваеце садзеянне нашай арміі. Я буду прасіць шэфа, каб ён узнагародзіў вас.
— Што вы!.. Не трэба...
Шафёр, нізкі, плячысты з сівымі скронямі, моўчкі круціў абаранак. Машына, як шалёная, падскоквала на няроўнай дарозе. Дзе-нідзе мільгалі слупы, на якіх матляліся кавалкі правадоў. Гэта партызаны нядаўна парэзалі тэлефонную сувязь паміж двума нямецкімі гарнізонамі.

«Каб ведалі Валодзя і яго разведчыкі, што я ў такой бядзе. Мігам прыскочылі б сюды,— думала Галя пра свайго брата.— А можа цётка Ануля здагадаецца паведаміць ім. Можа...»

Машына спынілася каля цаглянага будынка, акружанага з усіх бакоў старымі ліпамі.

Параненага салдата панеслі ў шпіталь.

— Фрэйлен, пойдзем да шэфа, — запрасіў цыбаты.

У прыёмнай шэфа ёй сказалі пачакаць. Галя падышла да акна. Будынак стаяў на высокім узгорку, і з акна, як на далоні, было відаць усё мястэчка. Амаль усюды былі адны руіны. Мястэчка гітлераўцы спалілі яшчэ ў першыя дні вайны. І толькі на ўскраіне яго цудам захавалася некалькі будынкаў. Недалёка ад шпіталю, на беразе рэчкі, стаяла пачарнелая двухпавярховая каробка былой школы. Тут Галя некалі вучылася, уступала ў камсамол. У яе ўспамінах раптам ажылі гады вучобы, настаўнікі, сябры. Мікола, кучаравы, з блакітнымі вачыма, рухавы, вясёлы хлопец... У дзесятым класе Галя дружыла з ім. Дружба гэтая была светлая, чыстая, як крышталь.

Цыбаты паклікаў яе да шэфа. Шэф быў невысокі, тоўсты, чырванашчокі, з маленькімі, заплыўшымі вачыма. У пятліцы яго кіцеля блішчэў «жалезны крыж».

Галя чула, што Гутцэль павесіў і расстраляў многа савецкіх людзей. Вось чаму, калі яна ўбачыла гэтага ката, па спіне ў яе папаўзлі халодныя мурашкі.

— Гутэн таг, фрэйлен.

Яна адказала на прывітанне, і ёй здалося, што шэфаў позірк спыніўся і свідруе тое месца, дзе былі схаваны дакументы. Гутцэль ветліва ўсміхнуўся і прапанаваў сесці.

Падзякаваўшы, Галя села на ўскрай крэсла. Гутцэль спытаў, як яе завуць. Яна назвала сябе.

— Фрэйлен Галя. Вельмі прыемна. Дазвольце ваш пашпарт.

Яна папоркалася ў кішэні і моўчкі паклала пашпарт на стол. Гутцэль узяў лупу і пачаў у яго ўглядацца.

— Галя Струк з вёскі Альхавік. Вельмі прыемна. — Гутцэль усміхнуўся жоўтымі вачыма.— Пан Шмультке,— ён кіўнуў у бок цыбатага,— расказваў ужо мне пра ваш высакародны ўчынак. Вы аказалі дапамогу параненаму нямецкаму салдату і прывезлі яго ў шпіталь. Гэты ўчынак мы ацэнім па заслугах. Такіх людзей, якія памагаюць нашай арміі, мы высока цэнім і паважаем. Так, так. — Гутцэль пастукаў пальцамі па стале. — Вы, значыць, ведаеце нямецкую мову?

— Крыху.

— Дзе вы яе вывучалі?

— У дзесяцігодцы. І ў інстытуце.

— Гэта добра. Нямецкую мову трэба ведаць. Яна самая культурная мова. Хутка на ёй будуць размаўляць усе. А цяпер, фрэйлен Галя, скажыце: хто страляў у нашага салдата?

— Не ведаю, — адказала Галя. Голас яе быў цвёрды і ўпэўнены.

— Бясспрэчна, партызаны, — буркнуў Шмультке.

— І яшчэ пытанне: ці не ведаеце вы, што гэты салдат рабіў у вашай вёсцы?

— Кажуць, яйкі збіраў. Пры ім быў кошык, а ў кошыку некалькі яек.

— Вось як! — Гутцэль задумаўся.

Насценны гадзіннік прабіў два разы.

— Пакуль хопіць аб гэтым, — сказаў Гутцэль. — Дасць бог, ён хутка паправіцца і раскажа ўсё сам. А цяпер абедаць, — ён устаў і, нягледзячы на сваю таўшчыню, лёгка пакрочыў да століка, які стаяў у кутку.

— Фрэйлен Галя, запрашаю вас паабедаць з намі.

Чаго-чаго, а гэтага Галя не чакала. І спачатку вельмі разгубілася: «Напэўна, хочуць спаіць, а потым усё выпытаць».

— Дзякуй, я нядаўна ела.

— Прашу, прашу, не адмаўляйцеся. А то вы нас пакрыўдзіце. Шмультке, запрасіце фрэйлен Галю.

— Яволь! Рад старацца! — цыбаты падскочыў да дзяўчыны, шаркнуў ботам, працягнуў ёй руку. — Прашу!

«Каб не раззлаваць іх, трэба згадзіцца», — рашыла Галя.

— Сесці я сяду за кампанію, а есці не хачу.

Гутцэль наліў у бакалы віна і запрасіў:

— Вып'ем за нашага фюрэра.

— Хайль Гітлер! — падхапіў Шмультке.

Гітлераўцы выпілі. Галя да свайго і не дакранулася.

— Вы што, не хочаце выпіць за нашага фюрэра? — закусваючы бутэрбродам, папракнуў шэф.

— Прабачце, але я зусім не п'ю.

— Дарэмна. Віно цудоўнае.

— Піце на здароўе, — прамовіла Галя, а сама падумала: «Каб вы падавіліся».

Нягледзячы на тое, што Галя з самага ранку нічога не ела, есці ёй не хацелася. У роце перасохла, мучыла смага. Каб хоць крыху спатоліць яе, Галя ўзяла ў рот цукерку.

— А ты — слаўная фрэйлен. Я буду запрасіць цябе да сябе на службу. Перакладчыцай. Мы будзем добра плаціць, — сказаў шэф.

Дзяўчына не чакала такой размовы.

— Я дрэнна ведаю нямецкую мову, — адказала яна.

— Нічога, мы паможам.

— О, так! — уставіў цыбаты.

Галя раптам успомніла размову з камандзірам атрада: «А што, Галя, калі цябе паслаць, скажам, у камендатуру. Вялікую карысць магла б нам прынесці». Успомніла і смела адказала:

— Параюся з мамай. Калі яна дазволіць, я, бадай, згаджуся.

— О, гут!..

— Зазваніў тэлефон. Шэф неахвотна падняўся з месца.

— І паабедаць спакойна не дадуць. Я вас слухаю. Што?! Машына?! Дзе? Што? Ёсць, пан маёр! Зараз вышлем. — Ён бразнуў трубкай і моцна вылаяўся. — Зноў гэтыя бандыты машыну з салдатамі ўзарвалі.

— Дзе? — цыбаты ўскочыў з месца.

— Каля Гнілога балота на бальшаку. Зараз бярыце салдат і марш туды. Забітых падбярыце. А бандытаў знішчыць. Трэба неадкладна ліквідаваць партызанскае гняздо. Вазьміце... — напэўна, толькі цяпер Гутцэль успомніў, што ў пакоі — чужы чалавек. Ён кінуў недаверлівы позірк на Галю. Яна зразумела, што перашкаджае размове, і паднялася з месца.

— Мне можна пайсці?

— Так, можаце ісці. А заўтра прыходзьце. Я буду вас чакаць. А каб не забылі да мяне дарогу, я пакідаю ў сябе ваш пашпарт. Вось вам пропуск, каб не затрымалі. Будзьце здаровы, фрэйлен Галя.— Шэф працягнуў ёй сваю пухлую чырвоную руку. — Да сустрэчы.

Галя развіталася і выйшла на вуліцу.

## II

Вечарэла. Густыя хмары плылі над мястэчкам. Недзе на ўсходзе паблісквала маланка і ледзь чутна грымеў гром.

Галя спусцілася з узгорка, збочыла ў завулак і агледзелася: ці не сочыць хто за ёй? Усё яшчэ не верылася, што яна вырвалася з лап ворага. Трэба было спяшацца: з тэлефоннай размовы Гутцэля Галя зразумела, што супраць партызанскага атрада гітлераўцы збіраюцца пасláць карную экспедыцыю. Аб гэтым трэба паведаміць у атрад. Трэба паведаміць і аб здарэнні з немцам, якога чакалі сёння ў атрадзе.

Па Галіных падліках, да атрада было кіламетраў сем-восем. Гэта калі дабірацца бальшаком. Калі ж ісці нацянькі, праз балота, не больш пяці.

Балота пачыналася адразу за агародамі. Да вайны тут здабывалі торф. Цяпер канавы заплылі багнай, зараслі травой, хмызняком. Дзенідзе віднеліся нізкія, каржакаватыя бярозкі і хвойкі.

Галя адшукала знаёмую сцяжынку, па якой ёй прыходзілася часам хадзіць дадому, калі яна вучылася ў школе. Сцяжынка гэтая цяпер зарасла мохам і ледзь угадвалася. Прайшоўшы колькі метраў, Галя аступілася і ўляцела ў багну ледзь не да калень. Вылезла, зняла чаравікі, абмыла іх і пайшла басанож.

Перад вачыма раптам паўсталі малюнкі сустрэч з Генрыхам Больцам. Першы раз яна напаткала яго выпадкова каля вёскі Пнёва, калі ішла ў разведку. Генрых на рэчцы вудзіў рыбу. Убачыўшы дзяўчыну, ён ветліва прывітаўся па-нямецку. На прывітанне яна адказала таксама па-нямецку.

— О, фрэйлен ведае нашу мову! — узрадаваўся немец і, назваўшы сваё імя, пачаў распытваць, хто яна і адкуль.

— А навошта вам гэта ведаць? — насцярожылася Галя.

— Хачу бліжэй пазнаёміцца з вамі, — растлумачыў Генрых. — Не падумайце чаго-небудзь благога. Я з добрым намерам хачу пазнаёміцца. Я...

— Ведаю, ведаю, дзеля чаго немцы знаёмяцца з нашымі дзяўчатамі...

— Што вы, што вы, фрэйлен, — загарачыўся Генрых. — Я не з такіх. Вы мяне не ведаеце. Паслухайце, давайце пагаворым.

— Аб чым жа вы будзеце гаварыць са мной? Можа пахваліцеся, колькі забілі нашых людзей?

— Што вы гаворыце! — замахаў рукамі Генрых. — Хоць вы нічога не сказалі пра сябе, але я бачу: вы харошая фрэйлен. З вамі можна гаварыць адкрыта. Я вам прызнаюся: я не фашыст, я — рабочы. Антыфашыст. Вы не верыце?

— Калі вы антыфашыст, — перапыніла Галя, — чаму ж вы тут ваюеце супраць рускіх? Чаму?

— Чаму я тут? — цяжка ўздыхнуў Генрых. — Гэта доўгая размова. Але паверце мне: я не хацеў ехаць ваяваць супраць рускіх. Мяне сілай прымусілі. Можаце верыць ці не верыць, але калі я быў на фронце, — наша часць нядаўна прыехала адтуль, — я не страляў па рускіх, я заўсёды страляў угару. — Ён дастаў з кабуры парабелум і паказаў, як страляў. Галя недаверліва сачыла за яго рухамі.

Паклаўшы парабелум у кабуру, Генрых гаварыў далей:

— Калі ў вас ёсць жаданне і час, я магу расказаць пра сябе больш падрабязна. Я вельмі рады, што сустрэў рускага, які ведае нашу мову, разумее мяне. Я доўга шукаў такога, каб пагаварыць па душах.

Галя ўпершыню сустрэла немца, які называў сябе антыфашыстам, і таму з цікавасцю паглядзела на Генрыха. Яго блакітныя вочы былі адкрытыя і чыстыя і нібы гаварылі: «Паверце мне, я не хлушу...»

«А можа ён сапраўды антыфашыст? — падумала Галя. — Калі антыфашыст, то гэта вельмі цікава. А што, калі паспрабаваць завербаваць яго? Каб ён партызанам памагаў?..»

— Фрэйлен, — Генрых перапыніў Галіны думкі, — вы згодны ўважліва выслухаць мяне?

— Так. Гаварыце.

— Толькі скажыце ваша імя.

Галя назвала сябе.

Яны селі на беразе рэчкі, і Генрых пачаў расказваць. Родам ён з Рура. Бацька — шахцёр. Пасля школы Генрых таксама працаваў на шахце.

— Вось паглядзіце, якія ў мяне рукі, — ён раскрыў шырокія далоні, і Галя ўбачыла, як глыбока ўеўся ў іх вугаль. — Бацька мой быў камуністам. Гітлер пасадзіў яго ў турму. І цяпер ён пакутуе недзе там. А маці не вытрымала цяжкага гора, памёрла.

Генрых апусціў галаву, дастаў з кішэні насоўку, выцер вочы. Памаўчаўшы нейкі момант, ён з запалам прашаптаў:

— Я ненавіджу Гітлера... Праўду кажу, фрэйлен.

Галя ні то ўсур'ёз, ні то жартам сказала:

— Я ўсё ж не разумею: навошта вы ўсё гэта расказваеце? Вы ж зусім не ведаеце мяне. Вось зараз я пайду ў гарнізон і раскажу пра гэта вашаму начальніку...

Генрых насцярожыўся, доўга і ўважліва глядзеў у Галіны вялікія чорныя вочы і, заўважыўшы ў іх смяшынку, сказаў:

— Так, Галя, я вас не ведаю, але калі толькі загаварыў з вамі, зразумеў, што вы харошая руская фрэйлен. Вельмі харошая. І веру: дрэннага мне вы не зробіце. Я вам поўнасцю давяраю. А вы мне, Галя, давяраеце?

— Я вам? Не зусім. Гаварыць вы можаце ўсё. А вось дакажыце на справе, што вы антыфашыст. Дакажыце, што вы ненавідзіце фашыстаў.

— Так, я дакажу, — пасля кароткай паўзы сказаў Генрых. — Дакажу. Я хачу разам з рускімі змагацца супраць Гітлера. Так, так. Вось памажыце мне звязацца з партызанамі.— Генрых паказаў у бок густога хваёвага лесу. — Памажыце. Я буду вам вельмі ўдзячны.

«Аднак жа хітрая лісіца... Хоча выпытаць, дзе размяшчаюцца партызаны, каб потым данесці сваім. Не, гэта табе не ўдасца»,— падумала Галя і, не міргнуўшы вокам, адказала:

— Памагчы вам нічым не магу. Не ведаю я, дзе тыя партызаны...

— Шкада, — цяжка ўздыхнуўшы, сказаў Генрых. — Я даўно хачу стаць партызанам, але не ведаю, як з імі звязацца.

— Трэба ісці, — Галя паднялася з месца. — А то з вамі забавілася. Пайду праведаю цётку. Яна жыве ў гэтай вёсцы. Аўфвідэрзээн.

Галя павярнулася і пайшла.

— Геносін, геносін Галя, чакайце хвіліначку!

Пачуўшы ўсхваляванае «геносін», Галя спынілася, нібы ўкапаная, і паглядзела на Генрыха. На твары яго былі смутак і роспач.

— Геносін Галя, скажыце, дзе вы жывяце. Я, калі дазволіце, зайду да вас. Заўтра або паслязаўтра. Можа я чым памагу вам...

«Не, не фашыст ён, не фашыст»,— у думках рашыла Галя і адказала:

— Я жыву вунь у той вёсцы. Гэта кіламетры чатыры адсюль. — Галя паказала ў бок вёскі Альхавік, якая ледзь віднелася з-за хмыз-

няку. — Але заходзіць да мяне не трэба. Калі ж сапраўды дужа хочаце мяне бачыць, прыходзьце заўтра ў гэты час сюды. Аўфвідэрзээн. — I яна хутка пакрочыла.

У гэты дзень Галя пабывала ў атрадзе і падрабязна расказала камандзіру пра сустрэчу і размову з Генрыхам. Галін расказ зацікавіў камандзіра.

— А ведаеш, дзяўчына, — сказаў ён, — можа той Генрых сапраўды антыфашыст. Гэта было б цудоўна! Абавязкова сустрэнься з ім. Толькі глядзі, каб ён цябе вакол пальца не абвёў.

— Не абвядзе, — запэўніла яна тады камандзіра.

А назаўтра пасля снедання сабралася яна на спатканне з Генрыхам. Выйшла на вуліцу, агледзелася і сваім вачам не паверыла: да іх дома, трымаючы ў адной руцэ кошык, пад'язджаў на веласіпедзе Генрых. Нечаканае з'яўленне яго спалохала і ўзрадавала яе. Што падумаюць пра яе суседзі? Што скажа маці? Але няхай... Трэба ж даведацца, што гэта за чалавек. І добра, што сам прыехаў: не трэба будзе ісці на спатканне з ім у чужую вёску, дзе стаяць немцы.

Параўняўшыся з Галяй, Генрых саскочыў з веласіпеда, працягнуў ёй руку і, ветліва ўсміхаючыся, ціха прамовіў:

— Гутэн таг, Галя.

Нясмела паціскаючы яго руку, яна з трывогай і хваляваннем паглядзела яму ў вочы, спрабуючы разгадаць прычыну прыезду. Гэта заўважыў Генрых і паспяшаўся растлумачыць:

— Вы, напэўна, вельмі здзіўлены маім нечаканым з'яўленнем. Я без дазволу. За гэта прабачце. Але я не мог не прыехаць. Мне з вамі трэба пагаварыць. Толькі гэтая размова павінна быць строга сакрэтнай.

Ён агледзеўся навокал. З акна суседняга дома на іх глядзелі жанчына і хлапчук.

— За намі, здаецца, назіраюць. Да вас у хату можна? Там ёсць хто-небудзь?

— Нікога. Маці на агародзе. Заходзьце, — стрымліваючы хваляванне, запрасіла Галя. «Што за сакрэтная размова? Што яму ад мяне трэба? Чаго ён прыскочыў? — устрывожылася яна. — Ці не правакацыя тут якая?»

Калі ўвайшлі ў хату, Генрых пачаў расказваць. Мінулай ноччу камандаванню стала вядома пра намер партызанскага атрада Каваля напасці на нямецкі гарнізон. Немцы рыхтуюцца адбіць атаку: выклікалі падмацаванне з другога гарнізона, робяць засаду. Галоўная засада будзе за вёскай Пнёва каля могілак.

— Калі я даведаўся пра гэта, я не мог дачакацца вас. Але як было выбрацца з гарнізона? Я ўспомніў, што мой камандзір вельмі любіць свежыя яйкі. А ў нашай вёсцы іх днём з агнём не знойдзеш: ужо ўсе падабралі. Я паабяцаў камандзіру дастаць яйкі ў вашай вёсцы. Узяў вось гэты кошык, сеў на веласіпед і сюды. Я ўпэўнен, калі не вы, дык хто-небудзь іншы з вашай вёскі ведае, дзе партызаны, і перадасць ім, што іх чакае сёння ўночы.

Галя ведала, што іх атрад сапраўды меў намер напасці на нямецкі гарнізон. Але насцярожанасць стрымлівала яе. Таму яна адказала:

— Дзякуй вам за такое паведамленне. Але зноў кажу: я не ведаю, дзе партызаны.

— Што ж рабіць? — затрывожыўся ён. — Паверце мне, Галя, я сам ужо не раз хацеў перайсці да партызан. І не адзін, а з таварышам. Ён — таксама антыфашыст.

Пасля нейкага роздуму Галя паабяцала:





— Калі так, то сёння ж я пайду ў лес і буду шукаць партызан. Калі знайду — заўтра паведамлю вам.

Купіўшы ў Галіных суседзяў дзесятак яек, Генрых паехаў. А Галя, не чакаючы ні адной мінуты, кінулася ў лес да партызан. Каля лагера яна сустрэла камандзіра.

Уважліва выслухаўшы разведчыцу, той па-сяброўску абняў яе.

— Малайчына, Галька! Цяпер я веру. Генрых той сапраўдны антыфашыст: сказаў ён чыстую праўду. Сапраўды, сёння ноччу ўцёк з атрада адзін нягоднік і, мусіць, данёс ім, што мы рыхтаваліся разграміць нямецкі гарнізон. Цяпер прыйдзецца пакуль адкласці гэтую аперацыю.

Галя сустрэлася з Генрыхам яшчэ два разы. І кожны раз ён перадаваў ёй звесткі пра нямецкі гарнізон, усяляк імкнуўся падкрэсліць сваю нянавісць да нацызму, сваю прыхільнасць да рускага народа. Ад яго яна даведалася, што ён не адзін такі. Ёсць многа немцаў, якія таксама ненавідзяць Гітлера і вайну...

Галі захацелася дастаць з-за пазухі дакументы і пачытаць іх. Але ўжо зусім сцямнела. «Ці жывы ён там? — падумала яна. — Можа апрытомнеў, і цяпер яго дапытваюць, чаму ён пайшоў у нашу вёску, што рабіў там. Не, не, ён не скажа, не прызнаецца, калі нават і катаваць пачнуць».

Церушыў дробны дождждык. У паветры моцна пахла багуном і прэлым лісцем.

Галя паскорыла крок. Раптам уперадзе між дрэў мільгнуў агеньчык. Яна спынілася. «Няўжо воўк?» Але агеньчык знік. «Здалося». Агеньчык зноў успыхнуў і патух.

Да Галінага слыху данесліся неразборлівыя галасы. Ёй здалося, што гавораць немцы. Па целе папаўзлі мурашкі. Прысела за хвойкамі і, стаіўшы дыханне, прыслухалася. Не, гэта не немцы. Цяпер да яе выразна данесліся словы: «Кажу, збіліся. Сцежка там»... «Ага, трэба ўправа ўзяць. Пайшлі за мной»... «Гэта ж Валодзеў голас», — узрадавалася Галя. Яна выбегла з-за хвоек і ўбачыла перад сабою рослую, аперазаную кулямётнай лентай постаць брата.

— Валодзя! — ціха паклікала Галя.

— Галя? Адкуль ты ўзялася?

Яны моцна абняліся.

— Ну і чэрці. Так мяне напалохалі! — выціраючы слёзы радасці, прызналася Галя.

— Значыць, вырвалася? — спытаў Валодзя.

— Як бачыш.

— А мы табе на выручку спяшаліся. Разумееш, ехалі ў разведку і сустрэлі старую Ганулю. Яна і расказала, што цябе гітлераўцы заграблі. Нядоўга думаючы, мы — па конях ды айда. Там вось спешыліся і — праз балота. Думалі, калі цябе затрымаюць, паспрабуем вызваліць. Ажно ты сама вакол пальца іх абвяла.

— Абвяла! Малайчына Галка! — падхапілі галасы. — А карнікаў, калі з'явяцца, сустрэнем як мае быць.

## III

Дадому Галя прыбегла мокрая да ніткі. У пакоі было цёмна, хоць вока выкалі. Падпёршы твар рукой, Хведарыха сядзела каля акна, чакаючы дачку. Як толькі Галя пераступіла парог, адразу пачула яе ўсхваляваны, плаксівы голас:



— Дзякуй богу, прыйшла мая дачушка. Думала, жывой няма ўжо цябе.

— Жывая, мамулька, толькі мокрая, як жаба тая. Дай мне, калі ласка, што-небудзь пераадзецца.

Маці падала свежую бялізну і тым часам дакарала:

— Дачушка, дачушка, шукаеш ты сабе пагібелі. І трэба ж было звязацца з гэтым фрыцам. Што ён табе, брат ці сват? Вораг жа ён нам. Узялася везці яго Гануля, ну і хай бы везла. Дык не: паляцела на злом галавы.

Галя з болем у сэрцы слухала матчыны дакоры. «Сказаць ёй ці не сказаць праўду? Не, бадай, пакуль нельга. Ёсць справы, пра якія і маці родная не павінна ведаць». А маці з трывогай гаварыла:

— Людзі вунь вёску пакінулі, а я павінна чакаць, пакуль ідалы тыя прыскочаць ды пятлю на шыю накінуць.

— Як гэта пакінулі? — здзівілася Галя.

— А так, пакінулі. Хто ў лес, а хто ў суседнюю вёску падаўся. І я клункі звязала. Тое-сёе ў зямлю закапала. А можа немцы не прыйдуць да нас? Ты не даведалася там?

Сапраўды, ці з'явяцца сюды карнікі, ці будуць рабаваць, паліць вёску? Над гэтымі пытаннямі Галя чамусьці сур'ёзна не думала. І толькі цяпер, яшчэ раз усё абмазгаваўшы, Галя адчула, што ёй з маці пагражае небяспека, што трэба ратавацца.

— Так, мама,— ціха прамовіла яна,— нам таксама трэба падацца ў лес. Карнікі могуць заўтра прыскочыць. Лепш там перачакаць.

Збіраліся моўчкі, не запальваючы святла. Узялі самае неабходнае, бо спадзяваліся хутка вярнуцца. І ўсё ж, калі выходзілі з хаты, на душы было і цяжка, і маркотна.

Дождж сціх. Парывісты вецер гнаў на захад цёмныя густыя хмары, з-за іх выглядаў двурогі месячык.

Пад павеццю стаяла прывязаная да драбін карова — адзінае, што засталося ў гаспадарцы. Маці з Галяй узвалілі ёй на спіну перавязаныя накрыж хатулі. Рабая злосна матала галавой і хвастом, чмыхала, не хацела ноччу пакідаць настоенае месца.

— Ідзі, мая Рабонька, ідзі. Павядзем цябе ў лес пасвіць,— прыгаворвала Хведарыха. Голас яе дрыжэў.

Галя адчула, што маці плача. Ёй захацелася абняць яе і сказаць: «Любая мая, дарагая мамачка! Не плач. Я ведаю, што цяжка пакідаць свой родны кут, пакідаць усё мазалямі нажытае ды ісці бадзяцца недзе па лесе. Ой, як цяжка!.. Супакойся, пацярпі. Хутка кончацца пакуты, прыйдуць нашы. Узыдзе сонейка і зноў сагрэе нашу зямельку. Скончыцца вайна, і надыдзе мір на ўсёй зямлі. Зноў зажывем па-людску. Пацярпі, дарагая матулька!» Але замест гэтых слоў Галя толькі ціха прамовіла:

— Не трэба, мама, пойдзем...

І яны,— адна, трымаючы за повад Рабую, другая, падганяючы яе,— ціха выйшлі з двара...

## IV

У гэтым кутку лес нагадваў цыганскі табар. Пад калматымі елкамі раскінуліся буданы, дзе-нідзе дымілі кастры. Варылася бульба. Ціха гаманілі жанчыны, плакалі малыя, мычэлі каровы. Аднекуль далятала сумная мелодыя — спявалі дзяўчаты. Калі ў лагер прыйшла Галя, усе ўзрадаваліся. Распытвалі, як яе выпусцілі немцы, што гаварылі. Але

галоўнае, што хвалявала ўсіх,— ці прыйдуць карнікі рабаваць вёску, ці доўга трэба будзе людзям хавацца ў лесе. Галя не магла сказаць нічога пэўнага.

— Калі і прыйдуць, то каго-каго, а Галю і пальцам не зачэпяць,— пакпіла Марыля.— Яна ж так выслужылася перад імі. На яе месцы я сядзела б на печы і грэла плечы. А тут жа мокра і холадна...

Ад гэтых слоў Галі стала крыўдна. Але яна прамаўчала.

Назаўтра Галя пабывала ў атрадзе. За ноч ён перайшоў на новае месца, і карнікі, думаючы акружыць і знішчыць атрад, акружылі пусты лес, прачасалі яго і вярнуліся ні з чым.

У атрадзе Галю сустракалі заўсёды з радасцю. Прыходзіла яна сюды звычайна не з пустымі рукамі: прыносіла бінты, вату, медыкаменты, масла або малако для хворых. Перадавала і каштоўныя звесткі аб месцы знаходжання ворага.

Сувязь з атрадам яна ўстанавіла яшчэ ў мінулым годзе праз брата Валодзю. Гэта ён пазнаёміў яе з камандзірам Аляксеем Хвядотавічам Кавалём. Яна пасля даведалася, што Каваль прыляцеў з «Вялікай зямлі», мае недзе жонку і двое дзяцей, якіх ён моцна любіць.

Калі Галя ўвайшла ў зямлянку, Каваль збіраўся галіцца. На выгляд яму было год сорак. Ён быў сярэдняга росту, плячысты, насіў чорныя пышныя вусы, а бараду галіў амаль кожны дзень.

— А-а! Наша Галачка прыляцела! Дзень добры,— ён моцна паціснуў ёй руку, — дзень добры! Сядай, калі ласка, даражэнькая, — паказаў на калодку, што стаяла каля маленькага, змайстраванага на хаду століка. Гарэла капцілка, цьмяна асвятляючы яшчэ неабжытую зямлянку. Галя прысела.— Вялікі дзякуй табе за папярэджанне. Валодзя якраз у час прыскочыў са сваімі хлопцамі. Мы, як бачыш, на новым месцы. Адышлі без бою. А вы, значыць, таксама ў лес перабраліся?

— Перабраліся,— адказала Галя.

— Ну што ж, пажывіце колькі дзянькоў, пакуль пацішэе.

Галя перадала камандзіру Генрыхавы дакументы.

— Наколькі разумею,— зазначыла яна,— тут ёсць адна каштоўная паперка. Толькі крыху замокла. Учора ж дождж ліў.

Каваль уважліва разгледзеў дакументы.

— Сапраўды, паперка каштоўная. Тут план размяшчэння пнёўскага гарнізона. Яшчэ адзін доказ, што Генрых гэты быў сапраўдны антыфашыст. Шкада чалавека — так недарэчна загінуў...

— Ён не загінуў, а цяжка паранены,— сказала Галя.

— Памёр. Нам сувязная сказала. А яго таварыша гестапаўцы арыштавалі.

— Арыштавалі?

— Так. Я вось толькі да апошняга часу не магу зразумець, хто гэтага Генрыха параніў...— Каваль скруціў цыгарку, моцна зацягнуўся і спытаў: — Што, Гутцэль сапраўды запрашаў цябе да сябе перакладчыцай?

— Так.

— Відаць, ты гэтаму павуку прыглянулася. А можа і сапраўды перакладчыца спатрэбілася. Калі гэта сур'ёзна, то трэба памазгаваць. Ты, вядома, згодзішся.

— Ахвоты вялікай не маю. Але, калі трэба, — пайду.

— Прыйдзецца крыху пачакаць, пакуль сітуацыя лепшай не стане,— аб нечым думаючы, заключыў камандзір.

На развітанне ён папрасіў Галю трымаць сувязь з атрадам.



## V

Прайшло некалькі трывожных дзён, а гітлераўскія карнікі так і не паяўляліся ў вёсцы Альхавік.

— Не паедуць яны да нас,— загаманілі людзі.

Першая падалася ў пасёлак старая Гануля.

— Дачушка, можа і нам падацца дахаты? — выказала думку Хвядарыха.— Абрыдла ваўком сядзець у гэтым лесе.

Людзі пагаварылі між сабой, параіліся, і, калі зямлю ахутала густая цемра, лясныя буданы апусцелі.

Хоць печ не палілася некалькі дзён, але ў хаце, здавалася, было цёпла і ўтульна. Не распранаючыся, Галя, стомленая і знерваваная за гэтыя дні, залезла пад саматканую коўдру і адразу моцна заснула.

Разбудзіў яе нейчы ўсхваляваны голас:

— Галя, позна спіш. Уставай...

Галя расплюшчыла вочы і ледзь не войкнула: перад ёй стаяў чалавек у нямецкай форме. Толькі па голасе яна пазнала, што гэта Валодзя. Убачыўшы спалох у Галіных вачах, ён весела ўсміхнуўся.

— Не палохайся. Гэта — я.

— А ну цябе... Навошта ты панадзяваў на сябе гэтую брыду?

— На важнае заданне іду, дык і надзеў. Слухай, Галя, я табе нешта расказаць хачу. Толькі прашу цябе — не злуйся на мяне.

— Добра, толькі кажы хутчэй,— насцярожылася Галя.

— Гэта ж я падстрэліў таго Генрыха...

— Ты?!

Валодзя заўважыў, як твар яе пасуравеў, а на прыгожым ілбе збегліся маршчыны. Яна пазірала ў акно, праз якое віднеўся залітьі пазалотай усход — вось-вось узыйдзе сонца.



# Галасы нашых сяброў



*Любамір ЛЕЎЧАЎ нарадзіўся ў 1934 г. у Сафіі. Закончыў аддзяленне славянскай філалогіі Сафійскага ўніверсітэта. Працуе ў ЦК ДКСМ (Дзімітроўскі Камуністычны Саюз Моладзі). Выдаў дзве кнігі паэзіі: «Зоры — мае» і «Назаўсёды».*

**Любамір ЛЕЎЧАЎ**

## НЕ СМЕЙЦЕ ВІНАВАЦІЦЬ НАША СОНЦА



Свет хоча з часам быць заўсёды
ў згодзе.
Свет прагне новага
спакон вякоў.
А дзеці ўсё-такі ў жыццё
прыходзяць
надзеленыя
рысамі бацькоў...

Бурчаць
філосафы ад перапою:



— Які ж стары і сумны свет, аднак!
Лёс чалавека мераюць страфою:
«Свеча горела...»
Брава, Пастэрнак!..

Пачуўшы іх,
я згадваю таварышаў —
кранаўшчыкоў,
рабочых,
матарыстаў,
што стомленыя спяць на мулкіх
нарах
пад ноччу вогненнай на ТЭЦ Марыца.

Хвароба к ім паўзе ў барак дашчаны,
але ў цясніне,
дзе, як ноч, імгла,
яны на золкім ветры,
пад дажджамі
будуюць фабрыку святла...

Як водсвет мараў,
азарае ў высі
бляск яркі бронзавыя твары іх.
Яны сваіх бацькоў
губляюць рысы.
Яны падобны да сыноў сваіх!..

Не смейце ж вінаваціць наша сонца,
што часам цень пахмуры наплывае!

Не смейце вінаваціць наша сонца,
што й кроў гадзюк яно разаграваіе!

Хай марнатраўцы
плачуць ад бязвер'я.
І хай спяваюцца ў прытонах чадных...
Смерць да іх прыйдзе,
як прыходзіць кельнер,
і па плячы паляпае загадна
і скажа ім з усмешкаю,
здаволена:
— Прабачце, але...
трэба закрываць...

І, выняўшы блакноцік замусолены,
жыццю рахунак будзе падбіваць:
Філе Міньён.
Ікра.
Мазгі ў талерках.
І — безліч стопак выпітай гарэлкі...
Цыгары ды...
Вадзічка-газіроўка...

А тыя працай мераюць жыццё
і смерці самі скажуць без капрызу:
— Ну, вось і ўсё!
Падводзь рысу!



*Анастас СТАЯНАЎ нарадзіўся ў 1931 г. ў вёсцы Жывоўцы Міхайлаўградскай акругі. Закончыў Сафійскі ўніверсітэт — аддзяленне славянскай філалогіі. Працуе загадчыкам аддзела паэзіі ў газеце «Родни простори». Аўтар трох кніг паэзіі: «Першае каханне», «Майская мяцеліца» і «Стракатая торбачка».*

**Анастас СТАЯНАЎ**

## ХАРАСТВО

Мы не зналі ран, падлеткі-дзеці,
ні атак, ні штыкавых баёў.
Пасярэдзіне стагоддзя дзесьці
паўналецце стрэцілі сваё.

І няхай наш век імчыцца ўперад
караблём сярод бурлівых хваль —
мы ў дарогу выйшлі з цвёрдай
верай!
Незнаёмая не страшна даль!

Мы не зблудзімся ў сваім паходзе,
і нішто не спыніць наш разгон.
Светлы бераг новага стагоддзя.
бачым мы за небакраем дзён.

Толькі што адкажам мы нашчадкам,
як спытаюцца пра вас яны —
вас, браты, што мужна злеглі
ў схватках,
вас, Радзімы верныя сыны?

Мы уручым сцяг, што над сабою
вы ўзнялі калісьці грозным днём —
сцяг, сатканы праўдаю самою,
ахрышчоны куляй і штыком.

А ці будзем мець мы і ці многа —
як нашчадкі глянуць нам у твар —
вашага вялікага, зямнога,
непадробленага харства?





*Слау Хр. КАРАСЛАВАЎ нарадзіўся ў 1932 г. у вёсцы Дзебр Плоўдзійскай акругі. Аўтар кніг: «Рэха кавалаў» і «На белым камені».*

**Слау Хр. КАРАСЛАВАЎ**

## ПРА СЯБЕ

Праб'е мой час,
і свет стазыкі
не патрывожыць больш мой сон,
і ў лузе конікі-музыкі
не для мяне рассыплюць звон.

Пад цяжкім жвірам
лёгкай будзе
дарога вечная мая:
бо там не хваляць, і не судзяць,
там не зраблю памылак я.

Сябе не стану марна цешыць,
што і па смерці буду тут
то засмучоны,
то з усмешкай
глядзець на мілы родны кут.

Я буду чуць шчасліўцаў крокі,
але самому мне — не ўстаць.
Таму й хачу сябе да кроплі —
пакуль жыву —
жывым аддаць!



*Дамян П. ДАМЯНАЎ нарадзіўся ў 1935 г. ў Слівене. Закончыў Сафійскі ўніверсітэт. З самага маленства пакутуе ад цяжкай хваробы, якая перашкаджае падарожнічаць па роднаму краю. Аўтар кніг: «Калі б не было агню» і «Чаканне». Працуе ў аддзеле культуры газеты «Народна младеж».*

**Дамян П. ДАМЯНАЎ**

# РАЗВІТАННЕ

Я ведаю, чаму ў журбе і скрусе
прыйшоў да соснаў у зялёны бор.
З чарэшняй белаю я расстаюся.
Я пакідаю ўтульны ціхі двор.

Мне заўтра рана-раненька ў дарогу,
як толькі ўспыхнуць макі на градзе...
Калі ж ізноў да мілага парогу
мяне мой лёс нялёгкі прывядзе?

Ці ёсць яшчэ дзе-небудзь столькі птушак?
Дзе я пачую гэткі шум лясны?
Ну, што ж, хоць заўтра расставацца мушу —
са мною ў сэрцы будуць век яны —

І птушкі гэтыя, і гоман зычны,
і людзі, што так любяць родны край,
што на расстанне кажуць мне па звычцы:
«Як, можа, што не так, то выбачай!..»

А што не так?.. Я зведаў тут сардэчнасць,
стрэў чалавечнасць у людзей сяла,
і ўзяў з сабою. Толькі чалавечнасць
патрэбна голасу майму была.

Я не стыджуся слёз і не хаваю —
яны ідуць ад сэрца самаго.
Зямля, прачнуўшыся, мяне вітае,
як сына першароднага свайго.





*Уладзімір БАШАЎ нарадзіўся ў 1935 г. у Сафіі. Закончыў аддзяленне балгарскай філалогіі Сафійскага ўніверсітэта. Працуе ў газеце «Роботническо дело». Аўтар кніг: «Трывожныя антэны» і «Пераадоленне гравітацыі».*

**Уладзімір БАШАЎ**

# РАЗМОВА З ВЕЧНА ЖЫВЫМІ

Мы не разлучаліся з вамі ніколі
і разлучыцца б ніяк не змаглі:
вашы магілы брацкія ў полі
калыскамі нам былі,
і там, дзе навек
абарвалася ваша дарога —
шлях пачаўся другі —
шлях нязведаны наш,
для якога вы нам завяшчалі нямнога —
толькі стрэльбу і патранташ.

Мы нянавісць вашу ў сэрцы ўзялі.
Але новы заняўся дзень,
поўны пахаў лесу, металу, зямлі,
поўны святла і добрых надзей, —
ён заклікаў усіх,
хто можа
молат і серп у руках трымаць,—
кожную пядзю зямлі растрывожыць,
нанова забудаваць!

І тады нам стала д'ябальскі трудна —
нібы выйшлі ў сапраўдны бой!
Як разабрацца ў грукаце будняў,
хто чужы, а хто свой,
калі ворагі сініх мундзіраў не носяць,
калі сэрцы сінія ў іх,

калі ўсмешка, ветлая досыць,
не сходзіць з твараў на міг?
І працуюць старанна, жыва,
і гавораць прыгожа ў масах,
і ведаюць мовы чужыя,
і цытуюць Маркса.

О, там, дзе навек
абарвалася ваша дарога,
шлях пачаўся другі —
шлях нязведаны наш,
для якога вы нам завяшчалі нямнога —
толькі стрэльбу і патранташ!
Мы прыходзілі ноччу
да вашых маўклівых магіл,
каб прызнацца вам шчыра,
што парой не хапае сіл,
слёз стрымаць немагчыма.
Толькі тут,
толькі ноччу,
толькі вам!..
Ранкам клікалі зноў нас сурова гудкі.
Дыпламаты, паэты і будаўнікі,
мы ішлі, дзе цяжэй, дзе падмогі чакалі,
мы абходных дарог у жыцці не шукалі.
І цяпер, калі столькі дасягнута намі,
мы праходзім маўклівыя зноў перад вамі
і чытаем прызнанне ў праўдзівых вачах,
што жыве маладосць ваша ў нашых радах.
А яшчэ нам прыкметна і ваша трывога —
вы ўглядаецеся ў нас уважліва й строга,
і, здаецца, пытаюцца позіркі вашы:
ну, а дзе ж нашы стрэльбы,
а дзе ж патранташы?..

О, мы ўмеем захоўваць байцоў запаветы!
І таму ў нас стаяць нагатове ракеты,
затаіўшы зарады нябачанай сілы.
Тым, хто прагне пажару вайны на зямлі,
варта помніць, што брацкія вашы магілы
калыскамі нам былі!

З балгарскай мовы пераклаў
**Ніл ГІЛЕВІЧ.**





*Аўтар аповесцей «Братэрства», «Вяснянка» і «Рэха ў гарах», рамана «Даль палявая», двух зборнікаў апавяданняў для дзяцей, шматлікіх нарысаў аб людзях нашай рэспублікі, яркіх публіцыстычных выступленняў у масавым друку — такі Тарас Хадкевіч, пісьменнік, якому мінула пяцьдзесят гадоў. Знаходзячыся ў самым росквіце творчых сіл, Тарас Хадкевіч працуе цяпер над новым раманам аб людзях нашых дзён, якія множаць славу беларускай індустрыі, будуючы на берагах Заходняй Дзвіны першы ў Беларусі нафтаград.*

*Жадаем яму многіх год жыцця і добрага творчага поспеху!*

**Тарас ХАДКЕВІЧ**

# СКРОЗЬ СТАГОДДЗІ

### Нарыс

Як не любіць Дзвіну, калі нарадзіўся на ёй, блукаў па яе ўзбярэжжы ў дзяцінстве і юнацтве, услухоўваўся ў плёскат яе хваль — то бурлівы, грозны ў вясновую паводку, то ціхі, мілагучны ў пагодны сінявы летні вечар; калі сачыў, як круцяцца колцы віроў, прадзіраўся праз непраходныя лазнякі з калючымі ажавінавымі і парэчкавымі спляценнямі, сядзеў на прыбярэжных валунах, што чорнымі, заімшэлымі гмахамі высоўваюцца сям-там з вады!

Дзвіна. Паўночная водная артэрыя Беларусі, сястра Дняпра і Волгі, паблізу вярхоўяў якіх яна пачынае свой доўгі шлях на захад, да Балтыкі. Магутная рака, што злучае непарыўнай ніццю тры братнія землі — рускую, беларускую і латышскую. Рака, якую не абмінула гісторыя сваёй увагай ад самых старажытных часоў.

Глядзіш на яе срабрыста-блакітную гладзь, і міжвольна думаецца аб тым, што вось па ёй калісьці, у сівую мінуўшчыну, плылі вастраносыя ёмістыя лодкі, кіруючы да «славнаго града Полоцька»: купцы з далёкіх краін везлі розныя вырабы рамеснікаў, каб абмяняць іх на

торжышчы пад Сафійскай гарой у Полацку на зерне, мёд, воск, скуру, дарагія футры. А вось гэтымі берагамі скрозь цёмныя лясныя нетры, як ваўчыныя зграі, прабіраліся з захаду сквапныя да чужога дабра захопнікі, перш за ўсё нямецкія псы-рыцары.

Вось тут,— прыгадваюцца старонкі гісторыі,— ішлі жорсткія бітвы і ў далёкім мінулым, і на памяці нашых дзядоў і бацькоў ды і на памяці нашага пакалення.

Курганы, гарадзішчы, сляды колішніх абарончых умацаванняў, помнікі-абеліскі... Легенды і казкі ў народзе... Сведкай якіх толькі падзей не была Дзвіна — і крывавых, змрочных, і, часам, радасных, урачыстых! Змяняліся поры года, мінаў час, ляцелі гады за гадамі, праходзілі стагоддзі, а яна ўсё гэтак жа горда несла свае воды на захад, і працоўны люд, што жыў на яе берагах, мужна пераносіў ліхалецці, змагаўся з чужынцамі і сваімі прыгнятальнікамі, песцячы мару аб шчаслівым будучым.

Ёсць нешта задумлівае, незабыўна чаруючае ў прыдзвінскіх краявідах, асабліва на прамежку паміж Полацкам і прымежжам з Латвіяй. Прамежак гэты цікавы тым, што тут па Дзвіне да трыццаць дзевятага года праходзіла дзяржаўная граніца з панскай Польшчай. Нейкі след таго пагранічча, той чуйнай цішыні, хоць абодва берагі даўно жывуць агульным, дружным савецкім жыццём, усё ж як бы захаваўся ў наваколлі і да сённяшняга дня.

Глухой, цёмнай сцяной падступае з абодвух бакоў да ракі змешаны лес, навальваецца на рэчышча, нібыта сціскаючы яго. Сосны і яліны, кучаравыя бярозы і алешыны проста з абрываў глядзяць у ваду, як у люстра, і кроны іх з кожнай галінай, кожным лістком выразна адбіваюцца ў ціхай плыні. Потым лес расступаецца, адкрываючы шырокую пойму з лугамі, перасечанымі ручаінамі, над якімі дрэмлюць вячыстыя дубы, з пагоркам, на якім перашэптваецца з ветрам бярозавы гай, і — высокім-высокім небам.

Шырыня, прастор — не акінеш вокам!..

Круты бераг з глініста-пясчанымі выступамі, і тут жа непадалёк — пакаты, у густой шаўкавістай траве, адхон. Вёска, што прыляпілася на кручы, і другая, хаты якой збягаюць па касагору да самай ракі. Паляна з даспяваючым жытам, гул трактара воддаль. Статак кароў на ўзлессі і ля яго — пажылы, але рухавы дзядзька, калгасны пастух, у якога заўсёды знойдзецца пра што пагаварыць з сустрэчным.

Пры беразе — вялікі камень, на ім высечаны крыж і надпіс. Старaславянскія літары ў большасці сцёрліся, але, тым не менш, надпіс можна разабраць — «Божа, памажы рабу свайму Барысу». Па сведчанню вучоных, некалькі такіх камянёў было ўстаноўлена на Дзвіне полацкім князем Барысам у XII стагоддзі быццам бы для арыентыроўкі ў суднаходстве.

Пройдзем пешкі яе ўзбярэжжам, скажам, ад Дзісны да Полацка.

Полацк мы ўбачым зводдалі. І якраз, калі мы дабіраемся да яго з паўднёвага захаду, ён паўстане перад намі ў своеасаблівай, велічнай красе. Наш позірк перш-наперш спыніцца на Замкавай гары з паднятымі ў самае неба вострымі шпілямі Сафійскага сабора. Гара нібы пануе над горадам, які шырока разлёгся сёння карпусамі прадпрыемстваў, новымі жылымі кварталамі, гістарычнымі помнікамі паабапал Дзвіны.

Полацк з яго шматвяковай гісторыяй, з багатым мінулым і радасным сённяшнім і прыгажуня-Дзвіна, авеяная народнымі легендамі і сваёй сучаснай славай, складаюць адно цэлае. З імі цесна звязана нямала слаўных старонак гісторыі нашай Айчыны.



# ПА СЛЯДАХ МІНУЛАГА

Я стаю на Замкавай гары на краі катлавана, выкапанага археолагамі. Нікога тут у гэты момант няма, работы часова прыпынены, але я раней размаўляў з кіраўніком раскопак і ўяўляю ў асноўных рысах, што робіцца тут. На дне катлавана відаць пачарнелыя рэшткі сцен колішніх пабудоў, драўляны брук, асновы печаў. Ад малюнка вее далёкім-далёкім мінулым.

Археолагі кажуць, што гэты ўскрыты імі апошнім часам пласт адносіцца да дзесятага стагоддзя. Знойдзена шмат рэчаў вайсковага і бытавога ўжытку, розных упрыгожанняў, манет розных краін і іншага. Знаходкі сведчаць, што ў горадзе ўжо ў той час былі высока развіты рамёствы, горад славіўся сваімі ўмельцамі-майстрамі і меў шырокія гандлёвыя сувязі са знешнім светам.

Воддаль паблісквае блакітнай люстранасцю Дзвіна, пад самым абрывам Замкавай гары ўпадае ў яе невялікі прыток — Палата. Ля таго берага Дзвіны — востраў, акаймаваны з паўднёвага боку даўно абмялелым рукавом. Над вусцем Палаты, вось на гэтай гары, і нарадзіўся калісьці Полацк. На Дзвіне ж, дзе ўпадае ў яе Палата, збіралася некалі тое торжышча, на якім сустракаліся рускія купцы з замежнымі, што прыплывалі Дзвіной з захаду.

Я прыгадваю зборнік летапісаў, паказаны мне ў мясцовым краязнаўчым музеі. «Повесть временных лет» — Іпацьеўскі спіс. На адной з старонак там запісана:

*«В лето 6370 (Гэта 862 год —* **Т. Х.***)... И прия власть Рюрик и раздая мужем свои грады, овому Полотеск, овому Ростов, другому Белоозеро, и по тем городам суть находницы варязи, а перьвые насельницы в Новегороде словени, в Полотьски кривичи, в Ростове меря, в Белоозере весь, в Муроме — мурома».*

Гісторыю Полацка прынята лічыць з гэтага запісу — гораду сёлета спаўняецца **тысяча сто год.** Але гэта гадавіна не заснавання горада, а першага ўпамінання яго ў гістарычным дакуменце.

Мы не ведаем дакладна, як выглядаў, які быў Полацк у тыя далёкія часы, але ведаем той факт, што ён называецца ў летапісах як буйнейшы горад старажытнай Русі. Полацку, між іншым, у ліку найбольш буйных рускіх гарадоў павінен быў у свой час, згодна дагавору, выплачваць даніну Царград пасля ўдалага ваеннага паходу кіеўскага князя Алега ў Візантыю.

Потым — летапісная гісторыя Рагнеды, дачкі Рагвалода, аднаго з першых вядомых нам князёў полацкіх. Уладзімір, будучы «хрысціцель Русі», сватаўся да яе, але яна адмовіла яму на той нібы-та падставе, што ён быў сын рабыні. Тады Уладзімір напаў з Ноўгарада на Полацк, забіў бацьку і двух братоў Рагнеды, а яе ўзяў сабе за жонку. Рагнеда спрабуе адпомсціць яму, але няўдала. Уладзімір высылае яе разам з яе сынам Ізяславам назад, у Полацкую зямлю. Ізяслаў праз некаторы час становіцца князем полацкім.

Вядома, нельга прыпісваць Рагнедзе, як гэта рабілася сям-там у гістарычнай літаратуры, рысы ледзь не барацьбіткі за незалежнасць роднай зямлі — гэта быў звычайны эпізод тагачасных княжацкіх міжусобіц на Русі. Але сам па сабе гэты факт, трэба сказаць, не пазбаўлен цікавасці.

Раскопкі вядуцца побач з Сафійскім саборам. Яго аграмадзіна і ў сваім сённяшнім выглядзе пакідае ўнушальнае ўражанне. Сабор быў пабудаваны ў канцы XI стагоддзя па ўзору сабораў такой жа назвы ў Кіеве і Ноўгарадзе. У XVIII стагоддзі ён, разбураны, быў

перабудаваны, яму надалі выгляд каталіцкага храма. Захаваліся ад старых часоў асобныя прыбудовы, кладка сцяны ўсходняй часткі ды падзямелле, у якім незадоўга перад вайной былі адкрыты фрэскі часу першай пабудовы сабора.

І калі гэты каштоўны помнік старажытнасці страціў сваё першапачатковае аблічча, дык аб узроўні дойлідства таго часу мы можам меркаваць па другім помніку — Спас-Ефрасіньеўскай царкве, што знаходзіцца на паўночнай ускраіне горада. Невялікая ў памерах, яна здзіўляе манументальнасцю і гарманічнасцю форм. Будаваў яе ў першай палове XII стагоддзя полацкі дойлід Іаан для княжны Ефрасінні — манашкі і асветніцы свайго часу, перапісчыцы кніг.

У гэтай царкве аж да Вялікай Айчыннай вайны захоўваўся ўнікальны па свайму мастацкаму выкананню, абкладзены тонкімі лістамі золата і серабра, упрыгожаны мініятурнымі малюнкамі і каштоўнымі каменнямі крыж, зроблены ў 1161 годзе мясцовым майстрам-ювелірам Лазарам Богшам. У вайну крыж быў украдзен гітлераўскімі захопнікамі, і дзе ён цяпер, пакуль што не выяўлена.

Калі знаёмішся з гістарычнымі крыніцамі аб старажытным Полацку, не можаш не заўважыць аднаго моманту, на які звяртаюць увагу і некаторыя даследчыкі. Не было бадай што ў старажытнарускай дзяржаве такой неспакойнай, такой, кажучы сучасным тэрмінам, недысцыплінаванай зямлі, як зямля Полацкая. Князі полацкія то выступалі супраць Ноўгарада, то вялі бясконцую спрэчку з Кіевам, то на іх саміх, каб уціхамірыць, нападалі князі амаль усёй Русі.

Ясна адно, што зямля Полацкая была багатая і адчувала сілу, каб не лічыць сябе дробным удзелам, пазбаўленым пэўнай аўтаноміі. Спрэчкі, думаецца, насілі характар барацьбы за старшынства ў адной сям'і — хто старэйшы і хто дужэйшы.

Полацк, бясспрэчна, лічыў сябе часцінай рускай зямлі, братам Ноўгарада і Кіева, і панаванне літоўскіх феадалаў, а пазней — польскіх паноў і шляхты выклікала ў палачан зусім зразумелы пратэст. Яны хіліліся да Масквы, вакол якой паступова збіраліся раздробленыя рускія землі.

Ёсць у Полацку маляўнічы куток — так званы вал Івана Грознага. Ён цягнецца высокім зялёным паўколам ад Замкавай гары на поўнач, да Палаты. Па грэбені вала ідзе алея са старых ліп і клёнаў, пад дрэвамі, у засені, пастаўлены лавачкі. Хто б ні прыехаў у горад, ён абавязкова ўзбярэцца на вал — адсюль відаць большая частка горада, яго паўночная ўскраіна за Палатой і прыгожыя, у сіняй смузе, лясістыя далі за горадам.

Вал гэты быў насыпан па загаду Івана Грознага, як частка крапаснога збудавання. Іван Грозны ўзяў Полацк у 1563 годзе ў час Лівонскай вайны — гэта было першае вызваленне горада рускімі з-пад чужаземнага прыгнёту. Пра Дзвіну рускі цар гаварыў тады, маючы на ўвазе перш за ўсё яе ролю ў гандлёвых сувязях з зарубежнымі краінамі: «У Дзвіны берагі сярэбраныя, а дно залатое». Шаснаццаць год горад знаходзіўся ў складзе рускай дзяржавы.

У 1579 годзе да Полацка падступіў з вялікім войскам польскі кароль Стэфан Баторый. Калі ён ішоў сюды, венгерская конніца, як сведчаць запісы сучаснікаў, шаблямі пракладвала шлях праз лясныя нетры. Сілы яго пераважалі над сіламі, што абаранялі горад, хоць у абароне прымала актыўны ўдзел насельніцтва. Пасля кровапралітных штурмаў Полацк паў. Рэштка абаронцаў і частка гарадскіх жыхароў зачыніліся ў Сафійскім саборы. Яны загінулі ў агні, але не здаліся. У часе пажару



загінула і багатая бібліятэка Сафійскага сабора, у якой было шмат старажытных кніг, летапісаў.

Полацк XVI стагоддзя мы ўяўляем ужо не з адных адрывачных апісанняў, але і з малюнкаў відавочцаў. Ён складаўся з трох злучаных паміж сабой мастамі частак. Над вусцем Палаты на гары стаяў Верхні замак, абгароджаны «тыном стоячим из сосневого лесу» з дзевяццю вежамі, з якіх адна, каменная, багата ўпрыгожаная, звалася Чырвонай, або Каралеўскай. Крыху далей ад Дзвіны знаходзіўся Ніжні, або Стралецкі замак. Уласна горад быў размешчан за Палатой, там, дзе цяпер прыгарад Запалоцце.

У тагачасным Полацку жыло звыш ста тысяч чалавек. З гістарычных крыніц вядома, што ён быў тады больш шматлюдны і больш багаты, чым Вільня — сталіца Літоўска-Рускай дзяржавы. Не дзіўна, што за валоданне ім ішла няспынная жорсткая барацьба.

Але не толькі крывавыя старонкі паўстаюць у нашай памяці, калі мы знаёмімся з гістарычнымі помнікамі гэтага горада. Яго крывымі цеснымі вулкамі блукаў калісьці юнаком сын полацкага купца Лукі Скарыны, выдатны беларускі асветнік і першадрукар канца XV — пачатку XVI стагоддзяў Георгі-Францішак Скарына. З гордасцю ён пісаў потым, адкуль паходзіць, на вокладках сваіх кніг, такіх, напрыклад, як *«Библия руска выложена доктором Франциском Скориною из славнаго града Полоцька, богу ко чти и людем посполитым к доброму научению»*.

Паблізу Дзвіны, на цяперашняй Ленінскай вуліцы, побач са старой царквой захаваўся даўні будынак, былы кляштар. Тут у свой час была полацкая брацкая школа, і ў ёй вучыў шкаляроў другі выдатны палачанін, вучоны і паэт XVII стагоддзя Сімеон Полацкі. Ён вітаў у вершах прыход рускіх войск у родны горад у 1656 годзе і так звяртаўся да цара Аляксея Міхайлавіча:

*Витаю тя, царю, от востока к нам пришедшего,*
*Белорусский же от нужды народ весь освобожденаго.*

Канчаткова да Расіі Полацк быў далучан у 1772 годзе разам з іншымі гарадамі паўночнай і ўсходняй Беларусі. Неўзабаве на яго долю выпала новае выпрабаванне, ён стаў адным з важных асяродкаў барацьбы рускага народа з іншаземнымі захопнікамі ў Айчынную вайну 1812 года.

Полчышчы Напалеона спусташальнай лавінай ішлі па беларускай зямлі на ўсход следам за рускімі арміямі, што з баямі адступалі ў глыб Расіі. Адна з гэтых армій — Першая, пад камандаваннем Барклая дэ Толі, прайшла з лагера пад Дрысай праз Полацк у кірунку Віцебска. Горад быў захоплен корпусам напалеонаўскага маршала Удзіно, які разлічваў з ходу прасунуцца на поўнач, пад Пецярбург. Пад мястэчкам Клясціцы французаў сустрэў рускі атрад выхаванца Суворава генерала П. Кульнева.

У двухдзённым баі — 30 і 31 ліпеня — рускія разграмілі і адкінулі назад да Полацка 40-тысячны корпус Удзіно. Смерцю адважных загінуў на полі бою і генерал Кульнеў. Ля вёскі Сівошына, што на рацэ Дрысе, і цяпер беражліва захоўваецца помнік паўшым героям і іх палкаводцу.

Праславіла сябе ў той вайне і вёска Жарцы, размешчаная за 16 кіламетраў на поўнач ад Полацка. Яе жыхары стварылі партызанскі атрад. Ён наносіў не малую шкоду ворагу. Партызаны ўдзельнічалі і ў вызваленні горада ў кастрычніку месяцы, калі рускія войскі ўпартым штурмам выгналі французаў. Разбітыя корпус Удзіно і прысланы яму на дапамогу корпус Сен-Сіра паспешліва адступілі да ракі Бярэ-

зіны, дзе і знайшлі сваю пагібель разам з рэшткамі ўсёй арміі Напалеона.

Частыя войны і стыхійныя няшчасці — пажары, эпідэміі — з цягам часу ператварылі Полацк з буйнага горада ў маленькі, нязначны гарадок. У 1817 годзе ў ім налічвалася насельніцтва 3 340 чалавек, а да канца стагоддзя вырасла ўсяго да нейкіх 20 тысяч.

Нічым не прыкметны павятовы гарадок з вузкімі незабрукаванымі вуліцамі, з крамамі дробных гандляроў і маленькімі саматужнымі майстэрнямі, з перазвонам шматлікіх цэркваў і касцёлаў — такі быў Полацк пад крылом двухгаловага арла царскай Расіі. Мала ажывіла яго і Рыга-Арлоўская чыгунка, пракладзеная тут у канцы XIX стагоддзя. Славіўся горад хіба што кадэцкім корпусам, Спас-Ефрасіньеўскім манастыром ды духоўным вучылішчам.

Ціха, млява цякло жыццё ў гэтым правінцыяльным гарадку. Асыпаліся адхоны старых абарончых насыпаў, паступова мялела Дзвіна, па якой з пабудовай чыгунак амаль спынілася суднаходства. І ў гэтае жыццё, як і ў жыццё ўсёй Расійскай імперыі, асвяжальнай віхурай уварвалася Кастрычніцкая рэвалюцыя. Яна прыйшла ў громе залпаў «Аўроры», у жаданай яснасці ленінскіх дэкрэтаў аб міры, аб зямлі, у шматгалосым гомане паўстаўшых рабочых і салдат Петраграда.

Кастрычнік шпарка дайшоў і да Полацка. Над вежай былой гарадской ратушы ўзвіўся чырвоны сцяг, абвясціўшы працоўным аб надыходзе доўгачаканай свабоды, новай эры ў жыцці народаў разбуранай рэвалюцыяй Расійскай імперыі. І хоць гораду давялося яшчэ перажыць нягоды часовай нямецкай акупацыі і вайны з белапалякамі, перад ім адкрылася такая будучыня, аб якой палачане ў мінулым не маглі і марыць.

Але гэта ўжо новая старонка ў шматвяковым жыцці горада.

Так вырысоўваецца перад намі ў кароткіх рысах гісторыя Полацка, калі мы ходзім сёння яго вуліцамі, прыглядаемся да помнікаў старажытнасці, знаёмімся з матэрыяламі ў краязнаўчым музеі горада.

## КАЛІ НАДЫШОЎ РОСКВІТ

— Вы чулі легенду аб тым, куды вядзе з Сафійскага сабора адзін з падземных хадоў? — спытаўся неяк у мяне мой малады полацкі прыяцель Валянцін Лукша, палачанін з нараджэння, тэхнік-лесавод па прафесіі, нафтабудавец, журналіст, паэт.

— Пра падземныя хады я чуў даўно, але куды яны вядуць — ліха іх ведае,— шчыра прызнаўся я.

І Валянцін расказаў мне сапраўды-такі паэтычную легенду, якую чуў ад кагосьці са старых, аб тым, што адзін ход з падзямелля Сафійскага сабора ідзе пад Дзвіну і далей — далёка-далёка ў размешчаны недзе сярод непраходных лясоў і балот горад неапісальнай прыгажосці, горад святла і радасці. І, канешне, як гэта бывае ў казках і легендах, гэты ход можа адшукаць толькі чалавек чыстай душы, крыштальнага сумлення.

Магчыма, такая легенда існавала з даўніх часоў, і нам абодвум была зразумела падстава яе ўзнікнення. Прыгнечаны працоўны чалавек заўсёды марыў аб лепшым жыцці. Рэлігія ўбівала яму ў галаву думку аб шчаслівым жыцці «на тым свеце», а ён упарта думаў, што яно можа быць і пры ім, на зямлі, і старадаўні Сафійскі сабор, ахутаны веліччу і таямнічасцю, выклікаў у ім мару, у якой фантазія ўпрыгожвала рэчаіснасць.



Будучы ў канцы дваццатых гадоў студэнтам Полацкага педагагічнага тэхнікума, я разам са сваімі дапытлівымі сябрамі залазіў у падзямелле Сафійскага сабора. Мы шукалі і падземны ход, пра які чулі і былі ўпэўнены, што вядзе ён ні ў які там «райскі» горад, а куды-небудзь пад адхон Замкавай гары ці ў Задзвінне, і прызначэнне яго мела чыста абарончы характар. Але цемра, сырасць, каменная аграмадзіна над галавой палохалі нас, і якімі адважнымі мы ні лічылі сябе, ніякіх хадоў не знайшлі.

Полацк быў першым значным горадам, які я ўбачыў у жыцці, прыехаўшы сюды з вёскі ўвосень 1927 года паступаць у педтэхнікум. Каменныя дамы, роўныя вуліцы ў цэнтры, Сафійскі сабор, вал Івана Грознага, велічны і цяжкі ў сваёй архітэктуры кадэцкі корпус зрабілі на мяне моцнае ўражанне. Здавалася, што гэта і ёсць адзін з тых гарадоў, аб якіх я чытаў у вёсцы ў кніжках і куды прагнуў калі-небудзь паехаць.

Горад адбудоўваўся, расшыраўся. Паявіліся ў ім прамысловыя прадпрыемствы, сярэднія школы, тэхнікумы, кінатэатры, рабочыя клубы: вуліцы прыбіраліся ў пышную зеляніну. Было ў горадзе тады шмат моладзі, камсамольскае жыццё бурліла кіпучай крыніцай, і маладзёжны клуб на вуліцы Карла Маркса вечарамі гуў, як пчаліны вулей: то праводзілася тут дыскусія на тэму «Што такое мяшчанства», то адбываліся сходы і нарады, то ставіліся самадзейныя спектаклі.

У гэтым горадзе прайшлі чатыры гады майго юнацтва. Тут я адчуў радасці першых літаратурных крокаў, пазнаёміўся з маладымі ў той час паэтамі і пісьменнікамі, якім наканавана было пазней заняць пэўнае месца ў беларускай літаратуры: Петрусём Броўкам, Янкам Скрыганом, Эдуардам Самуйлёнкам, Анатолем Астрэйкам. Усе мы атрымалі першую загартоўку ў камсамоле, камсамол выдаў нам пуцёўкі ў шырокае жыццё.

І калі потым, паехаўшы на вучобу ў Мінск, я расстаўся з Полацкам, ён усё роўна вабіў мяне, як родны кут, з якім звязана багата светлых успамінаў. Прыемна было паехаць туды, пабачыць змены ў горадзе, паблукаць па любімых мясцінах, сустрэцца з людзьмі, даведацца, хто і дзе цяпер з тваіх блізкіх, знаёмых. Наколькі вырас горад, сведчыў, напрыклад, такі статыстычны факт: у 1939 годзе прамысловасць Полацка выпусціла прадукцыі ў 520 разоў больш, чым выпускала ў год да рэвалюцыі.

Калі надышла Вялікая Айчынная вайна, Полацк неяк у пачатку яе прамільгнуў у ваеннай зводцы, як горад, за які вяліся жорсткія баі. Больш мы пра яго ў вайну нічога не чулі, аднак да нас даходзілі весткі, што вакол яго — на Ветрыншчыне і Ушаччыне, на Асвейшчыне і Расоншчыне — нязгасным полымем бушуе партызанская вайна. Потым, улетку сорак чацвёртага года Полацк зноў паявіўся ў зводцы сярод гарадоў, вызваленых гераічнай Савецкай Арміяй.

Упершыню пасля вайны я наведаўся ў гэты горад восенню сорак пятага года. Я бачыў да гэтага нямала разбураных гарадоў, бачыў ужо і знявечаны Мінск, і тым не менш разбурэнні ў Полацку глыбока ўразілі. Горада як і не было — адны руіны і папялішчы, абгарэлыя, патрэсканыя рэшткі сцен, зарослыя палыном пагоркі на месцы колішніх будынкаў, агародзікі на папялішчах, часовыя, пастаўленыя наспех хаціны. Дарэмна я шукаў вуліцы і дамы, у якіх жыў некалі — яны зніклі.

На Палаце ў самім горадзе была збудавана маленькая гідраэлектрастанцыя. Магутнасць яе складала ўсяго трыста кілават — энергіі не хапала нават для асвятлення.

Полацк перажыў у гэтую вайну новую трагедыю і, бадай, самую страшную з усіх, што ён перажываў за сваю доўгую гісторыю.

Але цяпер былі інакшыя ўмовы, чым раней, калі нанесеныя гораду раны залечваліся доўгімі-доўгімі дзесяцігоддзямі. Мінуў нязначны ў гістарычным маштабе час, і Полацк, як і іншыя разбураныя ў вайну беларускія гарады, паўстаў з руін і папялішчаў, расце, шырыцца, прыгажэе з года ў год.

Не бездапаможная карлікавая гідраэлектрастанцыя на Палаце, а магутная цеплаэлектрацэнтраль дае ўдосталь святла гораду і яго ваколіцам і энергіі прамысловым прадпрыемствам. Выраслі прасторныя карпусы ліцейна-механічнага завода, хлебакамбіната, швейнай фабрыкі. Прамысловасць горада ўзбагацілася прадпрыемствамі, якіх тут не было да вайны.

Ці ўяўляеце вы, напрыклад, палатно са шкла? Серабрыстае або з лёгкімі адценнямі, мяккае, эластычнае. Хоць са шкла, але не б'ецца, хоць палатно, але не гарыць. Яно выпрабляецца на Полацкім заводзе шкловалакна.

Мы трымаем на далоні звычайны шкляны шарык. Якім чынам і якую нітку, здавалася б, можна з яго зрабіць? Але вось такія шарыкі трапляюць у электрапеч, і цікава назіраць, як з расплаўленага шкла намотваюцца на бабіны танюсенькія ніці. Бабіны паступаюць у цэх размоткі, ніці перамотваюцца на чаўнакі, потым у матальным цэху скручваюцца ў больш тоўстыя, і вось мы — у галоўным ткацкім цэху.

Шумяць ткацкія станкі-паўаўтаматы, мільгаюць паміж імі постаці ткачых, цэх напоўнен рытмічным гулам. У многіх ткачых на галовах чырвоныя касынкі — гэта адзнака перадавікоў вытворчасці.

Малады, жвавы чалавек брыгадзір перадавой брыгады ў ткацкім цэху Рыгор Шалястун у час перапынку збірае каля сябе дзяўчат, вынімае з кішэні і разгортвае пісьмо; на канверце штамп ČSSR — Чэхаславакія. Брыгада Шалестуна ўжо колькі часу перапісваецца з адной брыгадай такога ж завода ў Чэхаславакіі. У пісьмах дзеляцца вопытам і асабістымі радасцямі.

— Ну, і хто ж з вас наперадзе? — цікавімся.

— Ды як сказаць,— няпэўна адказвае брыгадзір, не жадаючы, відаць, выхваляцца і, тым больш, хоць у нейкай меры прынізіць сваіх зарубежных сяброў. — У іх свае поспехі, у нас свае. Галоўнае ж — дружба!

Выйшаўшы з варот завода, мы крочым цэнтральнай вуліцай. Ад гасцініцы — аднаго з прыгажэйшых будынкаў горада — і паштамта, што насупраць яе, да плошчы Свабоды прасціраецца ўтульны сквер. Уласна, гэта не сквер, а сапраўдны парк з ценістымі алеямі, кветнікамі, скульптурнымі ўпрыгожаннямі, лавачкамі. Праз яго і паабапал праходзяць цэнтральныя вуліцы, уліваючыся ў прасторную плошчу.

Квартал з правага боку адбудаван такім, якім ён быў да вайны. Будынак колішняй гарадской ратушы, а непадалёк, як гэта і было раней у павятовых гарадах — высачэзная пажарная каланча. Жылыя дамы, гандлёва-кааператыўны тэхнікум, а па другі бок плошчы — адміністрацыйныя будынкі сучаснага стылю, у якіх размяшчаюцца раённыя ўстановы.

Невялікую, цесную гарадскую плошчу ля кадэцкага корпуса палачане называлі некалі «талерачкай». Яна цяпер упарадкавана, агароджана, засаджана дрэвамі і кустамі, пасярэдзіне яе ўзвышаецца велічны манумент-помнік савецкім воінам, што загінулі ў баях за вызваленне Полацка ад фашысцкіх захопнікаў. Падножжа яго абкружана багатым кветнікам. Побач жа, як працяг «талерачкі», раскідваецца новая плошча — вялікая, сонечная, акаймаваная зеленню.

Няма сёння і следу ў горадзе ад колішняй цішыні, закінутасці. Горад надзвычай ажыўлены, з няспынным рухам машын, люднымі тратуарамі. Насельніцтва яго значна вырасла ў параўнанні з даваенным: за шэсцьдзесят тысяч чалавек! Шмат моладзі — студэнтаў тэхнікумаў, навучэнцаў тэхнічных вучылішчаў, рабочых новых прадпрыемстваў і будоўляў. Сярод жыхароў ёсць нямала людзей, імёны якіх вядомы не толькі палачанам.

Вось група піянераў крочыць па Ленінскай вуліцы, спыняецца ля пад'езда аднаго з дамоў і — знікае ў ім. У гэтым доме жыве Герой Савецкага Саюза Зінаіда Тусналобава-Марчанка. Яе і прыйшлі праведаць дзеці.

Зімой сорак другога года маладая медсястра палачанка Зіна Тусналобава ў часе бою выносіла раненых. Перад тым у вайсковай газеце пісалі пра яе, што ў апошніх баях яна вынесла 128 раненых байцоў са зброяй. Немцы адкрылі па ёй страляніну, яна працягвала сваю справу. Кулі перабілі ёй ногі. Моцны мароз узмацніў пакуты, пакуль яна, апрытомнеўшы, выпаўзла да сваіх. У шпіталі ёй ампутыравалі ногі і рукі. Вестка пра яе подзвіг хутка абляцела вайсковыя часці 1-га Прыбалтыйскага фронта; на самалётах і танках паявіліся заклікі: «Адпомсцім за Зіну Тусналобаву!»

Пасля вайны яна вярнулася ў родны горад, мае сям'ю, часта атрымлівае пісьмы з розных канцоў Савецкага Саюза ад сваіх былых баявых сяброў і ад незнаёмых, якія чулі пра яе подзвіг і ганарацца ёй.

Жыве ў Полацку і старэйшы беларускі паэт Янка Журба. Летась грамадскасць горада разам з пісьменнікамі, што прыехалі з Мінска, урачыста адзначылі яго васьмідзесяцігоддзе. Частымі гасцямі ў старога паэта бываюць школьнікі і студэнты педагагічнага вучылішча.

Аглядаючы новы Полацк, любуючыся маляўнічымі куткамі, вуліцамі і плошчамі, жылымі кварталамі, забудаванымі дамамі такога ж тыпу, як і ў сённяшнім Мінску, мы ўсё ж не-не ды і звяртаемся да мінулага горада, бо аб гэтым мінулым напамінаюць раскіданыя і там, і там помнікі старых часоў. Іх не так шмат, але яны прыкоўваюць увагу. Затое зусім інакшае адчуванне агортвае нас, калі мы трапляем на вялікую будоўлю, якой славіцца сёння Полацк — на Нафтабуд.

Прыдзвінская вёска Ахотніца каля шашы Масква — Рыга. Насупраць яе на тым беразе Дзвіны ўстае на фоне некранутага лесу ўвесь у сонечным святле дзівосны новы горад — горад полацкіх нафтавікоў. Усяго чатыры гады таму назад тулілася тут да ўзбярэжжа маленькая вёска Слабада, і ніхто з яе жыхароў не меркаваў, што стане сведкай, а то і ўдзельнікам нябачана шпаркіх пераўтварэнняў у гэтай ціхай сельскай мясцовасці.

Першы камень гэтага горада быў закладзены ўлетку пяцьдзесят восьмага года. Вунь першая пабудова — цяперашні нейкі склад, гэта была павець-сталовая для будаўнікоў, што прыехалі сюды з розных куткоў краіны. Адсюль і пачаў расці горад: спачатку будаваліся аднапавярховыя інтэрнаты і грамадскія памяшканні, потым — двух-, трох- і чатырохпавярховыя дамы і адразу ж добраўпарадкоўваліся квартал за кварталам, забрукоўваліся і асфальтаваліся вуліцы, высаджваліся дрэўцы на будучых скверах.

Горад ужо цяпер набыў сваё, уласцівае толькі яму аблічча: шырокая, у зеляніне, цэнтральная вуліца, злева — масіўны будынак сярэдняй школы, паабапал яе — дзіцячыя яслі і сад, непадалёку плошча, вакол якой размясціліся службовыя будынкі, кінатэатр, сталовая, камбі-

нат бытавога абслугоўвання; на ўзлессі, у засені соснаў і ялін, абсталяваны Зялёны тэатр. Між тым, усё гэта — толькі частка горада, які павінен тут вырасці.

Воддаль жа за лесам раскінулася будаўнічая пляцоўка самога нафтаперапрацоўчага завода, буйнейшага ў нашай краіне. Яна займае вялізны абшар, увесь цяпер перакапаны і ўздыблены. Будаўніцтва ў самым разгары. Падымаюцца вытворчыя карпусы, выстрайваюцца ў шарэнгі гіганцкія рэзервуары для нафты, што прыйдзе ў будучым па нафтаправоду з далёкага Заволжа, манціруюцца тэхналагічныя ўстаноўкі, магутныя калоны крэкінга — сэрца будучага завода.

Завод уступіць у строй у канцы сямігодкі, першая ж чарга яго павінна быць здадзена, паводле ўстаноўленых тэрмінаў, у наступным годзе. Але ўсюды на пярэднім краі будоўлі мы сустракаем плакаты і палотнішчы з заклікам: «Здадзім першую чаргу завода на год раней тэрміну!» Вось за што змагаюцца сёння полацкія нафтабудаўцы.

...Вярнуўшыся з Валянцінам Лукшам з пярэдняга краю, мы доўга ходзім па горадзе нафтавікоў. Валянцін на будоўлі ад першых дзён, ведае кожны закутак тут, можа расказаць з дакладнасцю, калі і кім узведзены той ці іншы будынак, што было і што стала вось на гэтым і вось на тым месцы.

Я пытаюся ў яго жартам:

— Ці не той гэта горад, пра які апавядае чутая табой легенда аб падземным ходзе з Сафійскага сабора?

— Можа быць,— хітравата ўсміхаецца ён, і ў мяне, грэшнай справай, закрадаецца падазрэнне, ці не ён сам, паэт па прызванню, стварыў такую легенду. Няхай і так, але ў ёй ёсць паэзія, што ідзе з народных глыбінь.

На ўсходняй ускраіне горада падымаецца яшчэ адзін незакончаны пяціпавярховы гмах. Над ім распасцёр рабрыстую стралу вежавы кран. З кабіны крана ды і з пятага паверха будынка — мы ведаем гэта — добра відаць усё наваколле: новы горад унізе, шырокая стужка Дзвіны ў незабыўна прыгожых берагах, а ў сіняватай далечыні ўгадваюцца абрысы старога Полацка, горада з тысячагадовай гісторыяй.

Пройдзе нейкі час, і, магчыма, абодва гарады — стары і новы, малады — зліюцца ў адзін буйны прамысловы цэнтр на Дзвіне, утварыўшы горад будучыні, у якім — квітнець радасці і шчасцю будаўнікоў камунізма.





Аляксей СІНІЛАЎ

# ТОЛЬКІ НА БУДОЎЛЮ

### Рэпартаж

— А як называецца вось гэтая прылада? — спытала дзяўчына, трымаючы ў руках кельму.

Брыгадзір аж скалануўся. Толькі што было «анкетнае» знаёмства. Прозвішча. Імя. Па бацьку — не пыталіся, бо не такі ўзрост, каб называлі адзін аднаго па бацьку...

Сярод тых, што прыйшлі ў яго брыгаду, ёсць муляры, трактарысты, шафёры, слесары... Ёсць і людзі проста без спецыяльнасці. У іх сёння першы крок у самастойнае жыццё. Ведаў брыгадзір: на першым часе давядзецца цяжка, кожнаму пакажы, за кожным прыгледзь. Але не думаў, што ўсё пачнецца гэтак..

Ён пайшоў разам з дзяўчынай па інструмент. І вось яна ўзяла з кучы «маленькую лапатачку»... «Ды што яна пытаецца — каб пасмяяцца?..» — нахмурыўся брыгадзір. Зірнуў у вочы — сур'ёзнасць, дапытлівасць.

— Гэтай лапатачкай, дзяўчына, будзем мураваць сцены — скупа ўсміхнуўся брыгадзір. — А называецца яна — кельма!..

Сёння на будоўлі ўспамінаюць гэты выпадак з вясёлай усмешкай. Калі ж захочаш удакладніць і спытаеш, у якой іменна брыгадзе ён адбыўся, скажуць:

— Хіба ў адной? Ва ўсіх брыгадах пачыналі з гэтага...

Было такое і ў брыгадзе, якую ўзначаліў Вяслаў Гапонік. З дваццаці чалавек у ёй спачатку было пяцёра муляраў, калі лічыць і самога брыгадзіра, цясляр — толькі адзін.

Затое брыгадзір — кадравы будаўнік.

Думалася, што Вяслаў Гапонік сталы, у гадах, рабочы. А ён зусім яшчэ малады, камсамольскага ўзросту чалавек. На будоўлю над Нёманам прыйшоў, маючы за плячамі дзевяцігадовы стаж будаўніка.

На новым месцы аб яго брыгадзе загрымела добрая слава. Хто дабіваецца высокай якасці работы? Брыгада Гапоніка. Хто першы здае свой аб'ект пад мантаж? Яна ж. Дзе самыя дружныя і актыўныя хлопцы? Зноў жа — у камсамольска-маладзёжнай брыгадзе Гапоніка.

* * *

На прасторнай пляцоўцы не адразу прыкмеціш дзве невялікія будыніны: чыгуначнае дэпо і заводскую пральню. Яны здаюцца зусім невялічкімі побач з высачэзнымі гмахамі будучага завода.



**Алена Палуйчык, Генадзь Пархімовіч і Зося Мархалюк — будаўнікі азотна-тукавага камбіната.**

З гэтымі будынінамі вельмі многае звязана ў жыцці камсамольска-маладзёжнай брыгады. «Наш універсітэт», — можна пачуць ад тых, хто пачынаў тут свой шлях. У зімовую непагадзь і веснавое разводдзе камсамольцы трымалі тут экзамены. Першае заданне было — пабудаваць пральню. Першая лекцыя была — заліўка бетонам падмурка. Наступная — кладка сцен.

Больш за ўсіх, мусіць, даставалася ў тыя дні самому брыгадзіру. Ён быў за настаўніка. Бывала, пераходзіць ён ад аднаго рабочага да другога і паказвае, у якую руку браць цагліну, у якой кельму трымаць і як яе трымаць...

Тое ж рабілі і муляры Аляксандр Ціхун, Генадзь Пархімовіч, Генадзь Давідовіч.

Брыгадзір прыглядаўся да людзей, і яны ўсё больш яму падабаліся. Вось Ян Радзевіч. Як ён усё адразу схоплівае, запамінае — кожны рух, кожную дробязь. Або Казімір Радзіваноўскі. Працаваў трактарыстам, а як абвясцілі, што патрэбны рабочыя рукі на азотнатукавым, — пайшоў сюды. У вёсцы меў добры гарантаваны заробак, а тут пачаў з падсобніка. Добрым лесарубам быў Антон Іадкоўскі, ведаў сваю справу. А тут давялося перавучвацца...

Брыгадзір злавіў сябе на тым, што ля Антона Іадкоўскага ён спыняўся часцей, чым ля іншых. Не заўсёды, каб паказаць, іншы раз толькі каб паназіраць. Увачавідкі мяняўся малады муляр: спрыт, навыкі...

«Выдатны спецыяліст будзе», — думаў пра Антона брыгадзір.

Мінулі тыя дні, калі брыгадзір ішоў са змены з цяжкай думкай: «Ці здужаем? Ці здружыцца брыгада?» Спатрэбілася сіла волі, каб адагнаць ад сябе здрадлівую няўпэўненасць: «А ці не лепш, пакуль не позна, сказаць: не здолею, таварышы, сіл не хопіць...»

Няўпэўненасць знікла, вось толькі, як знарок, цяжкасці за цяжкасцямі... Працавалі недалёка ад дарогі. Але ж, бывала, зверне самазвал з шашы — і спыніцца. Буксуе. Тады яго чапляе трактар і валачэ да аб'екта. Аднойчы трактар не прыехаў. Хтосьці прапанаваў перакур, нехта ж коратка сказаў: «Пойдзем, паглядзім...» Сказаў «паглядзім», а сам узяў рыдлёўку і пабег да грузавіка. Следам за ім, забыўшы на перакур, падалася ўся брыгада з рыдлёўкамі, ламамі, дошкамі... У той дзень норму выпрацоўкі намнога перавыканалі.

Неяк здарылася так, што пад канец змены завезлі многа бетону. Што рабіць? Пайсці ўсім дадому — прападзе матэрыял...

— Застаюся! — сказаў адзін.

— І я, — адказаў другі.

Усе рашылі астацца працаваць, пакуль не ўкладуць нарыхтаваны бетон.

— Хлопцы, — разважліва загаварыў Генадзь Пархімовіч, — выходзіць, да раніцы, бо аўтобус спецыяльна па нас не прыедзе. А і заўтра ж трэба будзе працаваць. А можа мы ўтрох... — ён кіўнуў на двух сваіх таварышаў, — астанемся... Дазвольце нам, управімся!...

Хуценька падрыхтавалі фронт работы для траіх і паехалі. А назаўтра ўсёй брыгадай дзякавалі сваім таварышам.

— Ды што тут... Кожны зрабіў бы тое ж... — аднекваліся тыя, зноў пабраўшыся за кельмы.

«Кожны!» — пацвердзіў у думках брыгадзір і сказаў:

— Вы, хлопцы, малайцы, сапраўдныя сябры!

* * *

Абедзенны перапынак. Уся брыгада сабралася ў пакоі адпачынку. Вецер з поля хвошча ў вокны калючым снегам, а тут цёпла. Грубка напалена. Можна пачытаць газету, забіць «казла». Але ж бываюць мінуты, калі ніхто не дакранецца да костачак даміно. Садзяцца, і пачынаецца ціхая гутарка:

— Я так разумею... — гаворыць Саша Ціхун. — Вось збудуем завод — і кожны з нас з гонарам скажа: «Я будаваў!»

Цудоўнае слова — рамантыка! Нібы на крылах, падымае яна чалавека на подзвіг. Аб гераізме людзей працы было сказана многа цёплых слоў з трыбуны XXII з'езда партыі. «Каб паспяхова выравышыць велічную Праграму КПСС, — гаварыў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, — патрэбен сапраўдны гераізм. Але гераізм у нашых умовах — не толькі парыў, упартасць, стараннасць. Гэта разам з тым уменне, веды, высокая культура, перадавая тэхніка, наватарства».

Так яно ў маладых рабочых і бывае: узнёсласць, парыў маладосці і ўпартасць у дасягненні пастаўленай мэты спалучаюцца з штодзённай настойлівай вучобай, з наватарскім падыходам да справы.

— Таленавіты муляр. Майстар, — так у брыгадзе Гапоніка гавораць пра камсамольца Антона Іадкоўскага. Яшчэ год назад на пытанне, якая ў яго спецыяльнасць, Антон адказваў: «З пілой і сякерай магу ў лесе працаваць». Сёння ж ён — вядомы муляр. Паглядзелі б, якая прыгожая ў яго кладка! І вугал сам выведзе, і чарцёж прачытае. Спецыяліст! Рэдка каму ўдаецца за адзін год атрымаць трэці кваліфікацыйны разрад. Гэта ўсё роўна што за зіму прайсці два курсы ў інстытуце. А яшчэ ж камсамольцы выбралі яго кіраўніком рабочага паста па праверцы якасці. І не памыліліся:



**Таленавіты муляр, майстар, — так у брыгадзе гавораць пра камсамольца Антона Іадкоўскага** (на першым плане).

Антон не прапускае ні аднаго выпадку браку на будоўлі.

Ведаючы, хто такі Вяслаў Гапонік, не цяжка сказаць, якія ў яго сябры. Брыгадзір — добры прыклад для сяброў. І пост па якасці — гэта таксама адна з тых спраў, якой даў пуцёўку ў жыццё брыгадзір. Сумесна з Іадкоўскім цясляр Віктар Вербаль і муляр Мар'ян Абуховіч пільна стаяць на варце якасці — такімі іх выхавала брыгада. Брыгада ж дала ім шырокія правы, якія дарэчы спатрэбілася выкарыстаць толькі аднойчы.

Падыходзіць гэта Антон Іадкоўскі да свайго сябра муляра і кажа вельмі ветліва, культурна:

— Таварышок даражэнькі, нешта не падабаецца мне твая работа. Давай, праверым...

Праверылі. Скрывіў прасценак.

Брак. І таварыш мусіў разабраць цэглу і выкласці прасценак як мае быць.

У брыгадзе патрабаванні аднолькавыя да кожнага — ці да вучаніцы, якая толькі збіраецца стаць мулярам, ці да кваліфікаваных будаўнікоў: ніякага браку!

Вось чаму ўсё, што робяць Вяслаў Гапонік і яго сябры, дзяржаўная камісія прымае з вышэйшай ацэнкай — выдатна!

Я гляджу на гэтых хлопцаў і дзяўчат, і адна думка не выходзіць з галавы. Героі. Перада мной — людзі, якія ў сваёй працы ўзняліся да ўзроўню працоўнага подзвігу. Між тым, у гэтую хвіліну абедзеннага адпачынку ўсе яны — такія звычайныя. Гутараць між сабою, а выпадзе мінута — сыграюць у даміно. А пасля будуць нязлосна пакепліваць са свайго таварыша-халасцяка: маўляў, сілком ажэнім, а нявесту знойдзем найлепшую — гэта ўжо ручаецца ўся брыгада.

Калі ж скончыцца абед — усе стануць на свае рабочыя месцы, падымуцца на дваццаціпяціметровую вышыню, адкрытую ўсім вятрам і марозам. І не скажуць, што цяжка. Проста, людзі будуць працаваць, як заўсёды, будуць перавыконваць нормы, будаваць надзейна, трывала. І ніхто з іх не падумае пра гераізм. Такая наша рэчаіснасць.

Пра сябе хлопцы з брыгады Вяслава Гапоніка разважаюць:

— Да поўнага ўніверсітэта, канешне, далёка. Здалі толькі першы курс. Мы вырашылі вучыцца працаваць і жыць па-камуністычнаму. Каб заслужыць гэтае пачэснае званне, трэба яшчэ многа і ўпарта працаваць. Многія з нас стануць інжынерамі і тэхнікамі.

Мяне зацікавіла яшчэ адно пытанне, і на развітанне я запытаў Вяслава.

— А не было выпадку, каб хто...

Ці то па інтанацыі, ці па вачах брыгадзір здагадаўся, пра што гутарка, і адказаў:

— Было... Будоўля ж вялікая. Траплялісія і такія, што ехалі сюды, як на прагулку. Такія і не вытрымалі выпрабавання.

Мне прыгадалася, як аднойчы адзін фотааматар прынёс у рэдакцыю здымак:

— Не падыдзе для газеты? — весела спытаў і дадаў: — Прыгожая дзяўчына. Некалі Антон Паўлавіч Чэхаў пісаў, што ў чалавека ўсё павінна быць прыгожае: і твар, і адзенне...

— Твар і адзенне — гэта і ўсё?

— А хіба мала?

Дзяўчына ў рабочай спяцоўцы, з кельмай. Твар прыгожы, свеціцца ўсмешкай, у вачах гарацзь іскрынкі. Гэта была Зоя М. На будоўлю прыйшла з сярэдняй школы. Авалодала спецыяльнасцю муляра.

Аднак не ўжылася дзяўчына ў калектыве. Узялася была за мулярскую справу — і не вытрымала, кінула будоўлю. На развітанне сказалі ёй традыцыйнае: «Шчасліва»...

А ці будзе яна шчаслівая? Гарачыя, кіпучыя будні вялікай будоўлі яна прамяняла на цішу кабінета. І нібы ў сваё апраўданне сказала: «Трэба ж і там каму-небудзь працаваць».

Вядома, трэба. Кожная праца ў нашай краіне пачэсная і неабходная. Толькі ж ці варта маладой, здаровай дзяўчыне шукаць лягчэйшую сцежку, шукаць месца, якое, шчыра скажам, якраз дарэчы чалавеку перад тым, як ісці на пенсію.

Пайшла дзяўчына з будоўлі — справа не стала. І месца пустое не засталося. Многа ёсць людзей, якія лічаць для сябе за гонар працаваць на такой будоўлі. Тут толькі шкадуюць, што не здолелі перасцерагчы Зою ад неабдуманага кроку, і шчыра, па-чалавечы спачуваюць ёй. Як не спачуваць таму, хто нешта згубіў і ніяк не знойдзе яго. А Зоя згубіла вялікую радасць, што раней ззяла ў вачах, згубіла даражэйшае за ўсё — радасць адчуваць сябе вялікай, моцнай, заўсёды бадзёрай ад аднаго ўсведамлення, што ў перамозе таварышаў ёсць і твая перамога, што ў вялікай справе ёсць і твая часцінка..,

Вядома, прыгожы Зоін твар пасля гэтага не стане непрыгожым, усмешка не знікне з яе вачэй. Але ж розніца паміж той і гэтай усмешкай будзе. Існуе ж розніца паміж кастрамі, адзін з якіх — гарыць, а другі — тлее.

Іншыя маладыя людзі, як той фотааматар, ухапілі толькі палову думкі, якая выказана ў Чэхава: і твар, і адзенне... Забылі ж другую:... і думкі, і ўчынкі...

Гаворку пра гэта хочацца прадоўжыць на другім прыкладзе. Па суседству з брыгадай Гапоніка працуе брыгада Герасімава. Яны спаборнічаюць. І сам Герасімаў, і муляры, і цесляры, і вучні — народ малады. Ёсць там і сталыя людзі. Брыгада працуе на вялікай вышыні, кладзе сцены. Калі стаць вось так — воддаль, можна ўбачыць, як немалады ўжо чалавек муруе вугал сцяны. У муляраў гэта самая адказная справа — вугал. Тонкая работа. Усе астатнія раўняюцца на таго, хто стаіць на вуглах. Таму глянеш на вугал, і не памылішся: рэй вядзе майстар.

Іменна такая слава ў Апанаса Іосіфавіча Дзятчэні. У яго за падручную — Лена Пятрушка, жвавая дзяўчына.

Дзядзька Апанас — стары будаўнік. Некалі ён быў салдатам. Штурмаваў Берлін. Чалавек працы, ён паважае сваю памочніцу за тое ж — за яе працу. Стары майстар і яго маладая памочніца апрануты аднолькава: ватоўка і ватныя штаны, буркі і шапка-вушанка. Нават такое нязграбнае адзенне не замінае дзяўчыне быць прыгожай. З жывінкай вочы, прывабны твар...

Усе памятаюць, як прыйшла яна пад восень — невысокая, кволая, зусім маладзенькая, падлетак дый годзе — з накіраваннем у брыгаду. «Таксама — будаўнік...» — скептычна паглядалі некаторыя. Яна ж адрэкамендавалася:

— Студэнтка трэцяга курса Ленінградскай лесатэхнічнай акадэміі, з хіміка-тэхналагічнага факультэта, да вас на аднагадовую вытворчую практыку...

Брыгадзір (ён потым сам прызнаўся) хацеў ісці ў аддзел кадраў: «Бярыце яе куды хочаце, у нас не танцпляцоўка!..» Але перадумаў, рашыў пачакаць, прыглядзецца.

Настойлівай аказалася дзяўчына. Нават калі стоміцца — выгляду не пакажа. І ў брыгадным пакоі разам з другімі дзяўчатамі парадак трымае: ручнік вымые, падлогу падмяце...



**Рэй вядзе майстар Апанас Іосіфавіч Дзятчэня. У яго за падручную — Лена Пятрушка.**

Фота В. Косціна.

Калі ў брыгаду з канторы будоўлі дайшлі чуткі, што Лене прапаноўвалі работу і ў лабараторыі, і ў канторы, а яна адмовілася і сказала: «Толькі ў брыгаду», — яе аўтарытэт стаў яшчэ большы.

Зноў прыгадаўся Чэхаў, без «папраўкі» невукаў. У чалавека ўсё павінна быць прыгожае: і твар, і адзенне, і думкі, і ўчынкі. Ёсць такі добры і верны сродак пазнаць у чалавеку тое, што не адразу кідаецца ў вочы, — яго думкі і ўчынкі, глянуць на яго працу. Праца нараджае рамантыкаў, робіць чалавека чалавекам.

Вось якія яны, тыя двое, што кладуць вугал і называюцца правафланговымі ў брыгадзе. Правая рука — кадравы муляр, поплеч з ім — вучаніца, дзяўчына, якая пераймае яго вопыт, як класці цэглу, як жыць і працаваць.

Звысоку ж відаць далей.

Падымешся на гмах, дзе муляры кладуць цагліну за цаглінай, рад за радам, станеш упоравень з машыністам вежавага крана, і перад вачамі — уся вялікая будоўля, тое поле, якое на ватмане праектыроўшчыка называецца зонай пашырэння завода, уся неабсяжная далячынь...

**г. Гродна.**

# НАСТОЙЛІВАСЦЬ



Гэтая дзяўчына ўпершыню паявілася ў цэхах друкарні ўвосень 1958 года. Вучаніца-пераплётчыца, такая ж, як і дзесяткі іншых дзяўчат, што прыйшлі на прадпрыемства пасля школы, яна на першы погляд нічым не вылучалася ў агульнай масе моладзі. Але вось аднойчы, месяцы праз два, майстар пераплётнага цэха Вера Паўлаўна Радзішэўская сказала мне:

— А ведаеце, Надзя Запекіна будзе добрым майстрам.

— Чаму вы так думаеце?

— Бо Надзя дзяўчына настойлівая. Яна ўжо цяпер многія аперацыі выконвае самастойна. І ўвесь час цікавіцца будовай машын, прыстасаванняў.

Майстар цэха не памылялася. Надзя Запекіна не проста старалася сумленна працаваць, а імкнулася ведаць увесь працэс вырабу кнігі. Было відаць, што паліграфія зацікавіла яе сур'ёзна. Адначасова з гэтым Надзя праявіла сябе добрай актывісткай у камсамольскай арганізацыі. І няма нічога дзіўнага, што аднойчы камітэт камсамола хадайнічаў перад адміністрацыяй аб пасылцы Надзі Запекінай на курсы пераплётчыкаў.

З курсаў Надзя вярнулася, дасканала вывучыўшы ніткашвейную і чатырохапаратную машыны. Яна адразу ж была пераведзена на самастойную работу і ўжо ў першы месяц выканала норму на 120 працэнтаў.

Трэба мець на ўвазе, што пераплётная справа ў паліграфіі — гэта далёка не простая справа. Пераплётчыку трэба ведаць уласцівасці паперы розных гатункаў, умець выбраць патрэбныя матэрыялы, мець мастацкі густ. Відаць, разумеючы ўсё гэта, Надзя Запекіна не абмежавалася кароткатэрміновымі курсамі, на якіх яна вучылася, а вырашыла паступіць у Маскоўскі завочны паліграфічны інстытут. Восенню 1960 года яна паспяхова здала прыёмныя экзамены і стала студэнткай вышэйшай навучальнай установы.

Цяпер у яе за плячыма ўжо тры семестры. Кожны раз, калі я падпісваю загад аб прадастаўленні ёй водпуску для падрыхтоўкі да экзаменаў, я ўпэўнены, што Надзя не патраціць марна гэты час. У заліковай кніжцы ў яе амаль адны выдатныя і добрыя адзнакі. Ужо цяпер відаць, што вучоба ў інстытуце памагае Запекінай працаваць лепш, больш прадукцыйна.

Надзя Запекіна не толькі добрая работніца, але і актывістка. Яна заўсёды знаходзіць час для выканання камсамольскіх даручэнняў. Цяпер Надзя некалькі разоў на тыдні бывае ў дамах выбаршчыкаў па вуліцы Камуністычнай, праводзіць з імі гутаркі аб выбарах у Вярхоўны Савет СССР.

Сваёй настойлівасцю, працавітасцю дзяўчына заваявала вялікі аўтарытэт у калектыве. Смела можна сказаць, што Надзя Запекіна стаіць на пярэднім краі барацьбы за датэрміновае выкананне сямігодкі.

**Уладзімір ЛЕЙБІН,**
дырэктар друкарні «Перамога».

г. Маладзечна.

# ГАСПАДЫНЯ «ЁЛАЧКІ»

**Нарыс**

Гутарка пойдзе пра «ёлачку». Не пра тую, што расце ў лесе, не пра тую, што прыносяць пад Новы год у пакой. Гэтая «ёлачка» вырасла ў новым будынку за Кацягамі. Пабудавалі яе супрацоўнікі Цэнтральнага інстытута электрыфікацыі і механізацыі сельскай гаспадаркі нечарназёмнай зоны. Сам дырэктар інстытута акадэмік Міхаіл Яфрэмавіч Мацапура прыязджаў у Кацягі, цікавіўся, як ідзе ўстаноўка «ёлачкі». Дзіва што! У Мінскім раёне яна, як кажуць, першая ластаўка.

А пасля, калі ў новым памяшканні ля кароўніка ярка ўспыхнулі электрычныя агні, Міхаіл Яфрэмавіч жартаваў:

— «Ёлачка» ёсць. Цяпер справа за снягурачкай...

Думалі, гадалі, каго выбраць за «снягурачку» і вырашылі:

— Іну Куксік.

Так і стала Іна гаспадыняй «ёлачкі» — электрадаільнай пляцоўкі. Цяпер пра яе па ўсёй рэспубліцы ідзе добрая слава. З дапамогай «ёлачкі» Іна адна доіць восемдзесят кароў. Да яе едуць вучыцца. Вось і сёння спыніўся аўтобус. Людзі будуць хадзіць па ферме, пра ўсё распытваць. Як жыццё-быццё? Якія надоі? Якія поспехі? А Іна, як заўсёды, будзе чырванець, саромецца. Аж расінкі поту выступяць на бялявым твары. І ўсё ж будзе расказваць. Змястоўна, шчыра. Хоць нялёгка, ой, як нялёгка дзяліцца вопытам, калі табе толькі дваццаць...

Пакуль Іна ходзіць з гасцямі, пакуль гутарыць з жывёлаводамі пра «ёлачку», пра даільныя апараты, я раскажу вам пра самую Іну, пра яе такое яшчэ зусім кароткае і такое багатае зместам жыццё.

* * *

Прыйшла аднойчы Іна з Самахвалавіч са школы і застала маці амаль непрытомнай.

— Штосьці занядужала я, дачушка, захварэла, — прагаварыла яна. — Старэю, а ты яшчэ зусім малая...,

Паклікалі доктара, той супакоіў матулю, што хутка паправіцца. Антаніна Пархвенаўна сапраўды неўзабаве ачуняла, але працаўнік з яе быў ужо не той. Усё часцей, прыйшоўшы з поля, яна зморана апускалася на табурэтку, і Іна без слоў разумела, што ў хаце патрэбна яе дапамога. Вось тады і вырашыла дзяўчына пайсці на працу. Але як выбраць дарогу ў жыццё? Можа падацца ў Мінск — на будоўлю, на завод ці ў сталовую афіцыянткай? Сталіца ж пад бокам, за Кацягамі. Другія так і робяць: працуюць у горадзе, а па суботах дахаты наязджаюць. Неяк нават Іна намякнула маці пра гэта, але матчыны вочы гаварылі іншае:

— Застанься, дачушка...

Не лёгка ж было Антаніне Пархвенаўне выгадаваць адной траіх дзяцей: Валю, Колю і яе, Іну. Бацькі свайго Іна не памятае: тры гады было ёй, калі ён пайшоў на фронт. Пайшоў і не вярнуўся. Пасля работы маці часта здымала



**Напрактыкавалася Іна Анісава абыходзіцца з механізмамі і пачала даіць 80—85 кароў.**

Фота К. Якубовіча.

са сцяны фотакартку і доўга глядзела на яе.

— Падрастаюць нашы дзеткі, вучацца, мне падмога, — шапталі яе вусны. — Жыў бы ты, Юзік, радаваўся б разам са мной...

Час ішоў. Коля ажаніўся. Валя выйшла замуж. Раз'ехаліся, хто куды. Адна Іна цяпер з матуляй. Не, яна нікуды не паедзе. Застанецца тут.

Застанецца... А што яна такое ўмее рабіць? Ну, у печы маці часам дапамагала выпаліць, летам на луг сенаваць разам з дарослымі хадзіла, ды яшчэ ў школе дрэўцы садзіла...

І тут успомніла Іна, як яны неяк усім класам былі на жывёлагадоўчай ферме. Доўга блукалі па кароўніку, заглядалі ў кармушкі, дзівіліся, як спрытна даяркі doяць кароў.

— Вось закончыце дзесяцігодку і, калі ласка, да нас, работы ўсім хопіць, — гаварыў тады брыгадзір.

А што, калі і сапраўды пайсці на ферму? Ды зноў жа... «Закончыце дзесяцігодку...» А за плячыма ўсяго толькі восем класаў.

І ўсё ж дзяўчына адважылася. Раніцай, калі першыя праменні сонца зазірнулі ў акно, Іна выйшла на вуліцу і падалася на ферму.

Убачыла заатэхніка Марозава і адразу да яго:

— Я, Уладзімір Сцяпанавіч, з просьбай да вас. Хачу на ферме працаваць... Даяркай...

— Але ж ты, Іна, яшчэ ў школе вучышся...

Пра ўсё расказала камсамолка старэйшаму таварышу, камуністу.

Уладзіміру Сцяпанавічу прыемна, што вось гэтая дзяўчына з юных год разумее сэнс жыцця, не ідзе лёгкім шляхам, а просіцца туды, дзе найбольш за ўсё патрэбны маладыя рукі. Добрае імкненне, правільнае. І Уладзімір Сцяпанавіч сказаў:

— Тваю просьбу, Іна, задаволім. Ты будзеш даяркай...

* * *

За вёскай, ля клуба, гармонік заліваецца, кліча пад белапенныя вішні, вабіць у карагод. Чуе Іна песні, чуе жарты, калі ідзе дахаты. Сэрца падказвае: схадзі туды, зазвіні галасістай прыпеўкай, тупні заліхвацкую польку. А стома бярэ сваё: ныюць рукі, ногі, плечы. Падаіць тры разы ў дзень дваццаць першацёлак — не жартачкі. Вынесці са стойлаў гной, пачысціць жывёлу — таксама не лёгка. Усё гэтымі кволымі рукамі. І таму не ідзе Іна сёння ў карагод.

Вось успыхнуў на момант у доміку з сінімі аканіцамі агеньчык і зноў пагас. Адпачывае Іна. Заўтра ж з першымі пеўнямі ёй трэба зноў быць на ферме. Пастухі ж Лаўрэн і Сяргей Жабуронкі спакою не дадуць, калі, не дай бог, спозніцца дзяўчына. Яны ж выганяюць кароў на пашу чуць свет, на золаку.

Ужо засынаючы, Іна ўспамінае размову з Нінай Бандарчык, старэйшай даяркай:

— А ці вам балелі спачатку рукі?

— Балелі, Іначка, балелі. Не лёгка ўсё даецца...

І жанчына, закончыўшы раней дойку, заходзіла з другога канца, дзе стаялі Іініны каровы, і пачынала даіць. А падвозчыкі кармоў Леанід Харэўскі і Анатоль Міхалевіч! Іх справа — прывезці бульбу ці сечку на ферму — і ўсё. А яны памагаюць Іне разнесці корм да кармушак, засыпаць яго. Ды і стойлы колькі разоў за яе чысцілі.

Харошыя, слаўныя людзі!..

І калі цяжка было, калі зімой у старэнькім кароўніку качанелі на холадзе рукі, калі Іна наважвалася нават кінуць ферму, яна сустракалася позіркам з гэтымі людзьмі, сваімі аднавяскоўцамі. Яны ёй верылі, памагалі. Не, іх нельга падвесці...

А побач з хлеўчуком вырастаў новы прасторны кароўнік. І ля кароўніка ў другім будынку, тая самая «ёлачка». Не сакрэт, што Іна ў думках марыла працаваць там. Ды ці паставяць яе да такой тэхнікі? Ёсць жа больш вопытныя. Ды ў праўленні сказалі:

— Ты маладая, граматная, — табе і ўсе карты ў рукі.

Пяць даярак абслугоўвалі ферму ў Кацягах, а цяпер засталася толькі Іна ды ў падмогу ёй Соня Гарнашэвіч. Дзяўчаты дамовіліся паміж сабою: Іна будзе за апаратурай сачыць, даіць, Соня — заганяць у стойлы кароў.

Але не адразу ўсё пайшло гладка. Праўда, уключаць рубільнік, падводзіць да саскоў даільныя стаканы Іна навучылася адразу. Яна злаўчылася разбіраць, чысціць і складаць металічныя і гумавыя часткі апаратаў. Затое шмат клопату было з каровамі — у кожнай жа свой нораў. Калі Кветка стаіць спакойна, дык Падласка і Красуля непакояцца, так і глядзяць, каб як выбрацца з загародкі. Аднак з цягам часу жывёла прызвычаілася.

Напрактыкавалася Іна абыходзіцца з механізмамі і пачала дзевяццю апаратамі выдойваць не дваццаць кароў, як у першыя тыдні, а восемдзесят — восемдзесят пяць.

І зноў жа, як і раней, адчувае яна локаць сяброў, іх дапамогу, іх параду. Не адну гадзіну правялі ля «ёлачкі» механік Мікалай Майсіевіч і заатэхнік Уладзімір Марозаў.

Працуючы на «ёлачцы», Іна мела больш вольнага часу. Часцей яе можна было бачыць у бібліятэцы, у клубе. Тут яна і пазнаёмілася з дэмабілізаваным воінам Анатолем Анісавым, і гэтае знаёмства вылілася ў моцную дружбу, шчырае каханне. Не адзін вечар праводзіў прыгожы чарнабровы хлапец сваю «снягурачку» дахаты. А пасля — вяселле з задорнымі песнямі і танцамі.

Пражылі маладажоны некалькі тыдняў, і пацягнула Толю ў родныя мясціны, на Магілёўшчыну.

— Паедзем, Іначка, да маіх бацькоў. Там так добра, там такое раздолле над Дняпром. Зажывем яшчэ лепш, як тут.

— Толя, любы, ну, не магу я пакінуць родную вёску, родную матулю, не магу пакінуць работу, да якое так прывыкла!..

Слова за слова, Толя настойваў, Іна не згаджалася. Кончылася ўсё тым, што Толя пакінуў Кацягі і паехаў у сваё Прыдняпроўе. Эх, маладосць, маладосць... Гарачыя сэрцы, незгаворлівыя, ганарлівыя...

Але Іна верыла — Анатоль вернецца.

. . . . . . . . . . .



**Пяць даярак ледзь спраўляліся на ферме, а цяпер засталася толькі Іна ды ў падмогу ёй Соня Гарнашэвіч.**
Фота А. Лукашова.

Заатэхнік Уладзімір Марозаў прыйшоў на ферму ў нейкім прыўзнятым настроі. Пастаяў з хвілінку, усміхнуўся:

— Ну, Іна, каб ты толькі ведала, якую я табе навіну прынёс?

— Што ж за навіна такая?..

— Толькі што званілі з райкома партыі. Паедзеш у Мінск на Рэспубліканскую нараду работнікаў сельскай гаспадаркі.

Прыемная навіна. Іна аж рукамі ўсплеснула ад радасці. Яна ведала, што на нараду збіраецца прыехаць Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, што там будуць многія перадавікі, вядомыя ўсёй краіне людзі. А тут і пра яе, простую калгасную дзяўчыну, не забыліся. Гэта ж такі гонар!

Прыйшла дадому, падзялілася з матуляй сваёй радасцю. Антаніне Пархвенаўне таксама прыемна:

— Вось і добра, дачушка. Паедзеш, людзей паглядзіш, паслухаеш, павучышся ў іх...

— Каб хоць на аўтобус заўтра не праспаць. Трэба першым рэйсам...

Рана ўсхапілася. Хутка сабралася, выйшла на вуліцу. А за Кацягамі сонца ўзыходзіць. Неба сіняе-сінае, з ружовым адценнем. Хмурынкі таксама ружовыя. Яны плывуць марудна, быццам хочуць як мага даўжэй пакрасавацца ў праменнях сонца. Любуецца Іна марозным ранкам, заінелымі таполямі і клёнамі. Хораша на сэрцы.

І вось яна ўжо імчыць па заснежанай дарозе ў сталіцу. Наперад, наперад...

З хваляваннем падымалася Іна па прыступках опернага тэатра. У

фае — многа народу. Тут і пажылыя, і моладзь. Нарада яшчэ не пачалася, і людзі стаяць групамі і ў адзіночку, знаёмяцца, размаўляюць. У многіх — ордэны і медалі на грудзях. Шмат каго Іна пазнае па партрэтах, што друкаваліся ў часопісах і газетах. Вунь старшыні вядомых калгасаў — Кірыла Пракопавіч Арлоўскі аб чымсьці гутарыць з Ільей Васільевічам Сяргеевым... Вось даяркі Марыя Дзегцярова, і Ядвіга Іосіфаўна Будай. Якраз дарэчы. Іна ўжо даўно хацела спаткацца з Ядвігай Іосіфаўнай, знатнай даяркай Міншчыны, Героем Сацыялістычнай Працы.

Падышла да яе нясмела, сказала:

— Я з калгаса імя Войкава. Іна...

— А, Іна. Гэта ты на «ёлачцы» працуеш? Чула, чула. Дай я на цябе пагляджу, дачушка...

Пасля яны ўвесь час былі разам. Шмат аб чым гаварылі. Людзі розныя па ўзросту, людзі адной прафесіі.

А з трыбуны выступалі і выступалі ўдзельнікі нарады. Кукурузаводы і льнаводы, свінаркі і даяркі... Кожны расказваў пра свае поспехі і няўдачы, пра свае планы, пра нявыкарыстаныя рэзервы. І ў кожным выступленні была заклапочанасць пра тое, каб рэзка ўзняць сельскую гаспадарку рэспублікі, у найкарацейшы тэрмін стварыць багацце сельскагаспадарчых прадуктаў.

На ўсё жыццё запомніць Іна яркую, шчырую прамову Мікіты Сяргеевіча Хрушчова. Яна раскрыла вочы на многае. У ёй была і справядлівая ацэнка поспехаў і гнеўная крытыка безгаспадарлівасці.

Асабліва прыемна было слухаць Іне такія словы Мікіты Сяргеевіча: «Рэкамендую вам асаблівую ўвагу звярнуць на моладзь, на камсамол.. У нас цудоўная моладзь, адданая партыі, народу, гатовая змагацца і перамагаць у славу нашай Радзімы, у імя перамогі камунізма».

Гэта і пра яе, Іну, пра сотні і тысячы маладых будаўнікоў камунізма, гаварыў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў. І дзяўчына з Кацягоў адчула, што яшчэ не ўсё зроблена, што і ў яе, перадавой даяркі, спраў яшчэ шмат.

Хацелася хутчэй расказаць аднавяскоўцам пра нараду, пра свае задумы. Так яна і зрабіла, нават на канцэрт не засталася.

А ў калгасным клубе яе ўжо чакалі. І адразу з аўтобуса яна прыйшла да людзей, заснежаная, расчырванелая, узбуджаная.

— Як там і што? Раскажы, Іна, — загаманілі аднавяскоўцы.

У гэты вечар маладая даярка гаварыла неяк нечакана смела, гаварыла пра добрае і благое. Так, як выступалі на нарадзе ў Мінску, так, як трэба гаварыць, па-дзеламову, рупліва:

— Ну, вы ведаеце, каб надаіць цэнтнер малака рукамі, калгас выдаткоўваў раней 1 рубель 40 капеек. Цяпер жа затрачваецца ўтрая менш. Адна даярка працуе замест пяці. Усё гэта добра. Але ж можна дасягнуць яшчэ лепшага. Ну, чым мы кормім кароў? Нейкага там паўтара кілаграма канцэнтратаў, пару кілаграмаў бульбы ды крыху сіласу. Мала, вельмі мала. Я вось з Ядвігай Іосіфаўнай Будай гаварыла, дык у іх калгасе «Савецкая Беларусь» разы ў тры больш даюць жывёле кармоў, таму і надоі вышэйшыя.

Слухае Іну заатэхнік, слухае старшыня, слухаюць людзі. Праўду кажа дзяўчына, трэба сёлета падцягнуцца. Слухаюць і радуюцца за яе, што яна так клапоціцца аб родным калгасе.

* * *

...Вярталася Іна Анісава з клуба позна. Не адна. З Анатолем. Ён трымаў яе пад руку і жартаваў:

— А я і не ведаў, што ты так выступаць умееш. Як лектар які!

— Добра ўжо, не кпі...

Кружыліся сняжынкі і гэтак хораша блішчэлі ў святле электрычных лямпачак. Падалі на каўнер, прыемным халадком дакраналіся да твару.

Хораша ісці наперад. Хораша быць удваіх. Хораша і ў Кацягах, далёка ад Прыдняпроўя...

**Віктар ШЫМУК.**

Калгас імя Войкава
Мінскага раёна.





**Рыгор НЯХАЙ**

# МЫ З ВАМІ, ЗЕМЛЯКІ!

### З блакнота пісьменніка

Мал. М. Данцыга.

У Кустанаі расце акацыя. Магчыма, нічога дзіўнага ў гэтым няма, але калі зірнеш на ваколіцу, на бяскрайнія стэпы, то думаеш, што гэта Украіна — Палтаўшчына або Харкаўшчына. Аднак, не. Падзьме паўночны сібірскі вецер, і адразу адчуваеш, што ты — за Уральскім хрыбтом, на шырокіх казахскіх стэпах Цаліннага краю.

Ні днём, ні ноччу не замаўкаюць стэпы. Чалавеку, які ўпершыню трапіў сюды і выйшаў цьмяным асеннім адвячоркам на кустанайскі мост цераз Табол, здаецца, што ён трапіў на пярэдні край колішніх франтоў...

Мост дрыжыць ад грукату цяжкіх грузавікоў. Толькі віхор свішча каля вушэй, так і глядзі, што сарве з галавы шапку і кіне ў бездань, дзе заснула спакойная, шырокая рака. Здаецца, тут людзі ніколі не спяць — няма часу. Вось ужо чорная ралля злілася з цёмным небасхілам, і не разбярэш, дзе неба, а дзе зямля, але стэп яшчэ не спіць. Машыны гудуць на ўсіх дарогах. І толькі па яркіх промнях фар, што бясконца, як нажамі, праразаюць цемень, угадваеш мяжу паміж небам і зямлёй. Добра, што зямля цяпер зацвярдзела, як бубен, і можна ездзіць і ўздоўж і ўпоперак...

Казахі пішуць не «Кустанай», а «Костанай» і кажуць, што гэта больш правільна, бо адпавядае легендам пра заснаванне горада. Коста і Най — гэта імёны дзяцей беднага казаха, які некалі пасяліўся тут, на беразе Та-

бола. Аднойчы, калі бацька быў у стэпе, дзеці ўтапіліся... А ёсць больш паэтычныя легенды аб дзвюх прыгажунях, што жылі некалі тут у багатага бая... Гораду толькі што пераваліла за восемдзесят год, ён зусім яшчэ малады ў параўнанні з гарадамі і сёламі, якія маюць часамі тысячагадовую гісторыю.

Адразу ад Табола пачынаецца вуліца Леніна — цэнтральная магістраль горада. Сярод старых двухпавярховых камяніц, на вобліку якіх знайшла яскравы адбітак усходняя архітэктура, шмат тыпова рускіх драўляных будынкаў з прыгожай разьбой. Першы паверх абавязкова каменны, а другі — драўляны. Тут няма ні цэркваў, ні мячэцей... Новы, сацыялістычны Кустанай расце па ўскраінах. На поўначы ўзвышаецца тэлевізійная вышка сярод двух- і трохпавярховых дамоў. У канцы вуліцы Леніна раскінуўся завод штучнага валакна. Тут жа палац культуры. На поўдні — суцэльны раён індывідуальнай забудовы, аднолькавыя белыя домікі, між якіх пасяліліся маладыя скверы з акацый і таполяў.

Кустанай — інтэрнацыянальны горад. На кожным кроку сустрэнеш і казаха, і рускага, і ўкраінца, і беларуса, і татарына, і башкіра, і азербайджанца... Усе яны аднолькава любяць свой горад, свой узняты да вялікага жыцця Цалінны край.

Абутковая фабрыка размешчана на беразе Табола. Мы былі там у рабочым клубе. І што нас здзівіла ў першую чаргу — гэта кветкі.

Кветкі ўсюды: у цэхах, на сталах... Кветкі, прывезеныя з розных куткоў нашай вялікай краіны. Яны, як спадарожнікі савецкага чалавека, перасяляюцца разам з ім туды, куды едзе ён, і на новым месцы адчуваюць сябе гэтак жа цудоўна, як і чалавек-навасёлец.

Узімку кветкі пераходзяць у аранжарэі, пакоі, цэхі. А прыходзіць вясна, і яны зноў займаюць сваё месца на фабрычным двары, пераступаюць цераз вуліцу, дзе аж да самага Табола цягнецца рабочы пасёлак-сад, пасёлак-кветнік, дзе лёгка дыхаецца і добра жывецца... З кветкамі людзі падружыліся назаўсёды. Здаецца, няма тут ні вуліц, ні завулкаў, а толькі кветкавыя алеі.

На рынку, дзе прадаюцца пудовыя качаны капусты і бульба, як на падбор для выстаўкі, адразу пазнаеш беларуса. Вось цётка прадае нізкі беленькіх сушаных баравікоў.

— Вы з Беларусі?
— Але. З Мазыра.
— А даўно тут?
— Ужо з месяц.
— Ну, і як?
— Нічога. Жывём. Муж — слесар. У майстэрні школы-інтэрната працуе. Дзеці ў школу ходзяць. Жывём пакуль на прыватнай кватэры, але хутка дзяржаўную дадуць...

Потым яна заўважыла, што я цікаўлюся грыбамі.

— Гэта нашы, беларускія... Гэтулькі іх сёлета было — кашамі з лесу цягалі. Думала, завязу, разжывёмся на пачатак. А тут іх і не разумеюць. Не ведаюць, што з імі рабіць. Не даюць нават і таго, што ў Мазыры...

Каму што, а беларусу грыбы. Я і сам заядлы грыбнік, і мне робіцца крыўдна, што тут «не разумеюць», як кажа цётка, грыбоў. Але не бяда. Нічога! Грыб, як і кветкі, спадарожнік земляка. Толькі грыб тут часовы госць, а кветкі застануцца назаўсёды.

У Кустанайскім педагагічным інстытуце просяць пачытаць на беларускай мове. Нават запіскі атрымліваем, напісаныя па-беларуску: «...Раскажыце, калі ласка, свае аўтабіяграфіі. Вельмі просім. Студэнткі з Беларусі». Потым мы атрымліваем запрашэнне абавязкова прыйсці на сустрэчу з першакурснікамі і такое прывітальнае пасланне: «У Кустанайскім педінстытуце ёсць студэнты з Беларусі. Яны перадаюць палымянае прывітанне беларускім пісьменнікам і ўсёй Беларусі і жадаюць поспехаў у вашай творчасці».

Пры педагагічным інстытуце ёсць літаратурны кабінет. Там ужо створан своеасаблівы літаратурны музей. Пісьменнікі, якія бываюць тут,



абавязкова пакідаюць свае кніжкі з аўтографамі. Мы пакінулі свае кніжкі і некалькі экзэмпляраў «Полымя» з надпісам: «Ад імя Саюза пісьменнікаў БССР і рэдкалегіі часопіса». Такі падарунак узрадаваў і выкладчыкаў і студэнтаў.

У абкоме партыі мы распрацоўвалі маршрут нашай паездкі. Гэта аказалася не простай справай — пабыць хацелася ўсюды. Тэрыторыя вобласці 197 тысяч квадратных кіламетраў. Гэта амаль што тэрыторыя Беларусі. А дарог вельмі мала. Ад Кустаная ва ўсе бакі можна праехаць па асфальту якіх 100—150 кіламетраў, а далей — стэпы...

— Нядрэнна вам было б злятаць у Амангельды і Тургай. Гэта недалёка. Усяго 800—1000 кіламетраў на поўдзень. От дзе сапраўдная цаліна — Тургайскія стэпы. Там прастору для паэтаў, колькі хочаш.

Усё гэта заманліва, цікава.

— От, калі б летам! — уздыхаюць хлопцы. Некаторыя нават узялі з сабой рыбалоўныя прылады. А там гэтулькі азёр, непратаптаных сцежак, старажытных казахскіх паселішчаў, і кумыс, і бішбармак... Адным словам, рамантыка. Але паглядзіш на цёмныя снегавыя хмары — хутка пурга. Як падзьме з поўначы сіберны вецер, то і няма яму дзе спыніцца аж да самага Каспійскага мора!.. Не, лепш будзем трымацца дарог, а то, чаго добрага, і зазімаваць можна.

Нарэшце згаджаемся на тым, што ўсе разам едзем у горад Рудны, а потым падзелімся на дзве групы. Адна паедзе на поўдзень у Джатыгару і навакольныя саўгасы. А другая група — на поўнач ад Кустаная, у Мендыгарынскі і Узункульскі раёны. Там недзе знаходзіцца наша запаветная мара — саўгас «Мінскі», заснаваны ў 1954 годзе беларусамі. А ўжо калі будзе час, то можна і ў Тургайскія стэпы...

## РУДНЫ — ГОРАД ЮНАЦТВА

Летась у жніўні Руднаму споўнілася ўсяго толькі чатыры гады, а ён сваёй прыгажосцю, памерамі абганяе абласны цэнтр Кустанай. І мясцовыя жыхары кажуць па сакрэту, што праз год-два мы, напэўна, сюды перанясем свой абласны цэнтр. І хоць Рудны знайшоў сваё месца толькі на новых картах, але тут ужо жыве сто тысяч чалавек, а да канца сямігодкі гэта лічба вырасце разы ў тры. І мы ўжо бачым будучы цэнтр вялікага прамысловага раёна, хоць там яшчэ толькі гуляюць вятры ды калышацца кавыль. Але тут будзе горад, вялікі сацыялістычны горад!

Хто не ведае, што такое Рудны, дык напомнім яму, што гэта — цэнтр Сакалоўска-Сарбайскага жалезаруднага басейна. Тут здабываецца самая танная і самая высокаякасная руда ў свеце. Пасля драблення на месцы яна адразу ідзе ў Магнітагорск, на іншыя заводы на пераплаўку.

Рудны — адна з найвялікшых будоўляў камунізма. Новая асфальтаваная дарога, на якой яшчэ відаць сляды нядаўніх будаўнічых работ, бяжыць па стэпу. То блізка, то воддаль ад яе відаць новыя саўгасныя пасёлкі, якія не паспелі нават яшчэ апрануцца ў зеляніну. Бялюткія домікі і чорны ўзараны стэп. Калі няма сустрэчных машын — таксі, аўтобусаў, грузавікоў, то ў стэпе становіцца ціха-ціха, толькі гудуць тэлеграфныя слупы ды шчабечуць сарокі на іх. І дзе гэтых сарок няма!

Сонца, стомленае, асенняе, цяжка апускаецца ў задымленую смугу. А недзе там, дзе яно хоча знайсці сабе адпачынак, вырысоўваюцца шэрыя складкі гор. Над імі, як жураўлі ў вячэрнюю пару, высока ў небе матаюць каўшамі экскаватары. Потым роўным пункцірам уздоўж абрысаў белавата-шэрых гор успыхваюць залацістыя аганькі. Іх усё больш і больш, пакуль увесь небасхіл не зліваецца ў суцэльнае барвовае зарыва. Гэта пачынаецца Сакалоўскі рудны басейн. За гарамі пароды дыхаюць густым дымам высокія коміны. На мачтах таксама ўспыхваюць агні, і ўжо ўгадваеш, што там пачынаецца горад. Паступова нарастае гул машын, грукат электравозаў.



Першая сустрэча з землякамі. Мы доўга пазіраем, як лёгка бегаюць па дарогах рудніка цяжка нагружаныя магутныя беларускія дваццаціпяцітонныя самазвалы. Іх шмат. І яны тут амаль што адзіныя гаспадары дарог. Усе ім даюць зялёную вуліцу. А яны, высокія, гордыя, лёгка імчаць, як бы радуючыся, што толькі ім даручылі самую цяжкую і адказную работу. Праўда, чарнавую работу, але ганаровую. І сам міжвольна радуешся гэтым. Робіцца хораша і прыемна на душы. Вось якую цудоўную работу, работу высокай цаны, неабходную для Радзімы, для камунізма, выконвае беларускі рабочы клас, нашы праслаўленыя аўтамабілебудаўнікі.

Цаліннікі пракладалі першыя барозны, а гарнякі чэрпалі першыя каўшы пароды. Як пачалі вырастаць першыя домікі пасёлка Камсамольскага каля Сакалоўскага рудніка, з таго часу горад расце і расце. Шматпавярховыя дамы, роўныя асфальтаваныя вуліцы, абапал якіх высаджаны шматгадовыя дрэвы. Магазіны, як у сталіцы. А самыя лепшыя і самыя прыгожыя будынкі аддадзены пад школы. Тут вучацца ўсе — і дарослыя, і дзеці. Тут — філіял політэхнічнага інстытута, індустрыяльны тэхнікум, школы рабочай моладзі і зусім новая з'ява ў нашым жыцці — грамадскі універсітэт майстроў камуністычнай працы.

Нездарма на вуліцах у Рудным сустракаеш амаль адну толькі моладзь. Старога чалавека рэдка калі пабачыш. Рудненцы нам казалі, што сярэдні ўзрост жыхароў іх горада складае 22—23 гады. У кожнага сустрэчнага ў руках або кніжкі, або чарцяжы. На перакрыжаваннях вуліц— высокія стэнды з партрэтамі наватараў вытворчасці і заклікі раўняцца на перадавікоў. А найбольш часта можна сустрэць заклік: «Рудненцы! Заўсёды памятайце, што вы грамадзяне горада, які змагаецца за камуністычную працу!» І рудненцы застаюцца заўсёды вернымі сваім абавязкам — і на рабоце, і ў быце. Усюды чысціня і парадак. Мы доўга былі ў Рудным, але ніводнага міліцыянера не бачылі і не ведаем, ці ёсць там увогуле міліцыя.

У гаркоме партыі мы сустрэлі земляка — Івана Антонавіча Шушкевіча.

— Дык вы, хлопцы, з Беларусі? Ай, як добра, што прыехалі! Дык што, хочаце руднікі паглядзець? Зараз пойдзем.

Іван Антонавіч жыве тут з першага дня заснавання горада, ужо стаў старажылам. Тут вядомы яму кожны куток, кожны дом, калі ён пабудаваны і нават хто жыве ў кожным доме. Знаёмімся. У нас з ім, аказваецца, шмат агульнага ў мінулым. Ён нарадзіўся каля Лагойска, у 1939 годзе закончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Працаваў настаўнікам. А потым вайна, быў ваенным лётчыкам. Пасля вайны лёс закінуў сюды, у Кустанай. Так і застаўся Іван Антонавіч тут, на ўдарнай новабудоўлі. Назаўсёды. Пакуль даязджаем, а потым пешшу дабіраемся да Сакалоўскага рудніка, паспяваем пры дапамозе Івана Антонавіча пазнаёміцца не толькі з гісторыяй руднікоў, з гісторыяй горада, але і сустрэцца з многімі знатнымі людзьмі...



12 лютага 1949 года лётчык геалагічнай разведкі Міхаіл Сургутанаў выявіў з самалёта Сарбайскае месцанараджэнне жалезных руд, праз некалькі месяцаў магнітолаг Шастакоў адкрыў Сакалоўскае месцанараджэнне. У студзені 1955 года быў зачэрпнуты першы коўш пароды, пачалася распрацоўка Сакалоўскага кар'ера. І тут жа побач пачалі вырастаць першыя домікі пасёлка Камсамольскага. Тут па пуцёўках камсамола пасяліліся першыя гарнякі і будаўнікі. У жніўні 1957 года адсюль былі адпраўлены першыя эшалоны руды на Урал. Прайшло некалькі год, і малады рудны басейн зажыў паўнакроўным працоўным жыццём.

Руднік — гэта горы ўзнятай зямлі, гэта агромністы катлаван у некалькі кіламетраў даўжынёй і шырынёй, у якім амаль не заўважыш чалавека. Усю работу выконваюць машыны. Адзін за адным у кар'ер ідуць электрапаязды. Экскаватары загружаюць іх рудой, і яны з грузам падымаюцца на чыгуначную магістраль. Руда ідзе. Доўга ўзіраемся ў глыбіню кар'ера і бачым адну тэхніку, а людзей як быццам і няма. І толькі, калі завыюць сірэны, папярэджваючы аб небяспецы, можна ўбачыць фігуркі людзей, што спяшаюцца схавацца. Пачынаюцца ўзрывы цяжкіх пластоў руды. Інакш яе нічым не возьмеш.

Нашы беларускія дваццаціпяцітонныя самазвалы і днём і ноччу пад святлом пражэктараў вывозяць зямлю ў адвалы, адкрываюць новыя пласты руды. Усе распрацоўкі намечана тут весці толькі адкрытым спосабам. І ці трэба гаварыць, як аблягчаецца праца гарнякоў. Яны не адчуваюць вузкіх шахтных сцен, ім заўсёды свеціць сонца, яны заўсёды дыхаюць свежым паветрам. Чалавеку створаны найлепшыя ўмовы для работы.

Наверсе расчышчае краі кар'ера магутны ротарны экскаватар. За дванаццаць хвілін ён напаўняе пародай цэлы эшалон. Пад яго трэба падводзіць адначасова чатыры пары чыгуначных пуцей.

— Няма яму тут яшчэ разгарнення, — уздыхае Шушкевіч. — Ён больш стаіць, чым працуе.

І сапраўды, ён ужо ўпёрся ў насып пароды. Трэба зноў пракладваць новыя рэйкі, перапраўляць яго ў другое месца, а гэта нялёгкая справа.

Тут — самая лепшая навейшая тэхніка, сюды прыехалі сапраўдныя энтузіясты працы. Дзесяткі брыгад ужо носяць званне камуністычных, а змаганне ідзе за тое, каб увесь горад, увесь руднік быў такі. З натхненнем, з энтузіязмам людзі працуюць на ўсіх участках.

Побач з руднікам будуюцца магутны горнаабагачальны камбінат, металургічны завод, дыміць магутная ЦЭЦ, пракладваюцца новыя чыгуначныя пуці. Праз некалькі год Сакалоўска-Сарбайскі басейн стане самым магутным у свеце.

Наш зямляк Іван Антонавіч ведае ўсё пра свой горад — і чым жыве ён сёння, якім будзе заўтра. Ён працуе на партыйнай рабоце і адначасова аддае ўвесь свой вольны час навуковай працы. Таксама вучыцца. Ён — адзін з ініцыятараў стварэння музея ў Рудным. Музей малады, як і сам горад, але там ужо ёсць на што паглядзець — макеты структуры зямляных пластоў, узоры адкрытых тут руд, шмат дзівосаў пакінута ў зямлі гістарычнымі эпохамі.

— На глыбіні дваццаці метраў у кар'еры былі знойдзены косці мамантa. А яшчэ глыбей — шкілет акулы. Значыцца, тут некалі было марское дно, і нашы рудаўтварэнні звязаны з Уральскім хрыбтом...

Іван Антонавіч расказвае пра гісторыю Руднага, пра легенды, якія тут жывуць, пра магілу старога казаха Сарбая і ўтварэнне пасёлка Сакалоўскі. А самае ганаровае месца ў музеі адведзена лепшым людзям руднікоў, героям працы.

У пасёлку Камсамольскі ў дзень адкрыцця XXII з'езда партыі сабраліся гарнякі на мітынг. Памяшканне запоўніла моладзь, ударнікі камуністычнай працы. Яны рапартавалі з'езду аб эшалонах звышпланавай руды, аб новых кар'ерах, аб другіх працоўных перамогах. Праслаўленых гарнякоў віталі людзі двух пакаленняў — старыя бальшавікі і піянеры. Любоў да чалавека працы — гэта самая галоўная запаведзь рудненцаў. І нам таксама было прыемна вітаць іх, перадаваць прывітанне ад працоўных Беларусі, асабліва ад аўтазаводцаў, што падрыхтавалі з'езду працоўны



падарунак — новы магутны аўтасамазвал МАЗ-540, які так спадабаўся рудненскім гарнякам.

З горадам працы, горадам маладосці не хочацца развітвацца. Ён вабіць да сябе не толькі мільёнамі агнёў, запаленых у стэпе. Прываблівають гарачыя сэрцы людзей, умелыя дужыя рукі, цеплыня чалавечых пачуццяў і непагасны працоўны энтузіязм. Там дружна працуе вялікая шматнацыянальная сям'я, гордая сваімі працоўнымі здабыткамі і вялікімі марамі.

## НА ЦАЛІНЕ

Саўгас «Мінскі». Ужо сама назва гаворыць, хто быў заснавальнікам гэтага саўгаса — моладзь Міншчыны, пераважна з Барысаўскага і Слуцкага раёнаў. Калі моладзь па закліку партыі паехала на асваенне цаліны, прыйшоў у Кустанай і эшалон з Міншчыны. Гэта было ўвосень 1954 года. Маладым мінчанам дасталіся кавылёвыя стэпы па рэках Табол і Уй на поўначы Кустанайскай вобласці ў Мендыгарынскім раёне. І трэба сказаць, што зроблена гэта было вельмі разумна. Тыя, хто прымаў эшалоны з розных рэспублік, усё ж улічвалі, адкуль прыехалі людзі. Не пасяліш жа беларуса проста ў голым стэпе. Непрывычны стэп для яго! Яму трэба было крыху лесу, крыху вады... На поўначы вобласці і адшукаліся такія мясціны, якія нечым нагадваюць Беларусь. Чым далей ад'язджаеш ад Кустаная, тым часцей паказваюцца чыстыя кучаравыя бярозавыя гаі. Яны ўжо занадта чыстыя, бо бачыш вельмі непрывычны кантраст — белы-белы гай на фоне чорнага стэпу. А далей — азёры з густымі зараснікамі чароту і лазы, і нават сям-там пракідваюцца рэдкія каржакаватыя сасёнкі. Значыць, тут і жыць беларусу.

Цэнтр саўгаса «Мінскі» знаходзіцца ў пасёлку Вішнёвы. Яго белыя будынкі відаць за многа кіламетраў. Гэта зусім новы пасёлак на беразе возера. З поўначы яго атульвае бярозавы гай з маладым сасоннікам. Мы пасяляемся ў невялікім саманным доміку для прыезджых. Тут найбольш жывуць трактарысты, але яны асенняе ворыва ў сваім саўгасе закончылі і цяпер працуюць на палях другіх саўгасаў. У доміку жылі навуковыя работнікі з Харкава, якія вывучалі структуру глебы, каб памагчы саўгасу выбраць найбольш падыходзячыя культуры для пасеву.

Бібліятэка і клуб знаходзяцца побач. Сюды збіраецца моладзь па вечарах. Бібліятэка не вельмі багатая, але чытаць ёсць што. Можна паглядзець кіно, патанцаваць. Сярод групы маладых хлапцоў, што гуляюць у більярд, заўважаем аднаго, што стаіць з боку з кніжкай. Слова за слова, пачынаем знаёміцца. Гэта — лепшы трактарыст саўгаса, наш зямляк са Случчыны Іван Аляксеевіч Пратасеня. Ён вельмі рады нам.

— Дзе вы спыніліся? Не сумна вам у нас? Пойдзем. Я вам хоць шахматы дам. Буду прыходзіць да вас. Ды і вы прыходзьце. Я тут побач жыву...

Пратасеня ўвесь вольны час праводзіць з намі. Ён тут з першага дня заснавання саўгаса, карыстаецца вялікай павагай. Атрымаў ордэн Леніна за старанную працу.

За гульнёй у шахматы Пратасеня расказвае:

— Нашы палі, бы гэтыя клеткі на дошцы, таксама разбіты на ўчасткі. Нешта не дагледзеў, страціў пазіцыі — ураджаю не будзе. А вось авалодаў полем, стаў яго гаспадаром, і нікуды яно не дзенецца, дасць плён. Даў мат — значыць, сабраў ураджай!..



Я гляджу на дошку, і сапраўды майму каралю няма куды дзецца. Выходзіць — мат!

Раніцай у нядзелю дзьме халодны сібірскі вецер. Пратасеня заходзіць у наша жытло, пацірае рукі.

— Пойдзем, хлопцы. Час ёсць, пакажу вам нашу гаспадарку. Пакуль дырэктар зоймецца з вамі, дык вы ўжо сёе-тое пабачыце.

Вуліцы пасёлка шырокія, роўныя, і нідзе няма ніякіх платоў. Навошта яны? Толькі парк абнесены парканам, каб жывёла не псавала дрэўцаў. У цэнтры парку ўзвышаецца бронзавая фігура Леніна. Вакол — акацыі, бярозкі, а летам, відаць, было шмат кветак. Далей пачынаецца возера з трохметровым чаротам, густым — мыш не прапаўзе.

— Возера гэта не крынічнае, з талага снегу, — тлумачыць Пратасеня. — Вясной аж выходзіць з берагоў, а цяпер, бачыце, адступіла, высахла. Калі мы першы раз прыехалі сюды, то яно было чыстае. Дык мы і пасяліліся на яго беразе. От тут, дзе зямля разрыта, нашы палаткі стаялі... Цяпер паглядзіце, колькі гусей і качак плавае. А зімой кароў поім. Ваду для піцця возім з рэчкі за пятнаццаць кіламетраў.

Участак стэпу, накшталт нашага выгана, вядзе да бярозавага гаю. Прыглядаемся, што ж тут расце. Аказваецца, пад нагамі адзін сунічнік. Дзіўна, у стэпе растуць суніцы!

— Мы яго называем дзікай клубнікай. Вясной тут ягад столькі спее, што калі пройдзе машына, то за ёй застаецца чырвоны след. Шкада, збіраць няма калі і няма каму. Усе заняты працай. Толькі дзеці...

Бярозавы гай такі белы, што аж сляпіць вочы. Гэта месца летняга адпачынку. Між бярозавага гаю роўныя пасадкі акацыі, сасны, пад бярозамі прытуліліся кусты шыпшыны. На цаліне вырастае лес, пасаджаны рукамі людзей. І нават грыбы бываюць — грузды. Пасёлак Вішнёвы рабочыя назвалі так таму, што тут у лясах расце шмат дзікай вішні, салодкай, добрай для варэння.

З Пратасенем добра падарожнічаць. Кожная дробязь — знаёма яму. Каля лесу прытуліліся невялічкія магілкі. І ён не можа абмінуць іх, бо там пахаваны яго сябра — беларускі камсамолец, які загінуў у часе аварыі машыны.

Пратасеня ўспамінае першыя дні цаліны. Усялякія людзі прыехалі сюды. Адны зарабіць, другія ў пошуках рамантыкі, а трэція — па-сапраўднаму працаваць прагнулі. Многія не змаглі вытрымаць цяжкасцей: летам тут горача і не хапае вады, зімой — холадна. Такія людзі з'ехалі адсюль хто куды. Засталіся самыя выпрабаваныя, смелыя, сумленныя. Гэта яны збудавалі новы пасёлак, ўзнялі тысячы гектараў цаліны і навучыліся атрымліваць высокія ўраджаі. Вось такім мы ўбачылі Пратасеню з яго сябрамі.

Праходзячы вуліцай пасёлка Балыкты, што побач з Вішнёвым, ён вітаецца са сваімі сябрамі. Адзін з іх, таксама механізатар з Беларусі, будуе новы дом.

— З наваселлем цябе, дружа, — крычыць Іван Аляксеевіч здалёк. — Ну, як збудаваўся?

Той ветліва ківае галавой:

— Сам бачыш. От толькі вокны зашкліць няма чым. А так можна было б і ўсяляцца.

На другім баку вуліцы будуецца казах. І ён — механізатар. Пасля заканчэння палявых работ пачаў ён закладаць свой дом. Працуюць дружна, талакой. Памагаюць суседзі. Будуе, як звычайна, саманны дом. Для каркаса ідзе лес. Сцены робяцца з чароту, перавязанага дротам, а потым з абодвух бакоў будынак аблепліваецца глінай, перамешанай з саломай, і беліцца. Стараюцца скарыстаць як мага менш цвікоў, дошак, бярвенняў, бо іх прывозяць вельмі здалёку. Аднак жа будаўніцтва ідзе шырокім фронтам. Людзі аселі тут назаўсёды, палюбілі гэты край, яго багатую зямлю.

Паміж пасёлкамі Балыкты і Вішнёвым размясціліся саўгасныя фермы. Як вядома, перад цалціннікамі партыя і ўрад паставілі новую задачу — асвоіць другую цаліну, развіць жывёлагадоўлю, каб у бліжэйшыя гады даваць па 75 цэнтнераў мяса на сто гектараў ворнай зямлі. У саўгасе «Мінскі» выгадныя перспектывы для развіцця жывёлагадоўлі. І цяпер ён мае прыкметныя поспехі ў гэтай галіне гаспадаркі.

Дырэктар саўгаса Георгі Васільевіч Мазонка — мясцовы чалавек. Ён узначаліў саўгас з першага дня заснавання. Добра ведае, як весці гаспадарку ў мясцовых умовах. Галоўнае было, расказвае дырэктар, падабраць кадры, прыглядзецца да людзей, як хто працуе і з якой мэтай прыехаў сюды. І вось цяпер, за сем год, усё стала на месца. Кадры падабраліся, гаспадарка наладжана, цяпер яе трэба ўмацоўваць і заваёўваць новыя вяршыні.

Якая ж гаспадарка саўгаса «Мінскі»?

Землі яго цягнуцца на дзесяткі кіламетраў — усяго трыццаць пяць тысяч гектараў. Ворнай — 20 тысяч. Вокам не акінуць! Дзяржава не пашкадавала тэхнікі для цаліннікаў. У саўгасе 120 трактараў, шмат аўтамашын, камбайнаў і іншых машын. Яно і зразумела, без тэхнікі нельга было і думаць пра асваенне такіх вялікіх плошчаў. Цяпер тут працуе толькі шэсцьсот рабочых — і на полі, і на фермах. З дапамогай тэхнікі яны лёгка спраўляюцца з зямлёй, скацінай, будуюцца, пракладаюць новыя дарогі, пашыраюць гаспадарку.

У саўгасе цяпер кадры пастаянныя. Справа вядзецца так, каб кожны механізатар авалодаў некалькімі спецыяльнасцямі — трактарыста, камбайнера, шафёра, мог перасесці з трактара на камбайн, узяцца за руль аўтамашыны. Гэта выгадна і рабочым. Яны заўсёды будуць мець заробак. А бывала так, што скончыліся палявыя работы, трактары і камбайны пастаўлены на машынны двор, і людзі застаюцца без заняткаў. Пачынаўся рамонт тэхнікі, але там не ўсе механізатары маглі знайсці работу сваім рукам. Зімой іх заробак змяншаўся, і многія стараліся выехаць у іншае месца.

Тут, кажуць, цаліна становіцца на ногі. Саўгас перавыканаў летась дзяржаўны план здачы малака і мяса. Малако пераганяецца на месцы, і перагон ідзе на адкорм цялят, парасят — гадуецца шмат маладняку. Гэта добрая, перспектыўная справа.

— Увогуле, другую цаліну мы асвоім хутка, — гаворыць Георгі Васільевіч. — Вось толькі ад авечак прыйшлося адмовіцца. Не хочуць браць іх мясакамбінаты. Ёсць і яшчэ другія пытанні, што хвалююць нас.

Ён прыводзіць лічбы. Самы вялікі ўраджай быў у 1956 годзе, а потым пачаў змяншацца. Прычын шмат. Нельга штогод сеяць пшаніцу па пшаніцы. Палі засмеціліся пустазеллем, аўсюг заглушыў усю пшаніцу, не даў ёй расці.

У размову ўступае старшыня рабочага камітэта прафсаюза Багданаў:

— Вы ведаеце, якіх нам аграномаў прысылаюць? Пачне сеяць пшаніцу, вырастуць кветкі. Пачне садзіць кветкі, вырасце пшаніца.

Старшыня рабачкома балюча перажывае ўдачы і няўдачы рабочага калектыву. Магчыма, наконт аграномаў ён перабольшыў, аднак і сапраўды, калі сюды прыедзе выпускнік з беларускага сельскагаспадарчага інстытута, то яму адразу будзе цяжка працаваць на цаліне — тут іншыя кліматычныя ўмовы, іншая глеба, ды і пустазелле не тое расце на палях.

— А як з метадам Мальцава? Ён працуе тут па суседству ў Курганскай вобласці.

— Ездзілі, вучыліся. Толькі яго метад не ўсюды падыходзіць. Ды трэба ўмець правільна ім карыстацца. Памылішся, ніякага ўраджаю не атрымаеш...

І кіраўнікі саўгаса думаюць, шукаюць новыя сродкі...

— Мы тут намецілі некаторыя мерапрыемствы, — паведамляе дырэктар. — Падрыхтавалі ў самыя лепшыя тэрміны глебу пад ураджай будучага года. Узаралі 14 тысяч гектараў. Нават суседзям памагаем у ворыве. Частку глебы пакінем на папар. Толькі падымецца аўсюг, мы яго адразу прыглушым, пусцім тэхніку ў наступленне. Пачалі сеяць, акрамя пшаніцы, другія культуры: кукурузу, грэчку. У гэтым годзе



ў нас была добрая грэчка — да 14 цэнтнераў з гектара атрымалі. Адным словам, мы вас, землякі, не падвядзём. От толькі...

І гэтае «от толькі» нам было вельмі непрыемна слухаць. Прыязджалі ў саўгас камсамольцы з беларускіх маладзёжных газет, прадстаўнікі ЦК ЛКСМ Беларусі, абяцалі наладзіць шэфства, нават духавы аркестр абяцалі... і нічога з гэтага не атрымалася, паабяцалі і забыліся.

Мы бачылі, што тэхніка ў саўгасе, і не толькі ў саўгасе «Мінскі», стаіць пад адкрытым небам, майстэрняў для яе яшчэ не паспелі збудаваць, запасных частак і звычайнага інструмента не хапае. Прывесці адразу ўсё цяжка. Нялёгка і чалавеку бывае, калі ён будуе новы дом. А гэта такія прасторы асвоіць, абжыць, дзе ж тут адразу ўсё зробіш!

— Дык вось, землякі, — з нейкай затоенай хітрынкай гаворыць Георгі Васільевіч. — Вы нам радня, землякі, а добрых шэфаў у Мінску не можаце нам знайсці. Завялі б мы працоўную дружбу з якім-небудзь рабочым калектывам. Яны памаглі б нам, а мы далі б гарадам больш хлеба, малака, мяса. Усё гэта павялічыла б наша агульнае багацце... Вы ведаеце, як цяжка на марозе рамантаваць трактар? Ды калі яшчэ не хапае інструмента? Напісалі мы ў Мінск, ніхто не адгукнуўся. Напісалі ў Харкаў, на трактарны завод, нам прыслалі камплект інструментаў. І вось неяк крыўдна, што мінчане забыліся на сваіх землякоў.

Няёмка, сорамна было слухаць гэтыя слушныя дакоры.

Георгі Васільевіч падумаў і замест таго, каб заспакоіць нас, дадаў:

— І Свярдлоўск ахвотна адгукаецца. Напісалі, што ў нас няма такарнага станка, а тэхніку трэба рамантаваць, прыслалі такарны станок...

Слухалі мы людзей з саўгаса «Мінскі» і думалі: а чаму ж, сапраўды, аднаму з мінскіх прадпрыемстваў не ўзяць шэфства над ім?

Увечары мы наведалі клуб. Там адбываўся сход выбаршчыкаў Мінскай выбарчай акругі па дадатковых выбарах у раённы савет. Замест дэпутата, які выбыў, выбіралі новага. І там перад кандыдатам — другім сакратаром райкома — ставіліся многія гаспадарчыя пытанні: трэба саўгасу Палац культуры, добрыя дарогі, водны канал пракласці, каб не ездзіць па ваду за пятнаццаць кіламетраў. Цяпер трэба будавацца па-сапраўднаму, надоўга, усебакова, падымаць ураджайнасць, развіваць жывёлагадоўлю...

Мала тут яшчэ спецыялістаў — настаўнікаў, урачоў, культработнікаў. Каб яны аселі ў саўгасе, ім трэба стварыць добрыя ўмовы для жыцця.

...Шэрай раніцай пакідаем саўгас «Мінскі», які нам так палюбіўся, развітваемся са сваімі землякамі. Аўтобус ідзе па роўнай стэпавай дарозе. Абапал палі, але і цяпер, у такую раннюю пару, чуваць на палях вуркатанне трактараў. А на небасхіле — кастры, спавітыя дымам. Гэта спальваюць салому пасля камбайнаў, каб даць месца для работы трактару. Цаліна набірае разгон.

У аўтобусе адчуваеш нейкую незвычайную прастату і блізкасць людзей. Едуць рускія, казахі, украінцы, беларусы. І яны, як родныя браты, разумеюць адзін аднаго. Вось пачуўся гармонік і ўкраінская песня. Усе змаўкаюць. Песня прыемная, радасная... Казах-сусед расказвае, як трэба правільна гатаваць сапраўдны бішбармак, а цётка з Беларусі ўсё нешта шчабеча свайму сыну, які едзе прызывацца ў армію.

— Дык глядзі ж, сынок. Перадай прывет цётцы Тэклі. Скажы, што добра жывём. Як мае быць...

Яна ўсё думае, што сын будзе служыць у Беларусі і абавязкова сустрэне цётку Тэклю.

Цудоўныя людзі жывуць на цаліне. Аб іх хочацца расказваць і расказваць, бо ў іх багатае і цікавае жыццё.

У чыстым стэпе стаіць трактар «Беларусь». Трактарыст галасуе. Аўтобус спыняецца.

— Што, іскру згубіў? — пытае шафёр і вылазіць з кабіны. — Нічога, зараз знойдзем іскру.

Праз некалькі хвілін трактар завурчаў, трактарыст весела махае рукой: «Дзякуй. Шчаслівай дарогі!»

«Шчаслівай дарогі ў светлую будучыню — камунізм!» — хочацца сказаць людзям цаліны. Мы з вамі ўсёй душой!

*Гары, камсамольскі агеньчык!*

# НАРОДНАЯ КНІГАРНЯ



Валя Саўчанка. У школе-інтэрнаце яна старшая піянерважатая, а ў народнай кнігарні — прадаўшчыца.

### КНІГІ ЦІ... ПІВА?

Гэты будынак стаіць амаль у цэнтры Чавусаў. Збоку ад яго — стадыён, насупраць — старадаўні парк. Будынак нічым асаблівым не вылучаецца сярод іншых. Праўда, у апошні час на ім часта мяняліся шыльды. Больш дакладна, не шыльды, а надпісы на іх. Спачатку надпіс быў кароткі: «Кніжны магазін». Праз некаторы час ён стаў даўжэйшы: «Кніжны магазін з вольным доступам да кніг». Пазней і ён знік. З'явіўся новы: «Кніжны магазін без прадаўца».

Ішоў час. Шыльды і надпісы на магазіне мяняліся, а пакупнікоў не прыбаўлялася.

Прыгадаўся такі выпадак...

У магазін зайшоў пажылы мужчына. Загарэлы і абветраны твар, вылінялая на сонцы вопратка.

— Мне патрэбна вось гэта кніга Трафіма Дзянісавіча Лысенкі,—звярнуўся ён да прадаўца і працягнуў паперку з назвай кнігі.

—У нас вольны доступ да кніг... Самі выбірайце... — спакойна адказала прадаўшчыца, нізваючы на сталёвыя пруткі петлі будучага ўзорыстага світара.

— Разумееце, мне нязручна... Ды і часу няма, у брыгаду спяшаюся, — акінуў позіркам кніжныя паліцы наведвальнік.

Прадаўшчыца неахвотна паднялася, пакапалася на кніжных паліцах і, нарэшце, адказала:

— Сама не ведаю, ці ёсць у нас гэтая кніга. Спытайцеся ў бібліятэцы...

Наведвальнік, не развітаўшыся, грукнуў дзвярыма. Прадаўшчыца толькі плячыма паціснула:

— Падумаеш!

Працавалі ў магазіне людзі, якія не любілі і не чыталі кніг.

— Кніжны магазін, — у канцы кожнага месяца заяўлялі члены праўлення гарадскога спажывецкага таварыства, — нам прыносіць толькі страты. На такім бойкім месцы выгадней гандляваць півам і папяросамі.

Але жыццё распарадзілася пасвойму.

### «ЗОРКА ВЕНЕРА»

Гэта адбылося мінулай восенню. Ішлі ў нядзелю раніцай чавускія жыхары міма кніжнага магазіна і дзівіліся: — Што такое?

Сцены пафарбаваны ў блакітны колер, дзверы шырока расчынены. А над імі — незвычайная шыльда: «Народны кніжны магазін савета сяброў кнігі Чавускага райкома камсамола і райспажыўсаюза». І плакат побач: «Заходзьце, калі ласка!» З магазіна музыка даносіцца — радыёла іграе. Цікава. Хто на рынак спяшаўся, хто ў цырульню, хто проста пагуляць на вуліцу выйшаў... Стаялі, пераглядваліся. А пасля, адзін за адным, туды—у расчыненыя дзверы.

Чыста, светла, утульна.

Кніжкі на паліцах клічуць каляровымі малюнкамі вокладак. Пакупнікоў ветліва сустракаюць прадаўцы. Усе яны — новыя: камсамольцы, грамадскія распаўсюджвальнікі друку. Сярод іх інструктар райкома камсамола Уладзімір Гарнізонаў — грамадскі дырэктар народнай кнігарні. Убачылі яго знаёмыя ў магазіне, вітаюцца, жартуюць:

— Хіба ў райкоме працаваць надакучыла?

Уладзімір жартам адказвае:

— Сумежную прафесію набываю...

У магазіне тым часам цесна робіцца. Кожны паглядзець хоча, што гэта за «народны кніжны»... Асцярожна кнігі гартаюць на прылаўках, музыку слухаюць. А музыка сапраўды цудоўная. І словы ў песні такія, што да сэрца даходзяць:

Помніш, калі я спаткаўся
з табою,
Зорка Венера ўзышла...

Стаяў ля прылаўка вясковы хлапец, уважліва слухаў песню, а калі радыёла замоўкла, спытаў у прадаўца:

— Хто напісаў такія цудоўныя словы?

— Максім Багдановіч, беларускі паэт. Вось кніжка яго вершаў. Купіце, не пашкадуеце...

— З задавальненнем куплю... Яшчэ мне вершы Сяргея Ясеніна дайце...

Першыя дні гандлю ў народным кніжным магазіне прынеслі добрыя вынікі. Аказваецца, любяць людзі кнігу. Трэба толькі ўмець прапанаваць яе пакупніку, расказаць пра яе змест, пра аўтара. Чавускія энтузіясты кніжнага гандлю так і робяць.

Грамадскія прадаўцы-кнігалюбы — старшая піянерважатая школы-інтэрната Валя Саўчанка, старшая піянерважатая гарадской сярэдняй школы № 2 Ніна Маркава, прадаўшчыцы з раўнівермага Марыя Таранава і Надзея Валовікава—хутка авалодалі сваімі новымі абавязкамі і сталі ўмелымі прапагандыстамі кнігі. Выве-



Без кніг ніхто не выходзіць з Чавускай народнай кнігарні.



У Народнай кнігарні кожны выбірае сабе кнігу па густу.

шаны на самым відным месцы ў магазіне лозунг: «Без кнігі няма ведаў, без ведаў няма камунізма» стаў дэвізам у іх рабоце.

У народнай кнігарні ўсё зроблена па-новаму. Каб пакупнік не траціў дарэмна часу на выбар патрэбнай кнігі, уся літаратура размеркавана па аддзелах. Найбольшы аддзел займаюць творы беларускіх пісьменнікаў.

Не пакрыўджаны і самыя юныя чытачы, нават тыя, хто яшчэ не ўмее чытаць, але хоча ўсё ведаць. Гэта для іх створаны спецыяльны аддзел. Якіх толькі цікавых кніжак тут не знойдзеш! Шмат пакупнікоў бывае ў аддзеле з крыху незвычайнай назвай: «Кніга — найлепшы памятны падарунак». Многа выдумкі праяўляюць грамадскія прадаўцы гэтага аддзела Валя Саўчанка і Ніна Маркава. І часта з дзвярэй магазіна выходзяць пакупнікі, трымаючы ў руках прыгожыя томікі, перавязаныя каляровымі стужкамі. Яны нясуць сваім блізкім падарунак, набыты ў народнай кнігарні.

## ДЗВЕСЦЕ МАЛЕНЬКІХ КНІГАНОШ

Нехта з мясцовых чавускіх гумарыстаў аднойчы пажартаваў: «Цяпер у нас кнігі... з нагамі. Яны самі ідуць да пакупніка».

У гэтым жарце ёсць пэўны сэнс. Кнігі прадаюць тут не толькі з прылаўка.

Кожны тыдзень піянеры накіроўваюцца з магазіна ва ўсе канцы горада, у прыгарадныя калгасы. У кожнага цераз плячо перакінута сумка з кнігамі, а на рукаве чырвоная павязка з надпісам: «Кніганоша».

Таня Парашкова, Люда Судзілоўская, Валя Паўлоўская і Ларыса Клачкова моцна пасябравалі з паштальёнамі раённага аддзялення сувязі. І не выпадкова. Лепш за паштальёна ніхто не ведае, у якіх дамах паважаюць кнігу, хто стварае ўласныя бібліятэкі.

Неяк Люба Астапава, Валя Шчэмелева і Люда Чубукова зайшлі ў раённую бібліятэку. Выпадкова сталі сведкамі такой сцэнкі.

Юнак у рабочай спяцоўцы прынёс здаваць паэму А. Твардоўскага «За далячынню — далячынь».

— Ці нельга, — звярнуўся ён да бібліятэкаркі Марыі Данілаўны Віцюговай, — пакінуць гэтую кнігу ў сябе назаўсёды. Замест яе я куплю вам якую-небудзь іншую.

— У нас вялікая чарга на паэму Твардоўскага, — адказала Марыя Данілаўна. — І наогул, мы не гандлюем кнігамі.

Вось у гэты момант Люба Астапава і прапанавала юнаку:

— Вось вам «За далячынню — далячынь».

Люда Чубукова, Валя Шчэмелева і Люба Астапава кожны раз пасля наведвання бібліятэкі прыходзілі ў магазін з заяўкамі чытачоў на кнігі. А праз некаторы час адносілі кнігалюбам творы любімых пісьменнікаў.

У піянераў Гены Канцавога, Мішы Лялюгі і Валерыка Патапенкі свой метад распаўсюджвання кніг. Яны наведваюць прадпрыемствы горада ў дні выплаты заработнай платы. Гэтых хлапчукоў з поўнымі сумкамі кніг і чырвонымі павязкамі на рукаве можна сустрэць на гароднінa-сушыльным заводзе і льнозаводзе, на райпрамкамбінаце, у хлебапякарні, на маслазаводзе. Усюды юных кніганошаў сустракаюць як жаданых гасцей. Рабочыя прывыклі ўжо з кожнай заработнай платы купляць кнігі.

Піянеркі Ала Мычко, Валя Шаўцова, Іра Дзятлава і Люда Рыдлевіч часта наведваюць гарадскія школы. Новыя творы дзіцячых пісьменнікаў яны прыносяць вучням малодшых класаў. Па іхняй ініцыятыве школьнікі ствараюць свае ўласныя бібліятэкі.

## НАРОДНАЯ КНІГАРНЯ ПРЫЙШЛА Ў ВЁСКУ

У першага сакратара райкома камсамола Соф'і Цыганковай на гэты дзень намячалася многа спраў. Трэба было правесці пасяджэнне бюро, прыняць удзел у нарадзе калгасных механізатараў і рацыяналізатараў. На гэты ж дзень намячалася і пасяджэнне савета сяброў кнігі.

Усюды паспець не зможаш. Цыганкова пасля бюро папрасіла другога сакратара райкома камсамола пайсці на нараду, а сама вырашыла правесці пасяджэнне савета сяброў кнігі.

Акрамя Соф'і Цыганковай, у яго склад уваходзяць токар майстэрні аддзялення «Белсельгастэхніка» Даніла Няпомнячы, супрацоўніца Дома піянераў Надзея Дзенісенка, сакратар камітэта камсамольскай арганізацыі саўгаса «XVIII партз'езд» Рыгор Кірэйка, таваразнаўца па кнігах райспажыўсаюза Іван Капітонаў, прадаўцы народнага магазіна, настаўнікі, работнікі культуры.

На пасяджэнні савета сяброў кнігі на гэты раз стаяла пытанне аб пашырэнні дзейнасці народнай кнігарні.

— Добра, што мы змаглі давесці літаратуру амаль да кожнага жыхара горада, — гаварыла сакратар райкома камсамола. — Але ж нельга забываць і пра вёску. Я ўпэўнена, што кнігу з нашых рук чакаюць механізатары, паляводы і жывёлаводы, сельская інтэлігенцыя.

— Настаў час, — падтрымалі яе члены савета, — адкрыць аддзяленні нашага народнага мага-

Чавускія школьнікі-кніганошы частыя госці ў швейнай майстэрні горада.






Школьніца Ларыса Брыцікава — актывіст народнай кнігарні.
Фота С. Чырэшкіна.

зіна ва ўсіх калгасах і саўгасах раёна.

— За гэтую справу павінны ўзяцца пярвічныя камсамольскія арганізацыі. На дапамогу ім з ахвотай прыйдуць піянеры сельскіх школ, — падвяла вынікі размовы Соф'я Цыганкова.

Першае аддзяленне раённага народнага кніжнага магазіна адкрыў у саўгасе «XVIII партз'езд» член савета сяброў кнігі Рыгор Кірэйка. Аб гэтым хутка даведаліся жыхары ўсіх вёсак, якія ўваходзяць у саўгас.

Спачатку ў клуб, дзе было размешчана аддзяленне народнага магазіна, людзі днём пачалі заходзіць быццам незнарок. Кожны прыглядаўся да акуратна раскладзеных на сталах кніг. А раней жа яны валяліся навалам паміж мяхоў і скрынак у мясцовым сельскім магазіне.

Зайшла сюды аднойчы і даярка Фядора Віктараўна Трафімовіч. Ды не адна. Яна прывяла ў клуб сваіх таварышак. Усе яны купілі брашуры аб вопыце работы знатных даярак краіны.

Дзякавалі Рыгору Кірэйку за кнігі слухачы гурткоў партыйнай і камсамольскай асветы. Кожны з іх змог набыць літаратуру аб гістарычным XXII з'ездзе КПСС.

Як і ў Чавусах, у саўгасе з'явіліся юныя прапагандысты кнігі. Кніганошы сталі ўсё часцей наведваць чырвоныя куткі жывёлагадоўчых ферм, брыгадныя клубы, дамы рабочых і служачых.

Праз тыдзень пасля таго, як Рыгор Кірэйка ўпершыню прывёз літаратуру ў свой саўгас, камсамольскія арганізацыі іншых саўгасаў і калгасаў пачалі таксама адкрываць аддзяленні кніжнага магазіна ў сваіх вёсках. Усюды за справу ўзяліся грамадскія распаўсюджвальнікі кнігі.

І вось у Чавусы з усёй Магілёўшчыны ў народны магазін на семінар прыехалі тыя, хто па абавязку службы нясе адказнасць за гандаль літаратурай. Пільна і ўважліва знаёміліся ўдзельнікі семінара з арганізацыяй прапаганды літаратуры на грамадскай аснове і пераканаліся, што стварэнне народнай кнігарні — справа вельмі неабходная, карысная і своечасовая.

— Жыццё было б сумным без кнігі, — гаворыць зусім малады па ўзросту старшыня праўлення калгаса «Пяцігодка» Калістрат Ніколенка. — Сам я займаюся на завочным аддзяленні сельскагаспадарчай акадэміі. Літаратуру для вывучэння праграмнага матэрыялу дастаю ў народнай кнігарні. Вучуся не толькі я. Каля двухсот калгаснікаў нашай сельскагаспадарчай арцелі займаюцца ў розных гуртках. Набываючы і чытаючы кнігі, яны вучацца жыць па-новаму, нясуць у вёску камуністычную культуру. Самай лепшай пахвалы заслугоўваюць грамадскія прадаўцы народнага магазіна і яго аддзяленняў, члены раённага савета сяброў кнігі і вялікая армія юных кніганош, якія па заклiку сэрцаў узяліся за высакародную справу — прапаганду кнігі.

Мы згодны з Калістратам Ніколенкам: чавускія энтузіясты кніжнага гандлю заслугоўваюць самай высокай пахвалы.

**Мікалай АНЮКОЎ.**

г. Чавусы.



# СЦІПЛАЯ ПРАЦА СЯБРОВАК

Праз некалькі хвілін прыступае да работы другая змена. Тоня Парахневіч і Тамара Сікорская схіляюцца над столікамі.

Тоня і Тамара працуюць у вышывальным цэху Бабруйскай фабрыкі мастацкіх вырабаў. Іншы чытач можа іранічна сказаць: «Падумаеш, фабрыка!..» Ён гэта зробіць, калі забудзе, што на ім самім прыгожае адзенне, што, ідучы міма вітрыны ўнівермага, ён міжволі любуецца народным арнаментам, нанесеным умелымі рукамі на святочны абрус, калі забудзе, што з пачуццём гонару нядаўна чытаў у газеце пра тое, якой увагай карысталіся на выстаўках у Нью-Йорку, у Токіо, у Брусэлі вырабы беларускіх вышывальшчыц.

Тоня і Тамара — ударнікі камуністычнай працы. Іх праца складае часцінку агульнага поспеху калектыву, які абганяе час. Славутая фабрыка, якая неўзабаве будзе адзначаць сваё дваццацігоддзе, сістэматычна перавыконвае дзяржаўны план і працуе цяпер на ўзроўні плана 1965 года.



Тамара Сікорская.

У вырабе дзіцячага і жаночага адзення, бялізны, прадметаў хатняга ўжытку няма якой-небудзь асаблівай тэхналогіі. Поспех залежыць тут ад задумы мастака і ўмельства работніц. Фабрыка ўвесь час разрастаецца, увесь час мае патрэбу ў кваліфікаваных майстрах. Тых, хто жадае набыць спецыяльнасць, прыводзяць у цэх і ставяць вучнямі да лепшых з лепшых. Тоня і Тамара навучылі ўжо сваёй тонкай справе многіх. Яны робяць гэта ад усяго сэрца, жадаючы сапраўды памагчы людзям і фабрыцы.

Тоня і Тамара камсамолкі-агітатары. Ні адна падзея ў грамадскім жыцці не праходзіць міма іх увагі. Яны ўмеюць прыцягнуць увагу і іншых да таго, што здаецца ім самім асабліва важным, умеюць абудзіць у людзях ініцыятыву, памагчы творчаму росту таварыша. Сваёй самай вялікай задачай яны лічаць прапаганду словам і справай вялікіх ідэй пабудовы ў нашай краіне камуністычнага грамадства. Чалавек, грамадзянін савецкай Айчыны — з усімі яго імкненнямі, радасцямі, а часам і няўдачамі — складаюць галоўны аб'ект увагі агітатараў у гэтыя дні, калі наш народ рыхтуецца да выбараў Вярхоўнага Савета СССР.

**А. ДЗІТЛАЎ.**
Фота аўтара.



Тоня Парахневіч.

# КАБ ПЛЁННЫ БЫЎ ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ

Сяброўскія шаржы
**Г. Скамарохава**



Ніл Гілевіч



Анатоль Клышко

Даўно закончыў сваю работу гістарычны XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, а ў сэрцы кожнага савецкага чалавека жыве і яшчэ доўга будзе жыць вялікае водгулле тых думак і пачуццяў, якія былі выказаны з высокай трыбуны. Намнога бліжэй стаў наш заўтрашні дзень, намнога лягчэйшай — наша хада, бо перад позіркам савецкага чалавека ўзніклі рэальныя, яркія абрысы цудоўнай камуністычнай будучыні.

Пасляз'ездаўская атмасфера высокага творчага ўздыму знайшла сваё адлюстраванне ў рабоце чарговага IV Пленума праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, які адбыўся 30—31 студзеня г.г. у Мінску. Пленум абмеркаваў задачы, што паўсталі перад беларускай літаратурай у сувязі з ажыццяўленнем велічнай праграмы пабудовы камунізма ў нашай краіне. Наша літаратура, сказаў у сваім дакладзе старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Пятрусь Броўка, «трымае адказ сёння не толькі перад сваім народам, а перад усімі народамі свету за тое, як яна здолее паказаць гэты першы ў гісторыі жыцця чалавецтва высакародны працэс пабудовы самага светлага, самага шчаслівага жыцця чалавека — камунізма».



Уладзіслаў Нядзведскі

Удзельнікі пленума прынялі дзейсны ўдзел у абмеркаванні задач, якія паставіла жыццё перад літаратурай на новым этапе камуністычнага будаўніцтва. Хто б ні выступаў з трыбуны пленума, народны пісьменнік Беларусі Кандрат Крапіва ці малады паэт Ніл Гілевіч, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Вадзім Кажэўнікаў ці крытык Алесь Адамовіч, паэт Аляксей Русецкі ці малады празаік Барыс Сачанка, — ва ўсіх выступленнях гучала шчырая заклапочанасць сённяшнім днём нашай літаратуры, клопаты пра яшчэ больш плённы заўтрашні яе дзень.

З першых год свайго існавання савецкая літаратура цвёрда вызначыла месца пісьменніка ў рабочым страі. Але на кожным новым этапе мастакі слова яшчэ і яшчэ раз звяраюць свой крок з поступам народа, з ходою жыцця, імкнучыся быць наперадзе. Пафас нашых дзён — пафас будаўніцтва камунізма. Вось чаму і дакладчык і тыя, хто выступаў у спрэчках, шмат увагі аддавалі пытанням павышэння ідэйнага і мастацкага ўзроўню твораў, прысвечаных нашай сучаснасці. Выказваліся вельмі слушныя меркаванні аб пашырэнні самога паняцця сучаснасць.



Рыгор Барадулін



Барыс Сачанка

Шмат цёплых, добразычлівых слоў было сказана ў адрас літаратурнай моладзі, якая смела і актыўна бярэцца за вырашэнне самых надзённых тэм. Цяпер перад ёю стаіць задача: ідучы ў гэтым жа правільным кірунку, нястомна павышаць мастацкае майстэрства, няспынна ўдасканальваць пісьменніцкае ўмельства.

З трыбуны пленума прагучала вельмі слушная думка пра беражлівыя адносіны да здабыткаў нашай літаратуры ў цэлым і кожнага мастака ў паасобку. Літаратура — гэта калектыўны вопыт, як і жыццё. Літаратурны працэс — гэта працэс калектыўнай свядомасці. Таму нават у творы не зусім дасканалым ёсць крупінкі таго вопыту, на які зможа абаперціся мастак, які прыйдзе яшчэ ў літаратуру.

Каб увасобіць у сваіх творах высокія этычныя, эстэтычныя, маральныя якасці чалавека будучыні, мастак павінен выпрацоўваць гэтыя якасці ў сабе самім, удасканальваць і ўзбагачаць свой духоўны свет. Вось чаму на пленуме панавала тая ж атмасфера вострай непрымірымасці да недахопаў, высокай патрабавальнасці, бязмежнай адданасці справе камунізма, якая вызначае змест нашага сённяшняга жыцця.

У дакладзе і ў выступленнях шмат увагі аддавалася жанравай разнастайнасці нашай літаратуры, літаратурнай крытыцы і літаратуразнаўству, выхаванню маладых пісьменнікаў; закраналіся таксама пытанні работы выдавецтваў, часопісаў, кінастудыі, прапаганды і распаўсюджання кнігі.

Шырокая, шчырая размова пра літаратуру, якая адбылася на пленуме, дала пісьменнікам добрую творчую зарадку.

Іван Курбека



Сяргей ГУСАК

# ДУХОЎНЫ СВЕТ ГЕРОЯ

### Нататкі аб псіхалагічным аналізе ў сучаснай прозе

Мастацкая літаратура, якую Максім Горкі назваў чалавеказнаўствам, мае сваім аб'ектам паказу чалавечую асобу, узятую ў яе адносінах да грамадства і прыроды. Яна выяўляе заканамернасці грамадскага развіцця праз адлюстраванне іх у свядомасці і псіхалогіі чалавека.

Савецкая літаратура ў большай ступені, чым літаратура папярэдніх эпох, паказвае чалавека ў яго дзейных адносінах да рэчаіснасці, «сцвярджае быццё як дзеянне». Таму яна не толькі не адмаўляе пранікнення ва ўнутраны свет чалавека, а наадварот, патрабуе самай пільнай увагі да духоўнага станаўлення будаўніка новага грамадства.

Паглыбленне псіхалагізму савецкай літаратуры стала асабліва прыкметным у апошнія гады. Гаворачы аб гэтай з'яве, некаторыя схільны бачыць яе вытокі ў асаблівасцях XX стагоддзя — эпохі пакарэння космасу, звышвялікіх хуткасцей і г. д. А між тым, узмацненне ўвагі да інтэлектуальнага і псіхалагічнага аблічча героя трэба звязваць у першую чаргу не з заваяваннямі навукі і тэхнікі, хоць яны і адлюстроўваюць прагрэс чалавечага інтэлекту, а з сацыяльна-палітычнымі фактарамі, з самім характарам духоўнага жыцця эпохі.

Навуковы і тэхнічны прагрэс, узяты сам па сабе, не выражае духоўнай сутнасці творцаў навуковых і тэхнічных цудаў. Савецкія спадарожнікі Зямлі і касмічныя караблі з'яўляюцца прадуктамі раскаванай сацыялізмам мыслі, але ж гісторыя чалавецтва ведае і вадаправод, збудаваны яшчэ рабамі Рыма, і егіпецкія піраміды, узведзеныя рукамі дзесяткаў тысяч унутрана абкрадзеных людзей.

Паглыблены псіхалагізм савецкай прозы апошніх гадоў абумоўлены тымі вялікімі зменамі, якія адбыліся ў палітычным і грамадскім жыцці нашай краіны.

XX і XXII з'езды партыі выклікалі да жыцця новыя сілы народа, прадвызначылі духоўнае абнаўленне грамадства, круты паварот увагі да чалавека.

Прынятцё новай праграмы партыі паставіла перад літаратурай задачу



выхавання чалавека камуністычнай свядомасці. Выкананне гэтай задачы непарыўна звязана з павышэннем мастацкага ўзроўню літаратуры ў цэлым, з павышэннем псіхалагічнай культуры прозы ў прыватнасці.

У галіне псіхалагічнага аналізу сучасная проза мае свае значныя здабыткі, якія вельмі абнадзейваюць, і свае выдаткі, якія не могуць не прымусіць задумацца. Аб гэтых здабытках і выдатках на матэрыяле некаторых твораў беларускай і рускай прозы і пойдзе гутарка ў артыкуле.

* * *

Псіхалагічны аналіз асабліва моцна развіўся і праявіўся ва ўсім сваім багацці ў рускай класічнай літаратуры. Рэалістычны прынцып раскрыцця псіхалогіі чалавека ў рускай літаратуры выпрацаваў А. С. Пушкін. Наступным крокам у гэтым напрамку была творчасць М. Ю. Лермантава. Псіхалагічны аналіз у Лермантава накіраваны на выяўленне і адлюстраванне самога працэсу псіхалагічнага жыцця чалавека, прычым паэта цікавіў галоўным чынам аналіз пачуцця.

Геній Л. М. Талстога ўвабраў у сябе заваёвы папярэдняй літаратуры і ўзбагаціў яе такімі мастацкімі адкрыццямі, значэнне якіх нельга пераацаніць. Талстой уключыў у сферу псіхалагічнага аналізу і аналіз думкі, зрабіў аб'ектам мастацкага даследавання сам працэс зараджэння думак і пачуццяў у чалавеку, дыялектыку іх развіцця.

Аднак магчымасці псіхалагічнага аналізу ў рускай класічнай літаратуры былі гістарычна абмежаваныя. Яна не магла ўзяць той перавал, з вышыні якога адкрываліся новыя перспектывы — паказ духоўнага росту чалавека ў ходзе і пад уплывам той пераўтваральнай дзейнасці, якая вызначана навуковым камунізмам.

Гэтай перспектывай далейшага развіцця псіхалагічнага аналізу авалодала савецкая літаратура ў першую чаргу дзякуючы сумесным намаганням такіх глыбокіх знаўцаў чалавечай душы, як М. Горкі і М. Шолахаў, А. Фадзееў і Л. Леонаў, А. Талстой, К. Федзін і многія іншыя.

Станоўчы герой рускай класічнай літаратуры больш шукаў, што яму рабіць, чым рабіў. Яго ідэйныя пошукі, пошукі шляхоў да грамадска-карыснай дзейнасці ляжалі ў аснове багацця ўнутранага свету і прадвызначалі гэтае багацце.

Перамога ў нашай краіне ідэй марксізма вымагае ад савецкага чалавека канкрэтных, штодзённых спраў для ажыццяўлення камуністычнага ідэалу. Усебаковае развіццё чалавечай асобы ва ўмовах практычнай дзейнасці — будаўніцтва камуністычнага грамадства — складае аснову ўнутранага багацця героя нашага часу.

М. Горкі назваў героя савецкай літаратуры «чалавекам светаразумення» і супрацьпаставіў яго чалавеку светаадчування. Такі герой не проста самаадданна працуе, ён ведае, для якой высокай мэты ён гэта робіць. Высокая свядомасць, глыбокае пачуццё абавязку перад народам, Радзімай, аптымізм, упэўненасць у сваіх сілах і ў праваце сваёй справы — неад'емныя рысы духоўнага аблічча савецкага чалавека.

Узнікненне якасна новай літаратуры, г. зн. з'яўленне ў ёй новага героя, чалавека новай свядомасці і псіхалогіі, не азначае адмаўлення ад заваёў класічнай літаратуры. Для раскрыцця светапогляду, жыццёвай пазіцыі, асаблівасцей унутранага свету героя новага часу савецкія пісьменнікі шырока карыстаюцца творчымі прыёмамі і прынцыпамі псіхалагічнага аналізу, выпрацаванымі класічнай літаратурай.

Ідучы ад нацыянальнага жыцця, маладая беларуская проза развівалася, абапіраючыся на вопыт рускай класічнай і савецкай літаратуры.

Ва ўзбагачэнні беларускай прозы культурай псіхалагічнага аналізу выключную ролю адыграў Я. Колас. Справа тут не толькі ў тым, што шлях Я. Коласа да вышыняў майстэрства быў найбольш прамы і кароткі, хоць і гэта мела значэнне. Як вядома, частка беларускіх празаікаў, у прыватнасці К. Чорны, у свой час захаплялася горшымі бакамі псіхалагічнай манеры Дастаеўскага, падсвядомым у чалавеку, адрываючыся тым самым

ад пранікнення ў заканамернасці грамадскага жыцця. Строга рэалістычны метад Я. Коласа, які ён няўхільна і паспяхова ажыццяўляў у сваёй творчай практыцы, дапамагаў гэтым пісьменнікам хутчэй пазбавіцца памылак.

І самае галоўнае — Колас паўней, чым хто-небудзь іншы з беларускіх празаікаў, выкарыстаў дасягненні класікаў у галіне псіхалагічнага аналізу і зрабіў іх здабыткам нацыянальнай літаратуры. Нельга ўявіць творчасць ні аднаго значнага беларускага празаіка ізаляванай ад мастацкага вопыту Коласа.

Знаўца чалавечай душы, К. Чорны пратоптваў сваю сцежку ў літаратуры, перагукваючыся з Коласам. Пашырэнне рэалістычнай асновы псіхалагізму Чорнага, яго вучобу ў Л. Талстога нельга зразумець без уліку таго напрамку, якім ішоў у беларускай літаратуры Я. Колас. Паглыбленне ў псіхалогію чалавека праз пранікненне ў глыбіні народнага жыцця — вось што зблізкае абодвух пісьменнікаў і вызначае сабой уплыў Коласа на Чорнага.

Пры гэтым Коласа больш цікавіць чалавек у яго пошуках праўды веку, Чорны ж акцэнтуе ўвагу на вызваленні свядомасці чалавека ад перажыткаў мінулага.

Традыцыі Чорнага-псіхолага вельмі выразна відны ў творчасці Аляксея Кулакоўскага. Цікавячыся раскрыццём магчымасцей простага чалавека ва ўмовах савецкай рэчаіснасці, А. Кулакоўскі ставіць ступень раскрыцця гэтых магчымасцей у прамую залежнасць ад таго, наколькі паспяхова супрацiўляецца чалавек уласніцкім інстынктам, мяшчанскай ідэалогіі, наколькі актыўна ён ваюе з усім адмоўным у жыцці.

Як пісьменнік-рэаліст, А. Кулакоўскі зыходзіць пры гэтым не толькі з суб'ектыўных якасцей людзей, але і з аб'ектыўных умоў іх жыцця, з асаблівасцей часу.

Вайна выявіла сапраўдную веліч савецкага чалавека, незвычайную чысціню яго маральна-палітычнага аблічча, высокую грамадзянскую свядомасць і разам з тым ажывіла бацылы ўласніцтва і эгаізму ў паасобных людзях. (Невыпадкова ж вока Кандрата Крапівы заўважыла тады ў жыцці Жлукту.)

Для духоўнага жыцця станоўчых герояў А. Кулакоўскага і для пазіцыі самога пісьменніка характэрна непрымірымасць да ўсяго таго, што звязана са старым светам. Дэмабілізаваны воін Несцер, герой ранняга апавядання «Сад», гаворыць пра хапугу Сеўрука, калгаснага рахунквода: «Гэта нараст на здаровым целе, за вайну ён толькі больш вытырк».

Слабасць псіхалагічнай манеры пісьменніка ў першым яго зборніку праявілася ў некаторым абмежаванні сферы думак, пачуццяў і духоўных запатрабаванняў герояў. Персанажы Кулакоўскага жывуць толькі тым, што непасрэдна звязана з іх працоўнай дзейнасцю.

Паступова пісьменнік шырэй пачынае бачыць унутраны свет сваіх герояў і адмаўляецца ад рэгламентацыі іх пачуццяў і думак. Не без уплыву Якуба Коласа яго ўсё больш пачынае вабіць жыццёва натуральны псіхалагічны стан чалавека. Знікае падкрэсленая стрыманасць героя, ён становіцца больш натуральным і складаным у выяўленні сваіх пачуццяў. Лірызм, прыглушаны ў першых творах, гучыць усё больш выразна і неяк па-асабліваму шчыра, прыўзнята ў зборніку «Незабыўнае рэха» (заўважым, што і назва кніжцы дадзена па назве найбольш лірычнага апавядання зборніка).

Для псіхалагізму Кулакоўскага становіцца ўсё больш характэрна не толькі ўменне «злавіць» пэўны ўнутраны стан чалавека, яго настрой, а і здольнасць ускрываць самую аснову чалавечай псіхалогіі. Пры гэтым пісьменнік увесь час тонка падкрэслівае, што ў чалавеку засталося з мінулага і адмірае, і што ў ім нараджаецца. Такая пазіцыя дае магчымасць бачыць перспектыву духоўнага развіцця чалавека.

Гэта асабліва добра відаць на псіхалагічным партрэце Данілы Бірука, аднаго з галоўных герояў аповесці «Нявестка».

Старога Данілу гняце адзінота, давіць жыццё. Жонка даўно памерла, адзіны сын у арміі, няма з кім перакінуцца словам, няма ад каго чакаць дапамогі.



Даніла хацеў бы, каб у хаце было цёпла, пахла смачнай стравай і каб да яго звярталіся з ласкавым словам. Усё гэта ёсць у Крыніцкіх, бацькоў Ларысы, і Даніла лічыць іх шчаслівымі. Сяму-таму яго жаданні здадуцца вельмі ж ужо элементарнымі, бяскрылымі. Яны такімі і з'яўляюцца, калі разглядаць іх абстрактна. Але ў іх для Данілы змешчана вельмі многае.

Пісьменнік спыняе ўвагу не толькі на тым, чым жыццё абдзяліла Данілу. Ён бачыць і паказвае таксама і тое, што жыццё дало старому. Даніла не носіцца са сваімі няшчасцямі, як з хвораю рукою, нікога не дакарае імі, хоць мог бы зрабіць гэта і па праву старасці, і па праву бацькі салдата. І ў гэтым — моц духу Данілы, тое, што выяўляе народныя вытокі яго свядомасці і псіхалогіі.

Падкрэсліваючы гэта, пісьменнік далёкі ад просталінейнага раскрыцця духоўнага аблічча Данілы. У думках і пачуццях Бірука вычварна пераплялося тое, што цягнецца за селянінам з глыбіні стагоддзяў, з тым, што трывала заняло сваё месца ў савецкі час.

З аднаго боку, Данілу хвалюе і абурае тое, што справы ў брыгадзе ідуць дрэнна, што брыгадзір не дбае аб інтарэсах калгаснікаў і думае толькі пра сябе, з другога боку, ён аб'ектыўна патурае гэтаму самаму брыгадзіру, ідзе на кампраміс са сваім сумленнем, унутрана пагаджаецца з тым, каб пазычыць у Шандыбовічыхі паўлітра самагонкі і ўлагодзіць Шандыбовіча, бо без гэтага ў яго не дапросішся каня, каб прывезці які воз дроў. З аднаго боку, Даніла на ўласным вопыце пераканаўся, што галоўнае для сямейнага жыцця — узаемнае каханне і павага; з другога боку, ён быў бы не супраць, каб Віктар ажаніўся з рыжаваценькай Волькай Шандыбовічаў, а не з прыгожай, дасціпнай, ласкавай і працавітай Ларысай Крыніцкіх.

І «калі Даніла ўпэўніўся, што сын збіраецца ажаніцца з Ларысаю, дзён два хадзіў, насунуўшы на бровы старую аўчынную вушанку. Шкада было ўсё-ж такі Шандыбовічавага пасагу».

Чужародным напластаваннем на псіхіцы Данілы з'яўляецца ўяўленне яго аб меры чалавечай вартасці. Вышэй ці ніжэй трымаць галаву перад чалавекам у залежнасці ад таго, што ён з'еў і ў што апрануты,— гэтай кулацка-мяшчанскай ацэнцы людзей аддае даніну і Даніла Бірук. Праўда, пры гэтым трэба мець на ўвазе, што Даніла, як гэта часта бывае ў людзей, вельмі высока цэніць тое, чаго не хапае яму самому.

Здавалася б, ніштo не можа засмуціць радасць сустрэчы Данілы з сынам. Але варта толькі ўслухацца ў пачуцці Данілы, каб пераканацца, што гэта не так. Заўважыўшы, што ў Крыніцкіх беляць хату, хоць да вялікадня і Першага мая было яшчэ далёка (само меркаванне аб прычынах святочнай падрыхтоўкі таксама вельмі паказальнае ў сэнсе складанасці і супярэчлівасці, якая жыве ў Данілавай душы), стары здагадаўся, што прыязджае з арміі Павел. «І неяк непрыемна стала Данілу ад гэтай думкі. Крыніцкія заўсёды лепш жылі, чым ён, ім шанцавала ў сям'і, у гаспадарцы. Таму Бірук у душы ледзь не ўсё жыццё зайздросціў ім. Цяпер уяўлялася, што калі Павел і Віктар прыйдуць дадому адначасова, то радасці для Данілы будзе менш. Павел, напэўна, будзе і лепш адзеты, і, можа, камандзір ён большы, і падарункаў бацькам больш навязе. Побач з ім Віктар будзе выглядаць горш. А ці ж горшы Данілаў Віця за каго б там сабе ні было?»

На радасць Данілу, страхі яго былі дарэмныя. І выглядаў Віктар лепш, чым Павел, і падарункаў прывёз больш, а ў чыне хлопцы былі роўныя — абодва звольніліся старшымі сяржантамі. З прыходам сына, з назначэннем яго брыгадзірам завітала ў хату Данілы шчасце, аб якім ён марыў. З плеч зваліліся клопаты пра дровы, пра хлеб і пра іншыя жыццёвыя патрэбы. Спраўдзіліся і самыя смелыя славалюбівыя спадзяванні старога: сын стаў першым чалавекам у вёсцы.

Але калі б пісьменнік паставіў на гэтым кропку, ён сказаў бы толькі палавіну праўды, ды і то не большую. У душы Данілы Бірука пусціла глыбокія карэнні ўсё тое, што зараніла ў яе савецкая рэчаіснасць. Бірук адчуў, што і забяспечаная старасць, і гонар за надзеленага ўладай сына

страцілі для яго сэнс, калі сын пайшоў па крывой сцежцы. Бірук не хоча шчасця, купленага цаной страты сумлення перад народам.

Віктар, выкарыстаўшы дадзеную яму ўладу супраць людзей, накіраваў яе і супраць бацькі, які душой не прымаў брыгадзіравага самаўладства. З вышыні гэтай улады Віктар абразіў у асобе Данілы бацьку і чалавека.

«Галоўнае для шчасця чалавека, — бясхітраснай душой зразумеў Даніла, — быць чыстым перад людзьмі».

З вобразам Данілы звязаны народны пункт гледжання на правільнае і няправільнае жыццё, на правільныя і няправільныя адносіны да чалавека. Не прымаючы ў сыне таго, што не служыць чалавеку, Даніла выносіць свой прысуд усяму антыдэмакратычнаму, антыгуманістычнаму, што яшчэ сустракаецца ў адносінах паміж людзьмі.

Псіхалагічны аналіз у Кулакоўскага з'яўляецца адным з важнейшых сродкаў індывідуалізацыі персанажаў. У свядомасці і псіхалогіі чалавека, у складзе яго думак і пачуццяў бачыць пісьменнік аснову самабытнасці героя, яго непаўторнасці.

У лепшых творах пісьменніка псіхалагізм афарбоўвае і іншыя сродкі індывідуалізацыі, у прыватнасці, партрэтныя характарыстыкі. Паказальныя ў гэтых адносінах партрэты ў «Нявестцы».

У аповесці, як і ў творах, напісаных да яе, пісьменнік не дае разгорнутых партрэтных характарыстык. Але калі раней дэталі знешнасці чалавека выступалі пераважна ў сваёй ацэначнай функцыі як сродак выражэння аўтарскіх аносін да героя або падкрэслівалі чыста вонкавыя адрозненні паміж персанажамі і выступалі сродкам знешняй індывідуалізацыі, а апісанні вопраткі ў першую чаргу выяўлялі сацыяльную прыналежнасць чалавека і яго ўзрост, дык цяпер партрэт падаецца ў значна большай ступені абумоўлены ўнутраным станам чалавека.

Не так сабе, напрыклад, пісьменнік звяртае нашу ўвагу на новыя боты і ватоўку, прывезеныя Віктарам з арміі ў падарунак бацьку. «У той дзень, калі Віктар прыняў брыгаду, Даніла надзеў падараваныя сынам кірзавыя боты, ватоўку і, не спяшаючыся, прайшоўся па вуліцы. Было якраз самае разводдзе, гразь усюды па калена. На гэтыя дні яго старыя дэмісезонныя бахілы якраз былі б дарэчы, але Бірук не пашкадаваў і ботаў. Няхай хоць раз убачаць людзі, што і ён можа быць шчаслівым, няхай хто і пазайздросціць, калі вельмі ўжо зайздросны».

Найбольшай дакладнасці ў перадачы думак і пачуццяў пісьменнік дасягае праз паказ іх знешняга праяўлення. У свой час крытыкі, гаворачы аб рамане «Расстаемся ненадоўга», рэзка разышліся ў ацэнцы таго, наколькі ўдаліся аўтару старонкі аб каханні. Адны гаварылі, што напісаны яны асабліва шчыра, паэтычна, другія сцвярджалі што — нецікава, суха. А між тым, такая катэгарычнасць наўрад ці была да месца. Калі меціць на ўвазе дыялагі закаханых, дык яны сапраўды не вельмі даюцца пісьменніку. Затое ж, калі чытаеш, што Веры ў гардэробе кінуліся ў вочы Андрэевы плашч і кепка і падумалася, што ён яшчэ ў бібліятэцы, разумееш і тое, аб чым сама дзяўчына толькі-толькі пачынае здагадвацца.

Калі браць псіхалагічны аналіз у творах А. Кулакоўскага на фоне сучаснай беларускай прозы, дык адным сваім бокам ён змыкаецца з псіхалагізмам Янкі Брыля. Месцам дотыку гэтых вельмі розных па прыродзе таленту мастакоў з'яўляецца эмацыянальная афарбоўка іх псіхалагізму. У той жа час трэба заўважыць, што ў псіхалагічным аналізе Брыль больш эмацыянальны, чым Кулакоўскі.

Перабіраючы ў памяці даўно чытаныя творы Брыля і Кулакоўскага, у першую чаргу ажыўляюцца выкліканыя імі ў свой час пачуцці. Што ж датычыць твораў Шамякіна, у псіхалагічным аналізе якога лагічнае пераважае над эмацыянальным, дык спачатку ў памяці ажываюць падзеі, сітуацыі, імёны.

Наогул, псіхалагізм — не самы моцны бок таленту Івана Шамякіна. Драматычныя не толькі ў сваёй аснове, але і ў вонкавым праяўленні сітуацыі і абставіны, у якія Шамякін ставіць сваіх герояў, прадвызначаюць выяўленне іх характараў. Чалавек у творах Шамякіна ставіцца тварам да твару з самымі актуальнымі пытаннямі часу. Калі дадаць да гэтага ўласцівыя творам Шамякіна вастрыню сюжэта, напружанасць і дынамічнасць дзеяння, дык атрымаем больш-менш поўнае ўяўленне аб сферы, у якой талент Шамякіна адчувае сябе лёгка і вольна.



Пачуццё, настрой, перажыванне, думку Брыль як бы выпраменьвае, Кулакоўскі — выяўляе, паказвае, Шамякін — называе.

Зразумець своеасаблівасць псіхалагізму Брыля нельга, не прымаючы пад увагу агульнай канцэпцыі яго творчасці, своеасаблівасці яго станоўчага героя. Вышыня, з якой Янка Брыль глядзіць на свет, усё ўзрастае. Брыль, як ніхто з беларускіх празаікаў, адкрыта выказвае свае сімпатыі і антыпатыі. Яго сацыяльныя і маральныя крытэрыі ацэнкі людзей вельмі значныя, глыбока народныя і партыйныя, выверАныя высокім ідэалам новага грамадства. Пісьменнік схіляе галаву перад сялянкай-маці, якая, нават ідучы на смерць, думае не пра сябе, а пра сваіх сыноў-воінаў, і з нянавісцю глядзіць на высокага чыноўніка Фамута, які «бадай што і самога феадалізму чарпануў».

Блізкі сэрцу Брыля герой абавязкова — паэт у душы. Ён шчыра захапляецца ўсім прыгожым у жыцці, і адсюль у яго нянавісць да ўсяго агіднага.

Для пошукаў і здзяйсненняў Брыля ў галіне псіхалагічнага аналізу характэрна тое, што, імкнучыся выявіць сутнасць чалавека, разведаць прыгожае ў ім, пісьменнік ідзе не толькі ад таго, які чалавек ёсць, але ў значнай меры і ад таго, які ён мог бы і павінен быць.

Яго «Галя» — гэта ж не толькі трагедыя абкрадзенай жыццём і самой сабой жанчыны, гэта і страсная думка аб тым, што ўсё магло быць інакш, і ўслаўленне сапраўднага жыцця, сапраўднага шчасця, якім яно ўяўляецца чалавеку.

Як майстар псіхалагічнага аналізу, Брыль знайшоў сябе ва ўнутраным маналогу-споведзі. Без маналогаў Васіля Сурмака многае з жыцця Забалоцця і характару самога героя засталося б невыразным, а без пранікнёных маналогаў-споведзей той жа Галі апавядання наогул не існавала б.

Янка Брыль умее паказаць свядомасць і псіхалогію чалавека нібы ў разрэзе, так, каб агаліліся розныя пласты і было відаць, што ў чалавеку ад яго натуры, ад яго суб'ектыўных якасцей, і што наноснае, выкліканае пэўнымі абставінамі.

Характэрным у гэтых адносінах з'яўляецца апавяданне «Прывал». Яно належыць да тых твораў, у якіх даецца рэзкая крытыка культу асобы і яго вынікаў. Як і належыць пісьменніку, Брыль гаворыць аб шкодзе культу не столькі ў эканамічнай, грамадска-палітычнай і дзяржаўнай галінах, колькі аб адмоўным уздзеянні яго на свядомасць і псіхалогію паасобных людзей.

Сцяпан Сцяпанавіч, начальнік аўтакалоны — па прыродзе сваёй добры і разумны чалавек. Ён ведае, чаго варты кожны з шафёраў яго калоны, без дай прычыны не накінецца на падначаленага, не ўскладзе сваю работу на іншага. Але ён ужо «прычэсвае» сябе пад некага з вышэйстаячых. Пра тое, што піва, на яго погляд, лепш за журавінавы напітак, ён гаворыць «з усмешкай і смакаваннем у голасе, а ўсё ж такі важна». Чакаючы адстаўшых шафёраў, ён «глядзеў уздоўж шашы, пад сонца, як палкаводзец...», перабіраючыся бліжэй да хлопцаў, «салідна гоцнуў цераз канаву».

На прывале Васіль Недасек падштурхоўвае Саньку Будая, каб той расказаў пра свайго былога начальніка — Фамута. Сцяпанавіч дазволіў (заўважце — дазволіў!). «Сядзіць ён за сталом, — расказвае Санька, — ніколі нават не міргне, як нейкі бог...». «Спачатку я, як і належыцца, уранні яму — добры дзень, на развітанні — бывайце здаровы. І што ж, — галавы нават не паверне ў твой бок, а недзе зверху, высока прамармыча нешта ў адказ, або, вылазячы з машыны, нібы задам адкажа».

Расказваючы пра Фамута, хлопцы нібы разглядаюць праз лупу і свайго начальніка.

Зачапілі Сцяпанавіча за жывое, кінуўся ён ратаваць Фамута, абараняючы тым самым сябе: «А што, калі чалавек не гаваркі? Не ўсім жа балбатаць». І калі Недасек амаль што параўнаў яго з Фамутом, Сцяпанавіч «выплюнуў з зубоў сцяблінку» і ўжо гатоў быў сказаць Недасеку крутое слова. Але Санька ў час адвёў «начальніцкі» гнеў: «Пакінь, Васіль, такіх начальнікаў, як наш Сцяпанавіч...»

Апавяданне памечана 1955 годам, калі востра паўстала пытанне аб узаемаадносінах кіраўніка і народа. Пісьменнік у самім жыцці ўбачыў тыя сілы, якія процістаяць культу асобы. Фамут не вытрымлівае прымеркі пад народную этыку, у непрыглядным святле на пэўны момант паўстае і Сцяпанавіч. Але адчуваецца, што ён адкіне прэч усё наноснае, і сведчаннем таму — добры настрой і неблагія думкі аб ім, з якімі шафёры рушылі ў дарогу.

Калі гаварыць пра пашырэнне сферы псіхалагічнага аналізу ў сучаснай прозе, дык у першую чаргу прыходзяць на памяць раманы «Бітва ў дарозе» Г. Нікалаевай і «Пасля вяселля» Д. Граніна. Аўтары гэтых раманаў раскрываюць унутраны свет чалавека з пункту гледжання яго здольнасці зламаць звычны ўклад жыцця, адчуць поступ гісторыі, падпарадкаваць сваю дзейнасць патрабаванням часу.

Героі Г. Нікалаевай і Д. Граніна не таўкуцца на вузкай пляцоўцы «вытворчага» або «калгаснага» рамана, іх сувязі з жыццём мнагастайныя і складаныя, у полі зроку аўтараў — перапляценне, узаемазалежнасць лёсу людзей горада і вёскі. Унутраны свет галоўнага героя рамана «Пасля вяселля» Ігара Малюціна, яго маральнае станаўленне, напрыклад, нават уявіць сабе нельга без сутыкнення з праблемамі вясковага жыцця.

Думаецца, што сціранне водападзелу паміж «гарадской» і «вясковай» літаратурай, добры пачатак якому пакладзен названымі раманамі, у далейшым узмоцніцца ў нашай літаратуры і дасць свой плён як у сэнсе стварэння больш цэласнай карціны жыцця, так і ў сэнсе пашырэння магчымасцей паказу духоўнай дзейнасці чалавека, яго сувязей з навакольным светам.

* * *

Каго з тых, хто цікавіцца мастацкай літаратурай, глыбока не ўразіла таленавітая аповесць маладога пісьменніка Георгія Владзімава «Вялікая руда», надрукаваная ў сёмай кніжцы «Нового мира» за мінулы год? Надзвычай моцнае ўражанне аповесць выклікае ў першую чаргу таму, што ў ёй зроблена сапраўды мастацкае даследаванне ўнутранага жыцця чалавека, пастаўленага тварам да самых вострых супярэчнасцей самога жыцця.

Галоўны герой аповесці шафёр Віктар Пранякін — наш сучаснік, адзін з тых, чыімі рукамі стварающца новабудоўлі сямігодкі. Пісьменнік нідзе не атэстуе свайго героя, а паказвае яго ва ўсёй складанасці і супярэчлівасці характару, пакідаючы за чытачом права самому аднесці яго да станоўчых ці адмоўных герояў.

А наогул, станоўчы ці адмоўны — не тая мерка, якой патрабуе герой Владзімава. Галоўнае ў тым, што ён узяты з гушчыні жыцця і лёс яго паказаны пісьменнікам з пазіцый высокай чалавечнасці, веры ў чалавека.

Прыехаўшы на Лозненскі руднік, дзе неўзабаве павінна была пайсці вялікая курская руда, і добра агледзеўшыся, Пранякін цвёрда вырашае «акапацца» тут, трывала зачапіцца за жыццё.

Быў ён да гэтага «летуном», піў, апускаўся ўжо аднойчы да апошняй ступені. Цяпер ён наважыў пакончыць з тым, што перашкаджала яму адчуць сябе чалавекам. І зрабіць гэта Пранякіну, чалавеку моцнай волі, было пад сілу.

Але было ў ім яшчэ нешта такое, што ставіла яго ўпоперак дарогі. Любіў чалавек капейку, у думках не грэбаваў і нячыстым рублём. «Эх, сюда бы женульку определить, уж у нее потекла бы копеечка», — думае ён, гледзячы, як акуратна налівае сіроп прадаўшчыца газіраванай вады.



На гэтым і «раскусілі» яго таварышы па брыгадзе. «Про других говорят: «Этот работяга что надо!», а про тебя: «Этот из кожи лезет за деньгой», хотя и ты и другие делают, в сущности, одно и то же! На лице, что ли, у тебя это написано?» — злуе на сябе Пранякін.

Выкрыць Пранякіна да канца або паказаць, як брыгада перавыхоўвае яго — гэтага схематычнага вырашэння праблемы Владзімаў пазбягае, бо асудзіць чалавека або зрабіць яго другім за кароткі час, на думку пісьменніка, жыццё не дае падстаў. Затое само жыццё паказвае, за што ў чалавеку трэба ўчапіцца, каб памагчы яму стаць сёння вышэй, чым ён стаяў учора.

У натуры Віктара Пранякіна — нямала прывабнага. У хлопца залатыя рукі, і пакуль ён дабіраўся да рудніка, знудзіўся па працы. Яму прапанавалі ўшчэнт растрэсены «МАЗ». Многія да Пранякіна аглядалі гэтую машыну, але ніхто не ўзяўся вярнуць ёй жыццё. «Мама родная! — сказал он почти весело», пераканаўшыся, што «МАЗ» яшчэ больш безнадзейны, чым здавалася. «Эта состарившаяся телега начинала ему нравиться». На адрамантаваным «МАЗе» Пранякін не адстае ад магутных «ЯАЗаў». Каб выканаць норму, Віктару трэба было рабіць ездак удвая больш, чым астатнім, бо яго машына брала толькі адзін коўш, а «ЯАЗы» — два. Пранякін даражыць кожнай мінутай, кожнай секундай. І цяжка сказаць, што больш падганяе яго — жаданне шмат зарабіць ці пачуццё немагчымасці працаваць абы-як. Мусіць, хутчэй, апошняе. Бо чым жа ў такім выпадку вытлумачыць тое, што ўбачыў пісьменнік у Пранякіну, заглянуўшы ў самыя глыбіні яго псіхікі?

А ўбачыў пісьменнік вось што.

У адным пакоі з Пранякіным жылі чатыры камандзіраваныя з Курска электрамантажнікі. «Пронякин их невзлюбил с первого дня, сам не зная почему, и за все время ухитрился не обмолвиться с ними ни словом. Каждый вечер они аккуратно подсчитывали свои доходы и убытки и считали на пальцах дни, оставшиеся им до той желанной поры, когда они снова вернутся к своим мотоциклам, и девочкам, и джазикам, и каруселям в шикарном парке «Боевая дача». Может быть, он невзлюбил их за то, что не видел разницы между ними и собой».

Падлічваць «доходы и убытки» — гэта не тое, што здольна ўзвысіць іншых і самога Пранякіна ў яго ўласных вачах, не тое, што здольна запоўніць яго жыццё. Падлічваць Пранякін вымушаны, бо ён хоча мець дах пад галавой і дастатак у хаце. Хоча не больш, чым ёсць, напрыклад, хоць бы ў брыгадзіра Мацуева. Калі ж у думках іншы раз з'яўляўся і ўласны аўтамабіль, Пранякін абрываў сябе: «Но это, впрочем, уже идиллия. — Этим словом он называл всё несбыточное».

Дзе тая мяжа, за якой імкненне чалавека палепшыць дабрабыт становіцца з'явай антыграмадскай? Дзе тая мяжа, за якой чалавек, імкнучыся задаволіць свае матэрыяльныя патрэбы, абкрадвае сябе духоўна, становіцца рабом рэчаў?

Матэрыяльная зацікаўленасць чалавека ў выніках сваёй працы... Наколькі значным стымулам працоўнай дзейнасці яна з'яўляецца? Што ў нашым сучасніку ўжо сёння выяўляе чалавека будучага? Гэтыя пытанні і думкі будзіць аповесць Георгія Владзімава.

Лепшай часткай сваёй душы Пранякін — у будучым. Ёсць у ім творчы, з рызыкай, падыход да працы і глыбокае адчуванне яе паэзіі — тое, што нашчадкі возьмуць сабе ў спадчыну ад людзей нашага часу.

Вось Пранякін убачыў кавалак руды. То была славутая сінька, самая багатая ў свеце руда. Узрыўнікі запэўнілі яго, што гэта яшчэ не вялікая руда, а так, толькі глыба. Пранякін не верыў, ён набіў кавалкамі кішэню і паехаў у кантору. Там паглядзелі на іх і паказалі яму такія ж кавалкі. Шэсць чалавек да Пранякіна ўжо прыбягалі сюды з радаснай навіной. і кожны з іх у свой час перажыў расчараванне.

Пранякін «чувствовал себя так, точно его уличили во лжи». Не звяртаючы ўвагі на ўгаворы начальніка кар'ера і на небяспеку, ён зноў спусціўся са сваёй машынай уніз, дзе на месцы нядаўняга выбуху працаваў

экскаватар. Экскаватаршчык Антон закрычаў яму насустрач: «Витька, кажись, и в самом деле большая пошла, я вот ее разгребаю, дуру, разгребаю, а она не кончается!..

— Она не кончится, Антоша! — заорал Пронякин. Чувствуя неожиданный и сильный прилив нежности и к Антону, и к стреле с умной и хитрой мордой ковша, и к руде, которая не кончается, он объехал всю выемку, полную синих осколков, и опять подкатил к экскаватору. — Она теперь, видишь ли, до самого центра земли. Тут тебе на тысячу лет разгребать, Антон!..

— Чего ты разошелся? — спросил Антон. — И куда ты, балда, подкатываешь? Я же тебя угробить могу в два счета.

— Можешь, Антоша! — обрадовался Пронякин. — Всё можешь».

У Пранякіне нібы сабраліся пачуцці ўсіх людзей, якія даўно чакалі яе, вялікую руду. Уласнік не здольны на такое...

Цяжка паўзла ўгору машына, даверху нагружаная сапраўднай «вялікай» рудой. Пранякіна «охватило вдруг странное ощущение нереальности всего, что он делает, как будто это было с ним не теперь, а когда-то давным-давно, может быть в детстве, когда он бежал с какой-нибудь радостью к матери и знал наверняка, что она обрадуется, потому что лучше всех это умела делать она одна, о которой он уже почти ничего не помнил». Як дарэчы гэтае месца: чалавек жа вязе людзям радасць! Прыватнік, урвіцель зноў жа на такое не здольны.

Пры выездзе з кар'ера Пранякін крута павярнуў руль, і цяжкую машыну занесла, пацягнула ўніз...

Аперацыя не выратавала Пранякіна. «Дыхание опять вернулось и, должно быть, вернулся голос, но он не стал звать сестру. Боль начала утихать, и он понял вдруг, почему молоденькая сестра боится остаться здесь одна этой ночью. Он был уже слишком обессилен, чтобы эта мысль могла его потрясти или напугать. Кто-то из них встал и вдруг оказался очень близко, и он нарочно старался дышать громче и ровнее; ведь они, наверное, хотели слышать его дыхание». Нават у такім стане і ў такі час ён не мог хоць чым-небудзь не адазвацца на добрыя пачуцці людзей.

Тое, што было ў Пранякіне ад старога свету, адступіла на другі план. Усе раптам адчулі, што гэты хлопец з ліхвой меў тое, чаго ім самім бракавала. Гэта адчуў і начальнік кар'ера Хамякоў, які горача маліў доктара выратаваць Пранякіна («он верил больше всех... и даже меня, которому по должности...»), і раздражнены доктар, які злаваў ад таго, што ведаў сваю справу горш, чым Пранякін сваю, і Мацуеў з шафёрамі...

Аб тым, што пайшла вялікая руда, паведамілі ў газеце. «На первой полосе был помещен большой снимок бригады. Они улыбались. И Пронякин улыбался тоже. Но он улыбался другой улыбкой и был неловко подвёрстан к плечу Мацуева, потому что клише пришлось изготовить со старой фотографии Пронякина, которую Антон разыскал в его тумбочке. На этой фотографии он был в новой шляпе, которую, конечно, отрезали, а вместо нее подретушировали прическу, отчего он и вышел на снимке жгучим брюнетом. Этот номер хранится у многих в Рудногорске, и очень юный брюнет в модном галстуке, с папироской в углу рта странно выделяется среди комбинезонов и ватников.» Бачыць у Пранякіне ў першую чаргу тое, што робіць яго ніжэй ростам, сцвярджае пісьменнік, было б такой самай недарэчнасцю, як і гэты здымак.

Псіхалагічная глыбіня і пераканаўчасць характараў у творчасці пісьменнікаў, аб якіх ішла гаворка вышэй, — вынік іх намаганняў паказаць чалавека ў адзінстве яго грамадскай, працоўнай практыкі і духоўнай дзейнасці, у адзінстве яго здзяйсненняў і рэальных патрэб.

* * *

Па-ранейшаму акцэнтуючы ўвагу на тым, чаго патрабуе жыццё ад чалавека, наша літаратура ўсё больш удзяляе ўвагі таму, чаго патрабуе чалавек ад жыцця. Больш высокія патрабаванні да жыцця ва ўсіх яго сферах — адна з характэрных рыс унутранага аблічча героя нашага часу, непарыўна звязаная з павышэннем яго чалавечай годнасці. Калі справядліва, што чалавек выпрабоўваецца жыццём, дык не менш справядліва і тое, што жыццё правяраецца чалавекам.



Раскрыццё абумоўленасці духоўнага свету героя грамадска-палітычным жыццём краіны, атмасферай часу — моцная якасць псіхалагізму Івана Навуменкі. Навуменка — пісьменнік таго пакалення, якое перад вайной толькі-толькі выходзіла на самастойную дарогу.

Вельмі непасрэдна ўспрымаючы жыццё, Навуменка, здаецца, без усякага напружвання пачуцця і думкі выкладвае на паперу ўспаміны з часоў свайго юнацтва. Але, паўтараем, так толькі здаецца на першы погляд. За сакавітымі падрабязнасцямі, за свежасцю ўспрыняцця жыцця ў творах Навуменкі паўстае вынашаная, звераная з ходам гісторыі думка аб лёсе хлопцаў-равеснікаў, складаны свет іх думак і пачуццяў.

Неад'емнай рысай героя Навуменкі з'яўляецца яго маральная чысціня, унутраная далікатнасць. Гэтыя якасці — не проста перавага ўзросту героя; ён бярэ іх з сабой у вялікую дарогу.

Зусім яшчэ маладзенькі настаўнік Платон («Раман з эпілогам») паюначаму шчыра і светла кахаў студэнтку педтэхнікума Алесю.

Феня, распусная дачка гаспадароў, у якіх кватараваў Платон, падала на хлопца ў суд, падставіла сведкаў, і настаўнік быў прызнаны бацькам Сашкі, Фенінага сына. Алеся адвярнулася ад Платона. У армію Платон пайшоў аліментшчыкам.

Феню не падзялілі двое немцаў, і Сашка застаўся з дзедам. І хоць на даўняй судовай справе быў пастаўлены крыж, Платон час ад часу памагаў малому. Калі Сашка скончыў школу, Платон зноў паслаў яму грошы (спатрэбяцца на дарогу) і атрымаў у адказ ліст, у якім былі гнеў і абурэнне.

Платон прыязджае ў вёску, дзе жыў Сашка, і сустракаецца з Алесяй. Яна ўжо даўно замужам, працуе завучам. Ёй шкада мінулага, яна раздражнёна гаворыць, што Платон тады быў мяшком, ідэалістам, і таму яго абкруцілі. Алеся абураецца, што Платон горнецца да Сашкі: гэта антыпедагагічна, ды і людзі гавораць, што ў настаўніку прачнулася сумленне, загаварыла кроў.

У нечым Платон унутрана не згадзіўся з Алесяй. І невыпадкова, што іменна цяпер ён «перабраў у памяці і ацаніў кожнае сказанае ёю слова» і «ў гэтым прыдзірлівым аналізе скончылася казка пра Алесю, складзеная юнацтвам...»

Чаго не магла ўцяміць Алеся, тое зразумеў Сашка. Хоць у першую сустрэчу размова ў іх не атрымалася, назаўтра, пасля пахавання Максіма Пацалуйкі, Алесінага бацькі, Сашка дагнаў Платона, які ішоў на раз'езд. «Ён быў узбуджан, хваляваўся, і я бачыў па яго твары, што яму хочацца сказаць нешта надзвычай важнае. Я ўзяў яго пад руку.

— Харошы чалавек быў Максім,— сказаў я.

— Харошы,— адказаў хлапец ледзь чутна, аднымі губамі, і паглядзеў мне ў вочы...»

Сашка думаў пра добрых людзей.

Пісьменнік не аддзяляе духоўнае станаўленне героя ад яго палітычнага, грамадскага росту. «Калі разбірацца глыбей,— гаворыць І. Навуменка пра аблічча свайго пакалення,— то мы былі дзеці свайго часу і ў нашых марах было шмат ад яго героікі: перад вачамі стаялі подзвігі папанінцаў, абаронцаў граніцы ля возера Хасан і ракі Халхін-Гол, праслаўленых лётчыкаў».

Навуменка, як рэдка хто з пісьменнікаў, настойліва падкрэслівае, якую вялікую ролю ў фарміраванні свядомасці і псіхалогіі яго пакалення адыгралі настаўнікі, кнігі, школа.

Бескарыслівая любоў да Радзімы, непахісная вера ў яе сусветна-гістарычную місію, гатоўнасць да рашучых дзеянняў у імя яе бяспекі і славы — з такім багажом пераступалі парог самастойнага жыцця равеснікі пісьменніка. Вось як яны сустрэлі вайну.

«Вайна,— сказаў мне Пятрусь.— Цяпер фашызм будзе знішчаны. Пайшлі ў райком...»

Не ўсё, з чым уваходзіў у жыццё яго герой, выклікае адабрэнне і захапленне пісьменніка. З крыху сумным гумарам чалавека, які нямала пажыў і шмат чаго бачыў і якому з вышыні сённяшняга дня многае відаць ясней, гаворыць ён аб тым, што яго герой мысліў крыху дагматычна, «залішне катэгарычна, не прымаючы пад увагу вельмі многіх рэчаў, з якіх складаецца жыццё».

Таму ж самаму Петрусю ў знішчальным батальёне выдалі вучэбную вінтоўку з адрэзаным ударнікам. «Маючы такую вінтоўку, можна было колькі хочаш цэліцца, ляскаць затворам, але толькі не страляць».

Таленту І. Навуменкі ўжо цесна на пляцоўцы мінулага яго равеснікаў. Чуйны да таго, як адгукваецца час у душы чалавека, гэты талент дае падставу чакаць ад пісьменніка ўсебаковага раскрыцця духоўнага багацця чалавека сённяшняга дня.

Пакаленне, свядомае жыццё якога пачалося пасля вайны, заяўляе аб сабе галасамі Вечаслава Адамчыка, Барыса Сачанкі і іншых пісьменнікаў. В. Адамчыка вабіць працэс узбагачэння чалавека новымі духоўнымі якасцямі ў звычайнай плыні жыцця. Характэрным у гэтых адносінах з'яўляецца апавяданне «Зоня». Парабак Уладак і дачка кулака Сіўтука Зоня шчыра пакахалі адно аднаго, ды Сіўтук прыгледзеў сабе другога зяця — нягеглага, затое багатага Васіля. Па-юнацку непасрэдны, бескампрамісны, Уладак прапануе Зоні разам уцячы з вёскі. Зоня баіцца бацькавага гневу, невядомай будучыні.

Уладак пакідае вёску. Ён яшчэ спадзяецца на нейкі шчаслівы паварот лёсу, але праз некаторы час сустракае Зоню. Яна выйшла замуж за Васіля. «Не чапай мяне! Я хаджу дзіцем...» — роспачна заплакала Зоня. Да свядомасці хлопца даходзіла «штосьці крыўднае, і раптам паднялося гарачае полымя нянавісці да Зоні, да Васіля». Пройдзе час, сцвярджае пісьменнік, пройдзе і нянавісць. Зоню можна будзе зразумець, а зразумеўшы, і дараваць ёй. У зборніку «Млечны шлях» апавяданне так і называецца — «Сэрца даруе потым».

Б. Сачанку цікавіць паказ крызісных момантаў ва ўнутраным жыцці чалавека і пералом у яго свядомасці. Псіхалагізм Б. Сачанкі асабліва ярка выступае ў апавяданнях «Сустрэча з чалавекам», «Нам трэба жыць»,

Ганна, гераіня апавядання «Нам трэба жыць», не дачакалася з вайны каханага. Прыгажосць яе паблякла, цікавасць да жыцця неяк звяла. Прыйдзе Ганна з работы, павячэрае, не запальваючы святла, і — спаць. У клуб, дзе спявае і танцуе моладзь, яе не цягне. «Яна адчувае сябе лішняй сярод моладзі, што вырасла ўжо ў пасляваенны час. У кожным твары Ганна бачыць насмешку, пагарду... А хіба ж яна горшая за ўсіх ці з твару, ці стану, ці паводзінамі? Хіба яна вінавата, што яе каханы Юзік не вярнуўся, як не вярнуліся многія мужчыны?

Маці ледзь не сілком прымушае яе «паднядзеліцца», пайсці ў клуб: там яе, мабыць, будзе чакаць іх сусед Мікалай, які вясной нечакана аўдавеў. У клубе Ганна адчувае сябе, як зацкаваны звярок. «А што, калі яны з мяне хочуць пасмяяцца?» — думае яна, гледзячы ў бок хлопцаў, якія аб нечым шапталіся. — «Тады сораму не абярэшся».

Ганна выбягае на вуліцу, спыняецца каля плоту. Да яе падыходзіць Мікалай. «Дык ты, Ганна, падумай... Хіба ж мы вінаваты, што тых, каго мы кахалі, няма больш... Жыць жа нам неяк трэба...».

Яна толькі цяпер пачынае разумець, што у Мікалая і ў яе ёсць шмат агульнага. І ёй робіцца шкада яго, шкада сябе. Але не толькі гэта ўзварухнула немаладую ўжо дзяўчыну. Ад сарамлівай пяшчоты Мікалая сэрца Ганны памаладзела. «Што ж яму скажу?» — думае яна, а сэрца падказвае: скажаш, нешта скажаш»...

Шкада толькі, што маладыя пісьменнікі Вечаслаў Адамчык і Барыс Сачанка некалькі звужаюць жыццёвую аснову ўнутранага свету сваіх герояў, абмяжоўваюць іх сувязь з вялікім жыццём, у выніку чаго героям нестае шматграннасці духоўных праяўленняў, а апавяданням — значнага зместу.



В. Адамчык і Б. Сачанка недастаткова глыбока цікавяцца тым, як сацыяльныя і палітычныя зрухі, што маюць месца ў самім жыцці, праламляюцца праз свядомасць і псіхалогію герояў. Іх пошукі ў гэтым напрамку пакуль што не прынеслі прыкметных вынікаў.

Б. Сачанка, напрыклад, у апавяданні «Злодзей» вельмі ж ужо прасталінейна спрабуе вытлумачыць залежнасць псіхалогіі чалавека ад эканамічных і сацыяльна-палітычных змен у жыцці.

Сэнс яго зводзіцца да таго, што іншым стала жыццё, іншым, значна лепшым, стаў і злодзей. І гэта не ўтрыраванне. Барадаты пасажыр, якому пісьменнік даў слова, расказаўшы пра адзін эпізод са свайго жыцця, гаворыць: «...інакшым жыццё наша стала, інакшы стаў і чалавек. І красці яму ўжо і патрэбы няма, ды і не з рукі — сумленне не дазваляе. І калі яшчэ дзе-нідзе здараюцца выпадкі, дык гэта, што людзі яшчэ розныя ёсць... Ды і той, хто ўкрадзе, не такі, якім злодзей быў некалі.

Ён і ходзіць, і робіць, але на душы ў яго неспакойна».

У творах буйной формы — рамане і аповесці — ігнараванне шматстайнасці сувязей чалавека з рэчаіснасцю яшчэ ў большай ступені шкодзіць паказу духоўнага росту чалавека. У прыватнасці, гэта заяўляе аб сабе ў аповесці Алеся Савіцкага «Кедры глядзяць на мора».

А. Савіцкі, бясспрэчна, таленавіты пісьменнік, і яго аповесць у цэлым заслугоўвае станоўчай ацэнкі. Аднак бясспрэчна і тое, што яго твору нестае псіхалагічнай глыбіні характару галоўнага героя.

Савіцкі добра перадае ўнутраны стан чалавека, яго настрой, нават змену настрояў. Прасачыць жа духоўны рост героя яму не ўдаецца. І гэта таму, што аснову росту героя пісьменнік шукае не зне героя, а ў ім самім, у яго псіхалогіі. Як бы адключаючы героя ад навакольнага жыцця, Савіцкі эксперыментуе над яго псіхалогіяй. Узлёт, падзенне, зноў узлёт, зноў падзенне...

Псіхалагічны аналіз не можа быць добрым або дрэнным сам па сабе. Яго вартасці і хібы могуць быць выяўлены толькі з улікам агульнай канцэпцыі твора, аўтарскай пазіцыі, партыйнага пункту гледжання на героя. У сувязі з гэтым небескарысна прыгледзецца да паказу ўнутранага жыцця герояў рамана Васіля Аксёнава «Звездный билет».

У рамане зроблена спроба пранікнуць у духоўны свет пакалення, якому сёння пад дваццаць. Пісьменнік спыніў увагу на далёка не лепшых прадстаўніках сённяшняй моладзі, хоць ён неаднаразова і падкрэслівае, што яго героі — гэта зусім-зусім сучасныя хлопчыкі і дзяўчынкі. Што ж, выбар героя — настолькі ж бясспрэчнае права пісьменніка, наколькі бясспрэчны яго абавязак даць гэтаму герою ацэнку з правільных пазіцый.

Было б няпраўдай, калі б мы сказалі, што ўсё, уласцівае героям рамана, выклікае ўнутраны пратэст. Аўтар хоча неяк падкрэсліць іх самастойнасць, сумленнасць і прынцыповасць. Разумееш Дзіму Дзянісава ў той момант, калі ён з нейкай ярасцю разбурае непатрэбную цагляную сцяну. Яму хацелася б разбурыць усе старыя сцены, перафарбаваць усё змрочнае і непрыгожае прывабнымі і вясёлымі фарбамі.

Толькі гэтае жаданне Дзімы мала стасуецца да яго аблічча, не вызначае яго жыццёвай лініі. Для духоўнага жыцця Дзімы і яго таварышаў характэрна невыразнасць ідэалаў, няўстойлівасць жаданняў.

Мы не робаты, заяўляюць яны, але за гэтым стаіць не прага творчасці, а падсвядомы пратэст супраць неабходнасці працаваць. Да ўсяго яны ставяцца падкрэслена іранічна, з уяўнай вышыні свайго нігілізму глядзяць і на брата Дзімы Віктара, які займаўся касмічнай медыцынай. Яны не маюць ні жадання, ні здольнасці зазірнуць у вялікі свет старэйшых.

«Тры таварышы» не толькі не ведаюць, якую сабе выбраць прафесію. Вельмі неакрэсленыя іх патрабаванні да жыцця і да людзей. Яшчэ ў меншай ступені яны задумваюцца над тым, што самі павінны даць жыццю і людзям.

Героі «Звездного билета» могуць і працаваць, але робяць гэта пад націскам абставін, не атрымліваючы ад працы задавальнення, гледзячы на яе, як на непазбежную даніну грамадству за цьмяныя для іх саміх перспектывы на будучае.

У Дзімы і яго сяброў многае — ад герояў Рэмарка. Першым, як і апошнім, у вялікім свеце жывецца холадна і няўтульна, жыццё калі і каштоўнае для іх, дык толькі само па сабе, а не ў яго высокіх імкненнях.

«Рэмаркізм» герояў Аксёнава карэніцца не ў навакольным жыцці, а мае літаратурнае паходжанне. Юнакі часта спасылаюцца на Рэмарка, прымерваюцца да яго герояў.

Пісьменнік не толькі нічога не супрацьпаставіў налёту «рэмаркізму» на свядомасць і псіхіку сваіх герояў, але і сам трапіў у механічную залежнасць ад творчых прынцыпаў Рэмарка. Аксёнаў паказвае сваіх герояў адасобленымі ад навакольнага жыцця, адгароджанымі ад свежага ветру часу. Яны снуюць сярод людзей, разлічваючы толькі на асабістую дружбу, на локаць таварыша. Услед за Рэмаркам, В. Аксёнаў бездапаможна азіраецца вакол і нікуды не кліча.

Хацеў гэтага Аксёнаў ці не хацеў, але яго героі атрымаліся людзьмі без спадчыны і без будучыні. У канцы рамана Дзіма нібыта прымае эстафету ад загінуўшага пры выкананні службовых абавязкаў брата, але ён не ведае, куды яе несці. Заключныя словы Дзімы прасякнуты разгубленасцю перад жыццём. «Я лежу на спине и смотрю на маленький кусочек неба, на который все время смотрел Виктор. И вдруг я замечаю, что эта продолговатая полоска неба похожа по своим пропорциям на железнодорожный билет, пробитый звездами. Интересно. Интересно, Виктор замечал это или нет?

Я смотрю туда, смотрю, и голова начинает кружиться, и всё-всё, всё, что было в жизни и что еще будет, — всё начинает кружиться и я уже не понимаю, я это лежу на подоконнике или не я. И кружатся, кружатся надо мной настоящие звезды, исполненные высочайшего смысла.

Так или иначе.

Это теперь мой звездный билет!

Знал Виктор про него или нет, но он оставил его мне. Билет, но куда?»

Пісьменнік не размяжоўвае таго, што арганічна ўласціва складу думак і пачуццяў герояў, абумоўлена самой рэчаіснасцю, і таго, што з'яўляецца напластаваннем на іх свядомасці і псіхіцы. Ніхто і нішто ў рамане не падкрэслівае, што Дзіма і яго сябры толькі топчуцца каля вялікай праўды жыцця, а іх сэрцы закрыты для яе. А без гэтага паказ іх унутранага свету не толькі не паўнацэнны, а і несумяшчальны з эстэтыкай сацыялістычнага рэалізму, як усялякае праяўленне аб'ектывізму.

* * *

Літаратура — бясконцыя пошукі. Адкрыцці ў ёй не паўтараюцца: пісьменнікі не ходзяць след у след. Поспех аднаго з іх не можа механічна абумовіць поспех другога. У кожнага пісьменніка свае «сакрэты» творчасці ў цэлым, псіхалагічнага аналізу — у прыватнасці.

Але несумненна і тое, што найбольшага поспеху ў паказе духоўнага жыцця чалавека дасягаюць тыя пісьменнікі, якія выводзяць дыялектыку душы з дыялектыкі самога жыцця, асэнсаванага з пазіцый вялікай праўды эпохі.






*Вецер весні з-пад неба шэрага*
*Лёд на хвалях сівых падкідвае.*
*Развітаецца лодка з берагам —*
*Ў далячынь паплыве блакітную.*

*Да 80-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа*

# ЯКУБ КОЛАС НА ВАЕННАЙ СЛУЖБЕ

У сваёй аўтабіяграфіі Якуб Колас пісаў, што ў гады першай сусветнай вайны ён эвакуіраваўся з сям'ёй у Маскоўскую губерню і працаваў там некаторы час настаўнікам Старыкаўскай школы Дзмітраўскага павету. Неўзабаве яго мабілізавалі ў армію і накіравалі служыць у 55-ы запасны пяхотны батальён. Пасля некаторай падрыхтоўкі ў падраздзяленні Канстанціна Міхайлавіча камандзіравалі вучыцца ў Аляксандраўскае ваеннае вучылішча. Пасля заканчэння вучылішча Канстанцін Міцкевіч у чыне прапаршчыка служыў у 162 запасным пяхотным палку. Тут ён уважліва прыглядаўся да жыцця, да людзей, і пазней гэтыя яго ўражанні і роздум леглі ў аснову паэмы «На шляхах волі». Гэты малавядомы чытачу твор, уключаны ў поўны збор твораў Якуба Коласа, які выдаецца цяпер.



Якуб Колас з жонкай Марыяй Дзмітраўнай і сынам Данілам. Перм, 1917 г.

У літаратурным музеі Якуба Коласа ёсць два здымкі: на адным з іх — Якуб Колас сфатаграфаваны з жонкай Марыяй Дзмітраўнай і сынам Данілам (Перм, 1917), а на другім — Якуб Колас пасля заканчэння Аляксандраўскага ваеннага вучылішча. Гэта амаль усё, што меў музей і што вядома было аб знаходжанні народнага паэта ў Расіі да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Таму супрацоўнікі музея Якуба Коласа вырашылі пашукаць дакументы таго часу, устанавіць даты і месцы прабывання беларускага песняра ў Пермі, папоўніць аддзел музея гэтага перыяду новымі дакументамі.

І вось мы ў Маскве. Спачатку пошукі не даюць добрых вынікаў. У некалькіх архівах паведамляюць, што звестак пра Канстанціна Міхайлавіча ў іх няма, і раяць звярнуцца ў Цэнтральны дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў. І тут нас напаткала ўдача! Нам адказваюць:

— Гэтыя дакументы павінны быць у нас. Прыязджайце, пашукаем.



6550

ПОСЛУЖНОЙ СПИСОКЪ

МИЦКЕВИЧА

Паслужны спіс Якуба Коласа.

У пошуках дакументаў нам памагаюць навуковыя супрацоўнікі бібліятэкі. З іх дапамогай мы прагледзелі ўсю дакументацыю пра вучобу паэта ў Аляксандраўскім ваенным вучылішчы і службу ў запасным палку і знайшлі паслужны спіс. Мы абрадаваліся, пошукі былі не дарэмныя.

Паслужны спіс падпаручыка армейскай пяхоты Міцкевіча Канстанціна, датаваны 1-м мая 1916 года, налічвае пяць старонак. На першай — прозвішча паэта, на другой — дата нараджэння. Тут жа запісана, што ён выхадзец з сялянскай сям'і, жыхар Мінскага павету і губерні, скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю і з вучылішча выпушчан на службу па 1-му разраду.

Пасля заканчэння Аляксандраўскага вучылішча Канстанцін Міхайлавіч быў залічаны ў спісы 162-га пяхотнага запаснага палка, у пераменны састаў малодшых афіцэраў 5-й роты. Загад па палку № 224 ад 18 мая 1916 года.

Далей запіс гаворыць аб тым, што Канстанцін Міхайлавіч у жніўні месяцы быў камандзіраваны ў распараджэнне начальніка пермскай каманды выздараўліваючых, вярнуўся ў полк у снежні і загадам ад 14 лютага 1917 года ўзведзены ў падпаручыкі. Праз некаторы час прызначаны камандзірам 13 роты. Роту здаў 15 ліпеня 1917 года і накіраваны на фронт з камандай № 6. Выключаны са спісаў палка 27 ліпеня 1917 года.

На іншых старонках расказваецца, што да паступлення ў ваеннае вучылішча Канстанцін Міхайлавіч праходзіў службу ў 55-м пяхотным запасным батальёне, куды прыбыў і залічаны 22 верасня 1915 года. З батальёна ў Аляксандраўскае вучылішча быў залічаны юнкерам радавога звання 4-га студзеня 1916 года, прысягу прыняў 16 студзеня гэтага ж года.

У адзінаццатай графе апошняй старонкі запісана, што Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч жанаты першым шлюбам на дачцы патомнага шаноўнага грамадзяніна, дзяўчыне Марыі Дзмітраўне Каменскай, мае сына Данілу. 18 красавіка 1917 года нарадзіўся другі сын Юрась. (Ён загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны пад Смаленскам. — **М. Ж.**).

Паслужны спіс экспануецца цяпер у музеі паэта ў Мінску. Ён уяўляе вялікую цікавасць для наведвальнікаў і для біёграфаў Якуба Коласа.

Зрабіўшы ўсё, што можна было ў архівах Масквы, мы едзем у Перм, каб пазнаёміцца з тымі мясцінамі, дзе некалі служыў Канстанцін Міхайлавіч.

З поезда накіроўваемся ў гасцініцу, што знаходзіцца па вуліцы

Карла Маркса. Мясцовасць тут маляўнічая, побач вялікі сквер з цяністымі дарожкамі, фантанамі і кіёскамі, а крыху далей працякае шумлівая рака Кама, па якой снуюць параходы.

Назаўтра мы абышлі горад, агледзелі цэнтр і пабывалі на тэрыторыі былога гарадка. Тут захаваліся тры казармы тагачаснай пабудовы. У іх была расквартаравана пермская ваенная каманда выздараўліваючых, у якой Колас прабыў з жніўня па снежань 1917 года. Размяшчэнне гэтых казарм нам памаглі ўстанавіць мясцовыя жыхары, былыя ўдзельнікі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, а таксама супрацоўнікі абласной газеты «Звезда». Мы зацікавіліся гэтымі намяшканнямі. Яны пабудаваны яшчэ пры Кацярыне II. Знешні выгляд іх захаваўся такім, якім быў раней. Каля казарм растуць таполі. Шум гэтых дрэў, відаць, не раз напомніў паэту аб гомане беларускіх дуброў далёкай радзімы.

На дзвюх казармах устаноўлены мемарыяльныя дошкі. На адной з іх надпіс: «Тут праводзіла работу сярод салдат актыўны ўдзельнік рэвалюцый 1905—1917 гадоў Кірсанава Клаўдзія Іванаўна». На другой—«У гэтым доме ў 1918 годзе размяшчаўся брацкі кітайскі батальён на чале з камандзірам Жан Фу-чэн, які прыняў удзел у барацьбе з белагвардзейцамі і інтэрвентамі».

Якуб Колас у час прабывання ў Пермі быў сведкам рэвалюцыйных хваляванняў у казармах, актыўнай дзейнасці бальшавікоў, якія вялі прапаганду сярод салдат. Гэтыя назіранні знайшлі свой адбітак у вобразах герояў паэмы «На шляхах волі».

Галоўная ідэя, якую праводзіць паэт праз увесь твор — гэта непазбежнасць гібелі царскай самадзяржаўнай Расіі і перамогі рэвалюцыйных мас пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі.

У раздзеле «На Ціхім Доне» праз вобраз заўзятага контррэвалюцыянера Даліна паказваецца, што ў логаве ворагаў рэвалюцыі пануе разброд. Натхніцелі белагвардзейшчыны спрачаліся за «жэзлы і формы новае дзяржавы», а ідэі сацыялізма ўсё глыбей пранікалі ў стан казацтва:

А дух анархіі і здрады
Тым часам пёр з усіх бакоў
І ўжо падкошваў казакоў —
З казацтвам «верным» няма
рады,
А бальшавіцкія атрады
Ужо абкладвалі Растоў.

Аўтар асноўную творчую ўвагу скіроўвае на тое, каб раскрыць жыццё і думкі народа, паказаць рост самасвядомасці рабочага класа, салдацкіх мас і сялянства на розных этапах барацьбы. Праз усю паэму праходзіць вобраз Барыса Дзяжы. Прадстаўнік дэмакратычных сіл, ён па характару сваёй службы і чыну (прапаршчык) быў пастаўлены ў асяроддзе, якое падтрымлівала самадзяржаўе. Барыс Дзяжа праходзіць вялікую жыццёвую школу на фронце і ў тыле. За гэты час змяніўся яго юнацкі погляд на царскі лад: ён парывае свае ранейшыя адносіны з лагерам контррэвалюцыйнага афіцэрства. Якуб Колас пакідае свайго героя ў той час, калі ён разабраўся ў складаных абставінах і зразумеў, што яго далейшы шлях — разам з рэвалюцыйнымі масамі народа.

Д а л і н:

Паслухай, друг: ты супраць нас
Ці з намі ты? Кажы праўдзіва!

Д з я ж а:

Было б няверна і фальшыва,
Калі сказаў бы: я за вас.
А мой табе такі адказ:
Вам не вярнуць былога
шампаламі:
Народ, мой даўні друг, не
з вамі,
А без народа вы — пухір,
Што ўскочыць на вадзе
І зараз прападзе...

У бібліятэках Пермі сярод іншых кніг ёсць творы Якуба Коласа «Новая Зямля», «На ростанях», «Сымон-музыка». Іх чытаюць, над імі задумваюцца многія чытачы. І тут жыве памяць пра беларускага народнага песняра.

**Мікола ЖЫГОЦКІ,**
навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея Якуба Коласа.






## ЮБІЛЕЙНАЕ ФОТА аб'ектыўнае

**Да 50-годдзя нашага карэспандэнта Аляксандра Дзітлава**

Падкаціўся ціха нуль
Да пяцёркі сватам.
Сакавік свой вус крутнуў:
«Стала круглай дата!»

Дзітлаў з Поспехам на «ты»,
Бо аператыўны.
У юбіляра аб'ектыў
Самы аб'ектыўны.

За пяро бярэцца нат
Молада і ўзнёсла.
Што ж, яшчэ праз пяцьдзесят
Выдасць том дарослы!

Фіміяму не дымім —
Шкодны чад ягоны.
Проста шчыра зычым мы
Працы фотаплённай!

Сяброўскі шарж **Р. Барадуліна** і **Г. Скамарохава.**



Эдуард Матусевіч бяжыць на 3 000 метраў.

# СЯРОД МАЦНЕЙШЫХ

Канец студзеня. Горад Горкі. Каток таварыства «Дынама». Здрадлівы слупок ртуці замёр на нулі. Спахмурнелі твары спартсменаў, трэнераў: рэкордаў не чакай. Пры такой адлізе перамагчы можа толькі дужы, настойлівы. Нездарма чэмпіянат краіны па каньках назвалі «барацьбой волі і нерваў».

Настаў час стартаў. Бег на 500 метраў. Уперад! — няма часу для роздумаў. Гэта самая кароткая дыстанцыя мнагаборства. Не зроблена і сотні крокаў, усяго некалькі дзесяткаў секунд... Фініш! Высокі шыракаплечы спартсмен перасякае лінію фінішу і, выпрастаўшыся, стомлена едзе па дарожцы. Усё аддадзена для перамогі.

— Першы фінішыраваў Матусевіч — Беларусь. 43 секунды, — гучыць над стадыёнам голас суддзі.

Адна за другой стартуюць пары мацнейшых скараходаў краіны, але толькі экс-чэмпіён свету Стэнін прабег пяцісотметроўку на паўсекунды хутчэй.

К вечару закончыліся і спаборніцтвы ў бегу на 5 000 метраў. Першыя вынікі і першыя сюрпрызы: лідзіруе Стэнін, другі Касічкін, трэці... Матусевіч. Малады мінскі майстар кінуў выклік асам ледзяной дарожкі.

Другі дзень спаборніцтваў адкрываецца бегам на 1 500 метраў. Гэта дыстанцыя — ключ да поспеху мнагаборства. Тут, па сутнасці, вырашаецца лёс медаляў.

Першая пара Стэнін—Матусевіч. Мінчанін пачынае бег па маленькай унутранай дарожцы. У канцы дыстанцыі, калі сілы ўжо здаюць, яго чакае непрыемнасць — на фінішным вялікім павароце моцны сустрэчны вецер стане, бадай, асноўным праціўнікам.



Стэнін спрабуе адразу ж авалодаць ініцыятывай, але Матусевіч канёк у канёк «змагаецца» з грозным праціўнікам. Толькі пасля злашчаснага павароту экс-чэмпіёну свету ўдаецца выйграць паўсекунды. Усхваляваныя гледачы і ўдзельнікі назвалі гэты бег прыгажэйшым паядынкам чэмпіянату.

Да фінішу вострай і цяжкай барацьбы за медалі і чырвоны світар чэмпіёна засталося 25 кругоў—бег на 10 000 метраў. Але ўжо цяжка што-небудзь перайначыць.

У канькабежным мнагаборстве разыгрываюцца чатыры дыстанцыі, за два дні спартсмены прабягаюць 500, 5 000, 1 500 і 10 000 метраў. Лік вядзецца на ачкі. Падлікі гэтыя не вельмі складаныя і не выходзяць за межы чатырох арыфметычных дзеянняў, але патрабуюць «вышэйшай матэматыкі» майстэрства.



Эдуард Матусевіч (першы) трэніруецца і ўлетку на ролікавых каньках.

І Эдуард зразумеў яе. У канцы чэмпіянату мінскі інжынер майстар спорту Эдуард Матусевіч узышоў на вышэйшую «бронзавую» прыступку п'едэстала пашаны мацнейшых канькабежцаў краіны.

**Вячаслаў ДУБОВІК.**

**Фота Д. Церахава.**

# НА ПОКЛІЧ РАПІР

Таня Пятрэнка займалася ў шостым класе, калі ўпершыню ўбачыла сапраўдных фехтавальшчыкаў. Гэта былі неаднаразовыя чэмпіёны рэспублікі па фехтаванню майстры спорту Ларыса Пятроўна і Герман Мацвеевіч Бокуны. Яны выступалі ў школе з паказальнымі баямі. Прыгажосць і імклівасць рухаў, белыя фехтавальныя касцюмы, перазвон клінкоў — усё гэта вабіла і захапляла. Таня, як і іншыя яе сяброўкі, тады ж запісалася ў секцыю.

Першая трэніроўка. Навічкам не паднеслі зброі, а прапанавалі «сесці» ў позу фехтавальшчыка — выцягнуць адну руку і, адвёўшы ўбок і крыху сагнуўшы ў локці, падняць угору другую. Стоячы гэтак, трэба было рабіць нейкія неверагодныя скачкі, выпады... Спачатку было вельмі нязвычна, але хутка няёмкасць прайшла, і фехтавальныя рухі ўжо здаваліся самымі прыгожымі. Тым не менш, не кожны меў вытрымку дачакацца, пакуль дадуць у рукі зброю. Многія юныя фехтавальшчыцы перасталі наведваць заняткі гуртка. А Таня працягвала ўпарта, настойліва вывучаць таямніцы фехтавання. Быў час, калі і ёй здавалася, што гэты занятак — не для яе. І тады яна захапілася плаваннем, потым акрабатыкай, гімнастыкай, канькамі. «Перабраўшы» гэтыя віды спорту, дзякуючы праз два гады зноў прыйшла ў фехтавальную залу. Пачалася вялікая, настойлівая праца, якая прывяла яе да спартыўнага поспеху.

Цяпер многія сцвярджаюць, што ў студэнткі Беларускага політэхнічнага інстытута Тацяны Пятрэнка — вялікі спартыўны талент. Той, хто бачыў, як яна лёгка, прыгожа, упэўнена фехтуе, напэўна згодзіцца з гэтым сцверджаннем. Але трэба дадаць, што талент прыйшоў не сам па сабе, а дзякуючы працавітасці і вялікай волі.

— Было на маім шляху шмат няўдач, паражэнняў. Хацелася не раз нават кінуць спорт, — прызнаецца Таня, — але трэнеры і таварышы падтрымлівалі мяне... І я слухала іх...

Зноў былі трэніроўкі, зноў займалася дзяўчына, адшліфоўвала тэхніку і тактыку. Амаль сем год было аддадзена, як кажуць, «чарнавой рабоце». І не дарма. Заслужаны майстар спорту, уладальніца залатога алімпійскага медалю Таццяна Пятрэнка — гонар беларускага спорту.

Калі Таня Пятрэнка свой спартыўны шлях пачала са знаёмства з рапірай, то Дзіяна Ясюкевіч аддала перавагу гімнастыцы. Яна вельмі здзівілася б і нікому не паверыла, калі б некалькі год назад хтонебудзь сказаў, што яна будзе ўдзельніцай сусветнага чэмпіянату, ды яшчэ па фехтаванню. Яе бацькі былі выдатныя спартсмены і ў сваіх дзяцей з маленства выхавалі любоў да спорту. Яшчэ дзяўчынкай Дзіяна ўмела добра плаваць, бегаць, катацца на каньках і лыжах. Пасля заканчэння школы, не задумваючыся, яна пайшла ў Віцебскі тэхнікум



Тацяна Пятрэнка.

Фота Д. Церахава.

фізкультуры. Там ёй давялося паспрабаваць свае сілы ў розных відах спорту, але больш за ўсё палюбілася гімнастыка. Дзіяна многа і старанна трэніравалася і ўжо тады выступала ў спаборніцтвах па праграме першага спартыўнага разраду.

Фехтаваннем Дзіяна занялася пазней, калі паступіла ў Беларускі інстытут фізічнай культуры. Тут ад кожнага студэнта патрабавалі, каб ён, акрамя асноўнай спартыўнай спецыяльнасці, яшчэ дадаткова меў дзве-тры іншых. Дзіяне было ўсё роўна, які від спорту далучыць да гімнастыкі, і яна прыняла прапанову здаць курс па фехтаванню.

На ўсё жыццё запомніўся Дзіяне першы бой. Тут усё вырашалі долі секунды. Мала навучыцца тэхніцы рухаў, трэба імкліва рэагаваць на кожную спробу праціўніка нанесці ўкол і ў свой час імкнуцца перайсці ў нападзенне, завесці праціўніка ў пастку. І Дзіяна захапілася рамантычным відам спорту — у ім знайшла сваё найбольш поўнае праяўленне яе энергічная, тэмпераментная натура. Пра гімнастыку Дзіяна ўжо і думаць не хацела. Рапіра, маска, пальчатка — вось тыя спартыўныя прылады, з якімі яна на многа год звязала сваё жыццё.

На шляху ў спартсмена бывае шмат розных перашкод. Поспехі самі па сабе не прыходзяць, амаль заўсёды яны мяжуюць з няўдачамі. Доўгі час і Дзіяне Ясюкевіч не ўдавалася «прабіцца» ў шэрагі мацнейшых. Нарэшце яна трапіла да вопытнага настаўніка, заслужанага трэнера СССР Бокуна. Пачалася ўпартая, штодзённая вучоба. І праз год дзяўчына ўжо выйграла званне чэмпіёнкі рэспублікі, стала пераможцай усесаюзных спаборніцтваў сярод студэнтаў, удзельнічала ў міжнародных сустрэчах, а ў 1961 годзе ўпершыню трапіла ў зборную каманду СССР.

... Гэта было летась. Аматары спорту Беларусі, ды і ўсёй Савецкай краіны з нецярпеннем чакалі вестак з далёкага італьянскага горада Турына. Што прынясе чарговы дзень спаборніцтваў мацнейшых фехтавальшчыкаў свету?

Весткі былі радасныя. Маладая мінчанка Дзіяна Ясюкевіч у чвэрцьфінале перамагла чэмпіёнку XVII Алімпійскіх гульняў немку Хэйдзі Шмідт.

Ледзь суддзя падаваў каманду «Пачынайце бой!», як Дзіяна кідалася наперад, рабіла імклівы выпад і, не даўшы апамятацца сваёй саперніцы, наносіла ўкол. Хэйдзі Шмідт была вопытным байцом. Яе яшчэ ніколі не пакідалі вытрымка, пільнасць, і кожны крок, кожны рух у яе былі абдуманы, разлічаны.

«Прайграваць 0:2 у самым пачатку паядынку? Не. Гэта ўжо занадта!» І Хэйдзі Шмідт рашуча прымае баявую стойку. А Дзіяна ў гэты час думала пра адно: «Толькі не даць ёй апамятацца, хутчэй атакаваць!»

Са звонам скрыжаваліся рапіры. І запар два разы загаралася лямпачка: 3:0, 4:0. Усяго толькі 40 секунд спатрэбілася Дзіяне, каб выйграць паядынак. На сусветным чэмпіянаце такое здараецца рэдка.

Пераможцу віншавалі сяброўкі з каманды — славутыя савецкія майстры клінка Аляксандра Забеліна, Валянціна Растворава, Ніна Прудскова. Віншавалі гледачы. Дзіяна стаяла шчаслівая, і сама яшчэ не верыла, што перамагла такую небяспечную саперніцу.

Прэтэндэнтаў на залаты медаль у асабістых спаборніцтвах было вельмі многа. На дні праходзіла больш як па дзесяць баёў. Хто-небудзь можа і не рызыкнуў бы ўступаць у змаганне з мацнейшымі фехтавальшчыцамі свету. А Дзіяна адважылася. Свой характар яна паказала ўжо, змагаючыся за права выступаць у паўфінале, куды трапілі толькі восем лепшых фехтавальшчыц, і на спаборніцтвах, калі выйграла цяжкі бой з венгерскай спартсменкай Шаковіч.

Дзіяна на чэмпіянаце заваявала сёмае месца. Сёмая фехтавальшчыца свету — гэта не так ужо дрэнна для дэбютанткі! Сэрца дзяўчыны поўнілася радасцю, калі разам з іншымі нашымі рапірысткамі яна стаяла на п'едэстале пашаны з залатым медалем у руках, а на флагштоку развяваўся чырвоны сцяг СССР.

Нядаўна Дзіяна яшчэ раз пацвердзіла, што поспех яе быў не выпадковы. На апошніх спаборніцтвах мінулага года — розыгрышы кубка СССР па фехтаванню яна заняла другое месца і выканала нарматыў майстра спорту. Яе прозвішча сярод



Дзіяна Ясюкевіч.

дзесяці мацнейшых спартсменаў Беларусі за мінулы год.

Калі вы не сустрэнеце на афішах прозвішчаў Пятрэнка і Ясюкевіч, не падумайце, што яны «спісаны з карабля». Тут ёсць маленькі сакрэт: рапірысткі вядомы цяпер пад іншымі прозвішчамі: Дзіяна Ніканчыкава і Таццяна Самусенка. У Таццяны нарадзіўся сын, але яна не кінула заняткі спортам і разам з Дзіянай рыхтуецца да новых вялікіх баёў.

**Ніна ПРАКАПОВІЧ.**

# Шахматы

пад рэдакцыяй міжнароднага майстра
**Аляксея СУЭЦІНА**

# ПРА ДЭБЮТЫ

Пагаворым сёння пра дэбюты партый—самую складаную і цяжкую стадыю гульні. Ведання тэарэтычных варыянтаў зусім недастаткова, каб адчуваць сябе ўпэўнена ў практычнай гульні. Сустракаецца нямала добрых знаўцаў шахматных кніг аб дэбютах, але практычны спрыт у іх адсутнічае. Карыстанне дэбютнай тэорыяй патрабуе асаблівага ўмельства.

Каб выпрацаваць такое ўмельства, мы хочам даць адну простую параду—замацоўвайце свае веды ў гульні! Пасля развучвання той ці іншай сістэмы, грунтоўна праверце яе ў гульні спачатку з сваім сябрам у лёгкіх партыях, а потым выкарыстайце яе і ў турнірных баях. Не ганяйцеся за рознымі дэбютнымі сістэмамі, не вывучыўшы кожную як след,—такім шляхам цяжка ўразумець сутнасць дэбютнага майстэрства.

Абавязкова трэба стварыць, як гавораць шахматысты, свой «дэбютны рэпертуар» з даволі абмежаванай колькасці дэбютных варыянтаў. Трэба адразу выхоўваць у сабе вельмі сур'ёзны падыход да дэбюта.

Шахматыст сярэдняй кваліфікацыі (I і II разрады) мае ўжо немалы практычны вопыт, а таму і шэраг сумненняў, перажыванняў, першых поспехаў і першых няўдач. Для такіх ігракоў пытанне «дэбютнага рэпертуару» вельмі своечасовае.

Робячы першыя крокі ў шахматах, ігрок карыстаецца тымі сістэмамі дэбютаў, якія даюць непасрэдны практычны поспех. Потым абавязкова прыходзіць расчараванне ў гэтых сістэмах, нездавальненне гульнёй і крытычны аналіз сваіх дзеянняў.

Раскажу тое-сёе з свайго практычнага вопыту.

Прыкладна, да атрымання II разраду я амаль не ўжываў іншага адказу на звычайнае 1. e4, чым 1. ... e5. На наступнай кваліфікацыйнай ступеньцы дэбютны рэпертуар мне прыйшлося істотна змяніць. У горадзе Туле, дзе я пражыў нямала год, амаль не было высокакваліфікаваных шахматыстаў. І калі я набыў ужо дастатковую шахматную сілу, каб весці барацьбу за першынство ў горадзе, адказ 1. ... e5 зусім страціў для мяне сваю прывабнасць. Мае сябры, меней спакушаныя ў гульні, у якасці тормазу пачалі ўзмоцнена карыстацца нічыйнымі варыянтамі даўно вядомых «адкрытых дэбютаў». І я не знайшоў нічога лепшага, як перайсці на «несіметрычную» сіцыліянскую абарону.

Неўзабаве мне асабліва спадабалася сістэма «дракона». Цяжка было адмовіцца ад гэтага захаплення, бо ўдавалася выйграваць партыі, падобныя такой, напрыклад:

Злотнік—Суэцін (Тула, 1945 год)

1. e4 c5, 2. Kf3 d6, 3. d4 cd, 4. К : d4 Kf6, 5. Kc3 g6, 6. Ce2 Cg7, 7. Ce3 Kc6, 8. Kb3 0—0, 9. f4 Ce6, 10. 0—0 Ka5, 11. g4 (спрэчны ход, які дазваляе чорным пачаць вострую контргульню на ферзевым фланзе. Мацнейшае звычайнае: 11. К : a5 або 11. Kd4) 11. ... Kc4, 12.Cd4 Лас8, 13. g5 Ke8. 14. f5 К : b2! (Насустрач ускладненням!), 15. Фс1 С : d4+, 16. К : d4 Фb6, 17. Фе3 Кс4, 18. Фb2 Ke5!, 19. Ka4! Фb4, 20. fe Ф : e4, 21. Cb5 (здаецца, што белыя «перахітрылі» праціўніка. Але адыход ферзя вырашае—22. Cd7! і далей 23. ef+! Але знаходзім «сіцыліянскі» паратунак, у які я веру з таго часу!

Дыяграма пасля 22-га хода:



21. ...Kf3+! (Нечакана становішча паляпшаецца! На 22. Ф : f3 чорныя перахопліваюць ініцыятыву шляхам 22. ...Ф : d4+, а на 22. К : f3 робіцца 22. ... Ф : b5 з матэрыяльнай і пазіцыйнай перавагай). 22. Kph1 Ф : d4, 23. Cd7 Ф : f2, 24. Л : f2 Лс3, 25. ef+ Kp : f7, 26. Лаf1 Kpg7, 27. Cg4 К : h2, і белыя здаліся.

Сістэму «дракона» я грунтоўна вывучыў у той час і... амаль адразу ж не стаў яе ўжываць. Неяк вельмі нецікавым было ўвесь час сядзець пад шквалам атак на караля з боку ўжо больш кваліфікаваных партнёраў, з якімі мне ўсё часцей і часцей даводзілася гуляць. І сапраўды, для маіх партнёраў было псіхалагічна зусім няцяжка падрыхтаваць белымі той ці іншы сюрпрыз, тым больш што і аб'ектыўна абарона ў гэтай сістэме прыносіць шмат турбот.

Адсюль напрошваецца вывад, што дэбютны рэпертуар не павінен быць вельмі вузкім і часова трэба адступаць ад сваёй улюбёнай сістэмы. Само паняцце дэбютнага рэпертуару таксама вельмі ўмоўнае. Гэта не што іншае, як практычная неабходнасць выбару абмежаванай колькасці дэбютных варыянтаў у адпаведнасці з густамі і прыхільнасцю да адпаведнага стылю.

Сістэма, узятая на ўзбраенне, перш за ўсё павінна выклікаць задаволенасць гульнёю. І калі вывучаныя варыянты робяцца для ігрока нецікавымі, яны не прынясуць поспеху ў гульні. Лепш тады пакінуць іх на некаторы час і карыстацца іншай дэбютнай сістэмай.

Трэба ўлічваць, што асаблівая цяжкая праца па набыццю першага дэбютнага рэпертуару. Цяжка, вядома, даць які-небудзь дакладны рэцэпт у адносінах шырыні дэбютнага рэпертуару: усё залежыць ад схільнасці і характару ігрока. Шахматысты з ярка падкрэсленай эмацыянальнай натурай і добрай шахматнай памяццю смела карыстаюцца даволі шырокім дыяпазонам дэбютаў. Тым жа, хто такой памяцці не мае, лепш спачатку ўзяць адзін-два дэбюты, навучыцца добра карыстацца імі, і толькі потым вельмі асцярожна расшыраць свой дэбютны рэпертуар.

* * *

Чакаем пісем нашых чытачоў. Паведаміце, якія пытанні цікавяць Вас у галіне шахматнай гульні.

*Гумар і сатыра*

# НА ТЭМЫ НАДЗЁННЫЯ

**Малюнкі У. Лося.**



**«Азнаямленне» з жыццём.**




**Робіць муху са слана.**




**Дзед Сымон:** А казалі, што я не спраўлюся загадваць тым клубам.

**Асвоілі і трактар.**




# ШПАК І ВЕРАБЕЙ



Дазнаўся Верабей аб пеўчай школе.
Па чутках, той,
Хто вучыцца у ёй,
Спявае так, што ўсё сціхае
наваколле.
Напрыклад, той жа Салавей...
Ці, скажам, Шпак.
Ён, праўду кажучы, мастак
Імітаваць чужое,
Ды ўсё ж спявае сёе-тое.
І вось у школе — Верабей.
Прымаў экзамен Шпак.
На ўсе адказы Вераб'я ківаў ён:
— Добра... так...
А гэта музыка чыя:
«Фіў-фіў! Кар-кар! Чырык!»?
— Сініцы, галкі, вераб'я, —
Той адказаў і... знік,
Бо напалохаў яго Шпак:
— Ах ты бязвухі пень, чурбак!
Ды гэта ж музыка мая!
Не прынімаць у школу Вераб'я! —
І напісаў:
«З тае прычыны,
Што талент мае вераб'іны».

За Вераб'я
Ўступлюся я:
Хоць ён і сціплы голас мае,
А ўсё ж сваё «чырык» спявае.

**Алена КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВА**



## ЗМЕСТ







**Першыя праталіны.**
**Акварэльны эцюд эканаміста Віктара Сташанюка** (Студыя пры мінскім Палацы прафсаюзаў).



**Г. Азгур. Сакавік.** З Усесаюзнай мастацкай выстаўкі.



**П. Лейтман. Партрэт ткачыхі І. Сінкевіч.** З Рэспубліканскай мастацкай выстаўкі.

